


# ПОЛЫМЯ

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС**

**9** (1067)

***ВЕРАСЕНЬ***

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

## *ЗМЕСТ*



Віктар ГАРДЗЕЙ

# РАЗГУЛЯЙСЯ, ВЕЦЕР!

## НА КРУГЛЯКУ

Ні ў гасцёўнях крутых, ні ў салонах
Без усмешак і жартаў салёных,
Выглядаючы грацый крадком,
У наш час, шчодра Бахусам стрэты,
У альбом не пісалі паэты,
Дык і ты не глядзі свой альбом:
Пуста ў ім, як у полі асеннім,
Хоць, вядома, і Блок, і Ясенін
Распісаліся б вечным пяром.

Можа, знойдзецца сшытак агульны?
Там і рыцарскі профіль хадульны,
Там і містыкі з лірыкай шмат.
Чымсьці смешаць пажоўклыя здымкі:
Пазаплеччам чужыя абдымкі
Праяўляюцца, як на падхват.
«З пахам вінным і таннага «Шыпру»?

---

*__Гардзей Віктар Канстанцінавіч__ нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура», газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), кнігі выбраных твораў прозы «З мінулага не вяртаюцца» (2014), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008) і іншых.*

Не, такога на вуліцу выпру»…
Што ты возьмеш з яго — супастат!

Прэч салоны, кавярні, тракціры,
Што ні дзень — на паклоны да Ліры,
Дзе ў якімсьці шчымлівым радку
Буду згадваць яшчэ незабытым
Наш Кругляк, перасеяны жытам.
— То давай свой альбом земляку!
А на вокнах там белыя цюлі,
А вясной там кукуюць зязюлі,
Галасістыя на Кругляку!

## НАСТАЛЬГІЯ

Будуць сніцца лясы дарагія,
І сюды я вярнуцца гатоў,
Каб сказаць: хай жыве настальгія —
Хісткі мосцік з юначых гадоў.

Перайшоў, і адразу ў абдоймы
Возьме сум — так сябе я дастаў.
Гурт дзяўчат, разам феі і лоймы,
Басанож выбягаюць на стаў.

Будзе сніцца: прыехаў дадому,
Дзе ў ляшчынах старых быў не грэх
У заўлёткі якойсць маладому
Пацалунак сарваць, як арэх.

Спелы жнівень — якія ж дзівосы?
Спее ўсё акурат у пару.
Сцеражыся: распушчаны косы,
Так свой сорам і страх пабару.

Будзе сніцца няшмат з маладосці —
У лясах там палын і быльнёг.
Настальгіі маёй хісткі мосцік,
Над якой жа ты прорваю лёг!

## ЖНІВЕНЬСКІЯ РОСЫ

Выйду я на жнівеньскія росы,
Што, як боб, збуйнелі па траве.
Не бяды, калі сягоння босы —
Так хутчэй і памяць ажыве.

Клопат мелі спасаўскі сялянкі:
Лён паслаць бы лепшаю парой,
Каб траста выбельвалася ўранкі
Жніўня надта сядравай расой.

Шаўкавісты, братка, валакністы!
Кужаль выткнуць дзеўкі, пеючы,
На кашулі жаніхам фарсістым,
Дзеду — пояс, мне дык — трапкачы.

Не сашчэпіш ніткай суравою
Рызманы сваіх дзіцячых дзён.
Сцелішча былое пад расою,
Дзе глівеў да прымаразкаў лён.

Пуста. Гола. Далеч палявая.
За смугой там, быццам у кіно,
Ходзяць цётка Ганна, звеннявая,
І яе льнаводчае звяно.

## ВЕРАБ'ІНАЯ НОЧ

Без ветру дрэвы не хістала б.
Віхор, глядзіш, ухопіць залаб —
Падняў і бразне з-пад аблок.
Дождж не мінуў бы, каб не хмары —
Вісяць з відна, хаця кашмары
Якраз пачнуцца ў сіні змрок.

Вось матылі — іх дужа многа —
Успырхваюць з далоняў Бога,
Маланак ярых матылі.
Але ж і добра ты сказала:
— Такую ноч даўно чакала,
Дык пацалуй і прытулі!

З дзясятак навальніц агулам
Прайшло праз вёску з грозным гулам,
А мы то думалі — адна!
Забарабаніла па даху,
І ў той жа міг нагоніць страху
Дрыготкі ляскат перуна.

Назаўтра з вераб'інай ночы
Паспаць даўжэй стае ахвочых,
І сведкі ёсць, што я не лгун.
Два кубачкі астылай кавы,

Ды ўжо электрык наш рухавы
Палез на слуп, дзе біў пярун.

## ПРОДАЖ «НЯГАДЖАЯ»

Не прадалі — вязуць дадому,
Цяплей загомталі ў салому.
Сяджу і бубліка грызу.
З базару бабка пры капейцы,
І дзед не тузае за лейцы —
Бяжыць конь шпарка паўз лазу.

Гуляць, дурэць, залезці ў шкоду,
Ад дзягі цурыць на прыроду —
Такі і ёсць я, хлопец ваш,
А да ўсяго яшчэ нахаба:
Прасіцца буду ў дзеда з бабай,
Каб узялі зноў на кірмаш.

— Вазьму, але прадам, як свінку,
Там Шмэрка смыкаўся па рынку,
Пытаўся: «Гэта твой унук?»
Дый баба дзеду пацвярджае:
— Марокі многа з нягаджаем,
А Шмэрка той не ўпусціць з рук.

Бабуля з дзедам насупроці,
Валошкі сінія ў аброці
І балабончык на дузе.
Уздзеў дзед лепшую бравэрку,
А сам хітрун, бо дзядзьку Шмэрку
На продаж пеўніка вязе.

## КАРАГОД

Вечар атуляе існае ў прыродзе,
Ад міжзорнай яснасці светлыя брады.
Вось бы закружыліся ў чуйным карагодзе,
Толькі не даехаць, не дайсці туды.

Вогнішча купальскае там, ускрай аселіц,
Свеціць, ды не грэе, і гармонік сціх.
Хай усё не гэтак, як душой хацелі,
Сплеценыя рукі — не расплесці іх.

Скуль яно бярэцца? І куды дзяецца?
Вельмі ўжо далёкіх вёснаў не лічы.

Можа, адгукнецца, можа, адзавецца,
А каса тугая на чужым плячы.

Ці было напраўду, ці жыве ў паданнях,
Карагод хінецца бліжай да агню,
І хутчэй, чым сэрцы, вольныя ў жаданнях,
Счэпленыя пальцы ўчуюць цеплыню.

## РАЗГУЛЯЎСЯ ВЕЦЕР

Вецер дзьме паўднёвы, толькі каб не сівер!
Апаўночы гурбы ўкоптур намяло.
Хочацца з нагоды свой пачысціць ківер —
Вельмі ўжо абрыдла сноўдаць па слаце.

Нас было нямнога, хлопцаў нежанатых,
Проста ці шанцунак, ці абставін збег,
Бо якія ўвечар не міналі хаты,
Раніцай засведчыць каля весніц снег.

Лапці растаптаны, пары падабраны,
Як заўгодна Богу, хоць сярод зімы.
Кажуць старажылы, вучаць ветэраны:
— Не хадзіў бы часта ў госці да кумы!

Ажывуць, напэўна, тут, дзе мы дурэлі,
Галасы эпохі і нябесных сфер.
Зрэшты, не змаўкаюць слоўныя дуэлі:
Крыўды і папрокі чуюцца цяпер.

Так было і будзе — прыйдзе час урочны,
Вам кажу, што гэтак і даўней было.
Разгуляўся вецер, зноўку дзьме паўночны.
Я хачу, каб снегу многа намяло!





Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# АВАНТУРЫ ВЫРВІЧА З БАНДЫ ЧОРНАГА ДОКТАРА*

*Раман прыгодніцкі і фантасмагарычны*

### РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

### Як панну Праксэду асляпіць хацелі, а тады заручылі

У паўзмроку дзесь крапала вада.

А можа, цікаў гадзіннік.

Або драпаў кіпцем камяні дамавік у чаканні сваёй яешні.

Лампада ды свечка… Вось і ўсе светачы гэтага пакоя.

Не, не вязніцы. Наадварот, збройні — вунь паблікваюць цьмяна шабелькі ў падстаўках… А тры шабелькі, няхай не самыя дарагія, так, аўгустоўкі, без аздоб на вузкіх сталёвых аблiччах, знайшлі новых гаспадароў. Дакладней, чатыры шабелькі… Бо панна Праксэда таксама выхапіла сабе звонкую рэпліку вайны. Вунь, сядзіць на лаўцы ў белым каптуры, худая, бледная, шэрыя вочы рашуча паблікваюць, а да калена прыхінуты клінок. Што ж, са зброяй у руках, нават калі не асабліва ўмееш карыстацца, надзейней.

Сюды гасцей з няпэўным статусам завёў Грос. Загадаў чакаць. Замак — не карчма, не ўвойдзеш і не выйдзеш папросту. А тым больш — ноччу. Нехта мусіць адамкнуць цяжкую жалезную браму, адну, другую. Апусціць пад'ёмны мост…

— Разумна, доктар… Недаацаніў я цябе, — скрозь зубы прасіпеў на развітанне езуіт. — Расцвеліць вар'ятку… Справакаваць прыступ падучкі… Прафесійна зроблена.

— Не мяркуйце па сабе, пан Зыгмунд, я хацеў толькі дапамагчы хворай, — угневана ўскінуўся Лёднік. Але езуіт, ясная рэч, застаўся пры сваім меркаванні.

Пранціш напружана прыслухоўваўся да крокаў на калідоры… Могуць да раніцы пратрымаць. А тады — ці выпусцяць? На ўсялякі выпадак аббег пакой, пільна прыглядаючыся да ўсіх шчылінаў… Ці не зблісвуць дзе за сцяной цікаўныя вочы?

— Я так вінаватая… Пані Тэрэза была са мной у Гародні дужа ласкавая… Абяцала, што ні да чаго не змусіць. Возьме ў Вену…

Праксэда захлыналася віной, гледзячы на доктара, які хутаўся ў Пранцішаву світку, рукавы былі яму ледзь не па локаць.

— Дарэчы… — Вырвіч так і не змусіў сябе прысесці, а ўсё выдыгваў па пакоі, угледаючыся ва ўсе падазроныя вышчарбіны і цені. — Чаму хросная абвесціла вас мёртвай? Вы ведаеце, што Бутрыма абвінавацілі ў вашым забойстве? Што мы яго са студні ў вязніцы ледзь паспелі дастаць?

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 7, 8 за 2018 г.

Пранціш нават з нейкай злараднасцю чакаў, што дзеўка, з-за якой яны столькі нацярпеліся — няхай і не па ейнай віне — усходзіцца ад жаху. Але ейная рахманасць адрасавалася, відаць, аднаму Бутрыму. Паненка толькі прыкусіла губу, і голас трохі сеў:

— На ўсе пытанні адказ адзін, вашамосць — не ведаю. І нешта мне падказвае, што, калі мы даведаемся разгадку сваіх няшчасцяў, нашы жыцці будуць каштаваць яшчэ меней.

Так спакойна і трохі з горкім сарказмам мог бы адказаць сам Баўтрамей. Які, учуўшы пытанне і адказ, азірнуўся на асістэнтку і ледзь заўважна кіўнуў. Падобна, вучоная паненка прачытала ў кіўку тое, што было ёй важна, — не злуецца, дараваў, — і ўздыхнула з палёгкай. Бач, якое ўзаемаразуменне… А як Алесь збоку паглядае, не заўважаюць абое. Бедны хлопец…

— Вам трэба апрацаваць апёк, пан Лёднік.

Панна Праксэда ледзь не бегма скіравалася да лампады, што асвятляла сумны твар Богамаці, перахрысцілася:

— Думаю, тут можна здабыць драўлянага алею… Так, наліта дастаткова. І якасці някепскай…

Лёднік шчыльней захутаўся ў Пранцішаву світку, намагаючыся прыкрыць сляды княскага ўтаймавання. Сустрэўся позіркам з асістэнткай, якая ўжо стаяла перад ім, беражліва трымаючы ў далані здабыты алей. Зірнуў на сына.

— Праксэда, не варта мітусіцца. Гэта дробязь…

Вучоная панна вінавата апусціла вочы. Тонкая рука пачала дробна дрыжэць. Лёднік з няёмкасцю працягнуў сваю даланю:

— Добра, пералі сюды, я апрацую…

Пакуль Чорны Доктар мазаў апёк, асістэнтка адвярнулася, раз-раз, з дапамогай шаблі адкрамсала шматок ніжняй спадніцы:

— Вось, пан доктар, для кампрэсу. Вымачыце ў алеі і прыкладзіце.

Нерашуча дадала:

— Памагчы?

Бутрым незадаволена сціснуў вусны, кінуў яшчэ раз позірк на сына, які застыў дзюбатым птахам у куце.

— Дзякую, спраўлюся сам. А як з тваім здароўем? Выглядаеш зняможанай. Галадала?

— Не так, каб зваліцца, пан Баўтрамей.

— На свежае паветра цябе, відавочна, не выпускалі… Ёсць траўмы? Унутраныя, паверхневыя?

Гэта так па-вучонаму гучыць пытанне «ці не білі?»

— Не хвалюйцеся. Вы пражылі па маёй віне непараўнальна больш. Па волі Божай, са мной усё добра…

І зноў села на лаўку, сціснула рукі, апусціла вочы… Каб час ад часу, старанючыся рабіць гэта непрыкметна, кідаць позіркі на свайго прафесара.

— Гэта не я падарыў табе пярсцёнак на дзень народзінаў, Праксэда, — рашуча выціснуў Бутрым. Відаць, вырашыў з’ясаваць сітуацыю ды абарваць рамантычныя марэнні панны, якая, дай волю, травой слалася б, расой пад ногі сыпалася свайму вызваліцелю. Паненка толькі больш унурылася.

Алесь ганарыста расправіў плечы, як перад смяротнай бойкай.

— Мне шкада, вашамосць, што мой недарэчны падарунак спарадзіў непаразуменне.

Праксэда неўразумела перавяла позірк на дактаровіча, асэнсавала пачутае.

— Пярсцёнак быў ад вас?

І вось дзіва — Алесь не пачаў велягурыць альбо бянтэжыцца. Горкая, вельмі дарослая і вельмі лёднікаўская, усмешка скрывіла вусны. Юнак спрытна ўзняўся і адвесіў блазенскі паклон.

— Перапрашаю за ваша расчараванне, чароўная панна, mea pulchra domina. Здараюцца ў маладосці такія вось памутненні розуму, выкліканыя парушэннем балансу цялесных вадкасцяў. Гіпакрат раіў лячыцца ад іх чамярыцай ды вадзянымі фіялкамі, але я, відаць, не далячыўся, вось і патрапіў са сваймі кукарэцыямі, як у проланку.

Пранціш ухвальна хмыкнуў. Падрос хлопец. Разумее — лепей першым з сябе пасмяяцца. І Праксэда, падобна, здзівілася. Так з панечкамі часам і трэба — а не плесці ўвесь час вензелі паводле рыцарскіх раманаў.

Але ж знайшлі час высвятляць найтонкія нюансы сваіх куртуазных дачыненняў...

— Ведаеце, шанове, слухаючы вашыя гжэчныя лірычныя канверсацыі, я б спадобіўся напісаць цэлы раман. Вам нагадаць, што мы на нітачках у кашчавай боўтаемся?

Менскі суддзя абвёў позіркам спадарожных, якія прысаромлена прыціхлі.

— Панна Праксэда, што ведаеце пра нядаўні шлюб Якуба Радзівіла, брата старосты менскага?

Паненка нахмурылася:

— Першы раз пра тое чую. Хросная, калі сюды везла, запэўнівала, што мае заручыны з ягамосцю Якубам больш нядзейсныя. — Уздыхнула скрушліва. — Але я цяпер думаю, што яна сказала б усё, што заўгодна, каб я з ёй паехала. Толькі апынулася тут — пані Тэрэзу як падмянілі. Яна на мяне, як на смяццё… Пасадзілі пад замок, на строгае пакаянне. Ніхто не наведваў, акрым турэмшчыцы. Добра, далі справу — рыхтавала мазі ды адвары. Можа, я проста перашкаджала шлюбу пана Якуба з іншай? Хаця яму, далібог, усё роўна…

Не, не падалося… Калі панна хвалявалася, чуваць быў лёгкі акцэнт. Значыць, і праўда гадавалася не тут. Пранціш хмыкнуў:

— А я вось нядаўна чуў, што не такі ўжо той Радзівіл нябога… Вяселле адбылося ў Нясвіжы, усё як мае быць.

Шэрыя вочы вучонай паненкі задумліва прымружыліся:

— Улада зацярушвае вочы нат пляткарам, вашамосць, за дыяментамі звыродства не бачаць. Мяне вучылі даглядаць за ягамосцю Якубам цягам двух гадоў. У яго столькі адхіленняў, да таго ж molestus, што медычная практыка проста выдатная атрымалася. З-за траўмы чэрапа ў раннім дзяцінстве пашкоджаны мозг. Фактычна, застаўся на ўзроўні немаўляці. Парушаная каардынацыя рухаў, дэфармаваныя суставы.

— Spina est laedi? — праявіў прафесійную цікавасць Бутрым, адразу забыўшыся на ўласныя мітрэнгі і дыстанцыю з паненкай.

— На шчасце, reliquit totum. Можа хадзіць, але толькі пры падтрымцы двух чалавек. Натуральна, куды ісці і навошта, не ўсведамляе. Часта праяўляе агрэсію, здараецца captio.

— Кансумацыя шлюбу была магчымая?

Ну, Бутрым… Пранціш нарэшце з задавальненнем пабачыў, як вучоная панна трошкі страціла раўнавагу і пачырванела.

— Male munus est aure.

Ясна, дзяцей з тым калекам не зробіш.

— Моўная функцыя?

Ну ўсё, кансіліум. Лёднік жа адмыслова займаўся пашкоджаннямі мозгу, схемы старажытнага араба Альбукасіса вывучаў, манаграфіі пісаў…

— Non diam. Характэрная дэфармацыя рысаў аблічча палягае ў…

— Хопіць, хопіць… — замахаў рукамі Вырвіч, якому з навуковымі штудыямі Бутрым у свой час апрыкраў. — Зараз наша задача — адсюль вырвацца. Тое, што Грос даў узброіцца — абнадзейвае. Калі што, будзем прабівацца.

Сумніўна зірнуў на паненку, якая ў адказ ганарыста задрала падбароддзе… Прынамсі, не спалохаецца, як што… Скальпелем валодае, трэба лепш які кінжальчык ёй падабраць, куды ёй шаблю.

— Калі зараз не выберамся, гамон. Пані Тэрэза ачомаецца і ўсвядоміць, што ўваскрашэнне ейнай хросніцы адразу пасварыць яе з панам Міхалам Брастоўскім. Ваш бацька, панна, не быў пасвечаны ў спектакль з вашым забойствам.

Праксэда толькі трохі прыўзняла тонкія бровы…

— Пакуль я не засведчу ў судзе, што жывая, пан Лёднік застаецца злачынцам. Я зразумела.

Нечакана загарлаў певень, перакінуў крыклівы фант другому, той паспяшаўся далучыць трэцяга… Хутчэй за ўсё, пеўні гэтыя існавалі пры княскай кухні, і лёс іх быў акрэслены заканчэннем посту.

— Калі цябе з усіх бакоў пхаюць саф'янавыя боты, звычайна выбіраюць, да чыіх ног прыпасці. Праўду кажучы, мне ні да чыіх не хочацца, — стамлёна пацёр лоб Лёднік. — Магнаты сутыкаюць чужыя жыцці, як шары на більярдным стале, а між сабою заўсёды паразумеюцца. Вось, у той жа пані Тэрэзы — бацька, вялікі гетман Вацлаў Ржавускі, і брат Севярын сасланыя. І што бачым? Гетман сядзіць у высылцы, піша пакаянныя псалмы і лісты да расейскай імператрыцы. А ягоная дачка з тымі, хто яго саслаў, балюе. Князь Багінскі ў сваім маёнтку збірае новую канфедэрацыю супраць Панятоўскага і расейцаў. Што не перашкаджае яму радніцца з расейскім паслом Штакельбергам у спадзеве вярнуць маёнткі.

Бутрым сярдзіта адкінуў чорныя пасмы з вачэй.

— Пане Каханку гарлае за келіхам пра сваю вернасць шляхецкім ідэалам і непадкупнасць, а сам шукае, як выгадней дамовіцца з Панятоўскім і вярнуцца. А колькі людзей, якія біліся між сабою пад сцягамі названых асобаў, загінулі… Ну, і каму з іх нам належыць прадацца, га?

— Кожны шляхціц прысягае якому-небудзь уладару. Нельга інача й, — зазлаваў Пранціш, які якраз знайшоў ладунку, напалову напоўненую порахам. — Іначай будзе крышанка, а не дзяржава.

— А што, так не крышанка? — у прарэсе кашулі прамоўцы чырванеў апёк і пабліскваў крыж. Усхадзіўся, філосаф у падранай кашулі. Не раўнуючы, старагрэцкі кінік Кратэт Афінскі, які хадзіў у лахманах, спаў на зямлі і нават гліняны кубак выкінуў, калі пабачыў, што хлопчык п'е з ручая, чэрпаючы даланёй.

— Перад Госпадам усе роўныя! А Божы запавет і інтарэсы радзімы вышэй за загад любога ўладара!

Блюзнерскую лемантацыю сына полацкага гарбара перарваў грукат у калідоры. Дзверы збройні спалохана расчыніліся.

— Збірайцеся…

Грос кіўнуў свайму жаўнеру, і той абрушыў на падлогу прынесены сумёт рэчаў: футры, шапкі, дылеі… Усё, між іншым, дыхтоўнае, з княскага гардэробу, няйначай.

— А для вас, паненка, хросная маці падрыхтавала асобны падарунак у дарогу. Яна смуткуе, што абышлася з вамі залішне жорстка, і хоча, каб вы выправіліся з яе замка ў годным радавітай паненкі выглядзе. Таму зараз прайдзіце з прыслугай, вас апрануць, зробяць фрызуру…

У дзверы зазірнула чарнявая пакаёўка вагой пудоў у дзесяць, прысела з цяжкасцю ў рэверансе.

— Прашу, вашамосць…

Праксэда бліснула шэрымі вачыма, узнялася (Пранціш адразу адчуў сябе непамысна: халера, ну не павінны панны быць вышэй за яго, харобрага шляхціца!)

— Мне дастаткова было б футра і ботаў…

— Яе княская мосць настойвае, — не зварухнуўся Грос. — Гэта літаральна ў суседні пакой зайсці.

— Мы правядзём паненку, — заявіў Бутрым.

— А ў мяне неадкладная сур'ёзная размова да вас і да вашага сябра.

Зброя ў падстаўках і куфрах стаілася ў чаканні новага крывавага ўраджаю.

— У такім выпадку паненку праводжу я, — рука Алеся Лёдніка ляжала на дзяржальне шаблі. — Калі што — пад дзвярыма пастаю. Я ж, разумееце, рыцар, Ланцэлот. Ланцэлоту адпаведна пад дзвярыма дамы чакаць.

Ого, як хлапца пераламала — то па-кніжнаму толькі гаварыў, а тут хвацка засвоіў чорныя жарцікі на тле ўласнай горычы… Праксэда зноў зірнула на яго, нібы не пазнавала.

Грос нічым не выявіў незадавальнення, калі Алесь, які паспеў ускінуць на сябе абшытае зялёным сукном футра і насунуць шляхецкую шапку, рушыў за сваёй дамай — а ён зраўняўся ўжо з ёю ростам, трэба ж…

Езуіт шчыльна прычыніў дзверы, панізіў голас да шэпту.

— Пані Тэрэза прысягнула ратункам сваёй душы, што вас выпусціць з замка жывымі, і клятвы парушыць не можа. Так што зараз дачакаецеся паннячку, і — да брамы. Вам нават карэта падрыхтаваная. Пераедзеце праз мост. Ну а далей…

— А далей — пастка, так? — горка прамовіў Бутрым.

— Абавязкова пастка! Як жа іх княскім мосцям без пасткі! — бледныя вусны Гроса нават трохі расцягнуліся ва ўсмешцы. — Вас загадана не выпускаць з карэты і везці ў Падгарэцкі замак. Гэта таксама ўладанне Ржавускіх, і зусім непадалёк.

— І… што нам параіце рабіць, вашамосць? — падазрона папытаўся менскі суддзя.

— А нічога! — усміхнуўся езуіт. — Калі мы ўсё правільна пралічылі, вас вызваляць.

— Хто? — Пранціш не збіраўся гуляць у сляпога ката.

— Сам ягамосць Ігнацы Богуш. Які пераканаўся, што ягонае месца ля княгіні зараз займеце вы, шаноўны Лёднік, — выскаліўся Грос. Бутрым ледзь не заперхаўся.

— Што-о?

— Ну а чаму не? — светлыя запалыя вочы езуіта-масона былі нязвыкла вясёлымі. — Пану Богушу ўсё даклалі пра падзеі гэтай ночы. Як вы, пан Лёднік, княгіню вылечылі, як разам з ёю на ложку валяліся, як яна вас абдымала, цалавала, слязьмі вымочвала і вы ўсіх сведкаў з пакоя выгналі… Хто ведае, чым вы там у ложку сам-насам займаліся?

Бутрым, здаецца, ледзь зубы не скрышыў ад абурэння. А Грос працягваў здзекавацца, распавядаючы квяцістую версію падзей, прыдуманую для Богуша:

— Зразумела, што вы, доктар, ужылі сваю магію, каб пані Тэрэзу счараваць, і вам удалося. Усе ведаюць, што вам гэта, як ад табакі чхнуць. Пані адправіла вас у Падгарэцкі замак, каб заўтра ж туды прыляцець і звіць такое

вось таемнае шчаслівае гняздзечка… І адзіны выхад для беднага пана Ігнацыя — не даць вам даехаць.

— Забіць, значыць, — злосна зазначыў Пранціш, засоўваючы за пояс пісталет. — Усе вашыя хітрамудрыя планы заканчваюцца для нас кепска.

— Мог бы і забіць, — пагадзіўся Грос. — Але пан Богуш ведае, што Лёдніка чакае прыгожая жоначка, што доктар прыйшоў у Белакамскі замак па сваю каханку-асістэнтку… Што пан Лёднік гатовы ўцячы і ніколі тут не з'яўляцца. Пан Ігнацы разлічыў: яму выгадней дакласці сваёй уладарцы, што ейны новы фаварыт ёй здрадзіў і ўцёк з іншай кабетай, чым калі пані немаведама як раз'юшыцца пры звестцы пра гібель таго фаварыта. Усё роўна што ў сабакі адабраць костку, якую ён паспеў толькі разок грызнуць.

Давялося прызнаць, што ў пляценні інтрыг лепшага павука, чым былы езуіт, няма. Усё-ткі вымудрыўся, каб падставіць таго Богуша. Зразумела, Тэрэзе Ржавускай з неабвержнымі доказамі дакладуць пра ягоную здраду.

Палашы, рапіры, шаблі, стрэльбы цьмяна люстравалі святло лампадкі… Выглядала крыважэрна, хаця насамрэч гэтая зброя — простая, жаўнерская, даўно стамілася ад сваёй працы, тут жа не захоўвалі парадныя карабелы ці дамаскую сталь… Толькі старая зброя і здратаваны раб могуць быць шчаслівыя проста ад таго, што на іх забыліся. Бутрым, як і Пранціш, апрануўся, падперазаўся, сунуў за пояс пісталет і шаблю.

— Спадзяюся, гэтая лухта да Саламеі не дойдзе… — прасіпеў Лёднік.

— Ну чаму ж лухта…

Грос нахіліўся да Чорнага Доктара і загаварыў таямніча-даверліва:

— Між намі кажучы, у вас ёсць добры шанец… Пані Тэрэза вамі ўсур'ёз зацікавілася. Як яна думае трымаць вас ля сябе, не ведаю, але фантазія ў яе — любы патомны гарадскі кат пазайздросціць. Да таго ж, вы былі амаратам самой расейскай імператрыцы, што не можа не інтрыгаваць.

— Плёткі!

Лёднік пыхкаў агнём, як праўдзівы цмок. Задаволены Грос пакланіўся:

— Ну, рушніком дарога!

Але гладкай дарогі не атрымалася, бо на калідоры пачуўся жаночы крык, абураная лаянка і лязгат сталі.

Бутрым і Вырвіч з аголенымі шаблямі выскачылі на калідор. Алесь біўся з двума гайдукамі, захінаючы сабой збялелую Праксэду. Тую было не пазнаць — дарагая сукенка з сіняга аксаміту, брабанцкія карункі, перліны, танклявы стан, зацягнуты ў гарсэт, высокая набеленая фрызура, упрыгожаная таксама перлінамі… З дзвярэй пакоя, адкуль спрабаваў вывесці даму Алесь, высоўваліся злосныя кабеты, што намагаліся ўхапіцца за Праксэду, а тая, закусіўшы вусны, адбівалася нечым бліскучым… Пазалочанай падстаўкай для парыка, здаецца.

Раззлаваны Чорны Доктар — гэта вам не дамскі веер, адлятаюць ад яго далёка. Дый былы каралеўскі драгун — не трэсачка. Калідор увобмірг расчысцілі.

— Што здарылася?

Алесь выцер лоб… На шчацэ ў яго цямнеў свежы шнар нейкай дзіўнай формы.

— Добра, я за дзвярыма стаяў… Прымушалі панну вымыць твар адмысловай парфумай… А гэта была кіслата. Воцатная, высокай канцэнтрацыі.

— Я адразу характэрны пах учула, — задыхаючыся, прагаварыла Праксэда. — Пан Алесь на мой крык уварваўся, абараніў, дык пакаёўка мне ў твар лінула… Ён захінуў…

Вось адкуль на шчацэ дактаровіча свежы шнар, дакладней, апёк!

Грос, выслухаўшы гісторыю, не стрымаў ціхай лаянкі на лаціне. Прасіпеў паненцы:

— Зараз жа схавайце вочы…

Алесь прытуліў да сябе скурчаную дзяўчыну, накрыў з галавой сваім футрам, трымаючы ў другой руцэ шаблю напагатове.

Грос гучна абвесціў жаўнерам, што запаланілі калідор на пачцівай адлегласці, і прыслузе:

— Адбыўся няшчасны выпадак. Паненцы парфума трапіла ў вочы, яемосць аслепла. Расступіцеся, яе трэба адвезці туды, дзе яе палечаць.

Пры гэтай абвестцы злыдні-пакаёўкі, здавалася, з палёгкай уздыхнулі.

Грос жэстам намякнуў бандзе Чорнага Доктара: час сыходзіць.

Усаджваючы гасцей у карэту з гербам Ржавускіх, прамармытаў:

— Выбачайце, гэта ад пані Тэрэзы… імправізацыя. Спадзяюся, больш ніколі не пабачымся.

Коні ірванулі, бы ад ваўкоў. Неба пачало шарэць, хаця толку ад тае зімовай хмурнай раніцы… Па абодва бакі карэты — узброеныя вершнікі. Праксэда, захутаная ў дарагое бабровае футра, усхвалявана дыхала, але не плакала. Яна глядзела на дактаровіча, чый профіль у прыцемку здаваўся рыхтык бацькавым. Асцярожна пакратала яго шчаку:

— Трэба неадкладна нейтралізаваць кіслату… Утворыцца глыбокая рана.

Алесь пачціва адвёў яе руку:

— Усё роўна няма чым. Вадой нельга. Карбанату натрыя пад рукой не маецца.

Праксэда ірванула з сябе жамчужныя каралі.

— Пан Вырвіч, пазычце ваш пісталет…

Ну вось хто б мог дадумацца, што незараджаны пісталет можна выкарыстоўваць як ступку, дакладней, гэткую расціскалку для перлін? Та-ак, Пранціш сто разоў падумаў бы, перш чым падкаціцца да такой паненкі. Усе рухі выверaныя, упэўненыя, моцныя… Раз-раз — і цягнецца з утвораным парашком да параненай шчакі свайго рыцара.

— Тут якраз утрымліваецца падобнае да соды рэчыва…

А Лёднік жа спецыяльна затаіўся, не ўмешваецца. Пабліскае ў прыцемку вачыма ўхвальна, удае, што дрэмле. Ну і Пранціш далікатна стрымаў жартачкі.

Вучоная паненка ўздыхнула:

— Усё роўна шнар застанецца…

— Лухта.

А дзе ж абавязковыя для куртуазнай размовы пляценні пра тое, што шнары сведчаць пра вернае служэнне рыцара даме? Яшчэ некалькі месяцаў таму Алесь абавязкова б штось такое выдаў. Цяпер — не. Вось і паненка маўчыць ды зіркае на хлапца час ад часу… Пераводзіць позірк на старэйшага Лёдніка… Зноў на ягонага сына, які скрыжаваў на грудзях рукі ды глядзіць перад сабой. Параўноўвае?

— Вы… нядаўна перахварэлі воспай, пан Алесь? У вас пустулы… Ля скроні.

— Было… — хмыкнуў хлапец. — У горадзе Пацучынага Караля.

Пранцысь не стаў мяшацца ў размову і аздабляць яе сваім літаратарскім талентам. Вось вернецца ў Капанічы, дастане нясконччаны рукапіс пра авантуры бравага рыцара Плексігласа (наконт імені аўтар яшчэ вагаўся), і страшная гісторыя пра горад пацукоў і іхняга ўладара прыкрасіць сюжэт… А пакуль хай Аляксандр распавядае...

— Нас суправаджаюць чацвёра, — адрывіста перарваў рамантычныя гісторыі ў экіпажы доктар, уважліва ўглядаючыся ў прыцемак за акном. — Фурман — пяты. Паколькі аніяк нельга, каб нас завезлі ў Падгарэцкі замак, чакаць абяцанага вызвалення будзем не да апошняга. Зброя, дзякуй Гросу, ёсць…

Пранціш згодна кіўнуў.

— Лепш за ўсё ўсчаць інкурсію, калі ў лес заедзем.

І прывычна пачаў рыхтаваць адабраны ў паненкі пісталет да магчымай сутычкі ды насвістваць страшнаватую песню пра лёс мазуровай кабылы.

…З зубоў будуць пацеркі,
З зубоў будуць, ой лігі-цігі-лігі-рулі,
Ой ды з мазурамі пацеркі.
З капытоў будуць кубачкі.
З капытоў будуць, ой лігі-цігі-лігі-рулі,
Ой, ды з мазурамі кубачкі…

— Праксэда, знайдзі якую хустку… Перавяжы вочы і нікому з чужых іначай не паказвайся, — загадаў старэйшы Лёднік, не выпускаючы дзяржальна шаблі. — Хай усе думаюць, што пасланцам пані Тэрэзы ўсё ўдалося, і ты аслепла. Грос сказаў — пані загадала відушчую цябе ў жывых не пакідаць.

Асістэнтка паслухмяна кіўнула і закруцілася, шукаючы прыдатную тканіну.

— Што ж твае вочы такога бачылі, што пані Тэрэза захацела цябе ці са свету прыбраць, ці хоць асляпіць? — задумліва прамовіў Бутрым.

— Каб я ведала, пан доктар…

Паненка засмучана круціла ў руках сінюю шаўковую стужку, непачціва адарваную ад дарагой спадніцы.

— Мне трэба было западозрыць нядобрае ўжо тады, калі пані яшчэ ў Гародні параіла мне ўсё з сябе зняць, пераапрануцца ў новае… Каб не пакінуць нават дробязі, якая стане нагадваць пра… мае мінулыя грахі.

Вось як паненка развіталася з рэчамі, што засведчылі асобу забітай у Менску няшчаснай...

— Паслухайце, панна Брастоўская, — раптам асяніла былога менскага суддзю. — Ці не было ў доме пані Тэрэзы, сярод яе прыслугі, знаёмых ці проста выпадковых гасцей якой-небудзь цяжарнай кабеты? З валасамі такога ж колеру, як вашы… Каб хударлявая, высокая… Не прыпамінаеце?

Асістэнтка прыкусіла губу — вось ужо дарэмна намагаліся пакаёўкі Белакамскага замка бяліць, румяніць яе ды фарбаваць вусны самай моднай памадай, паненка відавочна была абыякавай да моды, вунь ужо і тафцяную мушку, акуратна прыклееную на левую шчаку, пазногцем няўважна здзерла… Зрэшты, пані Дамініка Вырвічава гэткая ж. Перапэцкаецца ў фарбах, аблічча натхнёнае… Муж у вушка цалуе, а яна пэндзлем адмахваецца…

Салодкія ўспаміны перарваў напружаны голас Праксэды.

— А ведаеце, і праўда, прыпамінаю… Калі я некалькі дзён хавалася ў гродзенскім доме хроснай, бачыла — бегала па двары прыслуга… — Праксэда прыкрыла вочы, каб дакладней апісаць. — Ніжэй за мяне на чатыры вяршкі, астэнічнага целаскладу. Валасы падобныя да маіх. Цяжарнасць ужо заўважная, пяты месяц, хоць прыкрывала фартушком. Нейкая… засмучоная. І цягала ўвесь час цяжкое. Я нават казала хроснай, каб не нагружала так небараку. Пані Тэрэза пахваліла мяне за… як яна казала… «залатое сэрцайка». Бо шкадую нават нявартых грэшніц. Я зразумела, што кабета не замужам.

— І што з той прыслугай далей было? — напяўся Пранціш.

— Апошні дзень я яе не бачыла. Падумала, пані Тэрэза адаслала на лягчэйшую працу.

Вырвіч сустрэўся вачыма са старэйшым Лёднікам. Што ж, вось і з'ясавалася, чый труп знайшлі на Плябанскіх млынах… Хутчэй за ўсё, менавіта заўважанае падабенства прыслугі з пляменніцай і навяло кручаную пані на страшны план…

За акном замільгалі дрэвы. Чорныя лапы ялін у белых шматках снегу. Карэта павярнула ўлева і раптам спынілася. Заіржалі коні, пачуліся злыя крыкі людзей… Калі Пранціш высунуўся, то пабачыў, што якраз за паваротам дарогу перагароджвае перакулены воз. Людзі ў адзежы, па якой не пазнаць, каму служаць — але ясна, што не мужыкі, а жаўнеры — лаяліся з тымі, хто суправаджаў карэту… А вось і да бойкі дайшло. Захутаны да вачэй пан на белым аргамаку ўважліва назіраў за падзеямі здалёк.

Калі перад нядаўнімі гасцямі Белакамскага замка апынуліся асядланыя коні, марудзіць ніхто не стаў. Нават панна Праксэда з завязанымі сіняй стужкай вачыма з дапамогай Алеся ўскараскалася на чорнага гладкага жарэбчыка з выглядам самым рашучым. Хтосьці з варты паспрабаваў кінуцца наўздагон, але ўдар шабляй па галаве — пераканаўчы доказ парагледзець свае намеры.

Пан Ігнацы, аднак, дадумаўся ж засвяціцца на сваім адметным белым коніку… Цяпер з'есць яго езуіт — са сланечнікавым алеем з нагоды посту.

Стаптаны ўчора снег за ноч прыцерушыла, цені ў шматлікіх выёмінах нагадвалі воспіны, што пабілі белы твар. На ўскрайку мястэчка, ля спаленай царквы, у шэрай хатцы, крытай трыснягом, Баўтрамей Лёднік абдымаў сваю Пенелопу. Ля дзвярэй высокая худая дзяўчына, што быццам не ведала, заставацца ці ўцякаць, з завязанымі вачыма, панурыўшы галаву, шаптала малітву. Цемнавокі юнак з сумным і ўжо трохі суровым аблiччам стрымана ўсміхаўся.

— А цяпер кажыце, што з вамі ўтварылі!

Саламея прыкмеціла і апёк на абліччы сына, і тое, што муж паранены — хоць і стараўся не моршчыцца падчас абдоймаў… І што Праксэду не на марцыпанах гэтыя месяцы трымалі. Больш за ўсё спалохалася, што ў панны вочы завязаныя.

У тым і ёсць веліч добрых душаў — не было й цені фальшу ў тым, як Саламея абдымала асістэнтку свайго мужа, радуючыся, што жывая, што выратаваная… І нават прабачэння прасіла… Зусім увагнаўшы ў слёзы бедную дзеўку.

Пранціш нават адчуў сябе няёмка — усе пабітыя-параненыя, адзін ён мацак. Затое ён пяшчотна абдымаў свайго Гіпацэнтаўра, верную прадзедаўскую шаблю. Нават у клінок яе пры спатканні пацалаваў. Вядома, адвярнуўшыся ад хамуйлы Лёдніка, які не цэніць шляхецкіх рэліквій.

— Усё гатова да ад'езду, шанове! Гэх, як жа рады вас усіх бачыць! Вой, а што такое з паннай? Вочы баляць?

Пранціш павярнуўся да дзвярэй… І ледзь не ўшчыкнуў сябе, каб упэўніцца, што не сон. А можа, Давыд зноў у нейкі балаган запісаўся? Жоўтыя штаны з ласінай скуры абцягвалі цыбатыя ногі. Боты былі чорныя, бліскучыя, высокія, таксама шчыльна па назе, збоку дзясятак залатых гузікаў. Кароткае баброваe футра, падпярэзанае літым пасам, падвітыя пудраныя валасы а-ля катаген і вялізны двухкутовы капялюш, што нагадваў перавернуты човен.

Аптэкар задаволена хмыкнуў, заўважыўшы погляды на сябе, гожага, пакруціўся з боку ў бок.

— Найноўшая ангельская мода. Ягамосць палкоўнік фон Штоле толькі ў Львоў з Лондана вярнуўся, а я якраз удала вылечыў ягоныя фурункулы, што

ад парыка ўтварыліся. Вось і разлічыўся са мной сваймі абноўкамі. Ну што, рушылі, пакуль зноў якая паляндра не ўчамярылася?

Давыд і Саламея на карэту не замахваліся, але два вазкі на палазах выкупілі зграбныя… За фурманаў узяліся з радасцю быць два дзецюкі, плячыстыя ды вусатыя парубкі-браты Сцяцко ды Грыцько, якім пагражаў продаж у аўстрыйскія рэкруты. Шлях да Капаніч, куды неабходна дабрацца, даволі доўгі… Якраз паспеюцца распавесціся ўсе прыгоды і няшчасці, настаіцца віно прабачэння, выпечацца хлеб надзеі…

І прагучыць аднойчы, пад вострымі калядными зорамі, выпадкова падслуханая размова:

— Мне проста не пашанцавала, пан Аляксандр. Я ведаю аблічча свайго кахання. Але ў дачыненні да аднаго ягонага ўвасаблення я незваротна спазнілася, а для… магчымага другога ўвасаблення — з’явілася занадта рана…

— У такім выпадку — проста пачакайце мяне трохі, панна Праксэда. Я пастараюся хутчэй старэць.

Да Калядаў усё-ткі паспелі прыехаць у Капанічы… Пару разоў па дарозе перакуліўшыся разам са Сцяцком ды Грыцьком і шчасцем сваім дарожным.

Давыд ад кампаніі аддзяліўся. На калядныя кірмашы ў Менск ягоныя памочнікі мусілі прывезці замоўленыя тавары, парфуму на вялізныя грошы. Якраз прасочыць, як ідзе гандаль, новыя знаёмствы завяжа, тое-сёе разведае.

Пранцішу пры поглядзе на знаёмы дом з анфіладай хапіла сораму пачырванець: успомніў картачны доўг у Кракаве. Далібог, адсудзіў бы кляты Лудус уладанні цесця даўжніка… Каб не Лёднік з яго більярднымі ўменнямі.

Апранула Дамініка Вырвічава з Гараўскіх венецыянскую сукенку карункавую, мужам праз усе цяжкасці вандроўкі прывезеную… А ў падоле, усеяным бліскучымі кветачкамі — дзірка прагрызена. Як ёсць пацук пастараўся. Мусіць, з жаўнераў Пацучынага Караля, якіх Алесь шыхтаваў.

Пасмяялася разумная жоначка, дэкляравала выправіць убор такім чынам, што яшчэ прыгажэй зробіцца.

Пані Вырвічава Лёдніку пры аперацыях асістэнткай была, ці ж ёй пацучынага следу баяцца?

Сафійка Лёднічанка чарнавокая вывела за ручку Яначку Вырвічавага блакітнавокага… Важная такая, гожая, у белай сукеначцы, з цёмнымі коскамі, каронай укладзенымі… Малы кавалер вачэй не адрывае, раток адкрыўшы, загады слухае…

І таўсманы слуга Лёднікаў Хвэлька тут жа быў, прыехаў сюды з Полацка з панначкай… Бутрым строга зыркнуў: зноў у Хвэлькі нос чырвоны, а піць жа яму нельга, пасадзіў быў пячонку ў колішняга гаспадара-п’янтоса. Але ў Капанічах налівак-настоек, рабінаўкі-калінаўкі-анісаўкі цэлае возера Свіцязь…

І хоць ніколі не даглядаў пан Гараўскі грады, але гэтак жа, як ягоныя падданыя сяляне, паклікаў мароз куццю есці. Каб не памарозіў свавольнік гароды. І сена выпіралася пад ільняным абрусам — як у продкаў вялося. Мала што ты пан, які любіць турэцкую зброю і шаўковыя халаты, найперш ты — нашчадак сармацкага племя, беларус і ліцвін, які мусіць шанаваць Дзедавіцу.

Самая доўгая сцяблінка выцягнулася ў Аляксандра Лёдніка. Але хлопец толькі нахмурыўся: няўжо і тут пабачыў намёк, што прайшоў па жыццёвай дарозе менш, чым ягоная пульхра даміна? Якая, дарэчы, нават тут, за сталом, цярпліва сядзела ў павязцы на вачах — зразумела, там былі дзіркі… Але ў тое, што панна не аслепла, мусілі быць пасвечаныя толькі надзейныя людзі. Таму Сафійка ўвесь час спачувальна гладзіла панну Праксэду па руцэ і раіла ўжыць адвар чабору, якім добра прамываць вочы.

А Яначка, пакуль не адправілі спаць, трохі псаваў урачысты настрой тым, што ўзяў за святочны стол ляльку, прывезеную бацькам з тае ж Венецыі, насатага злючага Арлекіна, і ўвесь час кратаў яго за нос, хітра паглядваў на доктара Баўтрамея Лёдніка і пахіхікваў…

…У персідскім кабінеце Гараўскага, завешаным дыванамі, паўсюль стаялі металічныя вазы з доўгімі горламі — быццам бліскучыя чаплі паселі. Невялікая вайсковая рада патанала ў вохкім дыме — гаспадар урачыста курыў кальян, толькі чалмы на палыселай макаўцы не хапала.

— Вядома, трэба падавацца ў Трыбунал! — пан Гараўскі нечакана падтрымаў Праксэду.

А як яшчэ шляхціцу гонар вярнуць, калі суд вынес ганебны вырак?

Толькі праз Трыбунал, які ў Залатым веку Вялікага Княства прыдумалі, каб кожны мог абскардзіць несправядлівасць.

Тым больш такая вось удача — праз месяц апірышча справядлівасці з Гародні, якую пан падскарбій Антоній Тызенгаўз упарта ператвараў у каралеўскую сталіцу, прыедзе ў Менск. Можа, апошні раз — кажуць, пазбавяць горад на Свіслачы прывілеі прымаць Трыбунальскі суд… І маршалкам там пан Мікалай Тадэвуш Лапацінскі, стражнік вялікі літоўскі, суровы законнік. З Чартарыйскімі, да партыі якіх належаў гарбаты Юзаф, маршалак цяпер у варажнечы, страшэнна не любіць усе пасяганні на Статут, спрадвечны закон Вялікага Княства. Плюгаўствам лічыць увядзенне новых мундзіраў, новых падаткаў, новых пасадаў, пазбаўленне вольнасцяў...

Так, самае годнае, хоць і самае цяжкое — менавіта там, дзе быў вынесены прысуд, на вачах таго ж люду, апраўдацца. І Гараўскіх справа тычыцца наўпрост — бо і пан Пранціш Вырвіч несправядліва быў пазбаўлены судовага звання.

Адзіная, але амаль неадольная перашкода — Праксэду павінны аддаць ейнаму бацьку, пану Міхалу Брастоўскаму.

З аднаго боку, той угневаецца на пані Тэрэзу Ржавускую і пана Юзафа, былых хаўруснікаў, якія яго падманулі ды ажанілі свайго калеку з іншай дзеўкай, а яго змусілі разбірацца з фальшывым забойствам дачкі. І гэта на руку.

З другога боку, ён страшэнна ўгневаны на дачку, якая сваімі ўцёкамі пазбавіла татку-банкрута добрага ўзнагароджання за гэты доўгачаканы шлюб.

Так што Праксэду чакаў сумны лёс — ці аддацца пад бацькаву цяжкую руку, ці хавацца ўсё жыццё… Якія там універсітэты.

— Права бацькі на дзяўчыну можа аспрэчыць толькі законны сужэнец… Так, калі яна выйшла замуж без згоды бацькі, той можа звярнуцца ў суд, каб пакаралі таго, хто звёз дачку. Але і ў такім выпадку шлюб не разарвуць. Толькі пасагу пазбавяць, — задумліва прамовіў Пранціш, перабіраючы ў памяці судзейскую сваю практыку. — Пазалетась разбіралі справу шляхціца Намыслоўскага, які скардзіўся, што дачка ўцякла і пайшла пад вянец з адным латругам. Але дзеўка заявіла ў судзе, што збегла, бо бацька хацеў выдаць яе замуж супраць ейнай волі за нейкага старога. А гэта парушэнне Статуту. Ды яшчэ яе цётухна засведчыла, што была на вянчанні, маладажонаў блаславіла… І тых цалкам апраўдалі. Нават абавязалі бацьку выплаціць даччын пасаг.

— І да чаго ты гэта гаворыш? — сярдзіта нахмурыўся Лёднік. — У панны Праксэды мужа няма, і мы яго з-пад стала зараз не дастанем.

— Навошта з-пад стала. Можна і за сталом пашукаць, — вельмі сур’ёзна прамовіў Алесь. Пранціш аж заперхаўся.

— Ты ж гэта не напраўду, хлопец? — агучыў агульнае пытанне пан Гараўскі.

Здавалася, пальмы на ўсходніх карцінах пакоя ўзмахнулі ў гэткім жа здзіўленні разлапістымі лістамі, падобнымі да папараці.

— Вядома, я не прашу панну разглядаць мяне як мужа, — не збянтэжыўся й на валасіну Алесь. — Але нейкі час in nomine лічыцца ім я магу, каб прадстаўляць інтарэсы панны.

— Нешта мне гэта нагадвае, — прамармытала Дамініка, кінуўшы скоса погляд на мужанька. Пранціш толькі хмыкнуў: ну так, калісьці ён гэтаксама абвесціў сябе жаніхом панны Дамінікі Гараўскай, каб ратаваць яе з палону. Думаў — фіктыўны шлюб, паненка пры першай жа нагодзе запатрабуе разводу… А вось што выйшла…

— Усё адно — пан Аляксандр не дасягнуў шлюбнага ўзросту, з боку панны Праксэды ніхто дамову не засведчыць… За самавольны шлюб таксама адказнасць ёсць, — уздыхнуў Пранціш.

— Мне амаль васямнаццаць, — упарціўся дактаровіч. — Калі мой бацька паручыцца — абвянчаюць… У нас у акадэміі адзін студэнт ажаніўся яшчэ ў чатырнаццаць гадоў — каб маёнтак не страціць. Бацька быў як бы ягоным прадстаўніком… Не ў… інтымным сэнсе, вядома… — збянтэжыўся юнак, заўважыўшы, як перасмыкнуліся Бутрым і Саламея.

— Гэта… гэта перасягае ўсе межы! Выбачайце, але я дастаткова нашкодзіла вашай сям'і. Давайце прыпынім гэты… трагіфарс.

Праксэда ўскочыла, забыўшыся, што сядзела без павязкі, і шырокім крокам — да дзвярэй...

А дактаровіч — наперарэз.

— Калі вы назавецеся маёй жонкай, усе брудныя плёткі пра нашу сям'ю і прыпыняцца. Пры дапамозе сведкаў дакажам, што з боку пана Міхала Брастоўскага адбыўся гвалт над вашай воляй. Можна спаслацца на блаславенне вашай хроснай маці, пані Тэрэзы Радзівіл, якая дапамагла вам пазбегнуць шлюбу з хворым і адпусціла з намі. Калі што — і да пана Адама Брастоўскага, вашага дзядзькі, звернемся. Ну, наважвайцеся! Для мяне гэта ні разу не ахвяра. Хутчэй — для вас.

Вырвіч пацёр лоб.

— А што, можа выгарэць… Пані Тэрэза не адмовіцца пад прысягай, што абяцала скасаваць заручыны з Якубам Радзівілам і звезла Праксэду, і пры сведках блаславіла ехаць з намі з Белакамскага замка. І пан Адам падцерці нос брату заўсёды рады. Заступіцца за пляменніцу.

Гараўскі задумліва пыхнуў кальянам.

— І статус паненкі ў вашай бандзе акрэсліцца. А то хто яна вам? Чаму за яе заступаецеся? Любы спытае. Кепска, што розніца ва ўзросце… Праўда, у наш сапсаваны час не здзівяцца, хіба трохі пасмяюцца — ажаніўся са старой. Але ёсць рознасць у паходжанні… Вы, панства Лёднікі, выбачайце, шляхціцы па патэнце. А Брастоўскія — род старажытны, магнаты… За неадпаведнасць жаніха нявесце яго могуць і пасадзіць.

— Я ніколі не лічыла сябе вышэйшай па паходжанні, — ваяўніча запярэчыла Праксэда. — Кроў ва ўсіх аднолькава чырвоная, блакітнай нават у рыб няма. Мая маці была простай дзяўчынай з Кёнігсберга. Дачкой школьнага настаўніка. Прыгажосці, казалі, неверагоднай, таму прыезджы арыстакрат і ашалеў ад кахання… На жаль, яна рана памерла. А пан Міхал пра маё існаванне і не ўспамінаў. Хлапчукі на нашай вуліцы мяне дражнілі бастардкай…

— Але з вашай маці пан Міхал вянчаўся? — удакладніў Вырвіч, бо далікатнічаць не выпадала.

— Так. У кірсе. Абрад праводзіў мой дзед, пастар. Паколькі пан Міхал каталік, не ведаю, наколькі мае вагу той шлюб. Я і з сястрой сваёй Барбарай

нават ні разу не бачылася. І з бацькам… нячаста. Я ж так, вяхотка, якую дасталі для бруднай працы.

— Яшчэ перашкода — Лёднікі праваслаўныя, а паненка — каталічка…

— Уніятка. Такая была ўмова майго дзеда.

Пан Гараўскі выпусціў яшчэ адно колца вохкага кальяннага дыму.

— А ў святую праваслаўную веру не адмовілася б перайсці?

— Бог адзін, вашамосць…

Што ж, прынамсі, цяпер за такі пераход смяротнае пакаранне адмянілі… Да таго ж, не агледзешся — паны ў далучанай да імперыі дзяржаве адзін перад адным веру памяняюць, як калісьці папераходзілі ў касцёл, абы пры ўладзе застацца.

Саламея падышла да разгубленага старэйшага Лёдніка, сустрэлася з ім вачыма… Нейкі час сужонцы нібыта вялі маўклівую размову.

— Хай станецца, — важка прамовіў Бутрым. — Блаславуляю.

Праксэду нібыта выцялі па спіне. Яна рэзка павярнулася і зірнула на доктара, нібыта сапраўды раптоўна аслепла. Яе вусны дрыжэлі.

— Вашамосць, я і пакрыўдзіцца магу, — з горкім гумарам, які нядаўна засвоіў, прамовіў Алесь патэнцыйнай нявесце ў спіну. — Вы так трасецеся ад адной думкі назвацца, хай умоўна, маёй жонкай, быццам я пацук альбо рапуха.

Праксэда сутаргава ўцягнула паветра, сціснула тонкія рукі і ганарыста задрала падбароддзе.

— Пацукі і рапухі — істоты мілыя і вельмі разумныя, ці ж вам не ведаць, вашамосць. А псаваць вам жыццё…

— Ну, гэта што лічыць за псоту, — усміхнуўся Аляксандр-дактаровіч. — Дурны хлапчыска Ланцэлот, я ўсё разумею… Але давайце як-небудзь пераадолейце сябе. Даю слова, нат не дакрануся да вас... Па ўніверсітэтах можам разам паехаць, не трэба будзе пераапранацца ў мужчынскае. А як толькі стане магчыма, шлюб скасуем.

Праксэда бездапаможна азірнулася на старэйшага Лёдніка, той ледзь заўважна кіўнуў галавою. Вучоная паненка моўчкі насунула на вочы павязку, на гэты раз — з шаўковай стракатай хусткі, якіх у доме Гараўскіх было, як сушанай пlоткі ў зацятага рыбара. Нібыта лягчэй гаварыць, не бачачы.

— Я не ведаю людзей, лепшых за вас, панства Лёднікі. Я шкадую, што вы падабралі мяне аднойчы на вуліцах Гародні, і тым займелі столькі няшчасцяў… Адзінае, чым магу аддзячыць, — даверыць вам свой лёс. Мой дзедпастар вучыў: супраць усяго можна выстаяць, акрамя дабрыні.

— Тое ж кажа Жан Жак Русо, вашамосць, — ціха прамовіў Алесь. — Не трэба так пераймацца. Мы пройдзем праз усе выпрабаванні разам. Вы акажаце мне гонар назвацца маёй нявестай?

Праксэда сцягнула павязку, угледзелася ў аблічча юнака — зноў нібыта пазнавала штосьці знаёмае…

— Ну, пярсцёнак вы мне ўжо дарылі…

І прыжмурылася хітравата:

— А вось каб канспекты лекцый з акадэміі… Можаце нявесце такі прэзент зрабіць?

— Хіба за першы курс… За другі ў канвенце пакінуў, — трохі збянтэжыўся дактаровіч. — Але пераказаць магу! Асабліва па прыродазнаўчых навуках… У нас чытаў пан Пачобут-Адляніцкі, у яго надзвычай цікавая тэорыя…

Вось, здаецца, і ўся рамантычная частка заручын.

А што, бачылі мы пышнейшыя, ды куды дурнейшыя.

А калядныя зоркі ззялі над разарваным краем гэтак жа зырка, як будуць свяціць, калі гэты край з'яднаецца. І будзе зноў прададзены і забраны, і зноў вызваліцца і паўстане…

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

## Апошні трыбунал у Менску

Стапталі снег ля Свіслачы аж да чорнай зямлі. Не цмокі… Паны-браты, жупаны-кунтушы… Цямнеюць абгрызеныя часам сцены менскага замка, пазяхае, прыкрываючыся суконным рукавом аблокаў, прывід князя Глеба, у ранішнім паветры водар гарэліцы, табакі і прадчуванне добрай бойкі… Як жа не пабіцца падчас Трыбуналу!

Дый для злосці падстава ёсць… Расейскіх жаўнераў нагналі — сінія мундзіры паўсюль, як чарніцы ягадным летам. Ганьба якая… Але й прывычная ганьба: колькі ўжо важных соймаў прайшло пад прыглядам імператарскай арміі… Каб нязгодным языкі падкараціць.

Вось і зараз — пагаворваюць, сам староста менскі, пан Юзаф Радзівіл, гарбунок няшчасны, папрасіў даслаць войскі… Справа гучная чакаецца: мільённыя ўладанні на кон пастаўленыя…

— Чакаюць прыезду прэтэндэнта, пана Якуба Радзівіла, старостава брата, — ціха прагаварыў Давыд, які час ад часу адбягаўся ад карэты з гербам паноў Гараўскіх, каб паслухаць плёткі. Высокі тыпус ля карэты, у нямецкім строі і насунутым нізка на лоб капелюшы, ды яшчэ ў чорнай шаўковай паўмасцы, пакрывіў фанабэрыстыя вусны.

— Не падабаецца мне гэтая ідэя, спадарства. Пакуль нас не пазналі, давайце сыдзем з гэтага вівар'я.

Пранціш, які не бачыў патрэбы хаваць аблічча, ганарыста ўпёр руку ў бок — дылея, кунтуш, жупан парчовы, пояс персіянскі літы, шапка сабаліная з вялікім гузам, Гіпацэнтаўр у залачаных похвах — усё як на парадных сармацкіх парсунах.

— Яшчэ чаго! Нядаўна я прыходзіў сюды, у судовы дом, і займаў найважнейшае крэсла, і ўсе гэтыя паны-браты ручкі-ножкі мне імкнуліся цалаваць, абы на прысуд паўплываць… А зараз вунь, лыбяцца, адварочваюцца. Нізавошта не адмоўлюся ад магчымасці ім усім насы ўцерці! Усё адно ні пані Тэрэза, ні пан Міхал не наважацца штосьці беззаконнае проста тут учыніць.

— І я не баюся, я ўсё адно павінна апраўдаць пана Лёдніка!

У высокай дзяўчыны ў серабрыстым футры, якая сядзела ў карэце, твар таксама быў закрыты маскай… Чарнавокі хлопец, які не адводзіў ад яе вачэй, нахмурыўся:

— І праўда, пачакаць бы. Кадэнцыя трыбунальская яшчэ толькі пачалася.

— Кажуць, пан Міхал Бастоўскі вельмі халодна прывітаўся з пані Тэрэзай Радзівіл! — насмешна паведаміў Давыд. — Іхнія людзі ўжо прыглядаюцца, каб пабіцца між сабою. Каб не расейскія жаўнеры — счапіліся б.

Лёдніка перасмыкнула пры адным імені ягонай колішняй пацыенткі. Давыд азірнуўся на пляц:

— А вунь бачыце каралеўскіх гвардзейцаў?

Ля судовага дома, двухпавярховай камяніцы, пра нядаўні пажар у якой нагадвалі толькі навюткія дзверы і рамы вокнаў, чырванелі мундзіры малойцаў у прыкрашаных пер'ямі шлемах.

— Пан падскарбій Антоні Тызенгаўз асабіста заявіўся. Маёнткі, на якія Якуб Радзівіл прэтэндуе, зараз жа у сяквестры, імі карона карыстаецца. Таму зараз кавалак з пашчы льва… дакладней, шмат сена з пысы Цялка будуць вырываць.

Побач, на Верхнім і Ніжнім Рынку, надрываліся гандляры, прапаноўваючы свежыя булкі, гарачы мёд і пражаныя гарэхі. Цэлая армія жабракоў асцярожна сноўдгала вакол разгарачанай шляхты, бы вакол дзікай сабачай зграі, заводзячы вечныя свае лементацыі пра міласэрнасць. Верагоднасць атрымаць срэбны шастак і выспятак саф'янавым ботам была аднолькавая. Лірнікі гарлалі адразу ў некалькіх месцах пляца, таму спевы пра сіротку Дароту, малойца Байду, беднага Лазара і абарону Крычава зліваліся ў адну віскліваю літанію, ад якой вараннё над замчышчам віхурыла, нібыта гуляла ў нябёснага яшчара.

Вырвіч падумаў, што стаяць яны на самым дзяцінцы. Месцы, з якога пачынаўся горад. Якія ахвяры тут былі прынесеныя, калі дзікія продкі менчукоў убівалі першыя калы ў гэтую зямлю? І колькі тых ахвяраў яшчэ будзе? Вунь і лобнае месца відаць, накрытае саванам лютаўскага снегу. Тры ганебныя слупы з абвіслымі ланцугамі. Плаха, счарнелая ад крыві — вось жа лёс выпаў нейкаму дубу… Барані нас, святы Франтасій, на той пракляты лапік гарадзішча патрапіць…

Давыд подбегам вярнуўся з чарговага шпацыру.

— Едзе старостаў брат!

Сапраўды, паказалася цэлая кавалькада… Наперадзе герольды ў кароткіх плашчах у жоўтыя і чорныя квадраты — колеры радзівілаўскага герба «Трубы». За імі — гайдукі ў высокіх шапках і пунсовых жупанах, венгрыкі ў мундзірах з залатымі галунамі… Перад дзверцамі карэты паставілі адмысловую лесвічку, абцягнутую чырвонай тканінай. Дапамаглі яснавяльможнаму госцю паставіць на першую прыступку нагу… Падхапілі з усіх бакоў — пад рукі, пад бакі… Нязграбны даўгалыгі князь Якуб урэшце апынуўся на зямлі, нервова, як спалоханая птушка, агледзеўся… І праўда, звыродны, нат здалёк відаць. Запалыя вочы, востры нос, танкагубы доўгі рот, так і бачыцца нітка сліны… Князя ўзяла пад руку нізенькая пані — мусіць, жонка са Ржавускіх, і ён пайшоў няроўнай, нейкай падскокваючай хадой, увесь час вінавата азіраючыся. Небарака…

— Гэта не ён!

Усхваляваная Праксэда прыклала тонкую даланю да вуснаў, нібыта баялася ўласных слоў.

— Гэта не пан Якуб… Я не магу памыляцца. Зусім іншы чалавек.

Пранціш агаломшана глядзеў услед важным гасцям, што ўваходзілі ў судовы дом. Пабітыя шкельцы збіраліся ў цікавы і злавесны вітраж.

Дык вось чаго не павінны былі пабачыць Праксэдавы вочы! Добра, што выдавалі Праксэду за сляпую…

— Ну, зараз мы згуляем у іхнія гульні па-свойму! — злосна выскаліўся Пранціш.

Нібыта ў адказ на ягоныя словы ўспырхнула ў неба зграйка галубоў, што мітусіліся пад нагамі Аляксандра Лёдніка, хоць той і не думаў кідаць ім зерне.

У вялікай зале, якая памятала апошнюю справу суддзі Вырвіча, з дапамогай капаніцкіх гайдукоў удалося адбіць сабе куток. Іх кампанія ўвагі не

прываблівала — былі тут і ў нямецкіх строях, як Лёднік і Давыд, і кабеты, не толькі Праксэда. Былі і ў масках, і пад вэлюмамі, і ў каптурах, што захіналі твар… Вунь як у таго мужыка, напрыклад… У лямцавай шапцы, нацягнутай да падбароддзя, толькі дзіркі для вачэй. Дык гэта ж ашмянскі кат! Сядзіць непадалёк ад пана Міхала Брастоўскага… Не занадта блізка, вядома. Увогуле каля спадара Ігнаруса, нягледзячы на ціcканіну, утварылася пустое кола… Што вучонага ката, напэўна, забаўляла. Яшчэ якую ахвяру для ашмянскіх сутарэнняў накмячаюць?

Справа радзівілаўскіх маёнткаў разглядалася першай. Падстаўны Якуб нават змог некалькі разоў трапна адказаць «так» і «не». Тызенгаўзаў прадстаўнік усяляк закідваў сумнівы ў законнасці прэтэнзій старостава брата… Так, калісь спрэчныя землі належалі Марціну Радзівілу, і той адпісаў іх другому сыну ў выпадку, калі ажэніцца з паненкай, абавязкова ў сваяцтве з іх родам. Але Марцін прызнаны нядзеяздольным… І смачны кавалак уладанняў законна адышоў апекуну Марціна, Міхалу Казіміру Рыбаньку, тады — ягонаму сыну, потым — казне.

Прадстаўнікі старосты Юзафа гарлалі пра святыя шляхецкія правы… Сам староста маўчаў, толькі нізка хіліў галаву, ад чаго ягоны горб выпіраў нават праз футра. Пан Антоні Тызенгаўз не прымаў асабіста ўдзелу ў гармідары, сядзеў, скрыўлены, як пусты бот. Пані Тэрэза, дзеля якой уладкавалі ў правым куце мяккі фатэль, абцягнуты залатой парчой, абмахвалася веерам, быццам на бале. Што праўда, у зале надыхалі, як у карчме.

Да засмучэння старосты і Радзівіліхі, вынік па справе наследавання — а сярод маёнткаў значыліся багатыя Цімкавічы, між іншым — усё-ткі адклалі на тыдзень.

Пан маршалак трыбунальскі Лапацінскі прыняў з рук пісара новую справу… Вырвіч пазнаў тэчку і ўвесь падаўся наперад: удалося ўсё-ткі задзейнічаць былыя сувязі! Не ўсе тут скурвіліся!

— Заява шляхціца Франтасія, сына Антоніева Вырвіча, герба «Гіпацэнтаўр», аб пераглядзе справы забойства панны Праксэды Браставічанкі. Ягамосць пан Вырвіч разглядаў гэтую справу ў якасці менскага гродскага суддзі і сцвярджае, што яго несправядліва абвінавацілі ў неадпаведным судзействе. І ён гатовы тое давесці.

Сказаць, што пасля гэтых слоў пачалася бура — дык і не скажаш. Хутчэй, маленькі Апакаліпсіс. Добра, што на кадэнцыі Трыбунала забаранілі прыходзіць са зброяй. Таму люд паспаліты проста штурхаўся ды гарлаў. Пранціш рашуча працерабіў сабе дарогу да паспалітых суддзяў, зразумела, зноў з дапамогай капаніцкіх гайдукоў — нездарма адбіраў самых дужых. Прывезеныя з Белага Камня парубкі Сцяцко ды Грыцько якраз адпавядалі, таму зараз волат Грыцько з казацкай зухаватасцю расчышчаў свайму пану і выратаваўцу шлях, кідаючы ненавісныя позіркі на расфуфыраную «пані Тэрку», а чарначубы Сцяцко ішоў у ар'ергардзе.

— Гэта тычыцца толькі маёй сям'і! — гарлаў пан Міхал Брастоўскі. — Забараняю!

— Пазбавіць слова! — напіналіся людзі старосты. А з боку пані Тэрэзы нехта рашуча прабіваўся да нахабы ці не з кінжалам у рукаве…

Пан Лапацінскі запатрабаваў цішыні.

Пранціш, гледзячы ў трохі запалыя светлыя вочы законніка, не раўнуючы два ледзяшы, гучна нагадаў абставіны справы. І што выклікала ў яго, як суддзі, сумненні ў вінаватасці доктара Лёдніка.

— А вось і галоўны аргумент…

Да Пранціша ягоныя гайдукі падвялі захутаную ў плашч жанчыну… Тая скінула з галавы каптур, абвяла смелым шэрым позіркам публіку — пані Тэрэза ажно прыўстала з месца, а пан Міхал проста падскочыў, як пячкур на распаленай патэльні.

— Я — Праксэда з Брастоўскіх, вашыя мосці. Сведчу, што доктар Лёднік не забіваў мяне, і ніколі ні ён, ні ягоная жонка, мае дабрадзеі, не спрабавалі гэтага зрабіць і ўчыніць мне прыкрасць.

Ведаеце, што ў гэты момант падумала большасць прысутных?

Не пра тое, што ж насамрэч здарылася з дзяўчынай.

Не пра тое, што несправядліва асудзілі пана Лёдніка і выгналі суддзю Вырвіча.

А пра тое, як здорава будзе распавядаць пра гэтае здарэнне сёння ж увечары, і заўтра, і да канца жыцця — у сямейным коле, за сяброўскім келіхам, у свецкім салоне. Як можна тым расповедам, прыкрашаным фантазійнымі дэталькамі, прыцягнуць да сябе падчас гасцявання ўвагу ўплывовага суседа…

Таму ў зале запанавала адносная ціша — ніхто не хацеў упусціць ні слова, толькі вочы цікаўнікаў ажно свяціліся.

— І дзе ж у такім разе вы знаходзіліся, вашамосць, увесь гэты час?

Праксэда не збянтэжылася ні на імгненне.

— Перапрашаю панства, але пан бацька змушаў мяне супраць маёй волі выйсці замуж за прысутнага тут яснавяльможнага пана Якуба Радзівіла. Не ў змозе знайсці належных для пачцівай жонкі пачуццяў, я наважылася збегчы і прысвяціла сябе догляду за хворымі ў шпіталі ў Гародні. Мая хросная маці, яемосць пані Тэрэза Радзівіл, даведалася пра мае няшчасці і забрала да сябе, — Праксэда павярнулася да хроснай, якая пачырванела так, што відаць нават скрозь бялілы. — А потым яемосць дапамагла мне з'яднацца з пачцівым чалавекам, да якога я маю сардэчную схільнасць. Спадзяюся, яемосць пані Тэрэза пацвердзіць мае словы, бо мае вочы добра бачаць ману і праўду.

Праксэда зірнула на падстаўнога старостававага брата і на самога пана старосту — вузкі доўгі твар гарбунка пайшоў чырвонымі плямамі. Утаропілася ў вырачаныя вочы хроснай… Пранціш падумаў — ці не надарыцца з той прыпадак, як у Белакамскім замку?

Але пані Тэрэза недарэмна была спрактыкаванай у палацавых інтрыгах. Гэта ў сваёй спачывальні яна магла не стрымлівацца. А тут на кану — мільёны... Варта праклятай дзеўцы рэкнуць пра падмену…

— Як жа было не пашкадаваць бедную сіротку, з якой пан Міхал абыходзіўся вельмі сурова!

Хоць на блін словы маж…

І тут ускочыў князь Міхал.

Словы «лярва» і «курва» ў ягонай прамове пераважалі.

Закончыў патрабаваннем неадкладна вярнуць яму блудную дачку і пакараць усіх, хто меў дачыненне да ейных сваавольстваў.

— Гэта немагчыма, вашамосць. Цяпер за яе адказваю я, яе законны муж, Аляксандр Баўтрамееў Леднікові.

— Што?!! Курва!

І лярва.

Абурэнню пана Брастоўскага можа і былі межы, але не ў гэтай зале. Судовым ледзь удалося змусіць пана сціхнуць і не зрываць паседжанне.

— Хто дазволіў жаніцца такому смаркачу?

— Я дазволіў. І адразу кажу — ад усялякага пасагу мы адмаўляемся.

Гучны суровы голас спрактыкаванага прафесара і раскаянага мага ўтаймаваў гармідар. Чорны Доктар прабіваўся да галоўнай сцэны трагікамедыі імкліва, як загартаваны клінок.

— Я — доктар Баўтрамей Лёднік. Я блаславіў шлюб майго сына Аляксандра з дзяўчынай, якую ён кахае.

Пан Антоній Тызенгаўз ажно выкрыкнуў з захапленнем:

— Ну я ж казаў калісьці, доктар, што ты жывучы, як прусак!

Пані Тэрка тузанулася, нібыта хацела яшчэ раз прыпаліць праклятага чараўніка. А ашмянскі кат усміхнуўся шырока, як перад місай найлепшых каўбасак.

Цяпер перад панамі-суддзямі паўсталі два прэцэдэнты: зняць з Баўтрамея Лёдніка абвінавачванне ў забойстве і вырашыць, ці законны шлюб панны Браставічанкі.

— А чыё ж цела знойдзена тады на Плябанскіх млынах, і чаму няшчасная была апранутая ў вопратку панны Брастоўскай?

Суддзя Лапацінскі задаў менавіта тое пытанне, на якім маглі паслізнуцца ўсе ўдзельнікі гульні. Але пані Тэрэза Радзівіл падаць не збіралася. А збіралася стаць каралевай. А можа ўладарыняй марскою. Але не менш.

— Калі я забрала сваю хросніцу, каб падарыць ёй новае, шчаснае жыццё, я прапанавала ёй новую вопратку, а ўсё старое, нават упрыгожванні, загадала аддаць жабракам. Вось на бяду сваю і скарысталася нейкая кабета…

І вось ці паверыш, што гэтая ўсмешлівая пані ў саетах яшчэ нядаўна пасадзіла Чорнага Доктара ў клетку і тыцкала ў яго распаленым прутом?

А позіркам свідруе, свідруе свайго нядаўняга вязня…

Між тым вырашылася самае відавочнае — з Лёдніка знялі абвінавачванне ў забойстве. А як не зняць, калі ахвяра жывая? І сведкі зніклі, якія сцвярджалі, што бачылі доктара на Плябанскіх Млынах…

І па справядлівасці — трэба было б змусіць адказаць сапраўдную забойцу, акрутную пані Тэрку… Але супраць ветру не плюнеш. Як і што дакажаш? Дзе наймітаў шукаць, якія няшчасную прыслугу задушылі?

Мелі рацыю антычныя мудрацы, калі казалі, што закон — павуціна, у якой заблытваецца муха і якую разрывае пчала.

Пан староста менскі сумна ківаў галавою і паўтараў: «Нешчаслiва зоркі сышліся».

І касавурыўся на несапраўднага брата, які ахвотна прадаваў лыбы і відавочна не мог нарадавацца свайму княскаму становішчу. Дзівіўся на сыкгнеты, асцярожна пагладжваў тонкімі беднымі пальцамі каштоўнае сабалінае футра... Можа, у якой глухой вёсцы мурзатага дурнячка падабралі.

Пан Міхал Брастоўскі падмены заўважыць не мог — сапраўднага калеку Якуба некалькі чалавек толькі і бачылі. Затое пан выдатна зразумеў, што хаўрусніца нахабна яго падманула.

Галоўнае — Праксэду абараніць.

— Вашыя мосці, дазвольце нам з панам Міхалам Брастоўскім абгаварыць сам-насам складаную сітуацыю, якая тычыцца нашых дзяцей. Магчыма, мы знойдзем палюбоўнае рашэнне.

Брастоўскі вылупіўся на Чорнага Доктара, як гандлярка Ніжняга Рынку на дзіўнага гарбатага звера вяльблуда, прыведзенага цыганамі на пляц.

Для сакрэтных перагавораў і куртуазных спатканняў заўсёднымі месцамі былі карэты. Світу пана Брастоўскага складаў ягоны канфідэнт, падобны да пацука, і, як ні дзіўна, ашмянскі кат, які хоць у карэту не палез, стаяў пачціва пад акном, але, здавалася, ягоны цень навісаў над перагаворшчыкамі.

— Не супакоюся, пакуль ты, доктар, не вернешся ва ўладанні майго Ігнаруса.

Брастоўскага калаціла ад гневу.

— Ну навошта вы так, вашамосць? — усміхнуўся як мага шчырэй Вырвіч. — Столькі несправядлівых абвінавачванняў… Вы б яшчэ прыдумалі нам удзел у выкраданні вашай пляменніцы панны Рэгіны!

Пранціш ступіў на вельмі тонкі лядок. Застаецца спадзявацца, што разлічыў крокі… Бо Брастоўскі збляднеў.

— Недарэчная выдумка… Мая пляменніца шчаслівая гадуецца пад прыглядам сваёй цёткі ў маёнтку ў Ліфлянтах, яе старанна выхоўваюць, каб стала годнай жонкай графа Штакельберга.

Як па напісаным… Зразумела, калі Штакельбергі пранюхаюць, што нявесты няма — не відаць Брастоўскаму мільённага крэдыту! Хутчэй за ўсё, і ад Багінскага прапажу прыёмнай дачкі схаваў, іначай войскі гетмана пад кожны куст зазіралі б. Бедны пан Міхал. Мала таго, што дачка такую свінню медычную падклала, і пляменніца туды ж…

— Не абражаем словы вашамосці недаверам, — блакітныя вочы Вырвіча былі сумленныя, як у палескага злодзея. — Але, магчыма, больш дакладнае месцазнаходжанне панны павінен ведаць яе родны бацька, пан Гервасій Агалінскі.

Брастоўскі ажно пачаў намацваць шаблю, ледзь стрымаўся.

— Ах вы, прайдзісветы… Былі ў мяне падазрэнні… Відаць, і без браткі Адама ўсё-ткі не абышлося, хоць мае людзі запэўнівалі, што панны ў яго ўладаннях няма. Добра, узамен за маўчанне пра ўцёкі паскудніцы Рэгіны я не буду прыцягваць да суда вас, Лёднікі. А мог бы. Не забыліся, што грошы ўзялі, а даручэнне ў Венецыі не выканалі? Самавольная жаніцьба — як ні глядзі, злачынства. Да таго ж Праксэду, як я разумею, у схізму абярнулі. Хоць яна і так схізматычка была. «З’яднанне закаханых»… Я тут за вярсту адчуваю круцельства.

— Вашамосць, той срэбны пярсцёнак, з надпісам «ад Лёдніка» — гэта я панне падарыў!

Цёмныя вочы Алеся ўсё-ткі былі на праменьчык святлей ад бацькавых.

— Даруйце, што адразу не прызнаўся. Грэх на мне.

Брастоўскі пагардліва акінуў паглядам худую постаць юнака.

— «Зяцёк», лярва падкалодная… Смаркач. Зарана кукарэцыямі заняўся. У суд, як абяцаў, не пацягну — але шлюбу гэтаму не быць. Згоды не дам ніколі. Каб маё імя згадвалі побач з вашым быдлячым імем…

І дадаў штосьці такое брыдкае пра Праксэду, што Алесь ускочыў — ледзь удвух доктар з Пранцішам назад яго на лаву ўсадзілі.

— Шаноўнае панства, гнеў — не самы лепшы маршалак нават на самым маленькім сойме, — прымірэнча завёў Пранціш.

— Я магу выкупіць у вас Праксэду, — раптам рэзка заявіў доктар.

Пан Міхал скептычна варухнуў бровамі.

— Хіба што абмяняеш яе на сябе. Мой Ігнарус у сутарэннях з тваім удзелам такія спектаклі для мяне разыгрываў бы... А ў антрактах ты мае каштоўныя камяні павялічыш. І золата каб наварыць з жалеза… Шкада, раней ад злосці не падумаў цябе для гэтага скарыстаць…

На твары князя нават нейкі мройны выраз з’явіўся.

— Дык што ты можаш мне прапанаваць за камплянацыю?

— Тое, дзеля чаго вы нас пасылалі ў Венецыю.

Вырвіч і Алесь, якія сядзелі абапал Чорнага Доктара, агаломшана скрыжавалі на ім позіркі.

Гэта яшчэ што за… імправізацыя?

— Але ж мне даклалі, што трубу святога Георгія ніхто не знайшоў… Так? — зірнуў князь на канфідэнта.

— Так, вашамосць! Быў папяровы скрутак, які рассыпаўся…— ахвотна нагадаў пацукападобны. — Людзі пана Антонія і пані Тэрэзы аднолькава распавядалі, значыць, праўда. Тое, што малады чалавек, — канфідэнт кіўнуў у бок Алеся, — неверагодным чынам здабыў з таемніка на вяршыні калоны, пан доктар паклаў перад абразом Маткі Божай у нейкім венецыянскім дворыку.

Міхал Брастоўскі запытальна ўтаропіўся ў Лёдніка.

— Мы ўсе памыляліся, калі лічылі, што шафар — гэта нейкае матэрыяльнае ўвасабленне, — цярпліва паўтарыў свае тэорыі Чорны Доктар. — Труба, рог, музычны інструмент, зброя… Насамрэч гэта слова. Божае слова. Вечнае і ўсемагутнае. На тым скрутку быў тэкст кнігі Эклезіяста. Марная марнасць, і ўсё мітусня пад сонцам. Алесь, дай томік скарынаўскі, які я табе падарыў…

Дактаровіч здзівіўся, але моўчкі палез у кішэню і дастаў кніжыцу, якую сапраўды звык паўсюль цягаць з сабою, як прасіў калісьці бацька. Баўтрамей з багавейлівасцю пагладзіў пашарпаную вокладку, разгарнуў…

— Ты што, доктар, уздумаў мяне зараз біблейскай мудрасцю гадаваць? — Брастоўскі сціснуў дзяржальна шаблі-карабэлы.

— І ў мудрасці ёсць матэрыяльныя знакі.

Баўтрамей раптам вельмі непачціва тузануў святую кнігу, так, што ледзь не напалам раздралася. І са шчыліны паміж скураным карэньчыкам і паперай выкалупаў нешта невялікае, круглае, падобнае да манеты…

— Пячатка святога Тарэла. На папірусе вісела. Не рог, але сапраўдная рэч продка яго каралеўскай мосці. І як на замову — з выявай цялка. Трэба?

Вось жук Бутрым… Хто б падумаў, што такі козыр у рукаве Скарыны прыхавае?

Брастоўскі напяўся, прагна ўглядаючыся ў свінцовы круглячок, які Бутрым прадбачліва трымаў падалей. Вядома, не такая эфектная здабыча, як уяўлялася… Але ж лепей, чым нічога. Пячатка міфічнага продка з радавым гербам… Калі пакласці ў шыкоўны рэлікварый… Пан Міхал, падобна, узважыў усё як след, і…

— Мяняемся.

І з’едліва пасміхнуўся:

— Але пасагу не чакайце. Ні шэлега. Вам і так скарб прываліў — Праксэда вучоная. Адзінае, што скажу, — не шкадуеш ты свайго сына, доктар…

Абвестку пра тое, што бакі дасягнулі згоды, адны віталі, другія сустрэлі расчараваным гудам. А пабіцца? А кагось да ганебнага слупа ці ў вежу паслаць?

І калі ўсё было нібыта вырашана наконт узгаднення неадпаведнага шлюбу, упёрся пан маршалак трыбунальскі Лапацінскі.

Законнік доўга разважаў пра заняпад нораваў і пра святасць Статутаў. Згадваў плюгаўствы, якія даводзіцца ў гэты жалезны век назіраць: то жонка ад мужа ўцякае, то дачка ад бацькі, то жэняцца неадпаведна ўзросту… Вось раней, у залаты век, пакуль малады чалавек не давядзе сваю годнасць у слаўных бітвах, не заслужыць добрай пасады, і не падумае жаніцца. Тым больш з асобай старэйшай за сябе, без пасагу і заганных для шляхетнай дзяўчыны паводзін. Дзеўка-лекарка! Куды свет коціцца!

Праксэда стаяла, ганарыста выпраставўшыся і не гледзячы па баках — а гэта не так лёгка, калі ўсе на цябе зіркаюць ды абмяркоўваюць… Алесь рашуча ўзяў яе за руку, што выклікала яшчэ адзін няўхвальны позірк маршалка.

Пранціш разумеў — трэба ўжыць увесь судзейскі досвед… Ягоная гарачая прамова, падмацаваная цытатамі ды спасылкамі, нібыта пачала кранаць сэрцы… Але не ўсе.

— Вы, вашамосць пан Вырвіч, нават як былі суддзёй гродскім, не навучыліся ставіць закон вышэй пачуццяў, — вёў сваё Лапацінскі. — Расказвалі мне, як ваш кумпан, прысутны тут доктар, егіпецкіх змей суддзям паказваў ды мячом князя Глеба махаў. Артыкул Статута — не аракул і не гараскоп, у ім мудрасць пачцівых продкаў...

— Хіба ягамосць Лапацінскі не прызнае Божага прадвызначэння? Неба — суддзя найвышэйшы ад чалавечых законаў! — ятрыўся Пранціш. — Здараецца, для справядлівага прысуду трэба ўлічыць надзвычайныя абставіны!

Маршалак пакрывіў бледныя вусны:

— Я добры хрысціянін, васпан. Вядома, веру ў знакі, што спасылаюцца зверху… Вось толькі ў дадзеным выпадку нешта я не бачу такога знаку…

І тут у шыбу нешта ўдарылася так гучна, што людзі мімаволі азірнуліся… Са звонам пасыпалася шкло, за акном мітусіліся чорныя цені варання... А ў залу заляцеў белы галуб. Ляцеў ён вельмі мэтанакіравана і сеў на плячо панны Праксэды. Не зусім рахмана, а нават абурана палопаў крыламі. Добра, не абгадзіўся са страху, але супакоіўся і пачаў чысціць і ўкладваць пёркі…

Праксэда, хоць не завішчэла і не адхінулася, выглядала такой жа агаломшанай, як большасць прысутных… Значыць, не распавёў ёй мужанёк ліпавы пра свае магічныя здольнасці. А яны вось, наяве… Пранціш выдатна пазнаў гэты пільны цёмны позірк, якім Алесь глядзеў на чарговую паддоследную істоту. Бутрыму не трэба было тлумачыць, адкуль цуд — але ён толькі злёгку нахмурыўся.

— Ну вось вам і знак, пан Лапацінскі! — развёў рукамі Пранціш.

Ого, колькі цікавага распавядуць пра гэтую кадэнцыю Трыбунала, апошнюю ў Менску!

Цяпер Аляксандр Лёднік лічыўся законным сужонцам Праксэды… І найлепшае, што можна было зрабіць, — уцякаць адсюль як падалей, разам з таямніцамі, за якія забіваюць.

Вунь і пан староста Юзаф хуценька звёў свайго падменнага братку. І пані Тэрэза Радзівіл за імі кіруецца…

— Пан Лёднік, вас хоча неадкладна бачыць ягамосць падскарбі Антоні Тызенгаўз!

Каралеўскія гвардзейцы — людзі пачцівыя, асабліва калі пры шабельках, адмаўляць ім не хочацца…

— Я твайго бацьку пачакаю, а ты зводзь хутчэй сваю пані! — скамандаваў Вырвіч Алесю…

Але тут заўпарцілася Праксэда: разам сюды прыйшлі, разам сыдзем. Вядома, як яна свайго куміра кіне? Алесь сумна ўсміхнуўся…

Цікава, ці атрымаецца што ў гэтай пары?

І яшчэ Пранціш зразумеў, што так раздражняла яго ў панне Праксэдзе… Яна вельмі нагадвала ягоную былую нявесту, Раіну Міхалішыўну, прыгонную акцёрку. Разумная, высокая, гнуткая, іранічная… І ёй была адведзеная роля ахвяры. Але не будзе Праксэда прамяніста ўсміхацца, калі яе дратуюць. Увогуле не стане кагосьці счароўваць. Ці зіркне пагардліва, ці сцінецца і будзе маўчаць. Шмат іншых дробных неадпаведнасцяў — занадта высокая, занадта шэравокая — пакідалі адчуванне, быццам пабачыў згубленую дарагую табе рэч, а тады ўгледзеўся — зусім не яна…

Між тым шляхта расцякалася з судовага дома стракатымі ручаінамі — належала выпіць за ўдала вырашаныя справы і пабіцца за няўдала вырашаныя. Званы на Святадухавым саборы дадалі срэбра ў гэты лютаўскі дзень.

Лёднік вярнуўся змрочны, але калі гэта ён сеяў усмешкі?

— Даручэнне. Ганаровае і слізкае. Мяне чакаюць у доме на Францысканскай.

Зразумела, ніхто Чорнага Доктара са слізкім даручэннем аднаго не адпусціў… І Праксэда адмовілася вяртацца дадому.

— Няма чаго хавацца! Наадварот — няхай усе нас пабачаць, што мы — жывыя, апраўданыя і нікога не баімося!

У словах вучонай дзеўкі была свая праўда.

Праксэда рашуча ўзяла Алеся пад руку. І банда Чорнага Доктара адправілася ў свет далейшых прыгодаў па стаптаным менскім снезе, і глядзелі ім услед п'яныя шляхцюкі і цікаўныя мешчукі, а галубы кружлялі ў небе, і, напэўна, адзін сярод іх абураўся ды абураўся гвалтоўным сваім гасцяваннем у судовым доме.

Калі адышліся далей да Свіслачы і ўпэўніліся, што шпегаў побач няма, Лёднік распавёў… Усё-ткі зрабілі яго пасярэднікам паміж магнатамі. Яму належала сустрэцца з таемным пасланцом ад Пане Каханку і перадаць прапановы ад караля. Хаця — тс-с! — які кароль? Які Радзівіл? Вядома, яны ні пры чым, ведаць не ведаюць пра перамовы, свой гонар берагуць.

Патрэбны дом на Францысканскай, аднапавярховая камяніца з зялёным дахам, ахоўвалася не горш, чым каралеўская скарбніца. Прычым шляхта, што мітусілася ў двары, насіла колеры Радзівілаў, а некалькі белых з чырвоным жупаноў сведчыла, што тут прысутнічаюць альбанчыкі. Ого, відаць, і сапраўды Радзівілаўскія сілы гуртуюцца да вяртання правадыра…

Зрэшты, варта было Бутрыму махнуць канвертам, атрыманым ад Тызенгаўза, гасцей ледзь не бегма праводзілі ў дом…

— Пан доктар-магік! Пан Аляксандр! Пан Вырвіч! Хэй-хо! А я страляць з арбалета навучылася!

Пранціш вылупіўся і ледзь не ўшчыкнуў сябе, каб праверыць, ці не спіць. Паненка Рэгіна Агалінская ў блакітнай сукенцы ў дробныя гарохі, без крыналінаў і шлейфаў, ззяла рудымі валасамі, рабацінкамі і ўсё яшчэ шчарбатай усмешкай.

А вось і татухна руды…

— Вітаю вашамосцяў! Ну што, доктар, ніяк не разбягуцца нашыя сцяжынкі?

Пан Гервасій Агалінскі ў неахайна падпяразаным жупане трымаў куфаль, як антычны Вакх.

— А што за прыўкрасная паненка з вамі?

Аляксандр урачыста пакланіўся.

— Дазвольце прадставіць, вашамосць: мая жонка, пані Праксэда з Брастоўскіх.

— Што? Як вы маглі, вашамосць! — ад віску Рэгінкі ажно шкельцы ў шыбах задрыжэлі. — Вы павінны былі чакаць майго паўналецця! Здраднік!

На тое, каб калі не супакоіць панну, дык хаця б змусіць не верашчаць, давялося страціць два рэшаты часу. Калі абражаная паненка нарэшце сышла, Праксэда выпадкова заўважыла на сваёй смарагдавай спадніцы пляму сажы, падобную па форме да велізарнага кажана.

Калі толькі паспела амерыканачка!

Нарэшце дайшло да справы…

І інтрыга тут закручвалася наступная. Ягамосць Караль Радзівіл, паколькі ягоныя іерыхонскія трубы выявіліся слабаватымі, намацаў у перамовах з каралеўскім дваром яшчэ адну магчымасць для гандлю. Зараз Тызенгаўза больш за ўсё непакоіў князь Багінскі. Шпегі дакладвалі, што ён змоўшчык, і збірае новую канфедэрацыю. Але цяпер дзейнічае яшчэ больш нахабна, бо амаль парадніўся з расейскім паслом Штакельбергам. З якім у Панятоўскага зараз былі адносіны нацягнутыя, як струны арфы. І не выключана, што пасол вырашыць гуляць у палітычныя гульні на пару са сваім новым сваяком, вялікім гетманам. Панятоўскі, кароль батлеечны, пасядзіць пакуль на цацачным троне, а вось падскарбія надворнага Тызенгаўза дакладна папхнуць… Таму тэрмінова трэба разбурыць гэты небяспечны саюз, пасварыць Багінскага і Штакельберга. А Пане Каханку выдатна ведаў такі спосаб. Паколькі ягоны здрадлівы альбанчык Агалінскі распавёў яму пра лёс сваёй дачкі.

Так што не паспелі амерыканцы далёка адплысці, у порце Бары іх перахапілі…

І заўтра чакаецца яшчэ адна сенсацыйная справа ў Трыбунале. І хтосьці з банды Чорнага Доктара мусіў выступіць сведкам. Распісаць, як жорстка абыходзіліся Багінскія і Брастоўскія з малой Рэгінкай, як яна ўцякла ў бядотным выглядзе ад апекуна, як адмаўлялася стаць нявестай Штакельберга…

Калі ўсё ўдасца, Пане Каханку атрымае ганаровае запрашэнне да вяртання на добрых умовах і літасціва яго прыме. Князю Багінскаму, каб выкараскацца з сітуацыі і вярнуць секвестраваныя маёнткі без дапамогі расейцаў, давядзецца раскашэліцца і шмат у чым прыцішыць амбіцыі.

Так што кароль атрымае абодвух самых небяспечных магнатаў утаймаванымі.

А бандзе Чорнага Доктара за спрыянне — падтрымка ўсемагутнага падскарбія. Які, дарэчы, даволі рэзка нагадаў доктару Лёдніку, што той па-ранейшаму з'яўляецца чальцом Адукацыйнай камісіі і Неўсыпальнай каралеўскай рады, і цяпер, калі непаразуменні з законам вырашаныя, можа пакінуць свой пост толькі ў выпадку дзяржаўнай здрады. З адпаведнымі наступствамі. Ягамосць падканцлер Іяхім Храптовіч, старшыня камісіі, ужо чакае нядбайнага падначаленага з дакладам…

Дзе ж раней гэтыя камандзіры былі, пакінуўшы каштоўнага чальца рады на з'ядзенне магнатам?

Паміж ражном і агнём застаецца толькі засмажыцца.

— Вось што, сведчыць у судзе буду я, — заявіў Пранціш. — Я ні ад Брастоўскага, ні ад Багінскага не залежу.

— Дарэчы, заўтра пад'едзе брат пана Міхала, пан Адам, — весела ўсміхнуўся Агалінскі. — Мы з ім знаёмыя добра, ён дапаможа, калі што, свайго братку ўтаймаваць. Сумленны патрыёт! Даведаўся, што Полацак расейцы пазбаўляюць магдэбургскага права, і адмовіўся ад пасады старосты. Невялікі гонар зганьбаваным горадам кіраваць ад імя ганебных уладаў! Нічога, ягамосць Караль вернецца — у шляхты тутэйшай надзея з'явіцца!

— Дык што, пан Гервасій, вырашыў застацца? — зацікавіўся Пранціш. Амерыканец дапіў келіх і са шкадобай зазірнуў у ягоную шкляную пустэчу.

— Ды я б застаўся, але ж Паланэйка і сын там, за акіянам... Каб сужонка яшчэ чаго без мяне не ўтварыла... — з няёмкасцю перахануў Агалінскі. — Увесь гэты час баяўся, каб яна сюды не ірванула. Тады не разблыталіся б. Зноў жа, з ангельцамі вайна… Трэба армію збіраць. Я ў Італіі сустрэў аднаго добрага хлапца, Тадзіка Касцюшку. Ён якраз не пры справах — уявіце сабе, закахаўся ў дачку свайго працадаўцы Сасноўскага так, што паспрабаваў яе звезці… Але закаханых выкрылі — між іншым, не без дапамогі Станіслава Панятоўскага,

Цялка няшчаснага, якому па старым сяброўстве Тадэвуш сардэчныя справы адкрываў. Збілі небараку слугі ды кінулі, як смяццё. А ён у вайсковай справе — геній! Угаварыў яго, паедзе ў Амерыку. Дык яго звабіў — а сам што, у гарохі?

Страшэнны грукат, звон пабітага шкла, спалоханыя выкрыкі прыслугі і адчайны вэрхал курэй, гусей, сабак ды дамавікоў змусілі ўсіх кінуцца на двор… Паненка Рэгінка, захутаная ў белае заечае футрачка, трымала ў руках арбалет, з якога толькі што трапна пацэліла. Гаспадары гэтага дома паддаліся агульнай модзе і прыбудавалі невялічкае крыло для вырошчвання ўсялякай экзотыкі. І зараз дзякучы арандатарам гэтая экзотыка махала зялёным голлем на беларускім марозе і развітвалася з аранжарэйным кароткім шчасцем.

У вачах амерыканачкі блішчэлі непралітыя слёзы, а вусны былі злосна падціснутыя.

— Ого, які паляўнічы расце! — грымнуў пан Агалінскі, падцягваючы пас. — На мядзведзяў са мной хутка пойдзеш, вавёрачка!

— Алесь, знікаў бы ты адсюль з сужонкай, — ціха шапнуў Пранцысь на вуха хлапцу. — А то яшчэ атрымаеш стралой паміж вачэй ад нявдзейсненай нявесты.

— Ты толькі руку прамей трымай, калі мецішся, вавёрачка, вось так… — чуўся за спінай аптымістычны голас Амерыканца, і зараз жа зноў пачуўся гук пабітага шкла.

Не лёс расці ў Менску лімонам, панове.

І зноў кружлялі над пляцам Волі белыя і чорныя, вароны і галубы. І зноў гарлала п’яная шляхта, і незразумела было, хто на чыім баку, таму што тыя, каму не паспелі заплаціць, жадалі падтрымаць пераможцу, а для гэтага трэба было загадзя вылічыць сыход справы. Два блізнюкі, Адам і Міхал, мераліся ненавіснымі позіркамі, а прыдворныя аднаго і другога задзіраліся і прызначалі двубоі.

Князь Багінскі, вядома ж, не прыехаў — як ён мог пакінуць свой цудоўны тэатр і арфу з удасканаленай педаллю! Яго інтарэсы прадстаўляў пан Міхал… І даволі няўдала. Бо законнік Лапацінскі нават слухаць не захацеў, як гэта пры жывым бацьку можна супраць ягонай волі прызначыць дзіцяці іншага бацьку. Здрада сармацкім ідэалам!

Расейскія афіцэры перашэптваліся, і, несумненна, вельмі хутка пасол Штакельберг даведаецца пра фіяска з заручынамі.

Пан Агалінскі ззяў. Рэгінка кранула паноў суддзяў расповедамі пра свае няшчасці. Пан Антоній Тызенгаўз сядзеў з фізіяноміяй задаволенай, як кот, што задраў тлустую птушку.

Толькі Баўтрамей Лёднік быў сумны. Дый Пранціш, нягледзячы на красамоўны выступ у якасці сведкі, не адчуваў аніякай радасці…

Да таго ж на выхадзе з судовага дома падбег Давыд і прашаптаў, што меў размову з катам Ігнарусам. Нейкую дзіўную ды плыткую, усю на філасофскіх алюзіях… Усё пра той жа Харонаў човен, з якога па сваёй волі не сыходзяць…

На пляцы, дзе стаялі ганебныя слупы, груганнём збіраўся народ… Кагосьці зараз будуць лупцаваць.

Тэрмінова ў Капанічы!

Праксэда спакавала рэчы і сядзела на куфры, сціснуўшы тонкія рукі. Алесь нервова хадзіў па здымным пакоі, паглядаючы на сваю чароўную даму пяшчотна і сумна.

А тая так і не змагла схаваць непатрэбнага позірку, якім сустрэла доктара.

Гэтак калісьці і на Вырвіча глядзелі… Светла-зялёныя вочы ягонай нявесты Раіны Міхалішыўны. З бязмежнай адданасцю і гэткай жа бязмежнай безнадзейнасцю…

Неба над Траецкім прадмесцем зрабілася шэрым, як бруднаяануча. Відаць, вечарам паваліць снег. Прыслуга загружала куфры ў карэту…

Стралялі крокаў за дзвесце, з руінаў замка на тым беразе ракі. Стралкі ўмелыя, і зброя ў іх была самая лепшая, дарагая, прыстрэленая. Падобна, наразныя карабіны, замежная навінка.

А банда Чорнага Доктара на заснежаным двары — як чарніцы ў парцалянавай місе.

Пранціш, быццам у страшным сне, бачыў, як павольна Бутрым падае, як адпаўзае за карэту, і за ім цягнецца крывавы след… Кулі ўспорвалі белыя апранахі зямлі. Аднаго каня паранілі, ён пачаў уздымацца на дыбкі, разам з напарнікам туды-сюды са страшным іржаннем валакаў карэту… Пранціш кінуўся да доктара, каб адцягнуць у бяспечнае месца… Апякло плячо. Навалачы! Вырвіч кінуўся за дрывотню і бездапаможна агледзеў наваколле. Адзін гайдук ляжаў ніцма, галавой на ганку, і ягоныя вочы ўжо ашклянелі… Гэта ж Грыцько, якога пані Тэрка ледзь не прадала ў рэкруты! Нядоўгай была ягоная воля…

Двое другіх гайдукоў прыхаваліся за рагом дома і пулялі ў белы свет, непрыцэльна, так, ад злосці і безнадзейнасці. Чарнявы Сцяцко дык увогуле выў, як дзікі звер, і каб бачыў перад сабой забойцу свайго брата — мусіць, зубамі парваў бы…

Бутрым, здаецца, спрабуе адпаўзці… Пранціш кінуўся да яго і ўсё-ткі адцягнуў за дровы. Чорны Доктар заціскаў рукою рану ў левым баку.

— Алесю… дапамажы… Праксэда…

Пранціш агледзеўся: яму здавалася, што маладыя ў больш бяспечным месцы, чым Бутрым…

Дактаровіч моўчкі стаяў на каленях і прыціскаў да сябе захутаную ў серабрыстае футра жонку, кранаючыся вуснамі русявых валасоў. Яна ляжала ў яго абдоймах вельмі ціха, схаваўшы твар на грудзях. Адна яе рука звесілася… І Вырвіч з жахам усвядоміў, што вельмі неяк нязручна павернутая гэтая тонкая даланя.

Стрэлы між тым сціхлі. Цёмныя руіны замка здзекліва паглядалі чорнымі прагаламі на месцах вокнаў.

І больш не засталося нічога светлага пад гэтым шэрым небам, акрамя мёртвага снегу.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

## Залатыя паўліны ваяводы

Паміж падстрыжаных у форме шароў і сэрцаў кустоў праносілася сюды-туды нешта бліскучае. Быццам звар'яцелая камета не магла зразумець, дзе тут неба.

— Прабацька Абрам, ніяк не прывыкну… — сплюнуў чарнявы фацэт у наймодным французскім строі — смешны каптан з кароткімі крысамі спераду і даўжэзнымі ззаду, белыя штаны, чырвоныя вузкія боты — амаль сабе беларускі бусел… — То малпа на капялюш абрынецца, то мядзведзь дзверы ў флігель адчыніць… Вось — паўлінаў пазалацілі!

— Добра, што не прыслугу, — меланхалічна азваўся дзюбаносы высокі змрочны тыпус у чорным простым каптане. — Нядаўна ледзь адратаваў такога… херувімчыка. У Гарадзенскім тэатры ўздумалі ў спектаклі жывых дзетак пазалочанымі на сцэну пускаць. У выніку — гіпатэрмія, атручванне арганізму… Добра, паспелі мне прывезці няшчаснае дзіця. А другое дзіця, дзяўчынка, памерла — ніхто ўвагі не звяртаў за кулісамі, як яна мучылася.

— Спадзяюся, нашаму князю такое не прыйдзе ў галаву, — перасмыкнуў плячыма фацэт. — Пакуль што ў нас усяго толькі Гібралтар.

Спадарожнікі фацэта, згаданы змрочны тыпус і ладны блакітнавокі шляхцюк, — утаропіліся ў яго з непаразуменнем.

— Ну, баталія марская рыхтуецца на Нясвіжскіх каналах, — цярпліва патлумачыў фацэт. — Ягамосць за мэту ўзяў — давесці кожнаму, асабліва каралю, што ён тут самы багаты і магутны, вось і выдумляе розныя фінфы.

— А ты, Давыдзе, як у Нясвіж трапіў? — русачубы блакітнавокі шляхцюк упэўнена крочыў па сцежцы, пасыпанай белым, як цукар, пяском.

— Ну, з Брастоўскімі давялося развітацца, добра, не прыбілі, — уздыхнуў Давыд. — А мая парфума — адметная на ўсё княства і каралеўства! Я магу намяшаць для пана ваяводы хоць пах эдэмскай слівы, хоць слязу русалкі. Ягамосць дужа мае сродкі любіць. Было каму рэкамендаваць, дзякуй пану Рысю.

Між тым параўняліся з афіцэрамі залатой харугвы, ваяводскай гвардыі. Дужыя шляхцюкі ў белых жупанах з залатымі гузікамі праводзілі гасцей падазронымі позіркамі.

— Ты не ведаеш, Давыд, што ад нас ягамосці трэба? — парушыў маўчанне малады шляхціц.

— Ніхто таго ведаць не можа, шаноўны пан Вырвіч, — запэўніў Давыд. — Бо з раніцы ў галаву нясвіжскаму ардынату прыходзіць адно, у абед — іншае, а вечарам ён ужо гарлае: «Трубы і літаўры!» і патрабуе трэцяга.

Між тым дайшлі да ўвахода ў палац, і герб на фасадзе на ўсе бакі свету трубіў пра веліч уладара.

— Ягамосці пан Баўтрамей Лёднік, чалец Адукацыйнай камісіі, і пан Пранціш Вырвіч з Капаніч, да ягонай яснавяльможнай мосці!

Пранціш сумна ўсміхнуўся: вось і дажыў, што імя ягонага былога слугі абвяшчаюць перад ягоным імем, нашчадка Палямона!

— Галоўнае, не спрачайцеся з ваяводай і не смейцеся, калі пачне казкі баяць… — ціха шапнуў Давыд і з пачцівай усмешкай паспяшаўся да купкі расфуфыраных панечак, як ёсць — аматарак выбітной парфумы. Гаспадыні ў палацы не было — ваявода развёўся з пані Тэрэзай са Ржавускіх, і даволі гучна. Але дамы фраўцымеру прысутнічалі, як жа без кабетаў пры двары. Дый шаноўная сястра ваяводы, пані Тэафіля Мараўская, нярэдка тут гасцявала. Кажуць, магла і братку свайго перамагчы ў Бахусавым спаборніцтве.

— А, вось і мой доктар.

Пане Каханку, самы багаты чалавек у краіне, што амаль памерла, раскінуўся ў фатэлі ў самым заквэцаным белым жупане, які каля жывата нагадваў расфарбаваны глобус. Ля ног пана ляжаў сетэр, ягоны ўлюбёнец, па левую руку пагойдваўся незразумелы тыпус, лысы, бязвусы, худы, як пуга. Як толькі зрэнкі тыпуса, што мітусіліся, быццам шарык рулеткі, спыніліся на доктары, тыпус перамяніўся. Ягоны твар яшчэ больш выцягнуўся, вусны набылі пагардлівую складку, нос нібыта загнуўся ўніз… Двое палацавых лізунчыкаў, што шыліся ля ардыната, выбухнулі ліслівым рогатам. Ваявода перавёў позірк на лысага дзівака, на доктара, і таксама зарагатаў: крыўляка вельмі дакладна пераняў знешнасць Лёдніка.

— Не крыўдуйце на майго блазна, вашымосці, ён нямы, але на штукарствы ўсялякія здатны… Цішэй, цішэй, Пшчольчык, а то гэты пагрозны доктар табе клісцір паставіць. Ён ведаеш, як спрытна ставіць клісціры?

Баўтрамей пачціва перачакаў, пакуль уладар і ягоная світа адсмяюцца, а блазан прымаў ганарыстыя паставы і кідаў перабольшана пагрозныя позіркі.

— Рады служыць вашай княскай мосці.

Вырвіч прамовіў нешта гэткае ж пачцівае.

— Гэта праўда, доктар, што ты маю былую жонку, гадзюку, лекаваў?

Лёднік зноў пакланіўся:

— Я — лекар, вашамосць, я мушу дапамагаць кожнаму, хто мае ў тым патрэбу.

— Ну-ну… — князь пагрозна выкаціў на доктара пукатыя мутна-блакітныя вочы. — Хіба не твой сын абвінавачваў Тэрэзу ў судзе, што яна забіла ягоную маладую жонку? А потым нейкую лухту нёс пра падмену майго стрыечнага брата?

Лёднік не змяніўся ні рысачкай.

— Мой сын — малады, гарачы юнак. Гора адняло ў яго асцярогу. У нас былі падставы меркаваць, што да нападу на нашу сям’ю былі датычныя альбо яемосць пані Тэрэза, альбо пан Міхал Брастоўскі, цесць майго сына, альбо пан Юзаф, староста Менскі. Але доказаў аказалася недастаткова.

— Яшчэ б! — фыркнуў князь. — Уздумалі, шарачкі бязродныя, з князямі вадзіцца. Навука вам наперад. Радуйцеся, што за паклёп да ганебнага слупа не выставілі.

— Выставілі, вашамосць, — меланхалічна абвесціў Лёднік. — Мяне.

— Ты ж нібыта маеш патэнт на шляхецтва? — троху здзівіўся пан Караль.

— Гэта было не па суду. Бутрым узяў на сябе ўсю віну за словы сына, — паспяшаўся патлумачыць Пранціш. — Паколькі абраза была адразу некалькіх уплывовых асоб — старосты менскага з ягоным братам, падскарбія літоўскага, пані Тэрэзы са Ржавускіх, тыя настойвалі на пазбаўленні маёмасці і гонару… А тады каб Баўтрамей адказаў не па артыкуле дваццаць сем трэцяга раздзела Статута, а па артыкуле дваццаць два, як бы не шляхціц абразіў шляхціца — пакаранне ля ганебнага слупа. Але ўрэшце пагадзіліся вырашыць справу прыватным чынам. Маёмасць і шляхецтва застаюцца ў сям’і, доктар Лёднік аддаецца на волю пана Міхала Брастоўскага. Абражаныя асобы засталіся задаволеныя сатысфакцыяй і прынесенымі выбачэннямі.

На Пане Каханку пачутае не зрабіла асаблівага ўражання, ён толькі абыякава пацікавіўся:

— І многа табе ўсыпаў Брастоўскі ля слупа, пане каханку?

— Мне даводзілася цярпець горшае, ваша княская мосць, — спакойна адказаў Лёднік. — Усё праміне, і гэта прамінула. Сын вучыцца ў Венскім універсітэце, ён таленавіты медык і натураліст. Дзякуй богу.

Пранціша перасмыкнула… Хацелася выкрасліць з памяці тыя жудасныя падзеі. Як хавалі бедную Праксэду на Кальварыйскіх могілках Менска… Як Алесь крычаў на іх з Бутрымам — навошта былі ўсе гэтыя хітрыкі, дамовы з магнатамі? Урэшце самавольна падаўся ў суд… І што з ім было, калі даведаўся, што не толькі ніхто не будзе заводзіць справу, але й ягонаму бацьку давядзецца зведаць публічную ганьбу за паклёп. І як Пранцішу давялося ўласнаручна скруціць недарасця, каб не нарабіў гвалту. І як Бутрым, які яшчэ не ачуняў ад раны, пагадзіўся дзеля сям’і на неадпаведнае шляхціцу пакаранне ў якасці сатысфакцыі і на цікаўных вачах натоўпу ў ашмянскім уладанні пана

Брастаўскага падстаўляў спіну пад бізуны… Як трэслася ад плачу Саламея… Як выскаляўся ашмянскі кат Ігнарус, якому даверылі важную справу пакарання таго, хто абразіў ягонага пана… Дачакаўся местачковы Харон сваю ахвяру. А што ж — пан Панінскі, няздзейснены маршалак здраднага Варшаўскага сойму, патрабаваў, каб Тадэвуша Рэйтана за тое, што самавольна адабраў у яго маршалкоўства і перашкаджаў падзелу краіны, таксама білі ля ганебнага слупа. Добра, не здзейснілася… А магло. Гнеў і бяссілле… Не дай Гасподзь каму зведаць гэты напой і дапамажы застацца пасля яго на светлым баку быцця.

— Адной з умоў, што пані Тэрэза даруе паклёп, і было, каб Баўтрамей Лёднік адпрацоўваў нанесеную ёй шкоду лекарскім сваім майстэрствам, — змрочна дадаў Пранціш. — Вось Бутрым і наведваў пацыентку, пакуль яна не з’ехала…

Так, прыдумала пані Тэрэза, як вярнуць сабе забаўку. Праўда, Бутрым умеў яе ўтаймоўваць, можа, адзіны з усіх. Ды яшчэ і — неверагодна! — шкадаваў. Маўляў, ніхто не нарадзіўся пачварай. У пані сваё пекла было, з якога яна калекай выйшла.

Блазан смешна перакрывіўся і раптам зрабіўся падобны да акрутнай пані Тэркі, захістаў сцёгнамі, пачаў папраўляць неіснуючую фрызуру…

— А шкада, што гэтую сучку Ржавускую не ўдалося засудзіць ні разу, — злосна выгукнуў пан Караль, скасавурыўшыся на свайго Пшчольчыка. — Як гарох ад жалеза — усё ад яе адлятае… З тваёй нявесткай, доктар, не ведаю, што за цёмная гісторыя была… А вось у мінулым годзе, калі я разводзіўся, паслаў у Белакамскі замак свайго вернага шляхціца Чашэйку, каб забраў мой падарунак, каштоўныя перліны, якія маёй маці належалі. Дык гэтая нягодніца напачатку паспрабавала майго пасланца спакусіць… А калі не ўдалося — аддала яму перліны, забраўшы мой ліст на тое. Чашэйка толькі выехаў з замка — абвесціла, што ён яе абакраў. Небараку схапілі, тлумачэнняў слухаць не сталі… Тут жа асудзілі і адсеклі галаву!

Вочы Пане Каханку наліліся крывёю.

— Мярзотніца! Забіла сумленнага шляхціца! І ўсё адно працэс скончыўся нічым. З’ехала ў Вену… Мне пісалі, зараз пасябравала са старой імператрыцай. За багамолку сябе выдала, несправядліва асуджаную!

Князь так раззлаваўся, што ягоны ўлюбёны сэтэр падняў вузкую доўгую галаву і ўтаропіўся цёмнымі вільготнымі вачыма ў гаспадара.

Тут жа слуга паднёс ваяводу келіх, і белы жупан прыкрасіўся цёмнымі пацёкамі распырсканага напою. Ваявода супакоіўся, выцер вусы рукавом.

— Адзінае што цешыць — само неба заразу карае. Кажуць, неяк яна малілася, і на яе мышы напалі. Ці пацукі. Проста ў капліцы. Усю сукенку згрызлі.

Пранціш разумна прамаўчаў пра сваю раптоўна ўзніклую гіпотэзу наконт містычнага здарэння.

— А памятаеш маю венецыяначку Апалонію, доктар, якую ты ўсё лячыў? — Пане Каханку ажно прыцмокнуў языком ад салодкіх успамінаў. — Калі даведалася, што я яе з сабой не вазьму, аж схуднела, небарака, ад гора. Я ўжо добра ёй дыяментаў сыпануў — бо з красой сваёю з-за мяне рассталася, небарака...

Пранціш падумаў, што Апалоніі пашанцавала, цяпер не трэба наганяць на сябе тлушч. А з грашыма нясвіжскага ардыната і схуднеўшы лёс свой уладкуе.

— Ваша княская мосць, у мяне да вас просьба... — паспешліва загаварыў Лёднік. Князь скрывіўся, прамармытаўшы, што каб да яго без просьбаў хтось прыйшоў, не бывае, як не бывае пірага без мукі…

— У мяне ёсць слуга. Сцяпан Налівайка. Гайдук, адважны і бясстрашны. Калісьці я вывез яго з ягоным братам Рыгорам са Львоўшчыны. Там пані Тэрэза разам са сваім амаратам панам Богушам учынілі бязбожны гандаль — прадавалі сваіх падданых у аўстрыйскую армію. Сцяпана з братам таксама мусілі прадаць. Рыгор загінуў, калі на нашу сям'ю напалі, абодва нас абаранялі… І цяпер пані Тэрэзе данеслі, што ў нас хаваецца ейны прыгонны.

— І што я мушу зрабіць, пане каханку? — незадаволена перабіў ваявода. — Збеглых сялянаў належыць вяртаць гаспадарам. Што мне загадаеце рабіць, калі маіх пейзан пазвозяць розныя дабрадзеі? Ручкай услед махаць?

Лёднік на імгненне апусціў вочы, каб не выказаць гнеў. Слова ўзяў Пранціш:

— Ваша княская мосць, Сцяпан родам менавіта з таго сяла, якое паводле шлюбнай дамовы засталося ва ўладаннях вашамосці, узамен за іншае, саступленае пані Тэрэзе. Гэта была б міласэрная справа, каб вы прызналі Сцяпана Налівайку вашым падданым і тым не далі пані Тэрэзе з ім распраўіцца.

Ваявода не выглядаў надта задаволеным — з-за нейкага мужыка дураць галаву…

— Добра, пакідай сабе свайго гайдука, Лёднік. Скажу, каб ліст у суд адпаведны зрабілі. Узамен жа паслужы мне.

— Усім, чым магу, вашамосць.

А планы ў Пане Каханку на Чорнага Доктара выявіліся грандыёзныя… Ваявода не мог забыцца на тую чароўную венецыянскую ноч, калі ў цёмнае неба ўзляталі палаючыя ліхтары, і паветраная гандола падняла Аляксандра Лёдніка да каменнага льва…

Князь хацеў паўтарыць відовішча.

Хай усе ведаюць, у каго патэнт на ўсё цудоўнае ў гэтым краі! А то вунь худапахолак Панятоўскі зганьбаваўся: вырашыў давесці ў чарговы раз сваё высокае паходжанне. Сабраў людзей у палацы, каб падзівіліся на пячатку святога Тарэла, ягонага міфічнага продка, якая яму нібыта ў спадчыну дасталася. Людцы прыйшлі, аб'елі манарха, абпілі, натанчыліся, напляткарыліся і ўсё пабачанае высмеялі. Ніхто не паверыў у каштоўнасць някідкага круглячка з выявай цялка. Так што давялося Стасю перадаць сваю рэліквію ў касцёл святога Станіслава.

Блазан зараз жа расправіў плечы, надзьмуўся — і стаў нечым падобны да караля. Пане Каханку не зарагатаў, але і не спыніў гэткую абразу манаршае персоны.

Так, Караль Радзівіл ведаў, хто сапраўдны кароль у гэтым краі.

І калі ў Нясвіжы людзі палятуць, як птушкі — ніхто не скажа, што гэта не цуд!

Вядома, ваявода тут жа распавёў, як уласнай персонай на паветраным караблі лётаў над Венецыяй і лавіў галубоў для адмысловага пірага. І выпадкова патрапіўся яму ў нерат паветраны цмок. Худы, бо прыляцеў проста з Кітая, за доўгую дарогу агаладаў. Аднымі жукамі ды вераб'ямі харчаваўся. Пан Караль прывёз злоўленага цмока ў свой венецыянскі палац, і той пачаў несці яйкі. А тыя яйкі — цалкам з самага цудоўнага малахіту. Вунь тыя чарачкі з яго зробленыя, на століку з чырвонага дрэва…

У гэтым месцы красамоўнага расповеду Пранціш ледзь не забыўся на тое, што трэба працягваць ківаць галавой з сур'ёзным і захопленым выглядам.

Лёдніку не зарагатаць удалося прасцей — не да смеху доктару… Дасюль смерць асістэнткі і гора сына лічыў ледзь не сваёй віной… А тут зноў нагадалі…

— Часам пакутуеш не ад таго, што сказаў, але і ад таго, што не паспеў сказаць, — мармытаў доктар сабе пад нос, калі яны ўжо выходзілі з палаца разам з Давыдам, што іх дачакаўся. На шчасце, ваявода, надаваўшы даручэнняў пра паветраную містэрыю, адпусціў Чорнага Доктара і ягонага сябрука з рэплікай «з табой усё адно піць нецікава, не ўмееш, пане каханку».

— Ты гэта да чаго, Бутрым?

Полацкі Фаўст горка ўздыхнуў:

— Гэта я наконт Праксэды… Я ж стараўся з ёй нават не размаўляць апошнія дні, позіркам не сустракацца. Не хацеў Алеся і Саламею раніць, дый ёй, думаў, будзе лягчэй з непатрэбным пачуццём справіцца.

— А сам справіўся? — рэзка папытаўся Пранціш. Бутрым схіліў чорнасівую галаву.

— Цяпер і не ведаю, што адказаць. Кавалак душы ў мяне дакладна вырваны, з крывёй. Прамільгнула яркай знічкай дзяўчына наша…

Між кустоў зноў замільгалі залатымі пер’ямі паўліны. Адзін з іх выпусціў у белы свет абураную агідную руладу.

— Дык Аляксандр зараз у Вене? — перапытаў Давыд. — Што ў яго чуваць?

Чорны Доктар уздыхнуў:

— Атрымаў учора ліст ад яго… Збівае хлапца з тропу пан Агалінскі. Заманьвае ў Амерыку, ваяваць на баку калоніі супраць англічан. Пан Гервасій, уявіце сабе, зараз генерал! І Тадэвуш Касцюшка ў камандзіры цэліць… Баюся, з’едзе Алесь… Добра хоць, выкінуў з галавы, што сваім з’яўленнем на свет прынёс мне адны няшчасці…

— А вы самі, дзядзька Бутрым? — пацікавіўся Давыд. — Не было спакусы кінуць гэтую зямлю з новымі парадкамі? Адсюль жа зараз усе з’язджаюць. Памятаеце Саламона Маймона?

— Вядома… Хлопец са светлай галавой… — кіўнуў Баўтрамей.

— Уцёк усё-ткі! З’ехаў у Еўропу. Дабраўся да Берліна, але там яго палічылі за блюзнера і вытурылі. Жабраваў, пешкі блукаў… Цяпер у Познані. Там добры асяродак вучоных людзей, не зашораных… Саламон імі ўважаецца за вялікага мудраца.

Пранціш успомніў нязграбнага юнака, якога ганяла суровая цешча.

— Што ж, хай яму шчасціць… А мне куды з роднай зямлі з’язджаць? — сумна адказаў Лёднік. — Працы шмат… Колькі школак за апошнія гады змаглі адкрыць, колькі таленавітых дзетак на шлях навукі направілі. У медычнай акадэміі зноў жа справа наладжваецца. Саламея хваліцца — падрыхтавала ўжо дзясятак добрых павітух, якія не будуць цукрам дзіця выманьваць падчас цяжкіх родаў, а возьмуць у рукі абцугі, як умела… Праксэда…

Цень прабегла па худым твары доктара.

— Жылібер батанічны сад ладзіць — не горш, чым у Ліёне будзе. Пастанавіў сабе задачу — апісаць у адным трактаце ўсю флору нашых мясцін. Гербарыі збірае — вучні не паспяваюць зёлкі ірваць. Зуброў узяўся вывучаць. Хоча зрабіць, каб яны ў няволі размнажаліся. Адна зубрыха ходзіць за ім проста па вулках Гародні, а ён корміць яе сенам з уласнага капелюша. Добра хоць, з’явіліся ў Жана і сардэчныя справы. Прыгледзела яго адна панечка… Ветраная, праўда…

Вырвіч уявіў закаханага суровага масона Жылібера… Ой, не вытрымае з ім звычайная шалахвостка.

— А ты, Давыдзе, чаму не жэнішся? Твае парфумы ды касцюмчыкі парыжскія любое дзявочае сэрца скараць!

Давыд закінуў галаву, падставіў твар нясвіжскаму сонейку, памаўчаў:

— Ёсць адна дзяўчынка, але яе за мяне не аддадуць.

І выскаліўся весела.

— Я ж таксама блюзнер, адступнік ад святых традыцый! А другой мне не трэба.

У аддаленні, на гарбатым мосціку, пачціва гутарылі дама з кавалерам — зусім як на парцалянавым куфэрку. Ён трохі схіляецца да яе, яна ва ўдаваным спалоху адхінаецца… А непадалёк стаяць лёкай і пакаёўка, гатовыя падаць гаспадарам любую патрэбную ім рэч — келіх віна, разынкі, араматычную соль, патрымаць парасон, адагнаць мух…

А можа, між тым лёкаем і пакаёўкай ёсць сімпатыя, і мараць яны пабыць сам-насам? Але каханне паноў — для высокай трагедыі, каханне прыслугі — для камедыі…

— А вы, пан Вырвіч, я чуў, зноў палітыкай заняліся? — зацікавіўся Давыд. Пранціш кіўнуў чубатай галавой.

— Выбралі паслом ад павета на соймік… Трэба ж абараняць законы гэтай дзяржавы, пакуль яны існуюць.

Залаты паўлін паспрабаваў узляцець, але дзе там — перакормленае цела, цяжэнны шыкоўны хвост, дый, можа, яшчэ і крылы падрэзаныя…

— Вось сымбаль твой, забіты краю родны… — скрозь зубы прамармытаў Лёднік пры паглядзе на няўдалы ўзлёт. І дадаў з горыччу:

— Хаджу часам на лекарскія візіты, гляджу на гэтыя жупаны ды кунтушы… І здаецца, што я ў паноптыкуме. Сузіраю васковыя фігуркі за шклом. Сыходзіць эпоха… Незваротна сыходзіць. Разам з чырвонымі абцасамі, мушкамі, крыналінамі… З усімі гэтымі бойкамі бясконцымі — магнат на магната, брат на брата… Разам з гэтай хцівасцю — калі за маёнтак ці пасаду прадаюць роднае дзіця, сумленне і радзіму…

— Зусім мізантропіяй заняўся, Бутрым! — усміхнуўся Пранціш. — Ёсць у нас дастаткова патрыётаў. І дзеці ў нас добрыя растуць. Мой Яначка, дарэчы, пры адной згадцы пра вашу Сафійку чырванее, як Ланцэлот пры згадцы пра Джынеўру. Красунька гадуецца, сэрцы паразбівае…

Твар Лёдніка пасвятлеў.

— Красунька. Але пра замужжа думаць нават не хоча. Навука даражэй… На лекцыі бегае… З Алесем лістуюцца — дык спрэс навуковыя тэорыі разбіраюць.

— А што вы хацелі, дзядзька Бутрым, на вярбе грушы не вырастуць! — не змаўчаў Давыд. Чорны Доктар нічога не адказаў… Бо што тут было абмяркоўваць? Лёгкай жыццёвай дарогі яны сваім дзецям не назапасілі — бо самі такой не знайшлі.

Галоўная брама… Гвардзейцы ў сініх мундзірах грозна тапырылі вусы. А ў браму імкнуўся люд самы разнастайны, бліжэй да шчодрага князя: шляхцюкі з фанабэрыстымі фізіяноміямі і галоднымі вачыма, вандроўныя музыкі, цыганы, пісарчукі, шкаляры, карабейнікі… Пранціш Вырвіч азірнуўся: колькі яшчэ зможа праіснаваць гэты свет са штучнымі Гібралтарамі?

— Каму Бог даў душу ваяка,
Пекна ёсць кола рыцэрска!
Хто здатны вершнік і рубака,
Гонар і слава крулеўска,
Хто завшэ рушыць у атаку,
Рвецца да вайны ўсялякай —
Мае той душу ваяка,
Пекна ёсць кола рыцэрска!

Лірнік спяваў на мяшанай беларуска-польскай мове, голас быў трохі надтрэснуты, як шкляны келіх, які пабываў у руках слаўнага рыцарства. Шапка перад спеваком была зусім пустая — нікому не было справы да рыцарскіх цнотаў.

— Ну што, пан Вырвіч, усё чакаю, калі ж ты сыдзеш з Парнаса, каб нарэшце падараваць мне свой зборнік вершаў…

Бутрым нарэшце ўсміхаўся — ягоны худы твар, на якім троху паглыбіліся за апошнія пару гадоў зморшчыны, усё яшчэ быў тварам моцнага разумнага чалавека, беларуса, які будзе ўставаць, як трыпутнік у каляіне, і рабіць сваю справу на гэтай зямлі.

— Ого, вашамосць пан Вырвіч, я і не ведаў, што ў вас такая падзея! — ажывіўся Давыд.

Пранціш зачырванеўся… Водгукі на ягоны опус пакуль былі… розныя. Адны казалі — занадта змрочна, другія — занадта сентыментальна… Асобны раздзел, у якім Пранціш змясціў вершы на народнай гаворцы, увогуле выклікаў у некаторых шаленства. Тым не менш паэт палез у кішэню і дастаў зялёную кніжыцу.

— Трымай, Бутрым… Толькі не здзекуйся.

Доктар беражліва, як найвялікшую каштоўнасць, пагартаў…

— «Згукі пекныя з Падняводдзя». Ого, нават паэма ёсць — «Прыгоды ліцвінскага Адысея»…

Лёс для таго, хто вярнуўся з прайгранай вайны —
Толькі забыцца, як сталі з муроў — валуны.
Воя старога баяцца, бы смерць за плячмі
Носіць, як горб… Цені смерці ў яго пад вачмі.
Кажуць, ён доўга занадта па костках хадзіў,
Піў з чарапоў і на споведзі неяк схлусіў.
Воя старога не любяць пускаць у дамы.
Ён не ўсміхаецца, вечна маўчыць, як нямы.
Колькі ні просяць расповедаў з дзён баявых —
Вечна ў адказ толькі сумны, як могілкі, ўздых.
Гэткі сусед нам дастаўся… Маёнтак ачах.
Лётаюць чорныя цмокі туды па начах.
Белыя вершнікі носяць туды туманы.
Кажуць суседзі: няхай не прыйшоў бы з вайны.
А па начах над стамлёным схіляецца Бог:
«Ты перамог… Ты вярнуўся, і ты перамог».

Гэта ты пра мяне ці пра сябе?

Вырвіч адвёў вочы.

— Ды так, сімвалічна…

Полацкі Фаўст паклаў кніжыцу ў кішэню.

— Дзякую, Вырвіч. Гэта — тое, што не забудзецца. Гэта, магчыма, больш важна, чым усе навуковыя артыкулы.

Беларускае сонца залаціла чарапічныя дахі і саламяныя стрэхі, лахманы і жупаны аднолькавай пазалотай.

— Дык што, дзядзька Бутрым, зладзіш паветраную містэрыю?

У цёмных вачах Лёдніка бліснуў такі знаёмы агонь:

— Зладжу. Якраз нагода праверыць некалькі цікавых навуковых ідэек…

І ўсім трэба было жыць далей. Як жыла Беларусь.



**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# СОЛЬ ЖЫЦЦЯ

* * *

Нарадзіўся я ў сонечнай хаце,
Хлебам, песняй спавітай, святой,
Абагрэтай рупліваю працай,
У вялікай сям'і – дабрынёй.

І дубы мне, і клёны шапталі
Казкі-мроі радзімай зямлі.
З першых год мяне з ложка ўздымалі
Промні сонца і ў поле вялі.

Тут старанна спасціг на прыволлі
Сэнс жыцця, яго сівер і соль.
Тут у сэрца ўбіраў я паволі
Спаконвечныя мары і боль…

---

*__Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч__ нарадзіўся 24 студзеня 1951 года ў вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977). Працаваў настаўнікам у школе, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам часопіса «Нёман», намеснікам дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар больш як 80 кніг паэзіі, прозы, крытыкі і публіцыстыкі для дзяцей і дарослых. Выступае таксама як перакладчык твораў замежнай класікі на беларускую мову і твораў вядомых беларускіх пісьменнікаў — на рускую. Аўтар «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» ў двух тамах (2012).*

*Лаўрэат Нацыятальнай літаратурнай прэміі Беларусі (2017) і многіх іншых літаратурных прэмій, у тым ліку: Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2009), міністра абароны Рэспублікі Беларусь (2008, 2013, 2015), Рэспубліканскай прэміі «Лепшы твор года» (2007, 2008, 2009), Міжнароднай прэміі ў галіне паэзіі (2015, г. Санкт-Пецярбург), Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Віталія Біянкі (2018, г. Масква), Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Мікалая Гогаля (2018, г. Чарнігаў).*

Хоць і свет прада мною шырокі,
Хоць цяпер тут я госць у радні –
Чую ўсёю душою вытокі,
Чую продкаў сваіх карані.

Тут як сёстры – бярозы і ліпы,
Да душы брэх сабачы мне тут,
І самота калёснага рыпу,
І руплівы, спагадлівы люд.

Тут, дзе песні спяваю я хлебу,
Дзе бацькоўскі прыняў запавет,
Пакланюся высокаму Небу
І сцяжыне, што вывела ў свет.

* * *

Зноў бэз успыхнуў каля хаты
Ліловым полымем світання,
Душу зноў робячы крылатай
І прагнай песні і кахання.

І сад пяшчотны бачыць рады
Праз ліўні сонца веснавыя,
Як над пялёсткамі рулады
Спяваюць пчолы залатыя.

Усё навокала — святое,
З усім суладдзе і адзінства,
І пачуццё ў цябе такое,
Нібы вярнуўся ў дзяцінства.

І ты, з прыродай чуйнай зліты,
У гэтым найдзівосным храме
Святлееш велічна, нібыта
Перад святымі абразамі.

## ВЕЧАРАМ У ВЁСЦЫ

Ліпеньскіх траў і суквеццяў бальзамны настой.
Вечар на луг прызямліўся дрымотны.
Горла палошча драч гойнай расой.
Ціхі туман рассцілае ля рэчкі палотны.

Неба на захадзе цэдзіць ружовы сіроп.
Песню спявае салоўка аб вечным каханні.
Кліча дадому матуліным подыхам кроп.
Сэрца хвалюецца, быццам на першым спатканні.

Ноч наплывае вялізнаю птушкай з лясоў.
Поўня выходзіць, як тлустая кошка з каморкі.
Следам за ёю хтось рупны і светлы пайшоў
Хутка запальваць у небе святочныя зоркі.

І на душы ў гэты мройлівы час расцвіце
Папараць-кветкай дзівоснае, чуйнае шчасце…
Сам ты нібыта ў бясконцы Сусвет паляцеў,
Каб аніколі ў зямную юдоль не вяртацца.

## БАЦЬКОЎСКАЯ ХАТА

Старая родная хаціна —
Маленства незабыўны кут...
Ніхто мне дзверы не адчыніць,
Тады каго я клічу тут?..

Пчаліным роем — успаміны,
Туга пякучая скубе.
Заходжу ў змоўклую хаціну
І сустракаю сам сябе.

Хлапчук, святлісты і спакойны,
Глядзіць гаючай чысцінёй,
Не разумеючы, што сёння
Сустрэўся з будучым сабой.

А я, усцешаны, прачулы,
Сачу за хлопчыкам маўчком
І мне з ім хораша ў мінулым,
Як з самым шчырым сябруком.

Хоць крыху сорамна прызнацца,
Што я не ўсё святло збярог...
Ідзі, ідзі, хлапчук, да шчасця
Праз даль настойлівых дарог.

## КЛЁНУ ДЗЯЦІНСТВА

Вецер падзьмуў за садамі,
Голаў не трэба схіляць.
Можна на небе, бы ў храме,
Вечныя пісьмы чытаць.

Рукі апусціш стамлёна.
Згасне вяргіняў святло.
За паваротам павольна
Знікне з гасцямі аўто.

Слых свой навёўшы на зоры,
Зноў у эфіры начным
Будзеш зямлю ты бадзёрыць
Моцным карэннем сваім.

Летам хвалюючы свежым,
Што б тут і як ні было,
Будзеш дарыць ты прыезджым
Мілай радзімы цяпло.

* * *

У Заброддзі пеняцца прысады,
І над Грэзай кружаць журавы.
Я ляцець туды ўсё болей рады —
У радзімы край свой баравы.

Там маёй душы лунаць дзівосна,
Нібы па-над полем жаўруку,
На імклівых ручаінах вёснаў,
Што праз сэрца плёскатна цякуць.

Мне іх водар піць і не напіцца...
І куды б дарогі ні вялі,
Родны кут прывабна будзе сніцца
Ветразямі казачнай зямлі.

Будуць песні цнотнае прыроды
Да слязы шчаслівае кранаць
Хараством, якога мне заўсёды
У расстанні будзе неставаць.

І перад якім віны не збуду,
І куды з параненай душой
Уцяку ад чэрствасці і бруду
Захапляцца срэбнаю расой,

Хатай, што маленства зноў абудзіць,
Бэзам, здольным сэрца ажывіць,
Полем, што гарачы боль астудзіць,
Сцежкай, што за далягляд бяжыць,

Вёсачкай, якой я больш не здраджу,
Што ўрасла так глыбака ў мяне...
Там праз сто гадоў у белым садзе
Зноў я нараджуся па вясне.



**Зінаіда ДУДЗЮК**

# ДВА ЖЫЦЦІ ЗНАХАРКІ

*Аповесць*

## 1

Іраіда Феліксаўна разумела, што зайшла наведаць сястру не ў час, бо тая збіралася ў дарогу, але ўсё марудзіла, не спяшала развітацца, адчувала, што трэба было б яе правесці. А яшчэ лічыла сваім абавязкам паўшчуваць не па гадах жвавую родзічку. Яна і пачала:

— Нашто табе, Нюра, гэтыя турботы? Я на адзінаццаць гадоў маладзейшая, але стараюся пазбягаць далёкіх дарог. А ты ў тваім узросце…

Сястра абарвала яе на паўслове:

— Ты да мяне не раўняйся! Табе толькі і засталося разлічваць на пенсію! А я працую і зарабляю!

— Нюра, табе без пяці хвілін дзевяноста...

— Што за ўзрост? Іншыя па сто з гакам жывуць! Прыйдзеш да мяне на юбілей, пабачыш, якія людзі лічаць за гонар сябраваць са мною! Маладая ты яшчэ, каб мяне вучыць, — адказала старэйшая сястра, засмяялася, агаляючы ружовыя дзясны без зубоў, задаволеная ўласным жартам, выйшла на хвіліну ў кухню, вярнулася са жмутам свечак у руцэ, лёгка нахілілася, паклала іх у валізку.

Крокі яе былі цяжкія, здавалася, падлога прагінаецца, але даволі ўпэўненыя і цвёрдыя. Яна з маладых гадоў была парывістая і непрадказальная, кемлівая і хуткая на сварку.

— Куды ж ты сабралася на гэты раз?

— У Магілёў... Машыну па мяне паслалі, як усё будзе добра, дык праз гадзіну павінны прыехаць.

---

***Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна*** *нарадзілася 29 сакавіка 1950 года ў вёсцы Слабодка Браслаўскага раёна. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1977) і Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага ў Маскве (1993), працавала інжынерам, загадчыкам літаратурнай часткі ў тэатры.*

*Выдала зборнікі вершаў «Праводзіны птушак» (1983), «Абрысы лета» (1988), «Так і не» (1993), «Табе» (2000), «Падданыя кахання» (2003), кнігу прозы «Палоннікі жыцця» (1997), раманы «Год 1812» (2005), «Кола Сварога» (2006), «Аднарог» (2010), гістарычны нарыс «Леў» (2011). Пераклала на беларускую мову казку П. Яршова «Канёк-гарбунок» (1993), камедыю Яна Ходзькі «Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман» (2002) і інш.*

— Лечыш там каго ці што?

— Дапамагаю выйграць суд.

— Нюра, як ты можаш памагчы ў судзе? — пасміхнулася Іраіда Феліксаўна. — Ты ж не адвакат!

— Малітвамі дапамагаю. Суд ужо двойчы адкладвалі, нешта там пераглядаюць. Гаспадары лічыць, што гэта ім на карысць. Усё ў руках Божых. Трэба шчыра прасіць — і ён усё зробіць.

— Ці мала хто і што просіць, а вынікі…

— Мяне Бог чуе.

— Цябе чуе? За якія такія заслугі? — іранічна спытала малодшая сястра.

— Мне мама перадала свае веды. Ці не помніш, што яна ад пераляку, рожы і ўразу шаптала? А я пайшла далей, шмат чаму сама навучылася. Адкрыліся мне таемныя веды. Табе гэтага не зразумець…

Іраіда Феліксаўна згадала, як да мамы прыносілі малых дзяцей і прасілі дапамогі, калі тыя пачыналі без дай прычыны плакаць ці спалохана ўсхопліваца па начах. Шэпты дапамагалі. «Мо і сапраўды Нюра нешта пераняла ад маці ды і карыстаецца тым знахарствам, — падумала малодшая сястра. — Хоць, што і казаць, Нюра заўсёды была прайдзісветкаю. Мой лёс так перакроіла, столькі бяды мне прынесла, што на маім месцы, напэўна, іншы чалавек ёй ніколі не дараваў бы, а я раблю выгляд, быццам нічога не здарылася... Хаця абедзве помнім, з памяццю пакуль у нас усё добра...»

— Як ты гэта робіш? Няўжо толькі тваімі малітвамі?.. — спытала Іраіда Феліксаўна.

— Сама не ведаю... Свечкі запалю, малітву пашапчу — і ўсё атрымліваецца, дапамагаю малым і старым...

Грукнулі дзверы — у кватэру ўвайшла Валя, Нюрына дачка, ужо таксама пенсіянерка, хоць яшчэ маладжавая, але стомленая, з апушчанымі плячамі, паставіла цяжкую валізку каля парога, павіталася, з прыязнаю ўсмешкаю прамовіла:

— Даўнавата, цётачка Іра, не заходзіла.

— Хварэла, з кватэры не вылазіла тры тыдні… Ды і надвор’е не надта спрыяла, — адказала Іраіда Феліксаўна.

— Дык трэба было да мамы, яна памагла б…

— На жаль, родзічам дапамагаць мне не дадзена, — адрэзала Нюра. — Здаецца, што цябе, Іра, нават не ахрысцілі. Да таго ж незаконнанароджаная ты, бо шлюб з Феліксам мама не рэгістравала.

— Помню, у маленстве ў мяне быў крыжык, — запярэчыла малодшая сястра. — Яго ў дзіцячым доме забралі.

— Дык ты, мусіць, не нашай веры, бо імя ў цябе нейкае нялюдскае. Іраіда... Што да чаго? Адна ў нас ты такая! Мы ж усе праваслаўныя!

— Імя маё — праваслаўнае. Назвалі так, бо нарадзілася ў дзень пакутніцы Іраіды, ты як шчырая верніца магла б ведаць. Перакладаецца яно з грэчаскай мовы як гераіня.

— І прыдумае ж! Гераіня! Адукаваная! Пыха з цябе так і прэ!..

— Годзе табе, мама, — паспрабавала ўтаймаваць старую дачка.

— Я праўду кажу! — адрэзала Нюра і абурана напусцілася на дачку. — А ты чаго так позна з’явілася? Не магла раней? Па мяне вось-вось прыедуць.

— Кран пацёк, сантэхніка выклікала, а ён доўга не ішоў. Нельга было пакінуць кватэру без нагляду.

— А чаму Арцём не павартаваў той кран?

— Ага, утрымаеш яго дома, пайшоў да сяброў з самага ранку...

— Зашмат волі ты яму дала?

— Кругом я вінаватая...

Іраіда Феліксаўна паглядзела на Валю, якая заўсёды пабойвалася маці; на старэйшую сястру, занятую зборамі, падумала: калі па Нюру прыедзе машына, дык дапамога ёй без патрэбы, і сказала:

— Пайду я, бадай. Як што, дык тэлефануйце...

— І ты адгукайся, не забывай нас, — з ветлівым прытворствам адказала Нюра. — Абавязкова прыходзь на мой юбілей!

— Прыйду... Шчаслівай дарогі. Як вернешся, дык адгукніся. Турбуюся я за цябе…

— Не турбуйся! Усё будзе выдатна! Мяне Бог за руку вядзе, — усміхнулася сястра. — Мо чаю пап'еш са мною на дарогу?

— Дзякуй, пайду, яшчэ ёсць справы...

Іраіда Феліксаўна развіталася, выйшла з кватэры і ўжо на лесвіцы ўздыхнула з палёгкай, радуючыся, што ўсё было больш-менш спакойна, іншы раз Нюра магла ўчыніць вялікую сварку з-за якой-небудзь дробязі, з-за неасцярожна сказанага слова. Занадта шанавала свой гонар, клапацілася, каб нават намёкам на мінулыя грахі ніхто не азмрочыў яе рэпутацыю. Але ж асабліва не варта было ёй турбавацца, бо ўжо равеснікаў, хто яе ведаў у маладосці, амаль не засталося. Іраіда Феліксаўна — амаль адзіная сведка. Хоць аднойчы на рынку спыніла яе незнаёмая жанчына і спытала:

— Ці не ваша гэта сястра — Нюра Ганчук?

Давялося прызнацца. Незнаёмка толькі скрушна паківала галавою, а Іраіда не адважылася спытаць, скуль тая ведае сястру, бо была перакананая, што пра колішняе Нюрына жыццё нічога добрага ніхто не скажа.

З цемнаватага пад'езда выйшла на вуліцу, трымаючыся за паясніцу, апошнім часам ёй было цяжка хадзіць, балела спіна. Іншы раз даходзіла да таго, што не магла ні сесці, ні ўстаць, вымушаная была ляжаць пластом ды глытаць абязбольваючыя таблеткі. Разлічваць на нечую дапамогу не магла. Муж даўно памёр. Дачка Таня яшчэ гадоў дваццаць таму праз інтэрнэт пазнаёмілася са шведам і паехала да яго на сталае жыццё. Да гэтага яна была ўжо адзін раз замужам, але няўдала, таму развялася. Ад таго шлюбу засталася дачка, Іраідзіна ўнучка Насця, якая таксама была ўжо замужам і жыла ў Маскве. Дачка са шведам не ўжылася, але неяк прыстасавалася за мяжой і вяртацца не збіралася. Усяго радні засталося ў Іраіды Феліксаўны ў Брэсце, што сястра Нюра ды яе дачка з сынам, таму і трымалася іх. Ці мала што можа здарыцца? З пляменніцаю Валяю ў Іраіды былі добрыя адносіны, але Нюра мела вельмі вялікі ўплыў на дачку, якая ва ўсім ёй падпарадкавалася, без матчынага дазволу і крок не магла ступіць. Нюрын унук Арцём вырас няўдалы, час ад часу ўладкоўваўся на працу грузчыкам, але з-за п'янства яго звычайна хутка звальнялі, таму жыў на ўтрыманні маці і бабулі. Усё ж якая ні ёсць, а радня…

Іраіда Феліксаўна хацела наведаць універмаг, каб прыгледзець падарунак сястры на юбілей. Такім цёплым вясновым днём прыемна прайсціся па горадзе, але вырашыла адкласці гэтую справу на іншы дзень, бо вельмі ж разбалелася паясніца. Пастаяла на бліжэйшым прыпынку, паназірала, як даверліва галубы падступалі да ног людзей у пошуку пажывы, дачакалася патрэбнага тралейбуса і паехала дамоў, са страхам думаючы, што ёй яшчэ давядзецца падымацца на трэці паверх без ліфта.

Як толькі зайшла ў кватэру, адразу зазваніў тэлефон. Яшчэ не паспела скінуць куртку, памкнулася да трубкі і прастагнала — боль у пазваночніку працяў наскрозь і прымусіў спыніцца на паўкроку. Тэлефанавала Валя, праз

слёзы выказала крыўду на маці, якая прычапілася да яе з-за халадзільніка, загадала неадкладна памыць і ўсё прыбраць, усяляк аблаяла і нарэшце з'ехала ў Магілёў. Пляменніцы даводзілася даглядаць уласную кватэру і матчыну, таму не ўсюды яна паспявала, да таго ж лічыла, што маці і сама магла б трохі сачыць за парадкам а не звальваць усё на дачку. А пасля раптам спытала:

— Цёця Іра, скажы хоць ты мне, хто мой бацька? Павінна ж быць у мяне яшчэ нейкая радня...

— Пра гэта, Валечка, я нічога не ведаю, табе толькі мама можа сказаць.

— У мамы нічога нельга распытаць, адразу пачынае сварыцца.

— Настане час — раскажа, — супакоіла Валю Іраіда Феліксаўна, аднак размаўляць доўга не магла, бо ўжо ледзьве трымалася на нагах. Трэба было хутчэй уладкавацца на цвёрды ложак і дачакацца, калі сціхне боль.

Лежачы, пацягнулася да навамоднага рамана польскага пісьменніка Вішнеўскага, пагартала колькі старонак ды адклала. Цяжка ёй было нават кніжку трымаць у руках, ды і вочы балелі. А раней любіла чытаць па начах, ніякія літаратурныя навінкі не прапускала. Што за карысць з таго чытання? Усё мінулася... Нешта забылася, нешта аказалася не вартым увагі, нешта адышло з часам. Цяпер процьма новых пісьменнікаў і кніжак. Паспрабуй разбярыся, хто з іх перажыве ўласную творчасць і стане класікам? Міжвольна падумала пра сястру: «Як яна вытрывае ў легкавушцы такую доўгую дарогу? Гэта ж гадзін пяць трэба ехаць. Я, мусіць, не выжыла б... Кожны штуршок адгукаецца болем у паясніцы… Нюра, хутчэй за ўсё, удалася ў матчыну радню, там амаль усе былі доўгажыхарамі, безумоўна, калі не лічыць тых, хто загінуў на вайне. Мама пражыла амаль дзевяноста гадоў, але яна была слабейшая за Нюру, дык і не дзіўна, на долю старэйшага пакалення выпалі дзве вайны... Шкада Валю, мабыць, нічога яна не дазнаецца пра свайго бацьку. Сястра лічыць, што дачцэ гэта ведаць не трэба. Ды і хто мог быць яе бацькам — нейкі зэк ці мо турэмны ахоўнік... Нюры хацелася датэрмінова выбавіцца з турмы, вось і нарадзіла сабе дзіцятка, знайшла магчымасць, каб трапіць пад амністыю... Што і казаць, у вынаходлівасці сястры не адмовіш...»

## 2

Іраіда Феліксаўна рэдка ўспамінала мінулае, раней не было часу, да сямідзесяці гадоў працавала ў музеі, а пасля наваліліся хваробы, але яна не парывала сувязі ні з супрацоўніцамі, ні з даўнімі сяброўкамі. Самотнае жыццё ўдавы прымушала шукаць нейкіх стасункаў, каб не аддаваць сэрца самоце. Але сёння апанавалі яе згадкі, павялі ў далёкі час маленства і юнацтва. Яна схілялася да думкі, што Бог падараваў Нюры два жыцці: у маладосці — злачыннае і злое, а цяпер у старасці — дабрачыннае, хоць па сутнасці сваёй ці вельмі змянілася сястра? Мяркуючы па тым, як яна ставілася да дачкі — не надта.

Усплыў у памяці вясновы дзень, такі ж, як цяпер, калі радасныя вераб'і купаліся ў лужах, сонца прыгравала зямлю, абуджаючы да жыцця маладую траву. Тады ліўнёўкі на вуліцы Шырокай, дзе яны жылі, не было, замест яе былі выкапаныя абапал праезда канавы, напалову запоўненыя талаю вадой. Двары злучаліся з вуліцаю драўлянымі масткамі, якія пракладаліся над канавамі. Любіла малая Іра сядзець на тых дошках, пазіраць у ваду і ўяўляць, што раптам да яе прыплыве вялізная рыбіна, якую яна зловіць. Вось мама парадуецца!

Дзяўчынка не заўважыла, як побач з'явілася Нюра, штурхнула яе, і малая паляцела ў канаву, моцна разбіла калена аб нейкую жалязяку, вымачылася ў

бруднай халоднай вадзе, у выніку прастудзілася, захварэла, і рана на калене доўга не зажывала, рубец бачны і сёння.

Безумоўна, ад самага нараджэння Іраіды Нюра не любіла малодшую сястру. Магчыма, зайздросціла, што ў малой было ўсё значна лепшае, чым у яе: Іра мела бацьку, ад прыроды яна была надзелена прыемнай знешнасцю, яе апраналі ў прыгожыя сукеначкі і завязвалі вялізныя банты на кучаравай і светлай галоўцы, яе акружала агульнае замілаванне родных і суседзяў. Але што зробіш, такі лёс. Ці ж вінаватая мама Аксеня, што аўдавела маладою і мусіла ўладкоўваць уласнае жыццё, сышлася з палякам, які быў гадоў на дваццаць старэйшы за яе? Але чалавек трапіўся добры і разумны. Расказвала, што ніколі ёй не ўдавалася з ім пасварыцца, усё пераводзіў у жарт.

У Першую сусветную вайну сям'я мамы з-пад Брэста вымушаная была ехаць у бежанцы. Тады Аксеня толькі выбілася з падлетка ў стройную і прывабную дзяўчыну, аднак было ёй не да заляцанняў. У дарозе ад халеры памерла маці, засталіся тры малодшыя сястры. Бацька праз год ажаніўся з Аксенінаю сяброўкаю, а клопаты пра малодшых сясцёр леглі на плечы старэйшай дачкі. Яна старалася, як магла, дзе што зарабіць ці выменяць на тыя рэчы, што засталіся ад мамы. Як даведалася, што на соль вырасла цана, падалася ў Маскву, аднак доўга не вярталася, бо ў дарозе захварэла на воспу. На ўсё жыццё застаўся на яе твары след ад тае хваробы. Разумела, што наўрад ці хто пакваліцца на яе хараство, пабітае воспінкамі, дык і пайшла замуж за ўдаўца Рамана Ганчука, нашмат старэйшага за сябе, які на той час ужо меў дарослую дачку. Калі вярнуліся з бежанцаў, аказалася, што ўсю маёмасць Раманава нябожчыца-жонка адпісала дачцэ, а яму, былому законнаму мужу, з новай сям'ёю давялося жыць у клуні, якую так-сяк перарабілі пад хату. Там і нарадзіліся Нюра, а пасля яшчэ два малодшыя браты, адзін з якіх памёр немаўлём. Зямлі таксама было мала. Але пакуль быў жывы муж, Аксеня спраўляла адвечныя сялянскія клопаты. Калі аўдавела, пакінула маладая жанчына часова дзяцей у бацькі, а сама падалася ў Брэст на заробкі. Наймалася ў падзёншчыцы: прыбірала пакоі і двары, мыла бялізну, дапамагала на кухні. Выпадкова пазнаёмілася з аўдавелым палякам Феліксам, якога яна адразу ўпадабала за вясёлы нораў. Гаспадар, у якога служыла Аксеня, выдзеліў ёй пакой у сваім доме. Сюды забрала яна дзяцей Нюру ды Валодзю і, бадай, ніколі такой шчаслівай не была. Цяпер яе называлі не інакш, як пані Феліксава, нават гэта яе цешыла і дадавала гонару.

Малодшы сын Валодзя быў яшчэ вельмі малы, таму адразу пачаў называць Фелікса татам, а з Нюраю займела сям'я шмат клопату. Дзяўчынка часта знікала з дому, хацела вярнуцца да дзеда. Даводзілася шукаць яе ды вяртаць. Вучыцца таксама не жадала. Фелікс сам за руку заводзіў яе ў рускую гімназію, але падчарка, счакаўшы колькі хвілін у прыбіральні, уцякала і хавалася, каб не патрапіць на вочы айчыму ці настаўнікам. Дарэмна Фелікс спрабаваў прывабіць яе да навукі, а пасля махнуў рукою: «Жанчынам адукацыя неабавязковая. Далучай, Аксеня, сама дачку да якой справы, а мяне звольні ад гэтых абавязкаў».

Іраіда Феліксаўна разумела, што сястра не ўспрымала нічога, што сыходзіла ад айчыма, які звычайна размаўляў дома па-польску. Старэйшая сястра гэтай мовы не разумела і ніякага прымусу не трывала. Паколькі бацькі працавалі, Нюра павінна была няньчыць малодшага брата, але яна дрэнна спраўлялася з гэтымі абавязкамі, а больш гуляла па горадзе. Любіла азіраць прыгожа ўбраныя вітрыны крамаў, марыла, што і сама некалі будзе апранацца, як паненка, хоць пакуль не ведала, скуль будзе браць грошы. Самым простым

здавалася ёй увайсці ў краму і ўзяць усё, што трэба. Іншы раз вельмі хацелася стаць нікому нябачнай, каб можна было рабіць усё, што заўгодна, і каб ніхто не здолеў ёй перашкодзіць.

Калі нарадзілася Іра, Нюра люта ўзненавідзела малую, над якою трэсліся, якую аберагалі, няньчылі і песцілі. Мама гадоў да двух не спускала дачушку з рук і не магла нагледзецца на пяшчотны анёльскі тварык, на залацістыя кудзеркі валасоў. Старэйшы сын уладальніка дома, які вучыўся на доктара ў Францыі, а на канікулы прыязджаў да бацькоў, насіў прыгожую дзяўчынку кватарантаў на руках, частаваў цукеркамі, прапаноўваў стаць ягонай дачкой. Малая какетліва адмаўлялася: «Нех пан не мыслі, цо купі мне за цукеркі».

Уладальнік дома, пан Саламон Вахтарман, трымаў вялікую будаўнічую фірму, меў побач са сваім будынкам некалькі дамоў, якія здаваў кватарантам. На святы жыльцы выходзілі ў двор. Малую Іру ставілі на табурэтку. Яна красавалася ў белай карункавай сукенцы з вялізным бантам на галаве перад уважлівымі і замілаванымі слухачамі і пачынала чытаць верш, якому яе навучыў тата:

На тым баку Віслы
Купалася варонка,
Пан паручнік думаў,
Што то яго жонка.
Пане паручнік,
То не ваша жонка,
Там сядзіць птушка,
Што завецца варонка.

Сярод слухачоў быў і пан паручнік з прыгожаю маладзіцаю, якія, бадай, найбольш смяяліся і пляскалі ў ладкі. Пасля аднаго з такіх святочных выступленняў, калі дарослыя разышліся, Нюра пацягнула Іру да калодзежа, крычучы:

— Утаплю! Утаплю!

Малая ад страху падняла енк, маці пачула і выратавала дачку. Праз нейкі час старэйшая сястра ўсё ж знайшла іншы спосаб расправіцца з Іраідай. Накарміла малую сухімі грыбамі, дзяўчынка атруцілася, у бальніцы яе ледзьве выратавалі. Але гэта было толькі дзіцячае свавольства старэйшай сястры ў параўнанні з тым, што яшчэ належала перанесці Іраідзе Феліксаўне ад яе пазней.

У школу Нюра таксама хадзіць адмовілася, а як толькі споўнілася ёй шаснаццаць гадоў ўладкавалася на працу грузчыкам у рачны порт, зарабляла нейкія грошы і пачувалася самастойным чалавекам. Порт працаваў у тры змены, дык цяпер дзяўчына наогул вярталася дамоў у які заўгодна час, ніхто яе не кантраляваў.

## 3

З устанаўленнем савецкага рэжыму сям'ю Саламона Вахтармана, як і іншых багатых палякаў і яўрэяў, вывезлі ў Сібір ці на Поўнач, будынкі і ўсю маёмасць нацыяналізавалі. Кватарантам былога ўладальніка будаўнічай фірмы загадалі выселіцца ў пэўны тэрмін, аднак Аксеня не разгубілася, а хуценька ўладкавалася на працу прыбіральшчыцаю на чыгунку і адразу атрымала жытло: невялічкую хатку паблізу вакзала.

Іраіда Феліксаўна добра помніла той дзень, калі пачалася вайна. Абудзілася ад грукату. Хата Ганчукоў трэслася, у пакоі было светла, быццам сам Бог

запаліў сярод ночы магутны ліхтар. Пасля абрушылася цемра. Сонную малую, захутаную ў посцілку, Аксеня подбегам панесла ў склеп, што стаяў у двары. Са звонам недзе паблізу разбілася шкло, страшэнна гуло над галавой, праз гэты шум даносіліся крыкі людзей. Пахла гарэлым, здавалася рушыўся свет: нешта валілася, ляцела і падала. У склеп прыбеглі задыханыя Валодзя і тата. Сядзелі, прыслухоўваліся да грукату, выбухаў і гуду звонку.

— Што ж гэта робіцца? — спытала Аксеня, быццам спадзявалася пачуць ад мужа суцяшэнне.

— Вайна... — адказаў ён і паўтарыў яшчэ раз. — Вайна, не адхрысціліся...

Наверсе ўсё яшчэ працягвала грымець. Фелікс прыадчыніў дзверы. Над галавой, даволі нізка са свістам і гулам пранеслася чарада самалётаў з чорнымі крыжамі на крылах. Неба было крывавага колеру з белымі, чорнымі і ружовымі пісягамі. Фелікс зноў схаваўся ў склеп, толькі прамовіў:

— Жах, як у пекле...

— Што ж будзе? Што нас чакае? — спытала Аксеня.

— Што пан Бог дасць...

Пасля некалькіх гадзін страляніны і грымот усталявалася цішыня. І раптам зноў — зараўлі маторы, пачуўся лязг жалеза. Фелікс не ўтрымаўся, выглянуў на вуліцу і ўбачыў танкі з чорнымі крыжамі, якія ехалі ў напрамку цэнтра горада, з іх вытыркаліся торсы задаволеных немцаў. На галовах — пілоткі з чарапамі, рукавы закасаныя да локцяў. Яны стралялі з аўтаматаў угору, салютуючы ў гонар перамогі пры захопе Брэста.

Бацькі параіліся і вырашылі, што пры першай магчымасці трэба выбірацца з горада ў вёску, але мусілі пачакаць Нюру, якая працавала ў начную змену. Дзяўчына з’явілася калі ўжо развіднела, і не з пустымі рукамі, нешта прынесла, загорнутае ў шэрую паперу.

— Як ты, Нюрка, дабегла? Як уратавалася? — спытала маці, радуючыся дачцэ. — Такое творыцца навокал, здаецца, гараць зямля і неба!

— Пераседзела ў падвале. Цяпер страляюць больш на вакзале і ў крэпасці, а ў горадзе трохі спакайней, — адказала дачка.

— Што ў цябе там? — маці паказала на пакунак.

— Селядцы...

— Дзе ўзяла?

— Крамы рабуюць, дык і я тое-сёе прыхапіла, — пасміхнулася Нюра.

— Навошта ты гэта зрабіла? Цябе ж вартаўнікі маглі забіць! — ускрыкнула маці.

— Якія вартаўнікі? Немцы ўсю ноч у горадзе гаспадараць!

— Адкуль ведаеш?

— Бачыла на свае вочы... Апоўначы прыйшоў чарговы таварняк, куды мы павінны былі грузіць пшаніцу ў мяшках, і раптам з тых вагонаў павыскоквалі ўзброеныя жаўнеры. Гергечуць нешта па-свойму. А наш брыгадзір ажно збялеў і ледзь чутна шэпча: “Немцы... Разбягаемся...” Ну, мы і рады старацца. Пахаваліся па цёмных кутках ды пачалі па дамах разыходзіцца.

Калі стала цішэй, Фелікс наважыўся пайсці ў хату, каб сабраць хоць якія рэчы. Праз колькі хвілін, як за ім зачыніліся дзверы, магутны ўзрыў скалануў склеп. Аксеня забожкала, баючыся за мужа, выглянула і замест сваёй хаты ўбачыла вялізную яму. Фелікса нідзе не было. Яна зразумела, што былая хата стала магілаю для яе мужа, загаласіла, кінулася разграбаць друз. Побач плакала Іра. Выбухі грымелі ў суседнім квартале, артылерыя вынішчала горад.

— Няма яго і больш не будзе, — злосна крыкнула Нюра са склепа. — Хавайся, мама, бо і цябе заб'юць!

Ад Ірынага плачу маці схамянулася, схапіла малую пад паху і панесла ў склеп. Толькі апоўдні Аксеня з дзецьмі адважылася выйсці са склепа. Подбегам рухаліся па вузкіх вулачках прыватнай забудовы, бо з цэнтра горада далятаў гул матораў і грукат. Раптам наперадзе пачулася страляніна. Аксеня пастукалася ў бліжэйшую хату. Гаспадар, яўрэй сярэдняга веку, прапусціў нечаканых гасцей у пакой і дазволіў пасядзець, пакуль усё аціхне. Сам назіраў за тым, што робіцца на вуліцы, праз шчыліну між аканіцамі, а ягоная жонка схавалася пад ложак, лежачы там, скавытала і калацілася ад страху. Іра так напалохалася яе енку, што таксама пачала моцна плакаць, маці ніяк не магла ўтаймаваць малую. Як толькі страляніна аціхла, Аксеня з Ірай на руках, з Валодзем і Нюрай пабегла ў бок ракі. Каля моста праз Мухавец сабралася шмат людзей, усе спяшаліся трапіць у зарэчча, парослае кустоўем, у якім захацелі знайсці ратунак. Аднак людзей запынілі гітлераўскія матацыклісты і накіравалі ў бліжэйшую вялікую хату. Набілася туды шмат мужчын, жанчын, дзяцей. Людзі апранутыя па-рознаму, некаторыя мужчыны ў касцюмах і пры гальштуках, некаторыя ў споднім, жанчыны ў начных сарочках, ахінутыя вялікімі хусткамі. Задыхаліся ад спёкі і маліліся: хто па-польску, хто па-руску, хто па-яўрэйску. Апоўдні нарэшце ўсіх вывелі. Жанчын з дзецьмі накіравалі ў склеп. А мужчын некуды пагналі. Брат Валодзя ў чатырнаццаць гадоў быў даволі высокі, маці вельмі баялася за яго.

Толькі пад вечар жанчын з дзецьмі адпусцілі. Аксеня з Ірай і Нюрай вярталіся на папялішча. Здалёку чуўся грукат, але неба ачысцілася, ясна свяціла сонца. Шмат будынкаў было разбурана, у некаторых знесены дахі, шыбы разбітыя, дзверы расчыненыя. Абапал вуліц ляжалі вырваныя з зямлі дрэвы. Маці затуляла твар малой і сама старалася не глядзець па баках, бо скрозь ляжалі забітыя людзі і ўздутыя на спякоце трупы коней. Час ад часу сустракаліся напаўраспранутыя цывільныя гараджане, у адной бялізне, якія некуды беглі — сорам адступіў перад страхам.

Валодзя прыйшоў пазней. Маці дацямна корпалася на руінах свайго былога дома, спадзявалася знайсці Фелікса, але падняла толькі акрываўлены шматок ягонай сарочкі. Пераначавалі ў склепе, а на другі дзень Нюра пайшла шукаць прыдатнае жытло і знайшла пустую кватэру ў двухпавярховым будынку, мабыць, пакінутую некім. Паколькі гаспадары не аб'явіліся, дык сям'я Ганчукоў туды і засялілася.

Пачалося жыццё пад фашысцкай акупацыяй. Каб неяк выжыць, Аксеня з Нюрай ездзілі ў вёску да родзічаў, працавалі і зараблялі гародніну і муку. Але, як кажуць, бяда адна не прыходзіць. Хутка Нюра захварэла на тыф, услед за ёю трапілі ў бальніцу спачатку Валодзя, а пасля — Іра з тою ж хваробаю. Забралі дзяўчынку ў непрытомным стане, калі ачомалася, убачыла, што абстрыглі яе залатыя кучаравыя валасы, адрастаць пачалі попельныя і простыя. Іру наведвала мама, стаяла пад акном аднапавярховай бальніцы, бо ў палату яе не пускалі, усміхалася, нешта казала, але праз шыбу нічога не было чуваць. Перахварэлі ўсе, акрамя мамы.

Іраіда вярнулася ўжо ў іншае жытло, бо сям'ю Ганчукоў з іхняй кватэры немцы выгналі і дазволілі заняць былы габрэйскі будыначак на беразе Мухаўца, там яны і пражылі ўсю вайну. Габрэяў на той час выселілі ў гета, якое знаходзілася ў суседнім квартале. Каля хаты быў пляц, садзілі бульбу і гародніну.

Летам наступнага года здарылася яшчэ адна бяда — прапаў Валодзя. Маці плакала і шукала сына, спадзявалася, што не загінуў. Ён вярнуўся толькі пасля вайны. Аказалася, што трапіў у аблаву і яго вывезлі ў Германію, працаваў там на нейкім заводзе.

Нюра пасля хваробы, як толькі трохі адраслі валасы на астрыжанай галаве, зноў пачала бегаць да сяброўак ды на вячоркі, што ладзіліся на кватэрах. У гэты час немцы вывозілі моладзь у Германію, але перад гэтым праводзілі медыцынскі агляд. Нюра таксама атрымала позву, прыйшла да дактароў. Там пры аглядзе звярнулі ўвагу на Нюрыны занадта цёмныя для славянкі смочкі на грудзях. Спыталі, ці не цяжарная яна. Дзяўчына пацвердзіла, падманула іх, яе адпусцілі, але пакуль. Аксеня зразумела, што другі раз дачка не выкруціцца, таму паспяшалася пасватаць яе малазнаёмаму хлопцу. Нюра паехала жыць да яго, у вёску. Зрэдку наведвала родных, прыносіла трохі бульбы ці хлеба.

## 4

Аднойчы з вёскі да Ганчукоў прыехаў Нюрын знаёмы Сцяпан Міхновіч, прывёз разам з жонкаю да доктара хворую дачку. Затрымаліся яны ў Брэсце на некалькі дзён. А калі паехалі, заявіліся да Ганчукоў два жандары, абшукалі хату. Мабыць, нехта данёс, бо пасля высветлілася, што той Міхновіч быў партызанам. Іраіду з мамаю вывелі на падворак. Адзін з жандараў пайшоў у суседнюю хату, а другі стрэліў у паветра і крыкнуў:

— Матка, кіндэр, вэк!

Жанчына з дачкою кінулася бегчы, не разбіраючы дарогі. Наўздагон ім прагучала яшчэ адна аўтаматная чарга. Але яны паспелі ўжо схавацца за хлявамі і выбеглі на бераг Мухаўца. У кустоўі агледзеліся, убачылі, што ніхто іх не даганяе, аддыхаліся ды рушылі далей. На шчасце, сустрэўся ім рыбак, які ладзіў човен. Ён пагадзіўся перавезці іх на другі бераг ракі. Пад раніцу прыйшлі яны да мамінай сястры Параскі, якая была замужам за хутаранцам Юстынам, папрасіліся пажыць. Хоць у сям'і было пяцёра сваіх дзяцей, але маці і дачку прынялі, бо ў сялянскай гаспадарцы дадатковыя рабочыя рукі ніколі не бываюць лішнія. Там Іраіда навучылася жаць, выбіраць бульбу, вязаць на прутках шкарпэткі, пасвіць статак.

Аднойчы, калі дома не было нікога з дарослых, якія летняю парою працавалі на полі, на хутар дзядзькі Юстына прыехалі немцы, мабыць, нейкія забеспячэнцы. Выгналі з хлява трох парсюкоў, звязалі іх і паклалі ў вазы. Потым пачалі лавіць курэй, кідалі ў іх вялізнымі кіямі, прыбівалі і падбіралі. Дзецям загадалі рабіць тое ж самае. Іраіда, каб захаваць хоць нешта з дзядзькавай гаспадаркі, забегла ў куратнік і стала выганяць курэй, спадзеючыся, што яны разбягуцца па двары і агародзе. Немец, які ўскочыў у куратнік следам за дзяўчынкай, зразумеў яе хітрасць і так выцяў малую кіем упоперак спіны, што тая звалілася непрытомная.

Іраіду знайшла мама толькі ўвечары, калі вярнулася з працы, занесла ў хату, папырскала на твар вадой — дзяўчынка апрытомнела і не адразу зразумела, што з ёю здарылася. У маладосці спіна ў Іраіды быццам і не балела, а з узростам усё больш і больш нямецкі кій нагадваў пра сябе. Іншы раз боль даймаў так, што да раніцы не магла заснуць. Даводзілася выкарыстоўваць бандаж, рэч не надта зручную, асабліва ў спякоту.

Пасля таго, як немцы паехалі, у гаспадарцы дзядзькі Юстына засталася толькі карова, якая ў той час была на пашы. Гаспадары вырашылі схаваць кар-

міцельку, каб і яе немцы не звялі, бо застацца без малака шматдзетнай сям'і было б катастрофай. Сярод жытняга поля выкапалі яму і там трымалі карову, даючы ёй удосталь накошанай травы і поячы вадой. Штодня нехта з дзяцей вартаваў рагулю.

Іраідзе таксама даручалі гэтую важную справу. Сядзела яна аднойчы ў яме з каровай ды падкладвала ёй траву. Ужо і цямнець пачало, а ніхто са старэйшых не ішоў. Карова пачала мыкаць. Дзяўчынка спалохалася, што жывёла выдасць сябе, і немцы забяруць яе. Малая гладзіла карову, шэптам угаворвала, каб яна змоўкла:

— Ціха, Ласачка, ціха... Прашу цябе, не мыкай... Ціха, вось табе траўка, пажуй, паглядзі, як смачна...

Раптам дзяўчынка заўважыла, што ў каровы з вачэй коцяцца слёзы, яна плакала па-чалавечы ад болю. Малая зразумела: карова пакутуе ад таго, што малако распірае ёй вымя. Трэба тэрмінова падаіць, але дзяўчынка гэтага не ўмела рабіць. Кемлівасці хапіла на тое, каб падлезці пад карову і па-цялячы адсмоктваць цёплае і салодкае малако...

## 5

Пасля вызвалення Брэста ад немцаў Нюрынага мужа забралі на фронт, дзе ён праз два месяцы загінуў, а яна прыехала дамоў. Калі яшчэ і Валодзя вярнуўся з Германіі, дык сям'я зажыла бязбедна, бо старэйшыя дзеці пайшлі працаваць, нават Іры знайшоўся занятак. Аксеня пякла булачкі, а малодшанькая насіла ў вайсковы гарадок іх прадаваць. Дзяўчынка была старанная і сумленная: не дазваляла сабе з'есці нічога з печыва.

Брат у хуткім часе ажаніўся з жанчынаю старэйшаю за сябе, якая мела ўласную кватэру, і перабраўся да яе. Нюра ў той час сустракалася з салдатам Аляксеем, які быў родам аднекуль з Расіі. Ён часта прыходзіў да іх дамоў, сястра зачынялася з ім у асобным пакоі, а пасля выявілася, што яна цяжарная. Салдат дэмабілізаваўся, абяцаў вярнуцца, але падмануў.

Неяк аб'явіўся той самы даўні Нюрын знаёмы Сцяпан Міхновіч з жонкаю і хвораю дачкою, папрасіўся пажыць тыдзень ці два. Працаваў ён на чыгунцы, абяцаў заплаціць за пакойчык. І сталася так, што праз нейкі час Аксеню з сям'ёй выселілі з хаты, якую заняў Міхновіч. Добра, што гэта адбывалася вясною, калі ўжо было цёпла. Вынесла Аксеня свае бедныя пажыткі на вуліцу. Начавалі ў шафе. Нюра на апошніх месяцах цяжарнасці таксама мусіла залазіць у тую шафу. Пачала маці абіваць парогі начальніцкіх кабінетаў, у выніку падсялілі яе з дзецьмі ў будынак, які займала сям'я вайскоўца. Там Нюра нарадзіла дзяўчынку, якую назвалі Людачкай. Цяпер Іра гадзінамі сядзела каля малой, вельмі ж ёй падабалася бавіць час з немаўляткам.

Суседзі аказаліся людзьмі прыязнымі і добра забяспечанымі, дазволілі Аксені невялічкі прысядзібны кавалак зямлі засадзіць бульбаю. Афіцэр добра зарабляў. Ягоная жонка прыгожа апраналася, час ад часу мыла свае пагладныя строі і вывешвала сушыцца. Іра, калі калыхала Людачку, любіла праз акно разглядваць гэтае шыкоўнае жаночае багацце.

Аднойчы да Аксені на кватэру прыйшоў міліцыянер і яшчэ нейкія людзі. Іраіда бачыла, што маці спалохалася, непрыкметна ўсунула ёй у рукі нейкі пасачак і сказала:

— Схавайся...

Іраіда адразу пазнала гэты пасачак з суседчынай сіняй сукні, далікатна вышытай белымі пуховымі ніткамі. Доўга сядзела ў бульбе, дрыжучы худым цельцам ад страху і ў прадчуванні невядомай бяды. Бачыла, як міліцыянер і незнаёмыя мужчыны павялі некуды маму і Нюру з Людачкаю на руках. Яна трохі счакала, пасля вярнулася ў кватэру. Насустрэч ёй выбегла суседка, выхапіла з рук пасачак і крыкнула:

— Вось яшчэ адзін доказ, што нам падсялілі зладзеяў!

Суседка яшчэ нешта крычала. Іраіда спалохана кінулася з двара. Зразумела, якое няшчасце здарылася: Нюра нешта ўкрала ў суседкі. Яе і маму забралі ў турму…

## 6

Іра пабегла на бераг Мухаўца, схавалася за лодкаю і доўга плакала, з-за крыўды на маму, што тая не ўзяла яе з сабой, а выправіла хавацца ў бульбе, а яшчэ з-за няведання, што ёй цяпер рабіць. Калі ўжо сцямнела, наважылася пайсці да мамінай прыяцелькі, цёці Мані. Тая ўбачыла заплаканы дзіцячы тварык, спытала, што здарылася. Дзяўчынка расказала, як магла, як зразумела страшную падзею. Цёця Маня, невысокая, паўнаватая, не давала веры пачутаму, таму сказала, каб Іра пасядзела ў пакоі, а сама вырашыла схадзіць і распытаць у суседзяў, што ды як там адбылося. Вярнулася яна хутка, сумна паківала галавою і сказала:

— Не пашанцавала Аксені, узялі яе як саўдзельніцу. Бяда з гэтаю Нюраю… Кватэру вашу апячаталі. Мусіць, маёмасць канфіскуюць…

— Што гэта азначае? — спытала насцярожана дзяўчынка.

— Забяруць усё…

— А як жа мы… Дзе я буду жыць?

— Пажыві пакуль у мяне, а пасля пабачым, — адказала гаспадыня і прыгладзіла малой валасы, што расплятаіся за дзень.

Нанач да цёці Мані прыходзіў нейкі чалавек, таму Іраіда начавала на лаве ў сенцах. Спала ў паркалёвай сукенцы, не распранаючыся, бо іншы раз было халаднавата. Дзяўчынка разумела, што замінае цёці Мані, іншы раз думала: няхай бы мама забрала яе з сабою ў турму, былі б цяпер разам. І абуралася, навошта спатрэбілася Нюры браць чужыя рэчы, каб пасля з-за яе сквапнасці і легкадумнасці ўсе пакутавалі. Не пакрасавалася яна ў тых сукенках, узяла чужое, а страціла ўсё сваё. Найбольш турбавала Іраіду, як маленькая пляменніца Людачка выжыве ў турме, там жа, мабыць, пагуляць на вуліцу не выпускаюць. Ад гэтых думак рабілася малой нават цяжка дыхаць, не хацелася ні варушыцца, ні нешта рабіць. Жыццё быццам спынілася...

Калі пачаліся заняткі ў школе, настаўніца сабрала неабходныя дакументы для таго, каб накіраваць Іраіду ў дзіцячы дом. Брат Валодзя купіў ёй білет і пасадзіў на цягнік, а далей яна паехала сама. У кастрычніку рана цямнее. Поначы прыехала дзяўчынка на патрэбную невялічкую станцыю. Нешматлікія пасажыры тут жа разышліся, яна засталася на пероне адна. Не ведаючы дарогі, увайшла ў неасветлены маленькі пусты будынак станцыі, намацала лаву каля сцяны, села, прыслухалася. У кутку папіскваі і шаргацелі пацукі. Яна, апранутая ў старую світку цёці Мані, з закасанымі доўгімі рукавамі, падгарнула пад сябе ногі, сціснулася ў камяк ад страху, сцяла сківіцы, каб не ляскаць зубамі ад холаду. Іншы раз дрымота ўсё ж адольвала яе, галава хілілася на бок, яна ўздрыгвала, прачыналася, пры-

слухоўвалася да гукаў. Так і даседзела да світанку, баючыся, каб на сонную не напалі агідныя грызуны.

Раніцай на пероне з'явіліся людзі, якія чакалі цягнік, каб ехаць на працу ў Камянец, яны і расказалі малой, як дайсці да дзіцячага дома. Іраіда пайшла лясной дарогаю і не заблудзілася, знайшла былы панскі дом з калонамі ў засені старога парку за агароджаю. Дырэктар, у мінулым марскі афіцэр, апрануты ў чорны кіцель з кульбакаю, быў з выгляду дзелавы і строгі, але, як падалося дзяўчынцы, справядлівы. Прагледзеў Іраідзіны дакументы і перадаў яе жанчыне, якая памыла дзяўчынку, а прыгожыя, хвалістыя, хоць і завашыўленыя валасы, не астрыгла, пашкадавала, толькі намазала газаю, а пасля добра вычасала. Зусім было б добра Іраідзе, каб не дзеці, з якімі ёй давялося вучыцца і жыць. Невядома скуль яны даведаліся пра прычыну яе з'яўлення тут і часам неміласэрна кпілі з новенькай. Іхнія бацькі былі баявымі камандзірамі ці партызанамі і загінулі на вайне, а яе маці — зладзейка, якая сядзела ў турме. Іраіда і сама разумела, што не вартая іхняй кампаніі і, калі ёй асабліва дапякалі, хавалася ў тамбуры паміж дзвярамі, якімі ніхто не карыстаўся, і доўга плакала. Але вучылася яна добра, а гэта таксама шмат каму не падабалася, таму да мянушкі «зладзейка», дадаліся новыя: «зубрыла», «падліза», «выскачка»… Аднак усе тыя, хто дрэнна да яе ставіўся, не прамінаці выпадку, каб спісаць хатняе заданне, пры гэтым пагражалі завесці ў хлеў на сена да старшакласнікаў…

Неяк ужо ў сталым узросце Іраіда Феліксаўна трапіла ў напаўразбураны будынак таго дзіцячага дома. Паехала з сябрамі на пікнік і раптам пазнала пабудову, якая цяпер пуставала. Яна не магла стрымаць слёзы, усе цяжкія гады самотнага маленства прамільгнулі перад ёю.

У дзіцячым доме Іраіда, адрынутая равеснікамі, прыбілася да малечы, якую даглядала выхавацелька Наталля Спірыдонаўна. Кожную вольную хвілінку дзяўчынка бавіла ў малодшай групе, дапамагала даглядаць дзяцей, што пазбаўляла яе ад адзіноты. Шкадавала, што тут не было Нюрынай дачкі Людачкі. Але ведала: немаўлятак трымаюць у асаблівым прытулку ў Брэсце, пра гэта ёй сказала на развітанне цёця Маня, таму суцешылася: можа, Людачцы там лепш, чым тут, малыя не ўмеюць кпіць, наогул яшчэ не гавораць...

## 7

У канцы першага навучальнага года ў дзіцячым доме Іраіда атрымала ліст ад мамы, у якім тая напісала, што дзядуля памірае, добра было б, каб Іра наведала яго ды развіталася ад усёй сям'і. Дзяўчынка доўга абдумвала даручэнне, нарэшце, калі пачаліся летнія канікулы, папрасіла ў дырэктара дазвол на тры дні, каб наведаць родзічаў. Яна збегала на чыгуначную станцыю, даведалася расклад цягнікоў на Брэст, у патрэбны час сабралася і патупала на чыгунку. Калі прыйшоў цягнік, яна кінулася да першай правадніцы і папрасіла падвезці яе да Брэста.

— Без квітка нельга, — адказала тая.

— Цётачка. Мне вельмі трэба! Мой дзядуля памірае!

— Адыдзі, дзяўчынка, цягнік адыходзіць…

Іраіда заплакала, ухапіла праваднiцу за рукаў, але тая адштурхнула яе, выставіла жоўты сцяжок. Цягнік крануўся. Дзяўчынка глядзела ўслед цягніку — слёзы засцілі свет. Яна зразумела, што ніколі не ўбачыць дзядулю, бо ёй не далі грошай на квіток і ўзяць іх няма дзе. Яшчэ мноства цягнікоў будзе ісці ў Брэст, але ніхто не возьме яе. Заплакала ўголас, не ведаючы, што рабіць.

Пайшла б пешшу, ды за тры дні, напэўна, не паспее вярнуцца, а тады невядома якая кара чакае яе за парушэнне дысцыпліны ў дзіцячым доме… Заставалася адно: зноў вярнуцца назад. Нечая рука легла ёй на плячо, і мужчынскі голас спытаў:

— Чаго ты плачаш, дзяўчынка?

Іраіда падняла вочы, убачыла дзядзьку ва ўніформе чыгуначніка, усхліпваючы, расказала пра сваю бяду.

— Не плач, сёння цягнікоў на Брэст ужо не будзе, а заўтра што-небудзь прыдумаем.

— Мяне ніколі не пусцяць у вагон, бо не маю грошай на квіток, — зноў заплакала Іраіда.

— Я працую начальнікам гэтай чыгуначнай станцыі. Вырашым тваё пытанне, не хвалюйся.

— А куды мне цяпер? Назад вяртацца?

— Пойдзем да мяне ў госці. Завуць мяне дзяздька Пеця, маю тры дачкі, думаю, ты з імі не засумуеш.

Тую сустрэчу Іраіда з удзячнасцю помніла ўсё жыццё. Дзядзька Пеця прывёў яе дамоў, дзе гаспадыня накарміла нечаканую госцю і пазнаёміла з дочкамі, адна з якіх была Іраідзінаю равесніцаю. А раніцай начальнік станцыі дамовіўся з правадніцаю, якая ўзяла безбілетную пасажырку да сябе ў вагон і папярэдзіла, што праз два дні будзе назад вяртацца, каб дзяўчынка, крый божа, не спазнілася, бо хто тады яе своечасова завязе назад.

Іраіда прыехала ў Брэст і найперш накіравалася на плошчу Свабоды ў дзіцячы дом для немаўлят, каб праведаць Людачку. Строгая жанчына ў белым халаце завяла яе ў кабінет, пагартала вялікі сшытак і сказала:

— Ганчук Людміла памерла.

— Як? Чаму? — усхвалявана спытала дзяўчынка.

— Слабенькая была. А ты кім ёй даводзішся?

— Гэта дачка маёй старэйшай сястры.

— Зразумела… Няма тваёй пляменніцы…

Іраіда не магла стрымаць слёз. Яна бачыла, як памёр маленькі хлопчык у дзіцячым доме, скруціўся клубочкам, мусіць, яму вельмі балеў жывоцік і аціх. Дзяўчынка ўявіла, што гэтак жа памірала Людачка, але не магла змірыцца з гэтым. Не было сілы рухацца і некуды ісці. Яна села на прыступкі ля ўвахода ў будынак і доўга плакала. Схамянулася, калі заўважыла, што ўжо надыходзіць вечар. Ісці ў вёску да дзеда за дваццаць кіламетраў не адважылася, пайшла да цёці Мані і там пераначавала, а ранічкай выправілася ў дарогу. Ішла асцярожна. Як толькі заўважала на дарозе якіх людзей, хавалася ў куст. Усё ж дайшла, не заблудзілася. Трохі помніла тую дарогу, бо з мамаю шмат разоў у вайну хадзіла ў горад з вёскі.

Дзед ляжаў у ложку вельмі схуднелы і знясілены. Узрадаваўся ўнучцы, папрасіў расчасаць яму валасы, бо сам ён ужо і рукі не мог падняць. Маладжавая ягоная жонка на хворага не звяртала ніякае ўвагі, на нечаканую госцю паглядвала незадаволена, нават не пакарміла з дарогі. Іраіда расчэсвала сівыя дзедавы валасы, гладзіла іх, глядзела на ягоныя сухія рукі, скрэсленыя маршчынамі ды сінімі жыламі і з жалем думала, што, можа, і дзеда бачыць апошні раз. Не хацелася развітвацца, пакідаць яго аднаго без увагі і догляду, але па абедзе ўсё ж вырашыла ісці ў Брэст, бо заўтра ёй належала своечасова сесці на патрэбны цягнік, каб вярнуцца ў дзіцячы дом.

## 8

Праз два гады Нюра раптам наведала Іраіду ў дзіцячым доме, сказала, што хацела б быць побач з малодшай сястрычкай, бо стамілася ад неўладкаванасці. Адпусцілі яе з турмы раней за маму, бо ў яе ёсць малое дзіця.

— Людачкі няма, — прамовіла дзяўчынка, і слёзы праступілі на яе вачах.

— А дзе ж яна?

— Памерла... — усхліпнула Іраіда.

— Адкуль ведаеш? — з недаверам зірнула на сястру Нюра.

— Праведвала яе, калі да дзеда ездзіла...

— Ну, няма і няма... Што цяпер зробіш? Не плач... Затое цяпер мы будзем разам заўсёды.

Іра вельмі ўзрадавалася, што побач будзе блізкі чалавек, адразу пабегла да Наталлі Спірыдонаўны, каб парадзіла, як памагчы старэйшай сястры ўладкавацца на працу. Выхавацелька абяцала пагутарыць з дырэктарам: магчыма, той згодзіцца ўзяць яе на працу.

Сёстры заначавалі на вышках у хляве. Іраіда аддала Нюры сваю вячэру, прынесла пасцель, разаслала на сене белую прасціну з дзетдомаўскім штампам, клапатліва накрыла сястру коўдраю. Яны леглі побач, тады Іра адчула, як радасна на душы: цяпер у яе ёсць дарослая заступніца, і ніхто не адважыцца пакрыўдзіць. Нюра абяцала, што, як толькі з турмы выпусцяць маму, яны зноў вернуцца ў Брэст і зажывуць шчасліва. Там цяпер брат Валодзя, дык сям'я пасля шматлікіх мітрэнгаў нарэшце аб'яднаецца. Адкуль і бралася ў сястры тое красамоўства...

Іраіда спала бестурботна і доўга. А калі прачнулася, дык Нюры ўжо не было. Знікла прасціна, Ірына цёплая кофта, паліто і чаравікі. Дзяўчынка ніяк не магла сцяміць, што здарылася, спусцілася з вышак, кінулася па дарозе ў бок чыгункі. Яна бегла з усяе сілы, хрыплае дыханне, падобнае стогну, вырывалася з грудзей. У галаве мільгалі думкі: «Куды яна падзелася?.. Навошта зрабіла гэтак?.. Дзе яе шукаць?..» Па дарозе сустрэла незнаёмых жанчын, спытала, ці не бачылі яны чарнявую дзяўчыну. Ніхто нічога не ведаў. Толькі на станцыі бабуля-дворнічыха сказала, што бачыла маладзіцу, якая прадавала на вакзале нейкія рэчы, а пасля ад'ехала цягніком.

Іра зразумела, што Нюра знарок абакрала яе, каб яшчэ раз прынізіць, пакрыўдзіць, растаптаць. Найбольш турбавала дзяўчыну, што скажа, як растлумачыць, куды знікла яе цёплае адзенне і абутак, коўдра і прасціна. Цяпер ёй трэба было не проста схавацца з крадзеным паяском у бульбе, як некалі, а ўтаіць ад усіх, што родная сястра яе абакрала.

Аднакласнікі, калі заўважылі пусты Іраідзін матрас без коўдры, вырашылі, што гэта сама Іра-зладзейка некуды збыла казённую маёмасць, але выхавацелям не сталі казаць, маўляў, няхай пакруціцца, памерзне на голай пасцелі.

Між тым, пачаўся навучальны год. Але вучыліся мала, ажно да кастрычніка капалі бульбу. Іраіда хадзіла на поле босая, у адной сукенцы, нягледзячы на тое, што ў канцы верасня іншым ранкам на траве быў іней. Наталля Спірыдонаўна неяк спытала:

— Чаго ты босая? Прастудзішся!

— Загартоўваюся ды абутак на холад прыберагаю. Мне цёпла, — схлусіла Іраіда.

Тое, што прадбачыла выхавацелька, здарылася, Іраіда захварэла на запаленне лёгкіх. Яе паклалі ў раённую бальніцу, завезлі ў нечых чаравіках і абутак зноў забралі. У бальніцы дзяўчынка мусіла хадзіць босая, пакуль не

знайшлі для яе нейкія вялікія пантофлі. Пры абследаванні выявілася, што ў яе сухоты. Пасля гэтага пачаліся Іраідзіны вандроўкі па бальніцах ды спецыяльных санаторыях. Вядома, хвароба — рэч непрыемная, аднак яна выратавала Іраіду на два гады ад здзеку дзетдомаўскіх нядобразычліўцаў. Пакуль лячылася, працягвала вучыцца ў санаторных школах. А калі ж нарэшце ёй дазволілі вярнуцца ў дзіцячы дом, дык выявілася, што некаторых дзяўчынак накіроўваюць на вучобу ў вучылішча, дзе яны змогуць набыць прафесію краўчых.

Іраіда адразу кінулася да Наталлі Спірыдонаўны, муж якой працаваў завучам, з просьбаю, каб і яе накіравалі вучыцца. Дзяўчынцы пашанцавала, яе пашкадавалі і ўключылі ў групу, праўда, яна не падыходзіла па ўзросце, таму ёй дадалі паўгода. Вучылася яна паспяхова, актыўна брала ўдзел у мастацкай самадзейнасці, а пасля заканчэння вучобы была накіравана на працу ў гаркам камсамола. Ужо тады Іраіда добра разбіралася ў людзях, ведала, з кім варта сябраваць, да каго трэба гарнуцца, каб лягчэй жылося на свеце.

Калі вярнулася з турмы мама, Іраіда ўжо мела пакойчык у інтэрнаце, там яны і пачалі разам жыць. Потым раптам аб'явілася Нюра ў прыгожым паліто пры грашах. Наведала брата Валодзю, распытала, дзе жыве ягоная цешча, сказала, што якраз туды яе накіроўваюць у службовую камандзіроўку. Дома не затрымалася, зноў некуды паехала. А хутка Валодзева цешча паведаміла, што Нюра абакрала яе і знікла. Прыкра было пра гэта даведацца, але ад Нюры нічога іншага не чакалі. Праз год прыйшоў ад яе ліст з турмы, пра прычыну зняволення не паведамляла, але і без таго было зразумела, што зноў села за крадзеж. Безумоўна, маці хвалявалася за дачку, употай, каб не ведала Іраіда, пасылала пасылкі.

## 9

Праз тры гады Нюра вярнулася дамоў з маленькаю дачкою Валяю. Яна ніколі не расказвала, хто бацька дачкі, а Іраіда не адважвалася спытаць, каб лішні раз не нарывацца на сварку, бо сястра была вельмі нястрыманая.

Нюра ўладкавалася на працу кухаркаю, бліжэй да харчоў, бо той пасляваенны час быў даволі галодны. Але з-за яе зноў у сям'і з'явіліся праблемы. Старэйшая сястра хацела займець уласнае жытло і знайшла злачынны спосаб — самавольна засялілася ў дом, які вызвалялі пад знос. Яе чакала прымусовае высяленне, а магчыма, і суд. Калі мець на ўвазе, што сястра ўжо двойчы сядзела ў турме, дык ёй пагражаў вялікі тэрмін.

Зноў Іраіда мусіла не проста хаваць паясок у бульбе, а думаць, як дапамагчы Нюры — шкада было маленькую пляменніцу, якая магла надоўга застацца без маці. І ўрэшце рэшт дабілася таго, каб Нюру прапісалі ў тым аварыйным доме, а неўзабаве старэйшая сястра атрымала аднапакаёвую кватэру, дзе жыла і да гэтага часу, і лічыла, што сама, з-за сваёй кемлівасці, раней за малодшую сястру атрымала добраўпарадкаванае жыллё.

Растрывожылася Іраіда гэтымі ўспамінамі, варочалася з боку на бок, ніяк не магла заснуць, недзе толькі пад раніцу змарыў яе сон.

Праз некалькі дзён яна паехала ў цэнтральны ўнівермаг і купіла Нюры вялізную квяцістую хустку, знакамітай паўлавапасадскай вытворчасці, вельмі дарагую, палову пенсіі за яе аддала, але хацелася дагадзіць сястры, ведаючы яе нястрыманы нораў: тая магла і пры гасцях зганіць.

Юбілей Нюра адзначала ў кафэ Люсі, адной са сваіх кліентак, якой дапамагла паспяхова займацца бізнесам і вельмі ганарылася гэтым сяброўствам.

Кожны раз пры нагодзе расказвала сястры, што Люся ёй нешта падаравала ці проста дазволіла пажыць на лецішчы. Сабралася шмат гасцей, пераважалі жанчыны, мужчын было мала, аднак усе добра апранутыя, твары інтэлігентныя, няйнакш. Хаця кідалася ў вочы, што добра адкормленыя, упэўненыя ў сабе. Нюру яны называлі не інакш як дарагая Ганна Раманаўна і ўсе апавядалі, як знахарка выратавала іхніх унукаў, дзяцей ці іх саміх ад хвароб ды жыццёвых нягод.

Іраіда Феліксаўна слухала і міжвольна думала, што некаторыя людзі ўсё ж з узростам робяцца лепшымі, вось і Нюра пачала новае светлае жыццё, дапамагае людзям, таму і доўжыць Бог яе існаванне на свеце, каб яна магла замаліць ранейшыя свае грахі.

Нечакана за стол да Іраіды падсела незнаёмая жанчына і сказала:

— Даўно вас ведаю. Вы ў музеі працавалі. Я туды ўнукаў на экскурсію прыводзіла. Толькі і ўявіць не магла, што вы сястра Ганны Раманаўны. Прозвішча ў вас іншае, і імя па бацьку, і знешняга падабенства ніякага. Вы заўсёды былі з такой прыгожай прычоскай, проста залатая карона! А Ганна Раманаўна — бабуля ў хустачцы...

— Прозвішча мне ад мужа дасталося, сёстры мы з Нюрай толькі па маці, а бацькі ў нас розныя, таму яна Раманаўна, а я Феліксаўна. Але гэта не так важна, галоўнае, каб людзі душамі радніліся.

— Праўду кажаце, я таксама гэтак думаю, — пагадзілася жанчына.

— Наконт знешняга падабенства скажу адно: старасць усіх упрыгожвае аднолькава.

— Пра вас гэтак не скажаш! Выглядаеце цудоўна! Ганна Раманаўна сказала, колькі вам гадоў, я не паверыла.

— Дзякую за камплімент. Каб да майго знешняга выгляду ды добрае здароўе, дык зусім была б шчаслівая, — адказала Іраіда Феліксаўна, не хаваючы задавальнення ад пачутай пахвалы, ёй хацелася выглядаць маладзей свайго сапраўднага ўзросту, хаця ці надта вялікая радасць ад усведамлення, што ты ў амаль восемдзесят выглядаеш на семдзесят...

Вечарына доўжылася пад папулярную музыку, жанчыны час ад часу танцавалі: цяпер у танцах ніякай пары шукаць не трэба, кожны тупае нагамі, як хоча…

Іраіда Феліксаўна вярнулася дамоў апоўначы. Было адно жаданне — хутчэй легчы ў пасцель і выпрастацца. Вельмі ж балела паясніца. Раптам зазваніў мабільнік. На яе голас азвалася дачка:

— Мама, куды ты прапала? Я ўжо не ведала, што думаць…

— Адзначала Нюрын юбілей. Там было шумна, не пачула, як ты званіла…

— А я зусім забылася, што ў яе дзень нараджэння. Колькі ж гэта ёй?

— Дзевяноста сёння стукнула! Шмат гасцей было ўдзячных! Ты ёй патэлефануй абавязкова, бо моцна пакрыўдзіцца.

— Чаго гэта раптам? Яна мяне ніколі ні з чым не віншавала.

— Ты маладзейшая, абавязана...

— Нічога я ёй не абавязана...

— Як ты, Танечка?

— Усё добра, мама.

— Мо вярталася б дамоў? Памру тут адна…

— Чаго ты будзеш паміраць? Вунь цётка колькі жыве…

— Твая цётка пры справе ды пры здароўі, а я адпрацаваны рэсурс…

— Якая там у яе справа? Раней людзей абкрадала, а цяпер дурыць прымхамі ды забабонамі, і яны самі па добрай волі прыносяць ёй грошы…

— Не кажы, Танечка, мне здаецца, што яна змянілася да лепшага, людзям дапамагае…

— Мама, скажы гэта каму іншаму, хто яе не ведае! Ты ўжо забылася, як яна нахабна бабулю ад нас выпісала, каб нам кватэру большую не далі? Не веру я ёй… Хлусня ўсё! — адрэзала дачка. — А яшчэ ўспомні, як яна хацела бабулю ў дом састарэлых аддаць!

— Танечка, не варта згадваць дрэннае. Як тваё здароўе? Як справы? Мо на працу ўладкавалася?

— Навошта тая праца? Мне сацыяльнай дапамогі хапае. У вас столькі за месяц не заробіш, а я тут — вольная птушка. Падпрацоўваю трохі, карацей, усё добра...

— Дык і дзякаваць богу, радая была пачуць твой галасок.

Іраіда развіталася з дачкою, ведаючы, што гэтыя размовы каштуюць дарага, не стала казаць нічога неабавязковага. Таня напомніла ёй той выпадак, калі Нюра сапраўды прапісала да сябе маму, каб перашкодзіць сястры атрымаць трохпакаёвую кватэру. Тады Іраіда сказала, што цяпер Нюра бярэ на сябе ўсе абавязкі па доглядзе мамы да канца яе жыцця, што б ні здарылася. Праз некалькі гадоў мама зламала нагу, яе паклалі ў бальніцу, а Нюра адмовілася забіраць старую, маўляў, няхай яе вязуць у дом састарэлых. Іраіда не згадзілася і адмовілася падпісваць заяву аб тым, што адмаўляецца даглядаць маці і папярэдзіла сястру: калі тая забярэ маці з бальніцы, дык ёй прывязуць яе ўсё роўна. Пакруцілася Нюра, як уюн на патэльні, палямантавала, але вымушаная была змірыцца.

«Таня перабольшвае, Нюра ўсё ж змянілася, стала лепшай, — падумала Іраіда, — інакш не цягнуліся б да яе чужыя людзі». Гэтая ўпэўненасць суцешыла, парадавала і супакоіла яе. Добры сёння выдаўся дзень, з дачкою перамовілася, сястру павіншавала, сярод людзей пабыла, часцей бы такія здараліся…

## 10

Іраіда Феліксаўна даравала старэйшай сястры даўнія крыўды дзеля пляменніцы Валі, аднак нічога забыць не магла. Нюра толькі аднойчы паспрабавала папрасіць у яе прабачэння, але тады малодшай сястры было не да душэўных размоў. Мама памірала доўга і пакутліва, сорак дзён нічога не ела, толькі піла ваду. Нават доктар хуткай дапамогі здзівіўся, што знясіленая хваробаю старая гэтак доўга трымаецца. Іраіда з Нюраю сядзелі каля маці па чарзе. Настаў дзень, калі хворая ўжо ляжала непрытомная. Іраіда, адчуваючы, што мама адыходзіць назаўсёды, несуцешна плакала, трымаючы яе за руку, быццам спрабавала запаволіць адыход. Нюра сказала сястры:

— Выйдзі з пакоя, ты замінаеш ёй. Адпусці яе душу, не трымай!

Іраіда нахілілася, пацалавала маці ў шчаку, паслухмяна пайшла да парога, азірнулася.

— Ідзі, ідзі! — прыкрыкнула Нюра.

Іраіда выйшла ў кухню, спынілася ля акна, заснежаны двор расплываўся перад вачамі, якія засцілі слёзы. Нават думаць ні пра што не магла, душой імкнулася да маці. Хацелася, каб здзейсніўся цуд, каб яна ачуняла, каб усё было, як раней. Не заўсёды яны маглі паразумецца, часам сварыліся з-за ней-

кай дробязі, іншы раз маці любіла папляткарыць з суседкамі, але цяпер усе звадкі адступілі, быццам выпалі з памяці.

Цяпер яна ўспамінала тыя цяжкасці, якія выпалі на долю маці ў вайну, асабліва ў апошнія дні перад вызваленнем. Немцы вынішчалі лясныя вёскі і хутары, забівалі ці забіралі мужчын, вывазілі ў Германію. Дзядзька Юстын са старэйшым сынам Мішам выкапалі ў лесе зямлянку і хаваліся там, дома засталіся толькі жанчыны ды малыя дзеці. Па начах прыходзіў гаспадар з сынам дамоў, каб малаціць збажыну, калоць дровы ці рабіць яшчэ якую сялянскую працу, а на світанку сыходзілі, прыхапіўшы харчоў.

Аднойчы на іхні хутар прыбегла жанчына без хусткі, з распушчанымі валасамі, закрычала:

— Людкі, хавайцеся! Немцы! — і паказала рукою на дальні хутар, ахоплены агнём.

Мама і цётка Параска пачалі склікаць дзяцей, каб уцякаць. Іраіда з маці выбеглі з хаты першыя, накіраваліся да плыткай рэчкі, за якою цягнуўся поплаў, удалечыні сінеў лес. Цётка Параска з дзецьмі крыху затрымалася, але бегла следам. Маці перайшла рэчку ўброд, несучы дачку на руках, схавала Іру за карчом, а сама высунулася, каб паглядзець, дзе затрымалася сястра. І тут яе заўважыў немец, які невядома скуль узяўся. Ён трымаў за руку Параску, а, калі згледзеў Аксеню, паклікаў да сябе. Тая вымушана была падпарадкавацца і наблізілася да немца. Той загадаў ёй забіраць дзяцей і ісці прэч, а Параску некуды павёў. Аксеня разам з дзецьмі пабегла праз поплаў. Іх ніхто не даганяў, таму яны падаліся ў зямлянку да дзядзькі Юстына. Цётка Параска таксама прыйшла раніцай туды ж, моўчкі легла ў куточку зямлянкі. Дзецям забаранілі чапаць яе, казалі, што яна моцна захварэла. Іраіда зразумела: немцы зрабілі з цёткай нешта нядобрае. Пасля таго Параска кволілася на сэрца, пазбягала стасункаў з людзьмі і памерла маладою...

Праз колькі дзён Юстынава сям’я мусіла ўцякаць і з той зямлянкі. Іраіда помніла, як цэлы дзень мама несла яе праз балота — вада даходзіла ёй да грудзей. Нельга было спыніцца, каб адпачыць ці паесці, недзе ззаду была нямецкая аблога. Толькі пад вечар выйшлі з балота на сушу, распалілі вогнішча, каб абсушыцца, тут іх знайшлі партызаны, забралі ў лагер, дзе Іраіда з маці дачакаліся вызвалення. Калі вярталіся ў Брэст, сустрэлі па дарозе аблудных козачку і авечачку, забралі іх з сабою. Па ўсім было відаць, што жывёла таксама ўзрадавалася, калі займела гаспадароў. Вярнуліся ў тую самую габрэйскую хатку каля Мухаўца, праўда, адзін яе вугал быў трохі пашкоджаны, але жыць у ёй можна было.

Прыйшло вызваленне. У горадзе было галадна, харчы выдавалі па картках. Дзятва бегала ў крэпасць, ласавацца дзікімі грушамі. Збіралі хмель мяшкамі, а бацькі некуды здавалі яго. Крэпасць ляжала ў руінах: бітая цэгла і шмат жалеза. Хлопчыкі цікавіліся зброяй, здаралася, што падрываліся на мінах. Іраіда была далікатная і асцярожная, ніколі не хадзіла ў падземныя казематы, а грушы любіла і збірала разам з усімі... У першую галодную зіму давялося зарэзаць авечачку, а на Дзень Перамогі — козліка, якога прывяла козачка... Колькі бедная мама вытрывала ўсяго, колькі папакутавала...

У пакой увайшла Нюра, ціха прамовіла:

— Няма мамы, пайшла ў лепшы свет...

Іраіда кінулася ў пакой да маці, прыпала да яе грудзей, заплакала:

— Мама, мамачка, прачніся!

Нюра адцягнула сястру і загадала:

— Яна не чуе, супакойся, Іра. Я выклікала хуткую дапамогу і міліцыю. Няхай засведчаць смерць.

Іраіда няўцямна глядзела на Нюру. А тая ўзяла яе за руку павяла на кухню, пасадзіла на табурэтку і сказала:

— Пакуль чужыя людзі не прыехалі, я хачу папрасіць у цябе прабачэння за ўсё... Разумею, нічога цяпер не паправіш, але я моцна вінаватая перад мамаю і табою. Не ведаю, ці зможаш ты мне дараваць, але я пастараюся ў далейшым нашым жыцці загладзіць сваю віну...

— Нашто цяпер гэтыя словы? Нашто? Калі мама ляжыць там... — ускрыкнула Іраіда, не маючы сілы ні на размовы, ні на тое, каб перасіліць боль ад страты роднага чалавека.

Яна даравала Нюры ўсё зло, паверыла, што Нюра вырашыла цалкам змяніць лад жыцця дзеля дачкі. Не хацелася Іраідзе, каб маленькая Валя паўтарыла лёс Людачкі, якая памерла ў доме дзіцяці. Некалі зрабіла ўсё, каб Нюра мела свой дом і не разлучалася з дачкою.

«Але ж пэўная доля праўды ёсць і ў словах Тані. Калі Нюра такая магутная знахарка, чаму не паспрыяла, каб Валін лёс быў шчаслівейшы? Па сутнасці, дачка ж паўтарыла долю маці, нарадзіла сына ад салдата, які адмовіўся ўзяць яе замуж. Нюра з Валяю гадавалі дзіця, распесцілі, яно і разбэсцілася. Нюра кажа, што знахаркі свайму лёсу не ўладаркі, павінны пражыць тое, што наканавана. А чужымі лёсамі яны кіраваць могуць? Ці не слабыя, няўпэўненыя ў сабе людзі могуць давяраць уласны лёс розным вядзьмаркам ды варажбіткам?

З другога ж боку, калі паглядзець, дык яе кліенты ўдзячныя і задаволеныя... І дзецям яна сапраўды дапамагае ад пераляку і крыкаў. Умее знайсці падыход да кожнага дзіцяці. Псіхолаг... Што ні кажы, а жыццё — вялікая загадка...» — думала Іраіда, ямчэй укладваючыся ў пасцелі і жадаючы аднаго, каб сёння ўдалося хутка заснуць.

Сон для яе цяпер быў навялікшай асалодай, бо тады нічога не балела і ніштo не турбавала. Яна сніла сябе маладою і здароваю, сустракалася з тымі, каго ўжо даўно не было на свеце, нейкі голас нашэптваў ёй мудрыя ісціны, каб можна было іх запісаць, дык напэўна атрымалася б цікавая кніга. На жаль, варта было прачнуцца, як усё пачутае знікала з памяці. Аднак усё роўна сон быў яе другім шчаслівым і таемным жыццём, пра якое яна нікому не расказвала, баялася, каб хто не падумаў пра яе чаго благога. Калі прыходзілі думкі пра канец жыцця (пражыта ўжо шмат), дык яна суцяшала сябе тым, што, магчыма, смерць — гэта толькі своеасаблівы сон душы, і тады страх пахавання пад зямлёй і самотнай магілы на кладах адступаў, хаваўся за ілюзію бясконцага працягу існавання ў нейкіх іншых і недасяжных сферах. Хоць чалавек яна была не рэлігійны, аднак усё ж малілася іншы раз нанач за дачку і ўнучку і адчувала ўласную залежнасць ад нейкай вышэйшай сілы, якая ахоўвала яе на працягу жыцця ды і цяпер яшчэ аберагае і дае магчымасць існаваць на гэтым свеце.





**Таццяна ЛАШУК**

# ДЗЕЯСЛОЎ СЭРЦА

* * *

О, колькі ж вершаў пра каханне
Сплялі з Адамавых часоў:
А сэрца дзеяслоў рахманы
Баіцца гучных галасоў.

Няхай яны кідаюць словы,
Няхай на ўвесь Сусвет крычаць —
Няма таемнасці у мовы:
Глядзець, кранацца і маўчаць...

## ДЖУЛЬЕТА

Спявай, мая салоўка, для мяне:
Спявай, пакуль не звяжа плод шыпшына.
О лета, ты жыццё ў хуткім сне,
У гэтым сне сумленне саграшыла.

О сонца, не свяці у твар каханых
І зберажы цішком паўзмрок салодкі.

---

*__Лашук Таццяна Ігараўна__ нарадзілася 27 лютага 1983 года ў горадзе Лідзе Гродзенскай вобласці. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы (2006), магістр гістарычных навук (2007). Цяпер працуе настаўнікам гісторыі. Піша прозу, публіцыстыку, паэзію. Перакладае з англійскай мовы паэзію Т. Уаета, К. Расеці, А. Тэнісана.*

*Друкавалася ў часопісах «Нёман», «Маладосць», «Поколение», «Смена», газетах «Літаратура і мастацтва», «Знамя Юности» і інш. Аўтар кнігі «Стрела, запущенная в вечность» (у суаўтарстве з Н. Алеевай) (2017).*

*Пераможца абласнога літаратурнага конкурсу «Песняры зямлі Гарадзенскай (2015), фіналіст міжнароднага літаратурнага конкурса «Мгинские мосты» (Санкт-Пецярбург) (2016), лонг-лістар міжнароднага літаратурнага конкурсу «Волошинский сентябрь» (Феадосія) (2017), лаўрэат III Міжнароднага фестывалю-конкурсу паэзіі і паэтычных перакладаў «Берега дружбы» (2018).*

Прырода ноччу ім спявала калыханку,
І дазваляла ранкам вуснаў дотык.

Спяшайся, любы: заспяваў жаўрук —
Дурны спявак, што клікае расстанне.
Апошні позірк, за дзвярыма грук:
Ляці хутчэй, і зло нас не застане.

Я буду помніць, памятай — Джульету:
Імя ёсць постаць, бачны успамін.
Паклічаш ты — і на ускрайку свету
Я адгукнуся  голасам жывым.

## ЖНІВЕНЬ

Верасень рыжы
Прызначыў сустрэчу.
Напоены сонцам,
Хінецца сланечнік.
Лета сыходзіць,
Туман на раллі:
Адзіны парыў —
Засынаць, да зямлі.
Не верыцца сэрцу:
З маёй галавы
Ляціць павуціннем
Волас сівы.

## ЛЯЛЬКА

Лялька сядзіць пад люстэркам,
Звесіўшы ногі з паліцы:
Блакітныя вочы, ружовыя вусны,
Далонькі ляжаць на спадніцы.
Калісьці была ў пашане
І словы магла вымаўляць.
Цяпер гаспадыня спяшаецца
Ў дарослыя гульні гуляць.





Алесь ВЕТАХ

# ДВА АПАВЯДАННІ

## Мюзікл

Пасля таго, як важная асоба, а дакладней, начальнік мясцовага маштабу, публічна зганьбіў і спляжыў усё што мог, Фелікс Чартковіч, галоўны рэжысёр гарадскога тэатра «Тутэйшыя лялькі», вырашыў актывізавацца, каб выправіць становішча да лепшага. Ён ужо двойчы пракручваў учарашняе выступленне чыноўніка, якое таемна запісаў на дыктафон, падараваны яму на пяцідзесяцігадовы юбілей слаўным і нязменным памочнікам Сцяпанам Касачом. Пафас выступоўцы гнеўна лупцаваў па сутулых плячах яго, мясцовага тэатральнага бога:

«…І скажыце мне, не віляючы хвастом, што гэта ў вас тут, мякка кажучы, за рэпертуар? Як вы можаце, Фелікс Мартынавіч, спакойна пазіраць на мяне такімі нявіннымі шклянымі вачыма? Вы тут адну забугоршчыну ставіце, восемдзесят працэнтаў займаюць спектаклі па замежных аўтарах. Вось вытрымка з аналітычнай даведкі. “Кот у ботах” — пераклад, “Дзюймовачка” — пераклад, “Снежная каралева” — таксама чужое, “Салдат і Прынцэса” — не нашы, хоць забіце мяне…

Сёння, таварышы, у нашым тэатры павінна быць наадварот: трэба даць дарогу сваім аўтарам, ставіць не архаіку, нафталінавых андэрсенаў, а новае, суперсучаснае — тое, што забяспечыць аншлаг, прыбытак, і вы зможаце перайсці на самаакупнасць. Скажыце, калі ласка, няўжо вы і папраўдзе думаеце, што сучасным дзеткам хочацца глядзець на гэтую няшчасную ліліпутку Дзюймовачку і наіўнага Кая, які чорт ведае чаго румзае, румзае… Трэба даць супергерояў высакародных і прыгожых, але сваіх, родных. Вы ж назве тэатра

---

*__Алесь Ветах (Бельскі Алесь Іванавіч)__ нарадзіўся 23 ліпеня 1963 года ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці.*

*Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1986). Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. У 2000—2002 гг. узначальваў лабараторыю літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. З 2001 г. адначасова — галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура».*

*Выдаў кнігі прозы «Ружовая знічка» (1994), «Хроніка смутку» (1999). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (2000).*

*Выступае як літаратуразнавец і крытык.*

павінны адпавядаць — “Тутэйшыя лялькі”. Чаму вы не праявілі ніякай творчай ініцыятывы, таварыш Чартковіч?.. Ці мне ў сцен пытацца?..»

Гэтыя гнеўныя словы стрэламі ляцелі на галоўнага рэжысёра, які сядзеў здранцвелы, але, калі ўсё ж дапяў, што звяртаюцца да яго, машынальна націснуў кнопку дыктафона, і далей таму запіс перапыніўся. Але Фелікс Чартковіч і так памятаў той дыялог да апошняй драбніцы, аналізаваў яго, быццам урок над памылкамі. Галоўны рэжысёр, здаецца, нікога і нічога больш не бачыў перад сабой, апрача начальніка ўпраўлення: ні паплечніка Касача, ні акцёраў трупы; ён з вінаватасцю і пакораю крыху схіліў галаву на левае плячо і, нібы з сорамам, прыплюшчыў сваё правае вочка з сутаргавай вейкай.

— Дазвольце як бы патлумачыць, — ледзь выдыхнуў Фелікс Мартынавіч, які паспрабаваў ні то апраўдацца, ні то нават запярэчыць: — У нас на сёння існуе дэфіцыт якасных сучасных п’ес-казак, а гэта ўсё ж класіка, хай сабе і замежная. Ды і па-беларуску персанажы гавораць.

Аднак было відаць, што такое тлумачэнне прыйшлося не даспадобы абласному куратару тэатраў, які адразу кінуў на галоўнага рэжысёра знішчальны позірк. Таўсмаценькі і пульхны, як Віні Пух, чыноўнік спыніў Чартковіча і ўпэўнена зноў рынуўся на яго ў атаку, каб той лепш зразумеў, як раней сказалі б, «лінію партыі»:

— Вы проста змірыліся, што на вашай сцэне дзесяць з гакам гадоў топчацца нетутэйшы кот у ботах.

Фелікс Чартковіч стаяў, як бедны коцік-пагарэлец з казкі Маршака, моўчкі слухаў чыноўніка, яшчэ ніжэй схіліў галаву да свайго апалага пляча, а нос яго зазіхацеў пунсовасцю, як у блазна, і цяпер яму без грыму можна было выходзіць на сцэну і пацяшаць дзетак. І тут на галоўнага рэжысёра сышло ні то азарэнне, ні то ў ім абудзіўся інстынкт самазахавання. Фелікс Мартынавіч выразна і ясна зразумеў: не варта тут гаварыць разгорнутым тэкстам, нешта тлумачыць ці, крый божа, спрачацца, бо, галоўнае, трэба мець вытрымку, каб слухаць думку начальства, і гэтак, як у мінулыя часы, сказанае неабходна адназначна ўспрымаць як загад да выканання і больш нічога не застаецца, як кінуцца подбегам, «задрав штаны за комсомолом», браць пад казырок, стукаць абцасамі, прысягаць у вернасці. Ён, Фелікс Чартковіч, умацоўваўся ў перакананні, што чалавек у любой структуры павінен быць цішэй вады, інакш кажучы, паслухмяным — так, як, да прыкладу, Сцяпан Касач. Галоўны рэжысёр жадаў, каб усе побач прытрымліваліся яго правіла: «Будзь з намі — і ўсё будзе добра». А таму не любіў, калі на сходах трупы нехта яму пярэчыў, заўсёды гневаўся, калі вытыркаўся пэўны «экзэмпляр» і даводзіў нейкую там думку. Ён ведаў, што пазней, пры размеркаванні роляў ці іншай зручнай нагодзе, зробіць так, каб сёй-той тонка адчуў, хто гаспадар становішча. Адчуў, усвядоміў раз і назаўсёды.

Магчыма, Фелікс Мартынавіч хацеў у вачах трупы хоць на момант паказаць сваю значнасць і незалежнасць, але гэта ў яго не атрымалася, бо трэба было максімальна захоўваць субардынацыю, лаяльнасць, рабіць заклапочаны выгляд. І таму, каб застацца хоць якім лялечным начальнікам, ён не пярэчыў, не сумняваўся, не вагаўся, нават, здаецца, не дыхаў. Чартковіч стаяў у непарушнай маўклівай адданасці, наталяў свой інтэлект і ўзбагачаўся светапоглядна, бо ідэя, агучаная на агульным зборы трупы, павінна стаць яго ўнутранай страсцю.

Галоўны рэжысёр нервова пагойдваўся ў чорным офісным крэсле, якое прагіналася ад напорыстых апалых плячэй, прагна запампоўваў у сябе цыгарэтны дым, быццам наркатычны дурман. З боку зірнуўшы, можна было паду-

маць, што гэтага бедалагу апаноўвае трапічная ліхаманка ці калоцяць нейкія злыдні. Чартковіч практычна не кантраляваў сябе, дрыготкімі рукамі інстынктыўна схапіў са століка попельніцу, падскочыў і пачаў бегаць з ёю па цёмным пакоі кубічнай формы. Пасля здрадлівых і пакутных шуканняў, унутранай калатнечы прыйшло супакаенне, з’явілася апантанасць новай ідэяй. Ідэя гэтая хоць і рэвалюцыйная, але простая ў сваёй геніяльнасці: хопіць Даній, Англій, Швецый з іх старамоднасцю, а давай на сцэну сваіх эпахальных казачных герояў. І як яму, Феліксу Чартковічу, не пагадзіцца з гэтым.

Яго страсць, яго любоў і жыццё — тэатр. Скажаце, гучыць дужа пафасна, прэтэнцыёзна і збіта, маўляў, гэта ўсяго банальны штамп і ні больш таго. Прабачце, але для Фелікса Чартковіча гэтая тэза можа выліцца ў цэлую кнігу-споведзь. Ён вучыўся ў вядомых рэжысёраў, марыў пра сапраўдны драматычны тэатр, але, на вялікі жаль, усё склалася не так, як жадалася. Ён не займеў папіхача, не сустрэў уплывовага дабрадзея, як іншыя, больш паспяховыя і амбітныя, а сапраўдная кар’ера не бывае з’явай выпадковай і падоранай за прыгожыя вочы. Ды і аблічча Фелікс выдаўся так сабе: і не жахлівы, але і не жарэбчык-красун ці казачны прынц, а таму, мабыць, розных начальнікаў не ўражвала яго дробная, як гарбуз у засушлівы год, галава і маленькія мышыныя вочкі. Бегаў, як хлопчык, у асістэнтах, і толькі вось як год яму «выгараў» мясцовы тэатр лялек. Здавалася, трэба было без падказкі і бізуна разгарнуць бурную дзейнасць па абнаўленні рэпертуару, але ён сам вінаваты, лічыў сябе абавязаным старому рэжысёру Рабухіну, а таму быў скаваны спадчынай гэтага, як ён называў за вочы, мастадонта. За год на пасадзе Чартковіч адчуў, як набрала вагі яго раней сціплая асоба: інтэрв’ю, прэзентацыі, фуршэты, банкеты… Хтосьці да яго з хітрынкай падкочваўся, нехта пачынаў поўзаць на каленях ці чэраве, выпрошваючы галоўную ролю. Ад яго, Фелікса Чартковіча, цяпер залежыць, каму быць прынцэсай, а каму жабраком…

Галоўны рэжысёр ва ўсёй строгасці свайго рэалістычнага выгляду паўстаў перад трупай праз тыдзень пасля сустрэчы з начальствам па тэатрах. Неяк інстынктыўна вушы Чартковіча варухнуліся (а гэта той умеў рабіць з дзяцінства), ён унурыў малую галаву ў худыя і зняможаныя рэжысёрскай ношай плечы. Чартковіч узышоў на падмосткі рашуча і ўпэўнена, пачаў гаварыць сурова і грозна, як вялікі начальнік і маленькі злосны мафіёзі:

— Хопіць, нагуляліся! Ёсць адзіны прыярытэт — наша казка, яго і будзем трымацца. Мы паставім суперсучасную рэч — мюзікл. Паглядзіце, з якім зайздросным поспехам дзіцячыя мюзіклы ідуць у нашых суседзяў. Музыка, песні, скокі… Бацькі з дзецьмі штурмуюць тэатральныя касы. Мы таксама маем магчымасць паставіць мюзікл нашага сучаснага аўтара. Віншую ўсіх, паколькі паабяцана адпаведнае фінансаванне.

— Пагатоў, поспех будзе вялікі. Грандыёзны. Я вам кажу, — з цвёрдай упэўненасцю прамовіў памочнік галоўнага рэжысёра Касач, які заўсёды падхопліваў любую прапанову свайго начальніка, дагаджаў яму, як хітры ліс.

Не ўтрымалася і падала голас Таццяна Званец, загадчык літаратурнай часткі:

— Я хоць і не лічу сябе спецыялістам у музычна-эстрадным мастацтве, але ўсё ж думаю, што ў пастаноўцы мюзікла ёсць свой рэзон. На маім стале зараз ляжыць рукапіс цудоўнай п’есы «Мы едзем у Афрыку» маладога паэта Зміцера Квіткевіча. Дзеці асабліва любяць экзотыку, дзе пальмы, папугаі, кракадзілы. Калі гэтую п’есу прапанаваць кампазітару на прадмет стварэння мюзікла, то…

— Стоп-стоп! Ніякіх больш афрык, аўстралій і японій. Вы, шаноўная Таццяна Маркаўна, можаце ехаць хоць у Афрыку, хоць у Егіпет і Гамбург адначасова, а мы рухаемся з строга вызначанымі прыярытэтамі.

Калі трупа збіралася без самага высокага начальства, то ніхто не любіў доўгіх прамоў, атмасфера неўзабаве рабілася свабоднай і нязмушанай, бо вядома, што сярод акцёраў ёсць марыянеткі, але нямала вольналюбівага люду. Чартковіч, нягледзячы на свае звышпрэтэнзіі на тэатральнага гангстара, усё ж такі пакуль не дацягваў да ўсёмагутнага сеньёра Карабаса Барабаса. Хутка пачаўся самы сапраўдны спектакль, але больш падобны да балагана: хто хацеў, той і ўстаўляў свае тры грошы, нехта, не даслухаўшы іншага, падымаўся і гаварыў, што думаў наконт новай пастаноўкі.

— А ці якасны ў мастацкіх адносінах тэкст? Што там нам прапаноўваюць? — з недаверам выгукнуў малады акцёр Дзяніс Кавальчук, нібы прыспешваў галоўнага рэжысёра, каб той хутчэй прасвятліў інтрыгу вакол спектакля.

Гэтая «дэмакратыя» не надта была цяпер даспадобы кіраўніку тэатра лялек, які звысоку і нават з грэблівасцю глядзеў на давераны яму калектыў. Гэтае зборышча бачылася Чартковічу неўтаймаваным звярынцам.

— У нас гукаўзмацняльная апаратура старая, дапатопная. Як можна дамагчыся якаснага ўзнаўлення запісу? Тут жа дзве ці дзве з паловай гадзіны музыка павінна гучаць. Хай сабе «нулёўка» будзе на ўсе сто зроблена, але калі з дынамікаў пачне, як і раней, грымець, грукатаць, то мы ўсіх дзетак, як прусакоў, распудзім, — разважаў, гугнявячы крыху пад нос, гукарэжысёр Віталь Журавель.

Падхапілася імпульсіўная Маруся Кароўкіна, якая пры Чартковічу ўрэшце атрымала ў тэатры першую значную ролю — лісы Алісы. Яна, заломваючы артыстычна рукі, зрабіла колькі таемных жэстаў, як чараўніца, і прамовіла свой маналог так, што цяжка было зразумець, ад сябе яна гаворыць ці ад нейкай гераіні:

— Я буду маліцца за поспех гэтага мюзікла. У нас, таварышы, ставіцца казка пра чорта. Д’ябальшчына ў тэатры не адзін год — аж страшна жыць. А што гэта за пісьменнік! Я нядаўна ў вячэрняй газеце прачытала, што ён бязбожна піў. Алкаш няшчасны! Які гэта прыклад для нашых дзяцей?

— Выганім і чарцей, і ведзьмаў, і ўсіх варожых элементаў. Не бойся, Маруся! — беручы на сябе адказную місію, з велічна-спакойным выразам твару і сцвярджальным імпэтам сказаў Сцяпан Касач.

Галоўны рэжысёр Чартковіч стаяў на сцэне ў зале перад трупай, як бедная сіротка, і не ведаў, як хоць аднаму з гэтых гаваруноў заступіць дарогу. Тут увесь прысутны люд, як быццам згаварыўся, пачаў скандзіраваць:

— Аўтара! Аўтара!

— Дык вы ж слова не даяце сказаць, — пакрыўджана, амаль як дзіця, прамовіў галоўны рэжысёр. І працягваў: — Ён наш. Аўтар ідэі, слоў і музыкі — вядомы ўсім нам Уладлен Бязлапкін.

— Ведаем, чулі. Пагатоў, толк будзе! — ні то пацвердзіў шырокую вядомасць Бязлапкіна, ні то ўжо вітаў аўтара, ухваляючы ягоны твор, Сцяпан Касач.

— Праўда, шаноўны Уладлен Эдуардавіч сёння не змог прыехаць да нас са сталіцы. Выбачаўся, прасіў перадаць, што ён мусіць вырашаць неадкладныя справы, — патлумачыў галоўны рэжысёр тэатра. Пасля працягваў: — З аўтарам мы пастаянна трымалі сувязь, падключыліся да ліставання праз інтэрнэт. Нават, прабачце, ноччу спакою адзін аднаму не давалі. Пазіцыі

ўзгоднены, наш шаноўны аўтар цалкам задаволены. Скажу шчыра: узнікла толькі невялічкая дыскусія наконт назвы.

— Назву, назву… — пачулася скандзіраванне, падобнае да таго, калі на праглядзе матча заўзятары з усёй страснасцю заклінаюць «сваіх» закінуць шайбу ў чужыя вароты.

І слова галоўнага рэжысёра тэатра, быццам шайба, паляцела ў асяродак добра вядомай яму публікі, каб прабіць «браму» калектыўнага розуму.

— Тая, пад якой мы будзем ставіць мюзікл у тэатры, гучыць так: «Казлы — сябры марсіян». Гэтая назва «страляе», інтрыгуе, калі хочаце, канцэптуальная ў ідэйным плане, а, галоўнае, яна — кідкая, запамінальная, будзіць дзіцячае ўяўленне. Першая, на мой погляд, была досыць празаічная, нейкая па-беларуску дужа сціплая, нават прыземленая: «Казлы ў агародзе». Сюжэт: нашы тутэйшыя баявыя і доблесныя казлы, як гарэзлівыя чэрці-праныры, насуперак розным перашкодам ляцяць на Марс, каб выратаваць там зняволеных насельнікаў планеты.

— А мо лепш назваць інакш — «Казлы ў натуры»? — выгукнуў з месца Дзяніс Кавальчук у кідкім белым швэдары, і ў гэтую бель Чартковічу адразу захацелася пэцкнуць чорнай-чорнай ваксай.

— Назва ў нашым варыянце прымальная. Вы, спадар Кавальчук, не іранізуйце. Усё вырашае трэці тайм — у тэатры, як у спорце. Не забывайце пра гэта, — асадзіў яго галоўны рэжысёр, робячы хітры, але досыць зразумелы намёк на яго перспектывы ўдзелу ў будучым спектаклі.

— Што вы, Фелікс Мартынавіч, я і не думаў назву перакручваць. Проста дбаю пра касавы поспех мюзікла.

— А мне здаецца, што вы тут самы вялікі разумнік! — з гняўлівасцю сказаў кіраўнік тэатра.

Пачухаўшы свой баранчык на галаве, Сцяпан Касач. кінуўся галоўнаму рэжысёру на дапамогу з важкай падтрымкай. Ён дакладна адчуваў, дзе і калі павінен падаць голас, зрабіць патрэбную ўсмешку ці проста артыстычна махнуць рукой у знак згоды са сваім патронам. На дзіва, Касач на гэты раз разважаў, і магло падацца, што ён здольны іграць нейкую самастойную партыю і нават мець уласную думку:

— Мы стэлефаноўваліся з Феліксам па некалькі разоў на дзень, учора сядзелі, абмяркоўвалі. У нашага галоўнага, скажу шчыра, ёсць нюх, тонкае чуццё. Назва абсалютна не выклікае пярэчанняў. Яна — зарука поспеху. А што датычыць варыянтаў, дык і ў мяне фантазія працуе. Магло б на афішы быць і такое: «Казлы на Марсе».

Пасля гэтага маналогу зноў пачуўся голас маладога акцёра трупы Кавальчука. Дзяніс, быццам цікаўнае і дапытлівае дзіцё, чапляўся на гэты раз да Сцяпана Касача, памочніка пастаноўшчыка мюзікла.

— Прабачце, але мяне міжволі даймаюць два пытанні. Дзе ўсё ж такі адбываюцца асноўныя падзеі: на нашых абшарах ці на Марсе? Наогул: а ці ёсць жыццё на Марсе?

Касач не паспеў хутка зрэагаваць на прамоўленае. Пачуўся раздражнёны голас Чартковіча:

— Не трэба выходзіць за межы нашай кампетэнцыі. На гэтыя пытанні хай адказваюць філосафы, астролагі, тэолагі. Пад такой фармулёўкай вырашэнне спектакля можа адбыцца, змест у дадзеным выпадку не можа быць для нас галоўнай праблемай.

Фелікс Мартынавіч адчуў, што трэба браць уладу ў свае рукі, весці рэй і рэалізоўваць свой сцэнар мерапрыемства, прысвечанага прэзентацыі мюзікла

Уладлена Бязлапкіна. Галоўны рэжысёр страсянуў галавою, і можна было падумаць, што ён зараз пяройдзе да спеваў. Насамрэч Чартковіч пачаў гаварыць гучна, без аніводнага збою, як вопытны дэкламатар:

— Папросім нашу вельмі шаноўную Арыядну Герасімаўну прайграць першую вясёленькую песеньку, і я думаю, вы пераканаецеся, што ўва ўсіх нас будзе па пяць ці шэсць «за» адносна спектакля. Гэты мюзікл адкрые тэатру лялек новае дыханне. Мы зацвердзім у нашым горадзе мастацтва еўрапейскага ўзроўню.

Арыядна Герасімаўна, жанчына немаладога веку з бэзавага колеру валасамі, села паважна за раяль, разгарнула партытуру і кінула ў залу: «Песенька марской свінкі». Яна гарэзна, імпэтна пачала барабаніць пальцамі па чорна-белых клавішах і спяваць:

Вам, рабяты, гавару, гавару:
Хру, хру, хру! Я не п’ю і не куру!
Ем лімоны, абрыкосы, вішні і какосы…

У гэты момант Фелікс Чартковіч замахаў рукамі, з абурэннем спыняючы «бэзавую» жанчыну.

— Арыядна Герасімаўна! Я вас прасіў пазнаёміць з іншай песенькай — козліка-гарэзы.

— Так, гэта каронны нумар мюзікла, — з веданнем справы пацвердзіў Сцяпан Касач.

Арыядна Герасімаўна сумелася, незадаволена паціснула плячыма, і, не маючы намеру нешта тлумачыць, адгарнула колькі лістоў партытуры, і зноў пачала граць ды спяваць:

Жыў у дзядулькі шэранькі козлік.
Ой-ля, ой-ля, чух, ля-ля-ля!
Дзядулька на козліка шчыра дзівіўся:
Спрытна і моцна ён рожкамі біўся.
Плакалі дзеці, кошка і мышкі,
Стрэлілі колы ў новай машынцы…

— Стоп-стоп! Дзякуем, Арыядна Герасімаўна. Часу і так патрачана шмат, сёння мы ўжо заседзеліся, хутка зоркі на небе заблішчаць, — пачаў згортваць тэатральную сходку галоўны рэжысёр.

Аднак перад Чартковічам зноў узнік белы швэдар. Дзяніс Кавальчук гаварыў напорыста і хутка, суняць яго было немагчыма:

— Выбачайце, але мяне апаноўваюць сумненні. Першае: дзе вы чулі, каб марская свінка «хрукала»? Можа, лепш за ўсё, каб у п’есе была звычайная белая ці рабая свінка, і няхай яна сабе рохкае. А хіба гэта не дзікі тэкст, пазбаўлены моўнай чуйнасці: «Вам, рабяты, гавару, гавару…»?

Недзе там, на сподзе душы-вулкана Чартковіча, заклекатала магма і гарачай хваляй абурэння рынулася на паверхню:

— Вы чуеце толькі сябе. Той тэкст не абмяркоўваецца. Мы ўсе з захапленнем слухалі песню пра козліка, і ніхто, падкрэсліваю — ніхто — не выказвае ніякіх прэтэнзій. Што вам карціць?

— Вось-вось, трэба гаварыць пра іншае, — звінеў у падпеўцы голас Сцяпана Касача. — Творчая ўдача аўтара — навідавоку. Козлік — адна пацеха — наш. Асабліва дасціпна паказана, як ён, гарэзнік, поркае колы ў дзедавай іншамарцы.

Праз паўгадзіны разышліся акцёры, грымёры, мастакі і іншы люд, без якога няма тэатра і яго жыццёвага руху. Толькі Чартковіч і Касач яшчэ доўга

сядзелі за зачыненымі дзвярыма і надзяляліролямі трупу. Як можна здагадацца, Дзянісу Кавальчуку не выпала нават маленькая роля.

Фелікс Чартковіч задаволена пасміхаўся і паціраў маленькія рукі:

— Вось мы, Сцёпчык, і зрабілі яго ахвярным казлом.

— Так-так, праведны наш. Ты караеш, як маланкай Зеўс і каменем Каін. Хай ведаюць гэтыя скамарохі і няўмекі, з кім маюць справу.

— З намі Бог, і ён хоча, каб мы з табой былі рэжысёрамі гэтых жывых лялек. Наш мюзікл — рэвізія мастацтва, нават рэвалюцыя. Мастацтва, як кажуць, патрабуе ахвяр. Я пераканаўся: патрэбна, ой як патрэбна, асенізацыя і пуга. Каб баяліся...

## Залатоўка

Цётка Тэрэза, як толькі ўбачыла суседскага сына ў прыгожай вайсковай форме, дык адразу ацаніла яго вартасці, паклала на гэтага шчасліўчыка, што на днях вярнуўся дахаты, сваё пільнае практычнае вока: ага, вось ён, абраннік для яе дачушкі. Можна сказаць, прынц на белым кані.

Валодзька Саладуха прыйшоў з вайсковай службы з трыма лычкамі на пагонах, гэта значыць, сяржантам. Да таго ж быў гвардыі сяржантам, што дадавала асаблівага гонару. Дэмбельская парадная форма дэсантніка сядзела на ім зграбна, глядзелася ніколькі не горш, чым выхадны касцюм якога-небудзь маёра ці нават палкоўніка. Вока спрактыкаванага вайскоўца (да прыкладу, у патрульным нарадзе, якога па дарозе дамоў як агню баяўся Валодзька) адразу вызначыла б, што гэтая «парадка» нестандартная, не адпавядае строгім патрабаванням да нашэння салдацка-сяржанцкай формы, паколькі яна з тканіны для афіцэрскіх мундзіраў. Ох, пабачыў бы Марк па мянушцы Мадэльер — іхні капцёр і падпольны шавец-віртуоз — як фарсіў-красаваўся ў сваіх Кабыльчыцах сяржант Саладуха! Яго «парадка» адмысловага пакрою, сшытая спецыяльна на «дэмбель», надзвычай захапляла вясковых падлеткаў, кожны з якіх марыў-жадаў быць вось такім жа вабным і незвычайным салдатам, для якога, напэўна, скочыць з парашутам — тое, што і сплюнуць. Яшчэ два гады таму Валодзька быў на выгляд звычайны юнак — хударлявы, нават крыху сутулы, а цяпер дзякуючы вайсковай службе і форме дэсантніка ён паўстаў у вачах вяскоўцаў, і найперш дзяўчат і суседкі цёткі Тэрэзы, як сапраўдны прыгажун, хлопец-зух! На галаве — крута задзёрты блакітнага колеру берэт з зоркай-кукардай, на светла-зялёным кіцелі блішчэлі залацістыя гузікі, у яго разрэзе пад шыяй заварожвала бела-блакітная цяльняшка, з правага боку звісалі, як спелыя гронкі, жоўтыя аксельбанты.

Цётка Тэрэза, як толькі падумала, што Валодзька будзе ўдалым жаніхом, дык адразу і засумнявалася, ці годная гэта партыя, ці той гэта прэтэндэнт на руку яе Караліны. Шлюб — гэта ж не жартачкі, не гульня ў бірулькі, ад яго лёс залежыць іхняй з Юзафам адной-адзінюсенькай дачушкі. Яна найдаражэйшая для Тэрэзы Адамаўны, больш чым на вагу золата, як і для кожнай сапраўднай маці, што хвалюецца за долю, будучыню сваёй роднай крывінкі. Да таго ж Караліна не абы-якая кветка-ягадка, а належыць да заможнай сям'і, яна шляхетнага паходжання: дзед па маці калісьці за даўнім часам валодаў маёнткам, сябраваў са знатнымі панамі, а дзед з бацькавага боку вучыўся ў Віленскім універсітэце, працаваў пісарам у банку. Цяжка сказаць, як дачка, а Тэрэза Адамаўна Лісіцкая ведала сабе цану, хоць і не выхвалялася сваім родам. Як толькі савецкі час перакуліўся і надышоў новы, немаведама які, і загаварылі

пра шляхту, Сапегаў і Радзівілаў, то пані Лісіцкая выпрастала плечы і панесла нос вышэй за плот. Цяпер яна з вялікім гонарам, як пава, распушыўшы хвост, хадзіла па вёсцы, адчувала сваю нейкую выключнасць, перавагу над гэтымі сялянкамі і іх мужыкамі. Але ж гаворка не пра раптоўнае ўзвышэнне Тэрэзы Адамаўны, а пра тое, як яна апусцілася на грэшную зямлю. Апусцілася таму, што яе даймала жыццёва надзённая, наспелая і нават пераспелая праблема — як выдаць Каралінку замуж, каб тая, крый божа, не звекавала ў дзеўках. Ведала: жаніцьба хутка загасіць плёткі і абгаворы, што дачка Лісіцкіх нікому не патрэбная, бо цыбатая, як антэна, даўганосая, няўклюдная, маўляў, на яе воўк у галодны год не паквапіцца. Хай сабе не красуня, але і не рабая, не касая, не глухая, не сляпая. Затое адукацыю вышэйшую мае, настаўніцай у школе працуе, працавітая, хатняя, бо ад бацькоў ні на крок. А калі Караліну прыпудрыць, навесці манікюр і яшчэ сякія-такія таемныя цуды касметолагам зрабіць, то будзе яна нічога сабе, можа, нават сімпатычная. Ды і хлопцы на яе шляху пракідваліся, значыць, не шарахаліся, быццам ад пачвары якой. Раней, калі вучылася ў Мінску, нібыта хтосьці ў яе там быў, але, мярзотнік, падмануў бедную дзяўчыну. Караліна быццам наўмысна валынку цягнула, нават пальцам не зварухнула, каб хтосьці ў яе бок паглядзеў. Што тут казаць, Тэрэзе са сваім Юзафам нясцерпна хацелася займець, як і ўсім добрым людзям у іх веку, унукаў. Даводзілася толькі зайздросціць іншым і чакаць жаданай гадзіны «ікс». Але дзе ж тое шчасце для Каралінкі падзелася, за які цёмны бор схавалася? Пажадана было, каб яна пайшла за багатага, але паколькі такога варыянта ў блізкай перспектыве не прадбачылася, то даводзілася на многае не разлічваць. І вось перад зайздроснай і прагматычнай шляхцянкай Лісіцкай паўстаў доўгачаканы рэальны вобраз жаніха. І гары яно гарам, што гэты экзэмпляр не блакітнай крыві, а сын трактарыста Цімоха Саладухі, то хай сабе, сёння гэта не галоўнае. Важна тое, што малады, прыгожы, здаровы, яшчэ, мабыць, не такі сапсаваны, як іншыя. Інтуіцыя падказвала Тэрэзе-маці, што марудзіць цяпер нельга, сеткі трэба як найхутчэй закідваць, каб гэтым разам улоў быў пэўны і важкі.

— Валодзечка! Ото ж які ты стаў! Пасталеў, памажнеў, зрабіўся як цацачка якая. Красун на ўвесь раён, — не магла нацешыцца Тэрэза Адамаўна, заступіўшы дарогу суседскаму сыну ў вайсковай форме. Яна хітравата ўсміхнулася і далей гаварыла, што мяккай саломкай слала: — Усё табе, Валодзька, надта пасуе, глядзішся ты проста шык. Адзін толькі берэт заліхвацкі дзеўкам галовы ўскружыць! Выглёнд у цябе не раўнуючы, як у генерала. Табе цяперака толькі добрую, ладную дзяўчыну займець трэба і ёю камандаваць. У арміі ты там, бацька казаў, вялікім начальнікам стаў. Так што людзьмі камандаваць умееш.

— Калі шчыра, цётка Тэрэза, камандаваў я мала. Гэта мне пасля вучэбкі сяржанта кінулі, а так я ў штабе дывізіі служыў, там мною больш камандавалі. Але загады аддаваць умею, — праўдзіва і сціпла адказаў сяржант Саладуха.

— Во-во! Слова мужа для жонкі — і загад, і свята. Добрая жонка слухаецца, як паслухмяная нітка іголку ці як жаўнер польскі свайго камандзіра.

Для неспакушанага суразмоўцы, інакш кажучы, маладасведчанага чалавека ў генеалогіі Лісіцкіх, гэтае слова «выглёнд» і выраз «жаўнер польскі» нічога асаблівага не гаварылі б, апрача таго, што яны значаць, але ў вуснах Тэрэзы Адамаўны яны мелі тонкі намёк на шляхетнае паходжанне іхняй сям'і, падкрэслівалі значнасць яе асобы ў гэтым звычайным, нічым непрыкметным вясковым асяродку. Валодзька Саладуха ведаў, што іхнія суседзі «палякі», як тыя сябе называлі, але былі ж гэткія, як і яны: трымалі карову, свіней, качак, з апантанасцю змагаліся на агародах з пустазеллем, рабілі кілбасы і паляндвіцу,

варылі зацірку і капусту. Як там ні было, але Тэрэза Адамаўна агледзела свайго маладзенькага суседа з ног да галавы, яна быццам прыцэньвалася да надзвычай важнай і патрэбнай пакупкі на базары, а таму была прыемна-мяккай, як вясновая травіца, цікаўнай, па-мацярынску чулай і гжэчнай, як яна сказала б. На развітанне Лісіцкая з лагоднай, ветлівай усмешкай запрасіла ў госці:

— Хаты не мінай. Заходзь, Валодзька-сусед, будзе табе і чарка, і скварка.

Яна амаль не прагаварылася пра таемныя карыслівыя намеры, бо ледзь не прамовіла «Калі што, дык зяцем будзеш». Але паспела своечасова прыкусіць свой бабскі язык і, дзякуй богу, не ляпнула нічога лішняга.

— Калі клічуць, ідзі, калі б'юць, бяжы. То чакайце ўвечары, накрывайце стол, — узрадавана, без нейкай прытворнай сціпласці сказаў «блакітны берэт».

Калі б «дэмбель» не быў у стане бесклапотнасці, эйфарыі-свабоды, не страціў «баявую» пільнасць і ведаў, што яму бяруцца сасватаць непрывабную Караліну, хай сабе і настаўніцу, то ён сем разоў адмераў бы, перш чым падацца ў хату да Лісіцкіх. Валодзьку здавалася, што цётка Тэрэза хоча зрабіць прыемнае, прывеціць-пачаставаць яго па-суседску. Але ён, як апошні вахлак, пралічыўся і бяздумна палез у хітра зладжанае сіло.

Мажная Тэрэза Адамаўна, як толькі пераступіла парог, радасна паведаміла:

— Юзаф! Сёння зяця трактаваць будзем. Стол рыхтаваць трэба!

— Зяця? — з доляй іроніі, недаверам перапытаў Лісіцкі, але захацеў удакладніць: — Што, ён з неба зваліўся?

— А ты скуль ведаеш? Віжаваў ці што? Падслухаў, шэльма!

— Што я Шцірліц ці баба Ванга? Жартуеш?

— Дык ты не бачыў, як мы пры хаце з Саладухавым Валодзькам гамонілі?

— Дальбог, не! — усклікнуў Юзэф і шчыра наклаў крыж.

— Гэны Валодзька з парашутам скакаў. Так што ён з неба, лічы, пасланы. Хутка на нашым двары прызямліцца. Вечарам абяцаўся завітаць.

— Ён сваё адскакаў. Калі трэба, праз дзірку ў плоце пралезе. Ён ход да нас ведае.

Валодзька Саладуха і папраўдзе часта ў школьныя гады наведваўся да Лісіцкіх у сад па сакавіты белы наліў і грушы-цукроўкі. І не проста з іхняй згоды, дазволу ці патурання, а менавіта па запросінах-просьбе суседзяў і матчыным даручэнні. Яны імкнуліся такім чынам аддзячыць ягонаму бацьку, які на трактары пастаянна штосьці ім дапамагаў: прывозіў з лесу дровы, пад капалку растрасаў у полі бульбу... Сад Лісіцкіх быў малады і вялікі, і суседзі не шкадавалі тых яблыкаў ды груш. А яшчэ, калі Валодзька не хадзіў у школу, то гуляў з Каралінкай, часта патрапляў да яе праз лаз у плоце. Калі пайшоў у першы клас, то пасябраваў з хлопчыкамі, а непрыгожай Каралінкі пачаў цурацца, пазбягаць. Суседскія дзеці цвялілі яе аглобляй, ды і Валодзьку за дражнілкі некалькі разоў даставалася ад сваёй сярдзітай, угневанай маці добрага прачуханца. Гадаваліся побач, жылі па-суседску, рэдка перакідваліся словам — ні больш таго. Ды і старэйшай яна была на пяць гадоў, раней закончыла школу, паступіла вучыцца на настаўніцу.

Усхваляваная Тэрэза шчыра, як на духу, выклала свой план мужу, а яго, Юзафа Лісіцкага, не менш за жонку непакоіў незамужні лёс іхняй Караліны. План той быў не дужа хітры, нават банальны, скарыстоўваўся ў падобных сітуацыях з даўніх часоў сотні, а мо і тысячы разоў. Старое, лічыла цётка Тэрэза, апрабаванае, а таму надзейнае. Яна прапанавала наступнае:

— Пачаставаць яго гарэліцай як след трэба. Ты толькі сачы і налівай раз за разам. Глядзі толькі, каб сам не назюзюкаўся! — пагрозліва паківала ўказальным пальцам Тэрэза-стратэг. — Усе вы, мужчыны, слабыя перад чаркай і...

— Ну ты, даражэнькая, не абагульняй. Не ўсе! — упэўнена, баронячы сваю годнасць, запярэчыў Лісіцкі.

— І жаночую спакусу перамагчы не можаце. Кожная спадніца вам мазгі так закруціць, што ні пра што не думаеце, глупства ўсялякае робіце. Усе вы чэрці адной шэрсці! — гучна, крыху пагрозліва сказала Тэрэза Адамаўна, даючы зразумець, што пярэчанняў і ніякай палемікі ёй больш не патрэбна. І працягвала: — У войску дзевак ён не бачыў. Думаецца мне вось што: наўрад ці ён каштаваў такія салодкія цукерачкі ў бліскучых абгортачках. Дык пакладзём іх разам спаць. Толькі б гэтая наша краля не выбрыкнула чаго, зрабіла ўсё, як навучаць буду. А на ранку блаславім дзетак да шлюбу.

Яна ўздыхнула, прадчуваючы, што наперадзе іх з Юзафам чакае нялёгкая і адказная справа. І ад таго, як яны сыграюць «спектакль», спрацуюць ужо не на словах, а ў рэальнай сітуацыі, будзе залежаць далейшы лёс Караліны. «Галоўнае, каб вынік быў», — падсумавала яна.

Валодзьку ў хаце Лісіцкіх сустракалі гасцінна, з абдымкамі і пацалункамі, як без пяці хвілін будучага зяця. Не сустракала яго толькі Караліна, якая пасля доўгіх матчыных угавораў і просьбаў пагадзілася на адведзеную ёй ролю. Яна, можна сказаць, схавалася ў засадзе да вызначанага часу, вычэквала, пакуль госць ад выпітага добра захмяляе, дойдзе, як кажуць, да патрэбнай кандыцыі. Яна, пунсовашчокая, сядзела ў новай сукенцы на прыгрэбцы, на дзяжы, усланай старым кажухом. Як без пяці хвілін нявеста. А пра яе, Караліну, сусед Валодзька нават не папытаў, што не магло не пакрыўдзіць гэтых на дзіва шчодрых гаспадароў і ахвярных бацькоў.

Стол ад рознай закусі ледзь не трашчаў. Валодзька смела ўзяўся за стограмовую чарку і больш не выпускаў яе з рук. Раз кульнуў, другі раз, трэці... І пайшло-паехала. Пілі з кароткімі тостамі: за вяртанне Валодзькі з войска, за сустрэчу з суседзямі і за шмат што іншае. Больш за ўсіх гаманіла цётка Тэрэза, хоць смакавала толькі ўласнага вырабу рабінавую наліўку — піла як лекі. Урэшце, голас падаў Юзаф Лісіцкі:

— Скажы мне, Валодзька, каго ты больш за ўсё на свеце любіш.

— Мамку, вядома. У войску ў мяне з’явілася вялікая любоў да сну.

Карыстаючыся момантам, Юзаф Лісіцкі выйшаў на далікатную тэму:

— А ў самаволку да дзевак хадзіў? Бусякоў хоць якой надаваў?

Валодзька хоць і быў на добрым падпітку, але маральны воблік прадстаўніка гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі пакуль трымаў.

— Што вы, я ж не дурны. Чаго ўцякаць? Навошта? Не быў я заклапочаны пошукамі ўцех ды любошчаў. Зімою да таго ж холадна было. Ды не маньяк я нейкі, каб на тых дзевак паляваць.

— От, маладзец! За гэта паважаю цябе як мужыка. Так сказаць, па-бацькоўску хвалю. Давай вып’ем за твае этапы вялікага пуці! — з нястрымнай радасцю і захапленнем выгукнуў дзядзька Юзэф.

Калі чымсьці спрабавалі прыкусіць спіртное, вярнулася ў хату Тэрэза Адамаўна. Яна працягнула Валодзьку штосьці маленькае, бліскучае, ён перш падумаў, што ў яго руках вайсковы гузік, аднак гэта была царская залатая манета, дзесяцірублёўка, або так званы дзесяцярык. Сяржант Саладуха ўпершыню бачыў чырвоную залатоўку з выявай цара Мікалая II. Тэрэза-маці быццам розум страціла, сціснула хлапечыя плечы і горача па-змоўніцку зашаптала над блакітным сяржанцкім пагонам у расчырванелае вуха:

— Валодзька, бачыш, якое багацце. Такіх залатовак у нас з паўсотні, а яшчэ ёсць ладнага паўмяшэчка срэбраных рублёвак. Але галоўны мой скарб — Каралінка. Жаніся з ёй, не пашкадуеш. Усё багацце тваё будзе!

Тэрэза Адамаўна расчыніла акно, і ў пакой хлынуў п’янкі пах бэзу. Яна зноў падступілася да Валодзькі і працягвала гаварыць:

— Хата ў нас новая, вялікая. І вам, і дзецям хопіць. Апішам і хату, і ўсё, што маем. Толькі жывіце дружна, дзеткі, нас радуйце. Мы ж з Юзафам у хату да ягонай маці пойдзем, перабяромся адразу пасля вяселля.

Прыгаломшаны такім паваротам падзей, Валодзька разгублена лыпаў вачыма, і хоць дыхаў гарэлачным духам, аднак, здавалася, рэальна пачаў успрымаць стан рэчаў. Хлопец напружыў усе свае звіліны і моцна задумаўся, не ведаючы, што і казаць. І тут з яго рук выслізнула гэтая злашчасная залатоўка. Яна гулка пакацілася па падлозе. Як па камандзе, усе навыперадкі кінуліся лавіць манетку, быццам маленькае колца ад дзіцячай машынкі. Не паспелі запыніць, і тая закацілася немаведама куды: ці пад шафу, ці ў шчыліну паміж дошкамі, пакрытымі светлым лакам. Поўзалі на каленях, шукалі доўга гэты залаты «гузік», за які хацелі купіць Валодзьку Саладуху. Урэшце ён не вытрымаў і сказаў:

— Хіба што дамоў пайду…

І тут пакой запоўніў істэрычны крык пані Лісіцкай:

— Саладуха! Ты занырнуў манету! Прызнавайся, куды ты яе схаваў? Я так і ведала, на што ты здатны, галадранец. Гані залатоўку!

Валодзька памкнуўся да дзвярэй, але ўзбураная цётка Тэрэза засланіла яму шлях да паратунку, учапілася ў кіцель.

— Юзаф! Хапай вяроўчыну! Вязаць злодзея будзем!

Лямант цёткі Тэрэзы кацiўся грозным рэхам па вясковай вуліцы. Яна ўмомант страціла розум ад страты залатоўкі і шчасця дачушкі. Найперш матчын крык пачула Караліна, зразумеўшы, што ў іхняй хаце здарылася штосьці незвычайнае, анамальнае. Яна падхапілася і стрымгалоў кінулася з прыгрэбкі, а ў гэты момант Валодзька Саладуха, скеміўшы, што трэба ратавацца, правай рукой адштурхнуў ад сябе ўзбураную кабету, разбегся і маланкай сiгануў праз акно пад куст бэзу. Упаў долу, як метэарыт з невядомай планеты.

— Ату злодзея! Лаві басоту!..

Сяржант Саладуха ратаваўся ўцёкамі, ён пабег па вуліцы на ўскрай вёскі, бліжэй да бальшака. Што ж, як кажуць у народзе: вольнаму воля, шалёнаму поле, чорту балота, уратаванаму рай. Праз колькі хвілін Валодзька спыніўся, удыхнуў напоўніцу паветра, агледзеўся навокал і пакрочыў сабе далей. Яго крыху працверазелыя вочы, узмакрэлы лоб і блакітны берэт атакоўвала нейкая гнюсная машкара…





Віктар КУНЦЭВІЧ

# КАЛІ ХОЧАШ, КАБ ШАНАВАЛІ...

*Апавяданні*

## Сашка Барада

Ноччу Сашка Барада прачнуўся ад грукату і рову аўтамашыны, якая прамчала пад вокнамі барака. Хацелася піць. Ён устаў з ложка, запаліў святло. Прагна прыпаў да рыльца пластыкавай бутэлькі. Адсунуў фіранку і пачаў глядзець праз шыбу. У начной цемры ледзьве бачыліся абрысы будынка, які ўзводзіўся, як казалі людзі, нейкім французам пад станцыю тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў. А невысокія горбы тратуарнай пліткі нагадвалі копы сена. Сашка ўжо ведаў, колькі крокаў ад бліжэйшай горбы да парога яго-нага пакоя. Ён ужо даўно надумаў дачакацца цёмнай даждлівай ночы і перанесці па колькі штук плітак з кожнага груда ў сваё жыллё. А потым, склаўшы яе ў скрыні ці мяхі, прадаць аўтааматарам-дачнікам.

Свой пакой у бараку Сашка называў кватэрай. І, мусіць, правільна, бо ацяпляўся пакой стацыянарна, меўся і маленькі пярэдні пакойчык з прыбіральняй. З аплатай жылля ў Сашкі была вялікая праблема: два гады ён так званыя «жыроўкі» проста выкідваў, пры гэтым разумеючы, што і яго самога могуць выкінуць з кватэры на сметнік жыцця. А была калісьці ў Сашкі Барады… не, тады яго называлі Аляксандрам Аршаўскім, — сапраўдная ўтульная кватэра з выгодамі і амаль у цэнтры горада. Былі і жонка з дачкой, і неблагая праца. На грузавічку развозіў Аляксандр хлеб па крамах. Меў добрую зарплату, бясплатны хлеб і булачкі для сям'і. Можна было пры жаданні прыхапіць з хлебазавода лішні латок і прадаць знаёмым. «Левыя» грошы і паламалі Сашкава жыццё. Аднойчы восеньскім ранкам «даішнік», які праверыў дакументы і груз, уважліва ўгледзеўся ў твар Сашкі, спытаўся: «Скажыце, вадзіцель, а вы, напэўна, учора ўжывалі спіртное?»

— Ды як можна? Мне праца не дазваляе, — упэўнена адказаў Сашка.

— І ўсё ж праверым, — прамовіў міліцыянер.

---

*Кунцэвіч Віктар Іванавіч* нарадзіўся 21 сакавіка 1957 года ў вёсцы Чырвоны Бор Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. Служыў у Савецкай Арміі, працаваў электразваршчыкам, шафёрам. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1995).

*Выдаў зборнікі вершаў «Зваротныя масты» (1996), «Горкая спакуса» (1999), «Гул у звоне» (2010).*

*Жыве ў Магілёве.*

Тады пазбавілі Сашку вадзіцельскага пасведчання. І той запіў пасапраўднаму. Жонка з’ехала на радзіму ў Крычаў. А Сашка застаўся адзін у двухпакаёвай кватэры. І адразу паспакайнеў, аціх. Нават кінуў піць і ўладкаваўся на працу. Нават збіраўся ехаць да цешчы, прасіць у жонкі прабачэння. Заставалася толькі дачакацца зарплаты. Дачакаўся. І зноў абрынуўся ў чарговы запой. Цяпер ужо і не ўспомніць, як і калі пазнаёміўся з таксістам па імені Лявон. Высокі ўсмешлівы прыгажун мог у любы час ночы і дня даставіць па тэлефонным званку Сашкі выпіўку і закусь. А калі ў выпівохі скончыліся грошы, прапанаваў такі варыянт: «Я табе пазычаю — ты пішаш распіску, а грошы аддасі, як заробіш». Праз колькі часу Лявон адмовіўся прывозіць Сашку гарэлку і ежу. А калі той працверазеў, патрос перад яго носам стосам распісак і назваў суму, ад якой у Сашкі пацямнела ў вачах. Справа скончылася судом. У выніку Сашка аказаўся ў бараку на ўскраіне горада. Вось тады Аляксандр Аршаўскі стаў Сашкам Барадой, бо з-за п’янак яму не было калі галіцца дый не было чым. Праўда, барада пасавала яму. Дробны і крыху прадаўгаваты твар Сашкі дзякуючы барадзе пакруглеў.

Сашка няспешна апрануўся, пстрыкнуў выключальнікам і выйшаў на ганак. Колькі хвілін ён з задавальненнем удыхаў у сябе свежае, настоенае водарам садовых пладоў, прахалоднае паветра. Быў канец жніўня, і прырода бралася ўжо на восень. Сашка прыкурыў. Ён ніколі не лічыў сябе злодзеем, дый не краў. Ці ж можна лічыць крадзяжом укінуты ў грузавік лішні латок хлеба пры пагрузцы? Дый укідвалі яго грузчыкі па-сяброўску. І яны, і ён ведалі, што дзяржаўнае — не сваё. У дзяржавы часам шмат чаго прападае-выкідваецца. І латок хлеба — гэта кропля.

Сашка кінуў недакурак у траву, потым перайшоў дарогу, набраў з горбы колькі плітак і хуценька занёс у свой калідор. Разоў дзесяць схадзіў Сашка па плітку, а калі клаў у стос чарговую порцыю, з-за хмары вылез месяц, быццам прасачыў: што ж там чалавек робіць каля дарогі. «Згінь, прашу, цябе…» — падумаў Сашка. Месяц нібыта пачуў яго і схаваўся. Яшчэ з дзясятак разоў хадзіў Сашка па плітку, а месяц нахабна выскокваў з-за хмар і зноў хаваўся. Сашка адчуў, што замарыўся, і, вярнуўшыся ў пакой, памыў рукі, зноў прыклаўся да пляшкі з вадой і лёг у ложак. Хутка заснуў. Яму прысніўся сон: каня Орліка спудзіў вялікі чорны сабака, што кінуўся яму пад ногі. Сашка сядзеў у калёсах і цягнуў да сябе з усіх сіл лейцы, але Орлік не спыняўся, імчаў, і толькі белая грыва развівалася, нібыта сцяг. Сашка азірнуўся назад — там сядзеў бацька. Але ён кудысьці знік. Няўжо саскочыў з калёсаў? А конь ужо нёсся па камяністай дарозе. Металічныя абады колаў то звонка звінелі, то глуха стагналі… І тут Сашка прачнуўся і зразумеў, што хтосьці настойліва грукае ў акно і дзверы. Ён устаў, адхіліў штору і ўбачыў незнаёмага мужчыну. Той махнуў рукой да сябе — маўляў, выходзь. «Хто гэта? — падумаў Сашка. — Нешта знаёмае ёсць у твары… Можа, калі выпівалі разам...» Сашка адшчоўкнуў замок і пхнуў дзверы. Яны, рыпнуўшы, расчыніліся. Незнаёмец хутка схапіў Сашку за рукаў швэдра і тузануў да сябе. Хударлявы Сашка, як трэска, падхопленая ветрам, зляцеў з ганка і ледзьве не зарыўся носам у крапіву — і зарыўся б, калі б дзяцюк не ўтрымаў за рукаво. У другой руцэ незнаёмца была гумовая палка. Ён ёю раз і другі перацяў Сашку па спіне. Боль апёк спіну, і Сашка ўпаў на калені, глуха застагнаў. А незнаёмец зазірнуў у калідор, згледзеў плітку і злосна пасміхнуўся. Потым ён сеў на ганак і дастаў з кішэні пачак цыгарэт, закурыў.

— Дай закурыць, — папрасіў, як прастагнаў, Сашка.

— Бач ты яго… — хмыкнуў дзяцюк, але цыгарэту падаў. Крыху памарудзіў — падаў і запальнічку.

— Колькі табе гадоў? — спытаўся незнаёмец у Сашкі, які ўжо ўстаў з каленяў і сядзеў на кукішках.

— Пяцьдзясят адзін.

— Паўвека пражыў, а розуму як у курыцы… Што, так да смерці і будзеш красці?.. Карацей, так, — мужчына ўзняўся з ганка. — Да васьмі яшчэ больш за гадзіну. Мяркую, табе хопіць гэтага часу, каб плітку пакласці на месца. А не паспееш — прыедзе начальства, тады яно хай думае, што з такім прыгажунчыкам рабіць. Незнаёмец няспешна прайшоў па сцяжынцы міма невысокага плота, за якім віднелася зеляніна на градах, прайшоу цераз дарогу, мінуў сцірты з тратуарнай пліткай і знік за вуглом будучага аўтацэнтра.

«От гад, — падумаў Сашка пра ахоўніка, — відаць, ноччу згледзеў, што плітку крадуць, а не спудзіў… Цяпер цягай яе назад». Ён зайшоў у калідор, наклаў у стос плітак, а калі ўзняў іх, каб несці, то адчуў, як боль заскакаў па спіне. Сашка войкнуў, перасмыкнуў вуснамі і панёс плітку праз дарогу. Аднекуль з'явілася суседская сучка Топа і, накульгваючы на лапу, стала хадзіць следам. Сашка, у якога да гэтага часу былі самыя сяброўскія адносіны з падобнай на парася Топай, злосна таўхануў яе нагой, і сучка, здзіўлена віскнуўшы і пакрыўджана падцяўшы хвост, сышла. Урэшце плітка была вернута на месца, і Сашка зноў прылёг на ложак. Боль у спіне аціх, знік у худым Сашкавым целе, але ж заныла і запякло на душы: «Чаму ёсць людзі, якім заўсёды шанцуе, і ім не трэба прасіць ці красці?»

Пад вокнамі барака пачуўся віск тармазоў, потым стукнулі дзверцы. У зашторaным акне барака мільгнуў цень. Сашка ўзняўся з ложка і ў шчыліну між штор убачыў чалавека, які тузаў да сябе ручку дзвярэй. Гэта быў даўні Сашкаў знаёмец Сяргей Абламейка, па мянушцы Аблом.

— Іду! — гучна азваўся Сашка, і Аблом перастаў тузаць дзверы. Зайшоў у пакой, зыркнуў на Сашку выпуклымі вачыма і спытаўся: «Па табе што, гусенічны трактар праехаў?»

— Амаль што, — адказаў Сашка і распавёў пра свае начныя і ранішнія прыгоды. Круглы бліскучы твар Аблома пачаў іскрыцца, нібыта на яго патрапілі сонечныя прамяні. Ён мыляў вуснамі, потым прысеў на зэдлік, склаў рукі на жываце і апусціў галаву. Сашка скончыў аповед развагамі пра нахабны ўчынак ахоўніка. Аблом даў волю рогату, усхапіўся з зэдліка і плюхнуўся азадкам на ложак, адкінуўся на спіну.

— Дурань ты, Сашка, — уволю насмяяўшыся, прамовіў Аблом. — Будоўля яшчэ не скончана, але на ёй вісяць відэакамеры. Ахоўнік спаў усю ноч, а ранкам прагледзеў плёнку і знайшоў цябе цёпленькага... А за тое, што перацяў дубінкай, ты дзякаваць яму павінен, бо, калі б ён выклікаў міліцыю... Ты ведаеш, колькі цяпер каштуе квадратны метр тратуарнай пліткі? Лічы, што ты сухім выйшаў з вады.

— І то праўда, — крыва пасміхнуўся Сашка. — Гэта ўсё з-за таго, што выпіў я ўчора ладнага. Зайшоў да мяне чалавек з пляшкай. От галава мая і не знае, што рукі-ногі робяць... Можа б, ты пахмяліў мяне? — Сашка з надзеяй зазірнуў Аблому ў вочы.

— Дапамога мне патрэбна на дачы. Толькі ж ці зможаш ты сёння працаваць?.. — Аблом задумліва зашкроб пальцамі па лысай патыліцы.

— Ды мне пахмяліцца, і я буду як новенькі, — запэўніў Сашка.

— Тады паехалі, — хітнуў галавой Аблом.

Ужо колькі разоў даводзілася Сашку працаваць на дачы ў Аблома, і яго здзіўляла: якім жа запаслівым быў яе гаспадар. На ўчастку ў штыхах ляжалі блокі, цэгла, пліты. Падстрэшшы ўсіх пабудоў былі ўкоптур забітыя свежай драўні-

най. А каля сцен ляжалі металічныя і пластыкавыя трубы, арматура, вугалкі і швелеры. На ўскраіне сядзібы жаўцела вялікая куча пяску. «Яго навошта запасаць, — думаў Сашка. — Аблом жа працуе на самазвале і амаль штодзённа возіць пясок, вышукваючы па дарозе, каму б загнаць машыну-другую». Мелася на сядзібе і азярцо, у якім сноўдала рыба. З гэтым вадаёмам звязвае Сашку непрыемны ўспамін. Мінулым летам ён і Васіль Дзераш на лецішчы Аблома абразалі сукі ліпы, якую паклала бура. Гаспадар кудысьці з'ехаў. З дома выйшла жонка Аблома — ладная грудастая кабета, спагадлівая і вясёлая.

— Хлопцы, што валэндаецеся «дружбай-два»? Кіньце яе... Я вам прынясу бензапілу.

Дзераш, у мінулым прараб, спрытна чакрыжыў і тоўстыя рагуліны, і дробны друз. Сашка ледзьве паспяваў адносіць. За гадзіну праца была скончана. Сонца пачынала прыпякаць. Дзераш прылёг у цянёк і захрапеў, а Сашка распрануўся, увайшоў у азярцо і пачаў церці мылам грудзі, рукі, галаву… Прахалода вады лагодзіла цела. Ён адчуў, як штосьці слізкае каўзанулася аб сцягно і падумаў: «Напэўна, рыбіна. Вось бы злавіць…»

Раптам нібыта агонь апёк Сашкіну галаву, і невядомая сіла выхапіла яго за валасы з азярца, кінула на бераг. Сашка расплюшчыў вочы, у якіх запякло ад мыла, убачыў злоснага Аблома.

— Ты што гэта, гад, усю маю рыбу захацеў атруціць сваім брудным целам? — шыпеў Аблом. — Спытацца трэба было, дзе можна памыцца. У лазні стаіць поўны кацёл з вадой…

Аблом павярнуўся і пайшоў да Дзераша, які ляжаў каля лазні, убачыў леваруч ад Васіля бензапілу, гучна загукаў: «Галя! Га-ля!!!»

— Што табе!? — у акне з'явілася галава жанчыны.

— Ты здурнела, ці што? Навошта дала гэтым ахламонам бензапілу?! Можа, ужо пашкодзілі яе…

— Я думала, ты забыўся ім яе даць, — пачуўся разгублены адказ.

Аблом узяў з травы пілу, завёў, прагазаваў. Дзераш прачнуўся, сеў, сонна залыпаў вачыма.

З таго моманту жыве ў глыбіні душы Сашкі крыўда на Аблома. І калі б у кішэні была хоць якая капейка, то не паехаў бы Сашка з Абломам. Але ж нутро прагна патрабавала ратавання, таму і крыўда маўчала.

Аблом загнаў машыну ў двор, прыкрыў ветравое шкло прасцінай, выкаціў з пуні матаблок і стаў завіхацца каля яго.

— Сяргей, мне б гэта... палячыцца, — нагадаў пра сябе Сашка.

— А-а, я і забыўся. — Аблом схадзіў у дом, але ж вярнуўся з пустымі рукамі. Дастаў з кішэні грошы і падаў Сашку купюру. — Крама тут непадалёк, ідзі і купі сабе пляшку і цыгарэты, а я тут матаблок пакуль наладжу.

Сашка схапіў грошы, і вось ужо весніцы бразнулі за яго спінай. Дзе знаходзіцца крама, ён ведаў — заязджалі з Абломам мінулым летам. Там уразіла Сашку велічная постаць напаўразбуранай царквы. Пустыя прагалы аканіц і дзвярэй пазіралі на свет сумна і жудасна: «Праз іх, пэўна, душы адлятаюць да неба», — падумаў Сашка тады. Сёння ж ён заскочыў у краму, нават не зірнуўшы на царкву. Ля прылаўка была чарга.

Першым стаяў высокі худы дзяцюк. Прадаўшчыца — поўная белавалосая, з круглым тварам узважвала на шалях цвікі. Адзін цвік скаціўся з шаляў, упаў на падлогу. Сашка падняў яго і паклаў на шалі, прамовіўшы: «Будзеш наліваць».

Калі Сашка выйшаў з крамы, то яго тузануў вецер, а дождж ліў як з вядра. Сашка хацеў кінуцца назад у краму, але падумаў, што там ён не зможа пахмяліцца, і тут убачыў цёмны прагал дзвярэй царквы і пабег да яго.

Унутры было змрочна і ціха. Сашка сеў на выступ падмурка, адкаркаваў бутэльку віна і прыпаў вуснамі да рыльца. Выпіў амаль усю. Задаволена адкінуўся спінай да сцяны і прыпаліў цыгарэту. Адчуў доўгачаканую палёгку і млявасць. Праз колькі часу недакурак выпаў з яго рукі, і Сашка заснуў.

Чалавек, апрануты ў чорнае, крануў яго за плячо. Сашка ўзняў галаву і ўбачыў твар састарэлага мужчыны. Яго лысая галава блішчала, нібыта німб.

— Хто ты? — спытаўся Сашка.

— Я святар гэтае царквы.

— Дзіўна, у цябе няма барады і вусоў і нават галава лысая.

— Што зробіш, валасы ўжо даўно не растуць на маім целе. А ты, сын мой, чаго прыйшоў? Пэўна, хочаш паспавядацца?

— Паспавядацца? — пытаннем на пытанне адказаў Сашка. — Я не ведаю, як гэта робіцца... я ніколі ў жыцці не спавядаўся.

— Няма нічога складанага, — прамовіў святар. — Кажы пра ўсё дрэннае, што зрабіў у жыцці.

Сашка задумаўся. Рукой памацаў сваё падбароддзе, адчуў колкасць валасоў і падумаў, што калі ён адчувае колкасць барады, то не можа спаць. Значыць, напраўду трэба паспавядацца і зняць з душы цяжар дрэнных учынкаў.

— Подлы я чалавек, — ціха, але цвёрда сказаў Сашка. — Я ўтрыманец сваёй старэйшай сястры. Кожную суботу еду да яе па прадукты. І яна купляе мне іх. А ў яе яшчэ і муж — гэткі ж п’яніца, як і я. Я дзіўлюся, адкуль у яе столькі сілы і вытрымкі. Нядаўна мне прыйшла позва з суда. У мяне могуць забраць кватэру, бо вялікая запазычанасць за камунальныя паслугі. Сястра крычала, плакала, аднак пачала сплочваць мой доўг. Хаця мая цяперашняя кватэра так — халупа... Сапраўдную я прапіў, як і дачку з жонкай... прапіў. Мне б пайсці працаваць, але ж хто мяне возьме? Подлы я чалавек...

— Добра, што ты гэта ўразумеў, — сказаў стары. — Цяпер, калі ты выйдзеш з царквы, паглядзі на свет новым поглядам. Пастарайся ўбачыць тое, чаго ты не заўважаў раней. Напрыклад, як блішчыць лісток на дрэве пасля дажджу, як сушыць свае крыльцы на сонцы страказа, як... Што тут доўга казаць. Ідзі, чалавеча, і глядзі. Глядзі і думай. Думай і глядзі. Вось вазьмі на памяць пра нашу сустрэчу.

Святар працягнуў да Сашкі далонь. На ёй ляжаў маленькі бліскучы крыжык. З яго звісаў ланцужок. Сашка ўзяў з далоні святара крыжык, і святар знік...

Сашка намацаў каля нагі бутэльку і дапіў астатак віна. Спахапіўся: а дзе ж крыжык з ланцужком? Левая яго рука звісала каля нагі, пальцы ўглыбіліся ў векавы пыл. Сашка звёў іх у кулак, узняў руку і развёў. Пасыпаўся пыл, а на далоні застаўся счарнелы нацельны крыжык. Ланцужка не было. Меўся толькі астатак гнілой вяровачкі.

«Вось дзіва, — падумаў Сашка. — Пэўна, я ўсё-такі спаў. А можа, не...» Ён устаў з падмурка, агледзеў памяшканне царквы. Паўсюль валяліся кавалкі цэглы, дробнага друзу, шкла.

— Гэй, бацюшка, дзе ты?! — гукнуў Сашка.

— Ты, ты, ты, ты… — загалёкала, залунала рэха.

Прагаліна дзвярэй зазыўна ззяла сонечным святлом, і Сашка прайшоў праз яе. Ён ішоў па вясковай вуліцы, абыходзячы паваленыя дрэвы, бітыя лісты шыферу, асцярожна пераступіў цераз электрычны дрот, які вужакай перакінуўся цераз дарогу. «Была навальніца», — падумаў Сашка. Міма катэджа Аблома ён прайшоў павольней, зазіраючы за высокі плот. Усе дрэвы былі цэлыя, а дах катэджа велічна ўздымаўся над імі, нібыта жадаючы дакрануцца

вострымі вуглямі да аблачын на небе. Сашка вырашыў не вяртацца да Аблома, а пайсці дамоў.

Дарога з вёскі вывела да шырокай аўтастрады. Крочыў ён няспешна, леваруч блішчэла на сонцы аўтастрада, а з правага боку раскінулася жытнёвае поле. Вецер хістаў жоўтыя каласы, і яны ціха шапацелі, нібы кланяючыся чалавеку, які ішоў узбоч. А Сашка ішоў і думаў пра вецер, які лагоднай прахалодай лашчыў яму грудзі і твар.

«Вецер, ён, як і чалавек, вось толькі быў грозны, нават жорсткі — ламаў дрэвы, зрываў стрэхі, а цяпер нібыта адумаўся, нібыта спазнаў сваю віну — лашчыцца, замольвае свой грэх…»

Гадзіны за паўтары дабраўся Сашка да свайго дома. Лёг у ложак і заснуў хутка і моцна. Толькі раніцою прачнуўся. Не сам прачнуўся: стукаўся сусед Ціт. Побач з ім стаяла калымажка на чатырох маленькіх колах, а на ёй ляжаў мех з пустымі бутэлькамі.

— Збірай пляшкі па хаце, — шапялявіў бяззубым ротам Ціт. — Я дамовіўся з крамшчыцай Ларысай — прыме, праўда, шэльма, свой працэнт, канешне ж, адлічыць…

Сашка пазяхнуў, яму на момант стала шкада, што Ціт перабіў сон, які ён сніў і ў якім, атрымаўшы заробак, аддаў яго сястры. І тая была такая вясёлая і шчаслівая.

«Э-эх, каб не Ціт, што б там было далей?» — падумаў Сашка.

А Ціт чакаў, пераступаючы з нагі на нагу, і Сашка, хутка апрануўшыся, стаў скідваць у мех бутэлькі, якія сіратліва стаялі каля сцяны.

Дзень толькі пачынаўся…

## Без пяці хвілін жонка

Іван Дрозд сядзеў на ганку лазні і назіраў, як шпакі спрытна дзяўбуць вішні на дрэвах, што раскашавалі ў агародзе суседа.

— От, нахабнікі! — падумаў Дрозд. — Нават клубніцы давялося ратаваць ад іх пражэрлівасці. — Ён пасміхнуўся, згадаўшы разгублены твар жонкі, калі яна, агледзеўшы грады, скрушна прамовіла: «Іван, нехта выбраў нашыя клубніцы…»

— Ды хто іх мог выбраць? — сказаў тады Дрозд. — П’яніцы гэтай справай займацца не будуць, а калі б у нашыя грады залез злодзей, то навошта яму калупацца ў клубніцах, калі вось яна, побач, стаіць як лес, зялёная цыбуля — рві і нясі на базар.

— Куды ж тады падзеліся ягады? — ледзьве не плакала жонка.

Дрозд распавёў ёй пра шпакоў, а калі ў градзе Галіна знайшла некалькі птушыных пёрак, то ўзрушана-грозна сказала: «Я б хвасты павыдзірала гэтым шпакам, хаця і люблю птушак».

— Цяпер будзеш любіць аднаго Дразда, — пажартаваў Іван.

Жонка сярдзіта блiснула на яго шэрымі вачыма.

Аднекуль прыляцеў вецер, хістануў дрэвы, зашамацелі цэлафанавыя пакеты, якія сусед начапляў на галінкі вішань, і зграя шпакоў узнялася з іх і апусцілася на плот.

— А кыш! — Галіна распраміла спіну і кінула камяк зямлі ў бок плота, на якім паселі птушкі.

«І калі яна стала такой сярдзітай? — падумаў Іван Дрозд. — А была ж такой чулай, як пачалі сустракацца… І калі дзеці былі малымі, хапала ў яе

душэўнай шчодрасці і для іх, і для мяне. А цяпер, калі засталіся адны, незадаволенасць і сярдзітасць так і мкнуць з яе. Чаму тады, у маладосці, я выбраў яе — Галіну, а не Наталлю, якая і знешне больш падабалася, і таксама праяўляла да мяне лагоднасць і чуласць? Як бы я жыў цяпер, калі б ажаніўся з Наталляй?»

Думкі пра Наташу апанавалі яго і вечарам, калі Іван вярнуўся з жонкай у гарадскую кватэру, і Галіна пачала глядзець тэлевізар, ён таксама ўтаропіўся вачыма ў экран, але герояў фільма не бачыў, а бачыў яе — Наташу. Яму згадалася, як Наташа вадзіла яго знаёміцца са старэйшай сястрой і яе мужам — афіцэрам міліцыі. Багатая сервіроўка стала падказала тады хлопцу, што Наташыны сваякі ўспрымаюць яго ўсур'ёз — як будучага мужа дзяўчыны. Аднак іх адносінам наканавана было скончыцца ў гэты вечар.

Калі Іван і Наташа развіталіся са шчодрымі гаспадарамі, на вуліцах горада было прыцемна. Да інтэрната, у якім жыла Наташа, яны прайшліся пешкі. Наташа даверліва тулілася да пляча Івана. Некалькі разоў яны спыняліся і падоўгу цалаваліся.

— Мая сяброўка з'ехала да бацькоў, і ты можаш зайсці да мяне, пачастую кавай, — прапанавала дзяўчына.

У пакоі Іван ад кавы адмовіўся. Ён смела абняў Наташу і прыпаў да яе вуснаў. Адчуўшы, як па целе дзяўчыны прабегла хваля дрыжыкаў, Іван узняў яе на рукі і апусціў на ложак.

— Не, толькі не цяпер. Яшчэ не прыйшоў час! — Наташа вырвалася з абдымкаў.

— Мілая, ты ж мне без пяці хвілін жонка, — прамовіў Іван дрыготкім голасам, у якім чулася крыўда. — Ты што, не верыш мне?

Наташа доўга маўчала, а потым прамовіла на дзіва цвёрдым голасам: «Вось як мінуцца гэтыя пяць хвілін, тады і будзе табе ўсё дазволена, а цяпер… Цяпер ты мне пакуль што не муж».

Сур'ёзна, вельмі сур'ёзна пакрыўдзіўся Іван Дрозд. Ён моўчкі выйшаў з пакоя, а яна толькі праводзіла яго дакорлівым паглядам. Гэты дакор у поглядзе Наташы ён бачыў, калі яны выпадкова сустракаліся на вуліцы, але Іван паспешліва здароўкаўся і крочыў міма.

Аднойчы да Івана падышоў калега Ігар Кавалевіч:

— Іван, ты прабач, але я хачу спытаць у цябе наконт Наташы…

— Ну, спытай, — насцярожыўся Дрозд.

— Скажы шчыра, было ў цябе з ёй што-небудзь?

— Што ты маеш на ўвазе?

— Ну гэта… Былі паміж вамі… адносіны? — выпаліў Кавалевіч і прыкметна пачырванеў.

— Ты, напэўна, збіраешся з ёй ажаніцца, — крыху памаўчаўшы, прамовіў Іван. — Не было ў нас нічога, а калі б было, то я б ажаніўся з ёй. Яна мне проста не паверыла.

— Дзякую. Яшчэ раз прабач. — Кавалевіч падаў Івану руку, і той паціснуў яе, адчуўшы вільготнасць і холад.

«Хвалюецца», — мільгнула ў галаве.

— Іван, а тваю машыну адрамантуюць да выхадных? — вярнуў яго ў рэальнасць голас жонкі.

— Не, там яшчэ шмат працы маляру, — неахвотна адказаў ён.

— Я ў Віцебск цягніком не паеду.

— А табе і ехаць не трэба. Я сам усё адвязу Алене і з гаспадаром за кватэру разлічуся. І ўвогуле, мне больш падабаецца ехаць цягніком, чым за рулём машыны.

— Канешне. Будзеш казеліць зрэнкі ды смактаць піва.

— А што ў гэтым дрэннага? — спытаўся Дрозд і, не чакаючы адказу, перавёў тэму размовы на іншае. — Апошнім разам, калі мы былі ў Віцебску, пагартаў я залікоўку Алёны — яна стала вучыцца слабей.

— Нічога. Абы здавала сесіі, — адказала жонка і, узняўшыся з канапы, пакрочыла ў спальню.

З Віцебска Дрозд вяртаўся надвячоркам. Заняўшы сваё месца ў купэ вагона, паглядзеў праз акно: «Людзі — што мурашы, цягнуць валізы, сумкі, баулы… Куды спяшаюцца, дзеля чаго апантана працуюць? Усё ж знікае. Спачатку знікае рамантызм у жыцці, а потым і само жыццё, якое не што іншае, як зачараванае кола мітусні».

— Можна да вас? — дзверы купэ адчыніліся, і на Дразда зірнула мілавідная круглатварая жанчына.

— Канешне, — адказаў Дрозд і прыязна пасміхнуўся.

Следам за кабетай у купэ ўвайшлі двое мужчын і ўнеслі з сабою пах гарэлкі. Аблічча аднаго з іх падалося Івану знаёмым.

«Ды гэта ж Кавалевіч… Так, гэта Ігар Кавалевіч».

Здагадка ўзрушыла яго. За ёй мільганула другая: «Круглатварая поўная жанчына — гэта ж Наташа… Як я не пазнаў яе?»

А жанчына ўжо села ля акна насупраць Дразда і з цікаўнасцю глядзела яму ў твар.

Дрозд зірнуў ёй у вочы, а яна нікольki не сумелася, не адвяла пагляду. «Так, гэта яна — Наташа. І яна пазнала мяне».

— Вось дык сустрэча! — урэшце выдыхнуў Дрозд.

— А мне падалося, што ты не пазнаў мяне, — спакойна прамовіла жанчына.

— Я проста задумаўся, таму не надта ўважліва паглядзеў на… — Дрозд зрабіў паўзу, разважаючы, як яму звяртацца да Наташы...

— На цябе. Што нам пераходзіць на «вы», калі мы, хаця і даўным-даўно, але былі на «ты», — адказала Наташа.

— Дрозд, гэта ты? Колькі ж мы не бачыліся? — выгукнуў Кавалевіч. Ён прысеў побач з Іванам і падаў руку.

Дрозд абыякава паціснуў яго далонь, у голасе былога калегі ён пачуў падробленую радасць.

— Такую сустрэчу трэба адзначыць, — прапанаваў Кавалевіч.

— Мяне завуць Андрэй, — падаў руку Дразду спадарожнік Кавалевічаў, шыракаплечы вусаты мацак.

— А я Іван. Вельмі прыемна, — сказаў Дрозд.

— Дык што, Наташа, за сустрэчу і за знаёмства патрэбна выпіць, — звярнуўся Кавалевіч ужо да жанчыны.

— Цяпер у цягніках не п’юць, — адказала Наташа.

— Наташка, мы ж ведаем, як гэта рабіць, — з усмешкай адгукнуўся вусаты Андрэй.

— Ну, калі ўмееце… — у вачах Наташы мільганулі агеньчыкі і згаслі, — то я не супраць.

— Тады я пабег, — падхапіўся на ногі Кавалевіч. — Да адпраўлення цягніка пятнаццаць хвілін, паспею зматацца ў гастраном.

Калі за ім зачыніліся дзверы, Наташа паглядзела ў вочы Дразду і па-свойску спыталася:

— Ну як ты жывеш?

— Як усе, — адказаў Іван. — Дачка, жонка. Працу, канешне, змяніў. Раблю цяпер у прэс-цэнтры сілавой структуры, завочна скончыў журфак.

— А я жыву не як усе, — уздыхнула жанчына. — Андрэй, — яна кінула кароткі погляд на вусатага мацака, — мой цяперашні муж, а з Ігарам мы развяліся.

— А што… — хацеў штосьці спытаць Дрозд, але толькі разгублена паглядзеў на дзверы і змоўк.

— Ты здзіўляешся?.. Усе здзіўляюцца і нават пасміхаюцца: маўляў, жыву з двума мужчынамі… Калі мы пазнаёміліся з Андрэем і сталі сустракацца, то я не стала доўга хавацца, а шчыра расказала Ігару. Прапанавала яму разමняць нашу трохпакаёўку. Жывём мы цяпер у Оршы, а ў Віцебск ездзілі на хрэсьбіны ўнучкі. Дык вось, адмовіўся Кавалевіч разменьваць жылплошчу і сыходзіць. Кажа, кахаеце адно аднаго, дык і жывіце. Вось так два гады і жывём. Ён дае частку зарплаты на кватплату і на ежу. Паўгода назад мы купілі машыну, і нам не хапала грошай, каб набыць такую, якую хацеў Андрэй, дык Ігар дабавіў…

— Здагадваюся, што пра вас пляткараць суседзі, — задумліва прамовіў Дрозд.

— Апошнім часам мы з Ігарам амаль пасябравалі, — сказаў Андрэй і з горыччу ў голасе дадаў: — Але ж я бачу, як глядзяць на мяне людзі.

— Дрозд, я зусім нядаўна згадвала пра цябе, думала, што калі б тады, у маладосці, мы ажаніліся, то, магчыма, усё б склалася ў маім і ў тваім жыцці зусім па-іншаму.

— Ты хочаш сказаць, што шкадуеш, што сустрэла мяне? — кінуў на Наташу раўнівы погляд Андрэй.

— Я шкадую, што сустрэла Кавалевіча, бо выйшла за яго, не падумаўшы…

У гэты момант дзверы ў купэ адчыніліся і ў памяшканне ўвайшоў задыханы Кавалевіч. Ён паставіў на столік пляшку мінеральнай вады, якую выняў з кішэні, а з невялікага пакета дастаў кавалак кілбасы, хлеб і сыр.

— Хутка зойдзе правадніца, замовім чай, і ўсё будзе выдатна, — весела прамовіў ён.

Дрозд уважліва разглядваў былога калегу. Схуднелы твар Кавалевіча быў сінявата-шэрага колеру — падстава думаць, што чалавек рэгулярна выпівае. У рухах хударлявага цела адчуваліся энергія і сіла.

«Яшчэ не зусім спіўся, — падумаў Дрозд. Ён ведаў, што Кавалевіч служыў у дэсантных войсках, згадаў, як той яшчэ ў час іх працы на заводзе паказваў хлопцам з брыгады, як трэба адным ударам разбіваць стос цаглін. — Як фізічна моцны чалавек так духоўна аслабеў? А можа, ён так моцна кахае Наташу, што згодны ахвяраваць мужчынскай годнасцю, каб толькі быць каля яе, бачыць яе, чуць яе?»

Правадніца паставіла на столік шклянкі з чаем, пажадала смачна есці і зачыніла за сабой дзверы.

— Хто хоча гарэлкі, той павінен хуценька выпіць свой чай, каб мне было куды наліваць, — усміхаючыся, прамовіў Кавалевіч. — А хто не ведае, з чаго я яе буду наліваць, то тлумачу: вось з гэтай светленькай пляшачкі. — Кавалевіч узяў у руку пластыкавую бутэльку з-пад мінеральнай вады.

— За што будзем піць? — Спытаўся вусаты Андрэй, калі Кавалевіч наліў у шклянкі.

— Спачатку за ўнучачку, у нас такая цудоўная ўнучачка, — горача загаманіў Кавалевіч, — а потым ужо і за сустрэчу. Выбачай, сябра… — крануў ён за плячо Дразда.

Пад чарку і спеў-грукат колаў гамонка ў купэ ажывілася. Дрозд усё часцей паглядваў на Наташу. Яго памяць нібыта згадвала-параўноўвала яе пагляды, усмешкі, манеру гаварыць з тым, як яна гэта рабіла ў той далёкі час іх сустрэч. «Усміхацца яна стала стрымана, не так шчыра і адкрыта, — падумаў Дрозд. — І ўжо не такая балаболка, а спакойна-ўдумлівая, разважлівая».

Раптам Наташа спыталася ў яго:

— Іван, ты, пэўна, працаваў у газетах?

— Так, — хітнуў галавой Дрозд.

— Мне запомнілася адна публікацыя, падпісаная тваім прозвішчам, у якой пісалася пра бандытаў на дарогах. Гэта тваё?

— Быў такі матэрыял.

— Дрозд, ты цяпер журналіст? — ажывіўся Кавалевіч. — Значыць, нездарма ты розныя байкі-рыфмаванкі складаў. Значыць, талент не прапаў.

— Талент не прап’еш, — уставіў сваё слова Андрэй.

— Прапіць можна ўсё, абсалютна ўсё, — сумным голасам зазначыла Наташа і выразна паглядзела на Кавалевіча.

— Камень у мой агарод, — сказаў Кавалевіч. — Але ж ты ведаеш, Наташа, што да таго часу, як у нас з табой было ўсё добра, я не піў так, як п’ю цяпер.

— Хочаш, каб цябе пашкадавалі? Ігар, трэба быць сапраўдным мужчынам! — глухім голасам прамовіў вусаты Андрэй.

Твар Кавалевіча пачырванеў, вочы ўспыхнулі злосцю, а далоні сціснуліся ў кулакі.

— Яны яшчэ не біліся між сабой? — спакойна спытаўся Дрозд у Наташы.

— Не, да бойкі не даходзіла, — адказала жанчына.

— Што ты ведаеш пра маё жыццё? — роспачна кінуў Дразду Кавалевіч.

— Амаль усё. Яны мне распавялі, — парыраваў Дрозд.

— Калі паспелі?.. — здзіўлены Кавалевіч апусціў кулакі.

— Я вось думаю, што каму патрэбна быць сапраўдным мужчынам, дык гэта Андрэю, — цвёрда сказаў Дрозд. — Змог ён забраць жонку ў чалавека, павінен і стварыць умовы для нармальнага жыцця. А так… Адзін сорам.

Вусаты Андрэй ніякавата апусціў вочы, Наташа глядзела на Дразда, і ў яе вачах ён убачыў дакор, акурат такі, як у той вечар, калі сыходзіў ад яе з інтэрнацкага пакоя. Кавалевіч сеў і ціха прамовіў:

— Ён сваю кватэру пакінуў жонцы і дзецям…

«Дурдом, — мільганула ў галаве Дразда. — Гэты дурань абараняе акупанта, які захапіў яго кватэру, забраў жонку…»

Дзверы купэ адчыніліся, і прысутныя ўбачылі праваднiцу.

— Пад’язджаем да Оршы. Пасажыры, рыхтуемся выходзіць.

Наташа, Андрэй і Ігар сталі збіраць рэчы. Першым вылузаўся з купэ вусаты Андрэй, ён нават не зірнуў на Дразда.

— Бывай, — сказала, выходзячы, Наташа. — Дасць Бог, можа, яшчэ пабачымся.

Кавалевіч абняў Дразда, памкнуўся штосьці сказаць, але махнуў рукой і пайшоў з купэ.

Дразду стала шкада Кавалевіча. Ён пашкадаваў, што двойчы дрэнна думаў пра яго…

Праз гадзіну Дрозд быў у родным горадзе. Вецер ускалыхнуў каштаны, абдаў прахалодай твар. Да прыпынку пад’ехаў размаляваны рэкламнымі надпісамі тралейбус. Да яго пасунуліся людзі, а з усімі і Дрозд.



**Адэльберт ФОН ШАМІСА**

# НЯМЕЦКІЯ НАРОДНЫЯ ПАДАННІ

1.

## ВОЛАТАЎСКАЯ ЦАЦКА

Пра Нідэк у Эльзасе вядомы добра сказ.
Гары, дзе гэты замак паўстаў у даўні час,
Ты ўжо не знойдзеш болей, і рыцары сышлі,
Гаспадары, якія раней у ім жылі.

Надумала аднойчы дачка гаспадара
Наведацца ў даліну — абрыдла ёй гара.
Ля брамы пагуляла, далей уніз пайшла.
І вось ужо сцяжынка да мэты прывяла.

---

***Адэльберт фон Шаміса (Луі-Шарль-Адэлаід дэ Шамісо дэ Банкур)*** *(1781—1838) нарадзіўся ў правінцыі Шампань (Францыя) у радавым замку Банкур. Паходзіў з латарынгскіх дваран, падчас Французскай рэвалюцыі сям'я згубіла маёмасць у Францыі і пераехала ў Прусію, дзе ён стаў звацца Адэльбертам фон Шаміса. У 15 год атрымаў званне пажа прускай каралевы. Скончыўшы гімназію ў Берліне, паступіў на вайсковую службу ў Прусіі ў чыне лейтэнанта. У 1806 годзе пасля здачы французам горада Гамельн пакінуў вайсковую службу, не жадаючы ваяваць супраць Францыі. У 1808 годзе ўладкаваўся настаўнікам у французскую гімназію ў горадзе Напалеанвіль. Вярнуўшыся ў Берлін, у 1812 годзе паступіў у медыцынскі ўніверсітэт і працягваў вывучэнне батанікі і заалогіі. Разам з тым не пераставаў публікаваць творы ў розных друкаваных выданнях. У 1815 годзе атрымаў прапанову паплыць у кругасветнае падарожжа на рускім брыгу «Рурык». Цягам трох гадоў наведаў афрыканскія выспы, Паўднёвую Амерыку, частку Сібіры, пасля Паўночную Амерыку, Палінезію, Капландыю. Пісаў шмат навуковых прац па батаніцы і лінгвістыцы. У 1835 годзе быў абраны чальцом Берлінскай акадэміі навук. У гонар прыродазнаўца названа выспа ў Чукоцкім моры.*

*У 1814 годзе Шаміса стварыў фантастычную аповесць «Незвычайная гісторыя Петэра Шлеміля», дзе выказваў рамантычны пратэст супраць адчужанасці асобы ў несправядлівым грамадстве ды згубнага ўплыву золата на чалавечы лёс. Паэзія Шаміса вызначаецца дэмакратычнай накіраванасцю (вершы «Замак Банкур», «Інвалід у вар'яцкім доме»), простай і эмацыянальна выразнай формай, блізкай да традыцыі нямецкай народнай песні (лірычны цыкл «Песні і абразкі жыцця» (1830); цыкл балад «Нямецкія народныя паданні» (1838)). Тэма вызваленчай барацьбы, вобразы грэчаскіх, іспанскіх, рускіх, польскіх патрыётаў дамінуюць у цыклах «Вандраванні» (1830), «Выгнаннікі» (1831). Перакладаў з французскай, іспанскай, дацкай, рускай моў. Яго лірычны цыкл «Каханне і жыццё жанчыны» (1830) паклаў на музыку Роберт Шуман.*

*Аўтар кнігі «Падарожжа вакол свету на караблі "Рурык"» (1834—1836).*

За колькі хуткіх крокаў дзяўчынка лес прайшла.
Ля Гаслаха краіну людзей яна знайшла.
Ёй гарады і вёскі, і нівы, і ралля
Былі як мараплаўцу нязнаная зямля.

І волатка ў здзіўленні глядзіць цяпер уніз
І бачыць селяніна ля самае ступні —
Дзівосная істотка арала свой лужок,
Нібы камень каштоўны, на сонцы ззяў плужок.

«Ах! Што за дзіва-цацка! Вазьму яе сабе!» —
І, стаўшы на калені, насоўку дастае,
Што рухаецца, тое завязвае вузлом
І радасна нясецца дзіця ў бацькоўскі дом.

Прыбегшы зноў дадому, да бацькі яна йдзе
І гэткую размову захоплена вядзе:
«Ах, бацьку, мілы бацьку! На цацку ты зірні!
Ніхто не бачыў лепшай на нашай вышыні».

Тым часам бацька-волат віно піў за сталом.
Спытаўся ён зычліва: «Што ты прынесла ў дом?
Цялёпкаецца нешта ў насовачцы тваёй.
Давай хутчэй паглядзім, што ж там такое ў ёй».

І на стале адразу паставіла дачка
Каня з плужком, а потым дастала мужычка.
Як выклала дзяўчынка здабытае на стол,
Запляскаўшы ў далоні, забегала вакол.

Стары зрабіўся сумным, круціць стаў галавой.
«А што ж ты нарабіла? А Божухна ж ты мой!
Адкуль усё ты ўзяла, туды назад вярні!
Прыдумала ж такое… Не цацка селянін!

Што я сказаў, без спрэчак выконвай ты цяпер.
Без селяніна хлеба не мелі б мы, павер.
У волатава дрэва шырокі ствол чаму?
Сялянскі моцны стрыжань даў Госпад Бог яму».

Пра Нідэк у Эльзасе вядомы добра сказ.
Гары, дзе гэты замак паўстаў у даўні час,
Ты ўжо не знойдзеш болей, і рыцары сышлі,
Гаспадары, якія раней у ім жылі.

## 2.

## ЗНІКЛЫ ЗАМАК

Раней там, дзе над борам узнялася скала,
Разбойнікаў быў замак. Падобна да арла,
Што на здабычу куляй нясецца з вышыні,
Кідаліся ў даліну, каб рабаваць, яны.

У замку панавала братоў драпежных тры.
За замкам — у даспехах, у пурпуры ўнутры.
Давала кроў раскошу, спатолю ад грахоў.
Панура піравалі, страх сеячы вакол.

Да іх каханкі голад ніколі б не прыйшоў.
Яна была прыбранай у золата ды шоўк.
Штодзень хадзіла дзёрзка, забыўшы божы страх,
У чаравіках з хлеба на пешчаных нагах.

«Гэй, рыцары, на коней!» — крык з вежы вартавой. —
«Зноў пыл клубіць дарога. Гайда ў крывавы бой!»
Гандлёвых верхаводаў паслаў удалы лёс.
Амаль зусім без зброі, ды з золатам абоз.

Крычыць братам каханка: «Прыносьце мне з баёў
Шмат золата, караляў, каштоўных камянёў!
Прыносьце пеўчых птушак у ружавы наш сад,
Каб вуха маё цешыў спеў мілых птушанят».

І неўзабаве ў замак нясуцца малайцы.
Наперадзе ў вяроўках палонныя купцы.
«Вязём табе мы птушак — у садзе ім спяваць.
Мы золата здабылі, цябе каб аздабляць».

У ружавым тым садзе ўсё выклікала жах.
Склеп вузкі ў падзямеллі, заўжды ў ім трупны пах.
Глыбока ўнізе бездань — расколіна ў скале.
І толькі шлях адзіны вядзе сюды ў імгле.

Ад голаду тут кожны палонны паміраў.
Спеў птушак — крык адчаю — паволі заміраў.
Калі ж трываць пакутаў больш вязень не хацеў,
Каб аб скалу разбіцца, як птушка ўніз ляцеў.

Вось у які ружоўнік трапляялі гандляры.
Тут у адчаі крыкнуў братам святар стары:

«Няшчасныя вар'яты, што любяць катаваць!
Калісьці давядзецца пра ўсё вам шкадаваць!»

Ды злосна крыкнуў рыцар: «За ўсё мая віна!
За кроў ды юр, ды гэта мне ўжо не навіна.
Хачу й далей абдумваць, як лепей забіваць.
І ў Страшны Суд, клянуся, не буду шкадаваць!»

Другі са здзекам крыкнуў: «Раскаркаўся, груган!
Што я раблю — мой клопат. Спатолены я сам.
Хачу сам клапаціцца, як лепей забіваць.
І ў Судны Дзень, клянуся, не буду шкадаваць!»

Са смехам трэці крыкнуў: «Ляці ўжо ўніз хутчэй
Спяваць, як салавейка, сабакам хто бурчэў!
Я зношу свае справы, дык лепей забіваць.
І ў дзень Армагедона не буду шкадаваць!»

Блюзнеры пакляліся, і зараз жа на здзек
Па бездані адказам пранёсся страшны енк.
З пякельным смехам «Амэн!» каханка прараўла.
Раптоўна гром пачуўся, затрэслася скала.

Увышыню ўзляцела праклятая скала,
Нібыта пад узмахам вялізнага крыла.
Агнём страляла глеба, стаў цёмнай ноччу дзень,
І пад зямлёй знік замак, без следу, быццам цень.

Даведацца ты хочаш, дзе замак красаваў,
Якое заснавальнік імя яму даваў?
Прапаў без вестак замак. Адбыўся божы суд.
Не ведае паданне — ці там ён быў, ці тут.

### 3.

### ЦАПТЭНБЕРГСКІЯ КАРАЛІ

Пра Цаптэнберг шмат дзіваў распавядаў народ.
Быў тысяча пяцьсот сямідзясяты год,
Праводная нядзеля. Пачаў угору ўздым
Яганэс Бэр, пабожны, ды не стары зусім.

Былі яму сваімі цясніна ды скала.
І кожная сцяжынка знаёмаю была.

Ды паміж голых скалаў, што бачыў Бэр не раз,
Угледзеў ён раптоўна пячору ў гэты час.

Ён, здзіўлены, агледзеў пячоры жарало.
Адтуль яго марозам да костак праняло.
Хацеў быў ён пусціцца з пячоры стрымгалоў,
Ды жах салодкі ў месца нячыстае павёў.

Ён смеласці набраўся і ў жарало палез.
Разгледзеў ён праход там у прывідным святле.
Было ў канцы праходу маленькае акно.
Уверсе брамы цьмяна свяцілася яно.

Зачыненая брама. Пагрукаў, раз прыйшоў.
Працяглым гулам рэха азвалася вакол.
На браму ён абрынуў удары кулака.
І адчыніла браму нябачная рука.

Высокіх тры мужчыны ля круглага стала
Сядзелі ў чорнай зале, дзе плыў прамень святла
З лампады. Перад імі пергамент на стале
Ляжаў, і разглядалі яны яго ў імгле.

Убачыў ён з парога іх старажытны строй
І іх сівыя кудлы, і сумны іх настрой.
«Мір у Хрысце вам!» — крыкнуў. Яны яму ў адказ
Сказалі ціха: «Міру не будзе тут для нас».

Яганэс Бэр у залу пераступіў парог,
Ды не зірнуў на госця ніхто з мужчынаў трох.
«Мір у Хрысце вам!» — зноўку, ды быў яму ў адказ
Адно зубоўны скрыгат: «Не будзе міру ў нас!»

Ён падступіўся блізка да круглага стала.
«Мір у Хрысце хай будзе!» — прамова зноў была.
Яны яму ўручылі пергамент свой стары.
«Вось кніга паслушэнства» — было там угары.

«Хто вы?» — «А каб хто ведаў!» — «Што ж робіце вы тут?»
«Са скрухаю чакаем, што будзе Страшны Суд,
Што будзе дзень апошні, які за справы ўсе
Належную аддзяку любому прынясе».

«А як жа шлях прайшлі вы, свой доўгі шлях зямны?
Якія вашы справы?» Затрэсліся яны
І паказалі моўчкі паглядам і рукой
Насупраць, дзе заслона яднала са сцяной.

Калі ўзняў Бэр заслону, затросся ён і сам,
Бо чарапы ды косткі ляжалі кучай там.
І мантыю на кучы той страшнай угары
Ён разгарнуў ды ўбачыў клінкі пунсовых тры.

«Віну вы прызнаеце за справы тыя?» — «Так».
«Ці злыя вашы справы?» — «Вядома, злыя, так».
«Ці каецеся ў гэтым?» Яны маўчалі зноў.
Не ведаў пакаяння ніводны з каралёў.

**4.**

## ІГРУША НА ПОЛІ БІТВЫ

Нам гэтае паданне дзяды перадалі.
Ім завяшчалі продкі, якія ў іх былі.
Распавядзём паданне мы вам, сыны й дачкі,
Так, як раней гучала, мінулі хоць вякі.

Дзе адбылася бітва пры Зальцбургу раней,
Цяпер стаіць ігруша, што сведка тых падзей.
Яна ўся ссохла, счэзла. Быў жорсткім катам час.
Ды знак яна — тут бітва ішла ў апошні раз.

Час надышоў нарэшце прыкмету мне згадаць.
А вы па ёй павінны, што гэта, адгадаць.
Вайна нясецца хваляй смяротнае жуды
З усіх канцоў планеты, патрапіць каб туды.

Там будзе бой апошні паміж Дабром і Злом,
І сонца як ніколі адорыць дзень святлом,
Крыві людскoе рэкі пральюцца на лугі,
Усход для добрых будзе і захад — для благіх.

І, як завершаць справу, тады сярод начы
Улягуцца на трупах байцы, каб адпачыць.
Як над крывавай нівай узыдзе зноў зара,
Вісець на грушы будзе шчыт гербавы Дабра.

Яшчэ адну прыкмету цяпер скажу я вам.
Вы ведайце пра грушу, якая ссохла там.
Хоць, ссечаная, тройчы аплаквала ўжо лёс,
Дый тройчы вырастала амаль што да нябёс.

Як парасткі пускае зноў ствол яе стары,
Як у драўніне крохкай віруе сок знутры,
Як у зялёным строі, найпершая між дрэў,
Стаіць яна, дык значыць, што час ужо наспеў.

Шырокая й густая на ёй карона зноў —
Час грозны ды чаканы амаль што надышоў.
Убралася ўся ў кветкі ды спелыя плады —
Вялікая гадзіна прыйшла да нас тады.

Хто сёлета прыходзіў на дрэва паглядзець
Распавядаў пра тое, у што паверыў ледзь.
«Набраклі ўжо пупышкі ды ў дрэве сок ідзе», —
Ён радасную вестку прыносіў грамадзе.

Ці для сярпа паспелі ўжо ўсходы грэшных спраў?
Ці блізкія падзеі, што тут я апісаў?
Баюся я сурочыць, ды ведаю адно —
Час дзіўны ды суворы пастукаў у акно.

***Пераклад з нямецкай***
***Андрэя КАСЦЮКЕВІЧА.***





Паўліна ПАЎЛАВА

# ЖЫХАРКА ПЛАНЕТЫ ЗЯМЛЯ

## ЛЮБОЎ І НЯНАВІСЦЬ

*Трыялет*

Вы з лёгкасцю пазнаеце любоў.
Нянавісць сцеражэ вас у засадзе.
Па цеплыні – яна хвалюе кроў –
Вы з лёгкасцю пазнаеце любоў.
Па поглядзе пяшчотным зноў і зноў,
Святле ў вачах, бязлітаснай прынадзе
Вы з лёгкасцю пазнаеце любоў.
Нянавісць сцеражэ вас у засадзе.

## ПЫТАННЕ БЕЗ АДКАЗУ

Асуджаны мы жыць у рамках сцен –
Сцен з цэглы ці са шкла альбо бетону,
Сцен з ветру ці дажджу,
          ці нават сонца,
Сцен з месяца святла або са змроку,
          Або дрыжання дробных зор…

          Між сцен, між сцен, між сцен…

---

***Паўліна Паўлава*** *нарадзілася 16 красавіка 1959 года ў горадзе Паўлікені (Балгарыя). Скончыла Універсітэт нацыянальнай і сусветнай эканомікі (Сафія). Працавала на Нацыянальным радыё, супрацоўнічала з Нацыянальным тэлебачаннем, часопісамі і газетамі Балгарыі. У студзені 1993 года заснавала ўласнае рэкламнае агенцтва, дзе працуе цяпер.*

*Член Саюза балгарскіх пісьменнікаў, Саюза балгарскіх журналістаў, Акадэміі еўрапейскай культуры «Арфеева ліра». Аўтарка больш як 60 кніг. Выступае як паэтэса, празаік і дзіцячая пісьменніца.*

*Творы перакладаліся на рускую, украінскую, англійскую, італьянскую, французскую, турэцкую і інш. мовы.*

Сам кожны выбірае сцены –
        між іх ён жыць і будзе.

І падбірае сцены толькі смерць
        зусім дакладна –
        два на метр, так…
Між іх мы ў вечнасці паснём…

Чаму ж тады, пакуль жывём,
        так часта  ж ы ц ь  мы забываем?

## ХТО ЁН?

Як дробны светлячок Паэта існасць –
На фоне, дзе касмічны тлее змрок,
Засвеціць ярка – зробіць першы крок,
Каб іншыя дарылі прамяністасць.

Заўжды Паэт звяртаецца да зорак
На мове, не вядомай нам амаль.
Асуджаны самотным быць, на жаль,
Самота ў кожны дзень прыносіць морак.

Гарыць як светлячок – і зноў знікае –
Шчаслівы, хоць ніхто не зразумеў.
А свет сумуе, не хавае гнеў –
Ён гэтага святла ад зор чакае.

Як дробны светлячок Паэта існасць –
На фоне, дзе касмічны тлее змрок,
Засвеціць ярка – зробіць першы крок,
Каб іншыя дарылі прамяністасць.

## ПАСЛАННЕ

У пашпарце будзе «балгарка»,
А ў сэрцы напішам «жыхарка планеты Зямля».
Такою ёсць я – жанчына,
        якую хрысцілі Паўлінай.
Упэўнена ў тым,
        што мае карані – старажытнасць,
у жылах маіх кроў
        мільёнаў народаў і рас.
Таму я сцвярджаю:
        якой бы гаворкай ні пела,
        мяне зразумеюць

і прымуць, нібыта сваячку.
Бо я размаўляю за вас,
як вы, я ўвесь свет адчуваю,
як вы, сумяшчаю і сілу, і слабасць.

Я сёння імкнуся спазнаць
невядомасць,
Прыцягвае моцна
сузор'яў святло.
Чарговыя мары завуць –
у палон забіраюць,
Спяшаюся ў заўтра
пасланне закласці ў пісьмо.

## МАЯ ДУША

***Ода***

Белая душа мая, нібы цнатлівы снег,
Побач з ёй імклівы дзень прыцішвае свой бег.

Чыстая, нібы струмень крыніцы-паласы,
Светлая, бы кропелькі бліскучае расы.

Праўда, ёсць і моманты, калі без жалю люд
Крыўдзіць злымі словамі, нібы наносіць бруд.

Толькі ўсё ж душа мая не згіне – зможа ўстаць,
З ветрам будзе месяца і сонца дасягаць.

Я таму шчаслівая спрадвеку па наш час –
Шчасцем асвятлю нябесных зор атлас.

## СТРАХ ГРАХУ

***Рандо на 8 радкоў***

Не можа каханне з'яўляцца грахом,
хоць Божа і выгнаў нас з раю.
Калі быць свабодным народ выбірае,
не можа каханне з'яўляцца грахом.
Нашчадак Адама і Евы блукае,
Ён страх, што грашыць, прывязаў тальмахом.
Не можа каханне з'яўляцца грахом,
хоць Божа і выгнаў нас з раю.

***/Перавернуты верш/***
***Анафара і эпіфара***

Зазнала ліхалецце пад імем апатыі,
калі пачуцці твае камянеюць,
калі і думкі твае камянеюць,
калі і словы твае камянеюць.

І цэлы мікракосмас твой узрываецца:
цябе цяпло болей не дасягае,
цябе дым радасці не дасягае,
цябе нічога ўжо не дасягае.

Дрыжыш, як зачыненая ў лядоўню.
Калееш хутка праз слёзы вачыма,
калееш вуснамі і валасамі,
калееш сэрцам і марамі-снамі.

**ПУСТЭЧА**

***Пераклад з балгарскай***
***Бажэны МАЦЮК.***



Алесь БАРАНОЎСКІ

# ІНТЭЛЕКТУАЛЬНА-МЕТАФІЗІЧНАЯ І НАВУКОВАЯ ЛІРЫКА: ГЕНЕЗІС, ВОБРАЗНАСЦЬ, ВЫРАЗНАСЦЬ

У літаратуры з другой паловы 90-х гадоў нарастала імкненне выказаць сябе, дакапацца да сутнасці чалавечых адносін. Найбольш поўна аксіялагічныя матывы выявіліся ў творчасці паэтаў інтэлектуальна-філасофскага складу. Разнастайнасць моўных, культурных, гістарычных асацыяцый дазволіла творцам адлюстраваць рэчаіснасць адначасова ў розных кірунках, прапанаваць чытачу сваё разуменне карціны свету.

Навуковая лірыка вядома са старажытнасці (Лукрэцый Кар «Пра прыроду рэчаў», Вергілій «Георгікі»), з пазнейшых яе прыкладаў у гісторыі літаратуры варта згадаць «Ранішнія развагі аб Божай велічы» і «Вячэрнія развагі аб Божай велічы пры выпадку вялікага паўночнага ззяння» М. Ламаносава.

Тэрмін «навуковая паэзія» прапанаваў Рэне Гіль у 1887 годзе. Аўтар супрацьпастаўляў згаданы від лірыкі сімвалізму і сцвярджаў, што для паэтаў крыніцай тэм, вобразаў, моўнага запасу павінен быць навуковы светапогляд, а не «састарэлая ідэалогія». У якасці мэты навуковай паэзіі Рэне Гіль бачыў не толькі пераказ навуковых адкрыццяў у вершаванай форме, але і ўзбагачэнне навукі новымі ідэямі.

Паслядоўнікамі тэорыі Гіля сталі Жуль Рамен і часткова Дзюамель. У рускай літаратуры гэтыя традыцыі працягнуў В. Брусаў.

Беларуская навуковая лірыка прадстаўлена галоўным чынам творчасцю Галіны Булыка. Да інтэлектуальнай плыні, хоць і не навуковай, можна аднесці паэзію Міхася Баярына, Ігара Бабкова, Алега Мінкіна.

Варта зазначыць, што многія даследчыкі прапануюць падзяляць філасофскую лірыку на ўласна філасофскую, навуковую і медытатыўную. Сутнасць уласна філасофскай сканцэнтравана на спасціжэнні агульначалавечых ісцін, ідэй (жыццё-смерць, вечнае-часовае, душа-матэрыя, космас-хаос, вера-бязвер’е, геданізм-аскетызм і інш). Навуковая сродкамі паэтычнай выразнасці тлумачыць / перадае / інтэрпрэтуе / канстатуе аксіёмы, тэорыі, гіпотэзы, адкрыцці. Медытатыўная адлюстроўвае сутнасць асэнсавання тых ці іншых жыццёвых рэалій з пазіцый канкрэтнага аўтара ці яго лірычнага героя. Зрэшты, вылучэнне медытатыўнай лірыкі ў асобны від падаецца даволі спрэчным, бо гэты падзел грунтуецца на даволі цьмянай індывідуальна-аўтарскай афарбоўцы верша, на асабістых адносінах аўтара да прадмета разваг. У гэтым сэнсе творы філасофска-медытатыўнага кірунку шчыльна судакранаюцца з метафізічнай лірыкай. Размежаваць два паняцці даволі складана.

---

***Бараноўскі Аляксандр Аляксандравіч,*** *магістр мастацтвазнаўства, малодшы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Навуковы кіраўнік: Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч, акадэмік НАН Беларусі, доктар філалагічных навук.*

Тэорыя літаратуры яшчэ не дала тлумачэнняў паняццю «інтэлектуальная лірыка». Разам з тым тэрмін увайшоў у шырокі ўжытак і нават набыў сінонімы: «навуковая лірыка», «паэзія думкі», «паэзія спасціжэння», «паэзія развагі» і інш. Зыходзячы са сказанага, прапануем сваё разуменне тэрміна.

Інтэлектуальная лірыка — гэта феномен мастацкага мыслення з дамінаваннем рацыянальнага пачатку над пачуццёвым. Паэты-інтэлектуалы ўяўляюць і адлюстроўваюць свет канцэптуальна — праз прызму ідэй. Законы рэчаіснасці падвяргаюцца сумневам, а форма мастацкага выражэння набывае адценне тэзіснасці, канстатацыі. Паэтычная тканіна твора можа характарызавацца наяўнасцю слоў-прафесіяналізмаў. Нельга блытаць навуковую лірыку з інтэлектуальнай, да якой у шырокім сэнсе належыць і медытатыўная, і метафізічная лірыка.

К. Г. Юнг вызначаў інтэлект як «накіраванае мысленне» [1], у адрозненне ад мыслення, якое залежыць ад пачуццяў. Мяркуецца, што першым паняцце «метафізічная паэзія» ў 1585 годзе выкарыстаў Джардана Бруна ў кнізе «Аб гераічным энтузіязме», прысвечанай Філіпу Сідні. Паўнавартаснае, разгорнутае тлумачэнне паняццяў «метафізічная лірыка» і «метафізічная школа» даў англійскі літаратурны крытык, лексікограф, паэт Самюэл Джонсан. У якасці прыкладу навуковец разглядаў творчасць англійскіх паэтаў XVII ст., якія спавядалі неаплатанічныя погляды, а менавіта:

- наяўнасць тагасветнага першапачатку (Адзінае);
- вучэнне пра касмічныя іерархіі (трыяда: Адзінае — Нус — Сусветная душа);
- прызнанне зямнога свету (космасу);
- недавер да матэрыі і матэрыяльных форм;
- заклік да «ўзыходжання душы да свайго вытоку» [2].

Прапанаваныя С. Джонсанам маркёры і сёння найбольш поўна характарызуюць метафізічную лірыку.

Такім чынам, прадстаўнікі навуковай лірыкі імкнуцца патлумачыць прыроду пачуццяў пры дапамозе законаў матэрыяльнага светаўладкавання, а паэты-метафізікі, наадварот, у развагах імкнуцца ад канкрэтнага да абстрактнага, ад рэчыўнага да пачуццёвага. На жаль, у сённяшнім літаратурным працэсе няма агульнага погляду на праблему размежавання згаданых тэрмінаў, з чаго вынікае пэўная блытаніна і адпаведная падмена паняццяў.

Так, Валянцін Акудовіч у кнізе «Разбурыць Парыж» (2009) вызначае творчасць Г. Булыка праз дэфініцыю «інтэлектуальна-рацыянальная» з'ява [3, с. 265]. Разам з тым даследчык выкарыстоўвае паняцце «інтэлектуальна-метафізічнай» літаратуры, што пацвярджае адсутнасць у сучаснай гуманітарнай навуцы відавочнай мяжы паміж названымі паняццямі.

Услед за В. Акудовічам сярод найбольш яскравых паэтаў інтэлектуальна-метафізічнай плыні згадаем імёны М. Баярына, І. Бабкова і А. Мінкіна. Гэтыя аўтары працягнулі справу заходнееўрапейскай інтэлектуальнай традыцыі (творчасць Гёльдэрліна, Рыльке, Тракля, Цэлана).

Так, вершы Міхася Баярына адметныя сэнсавай ускладненасцю, стылёвай ашчаднасцю. У сваёй паэзіі творца спрабуе пераасэнсаваць катэгорыі часу і прасторы, звяртаючыся да анірычнай рэальнасці (рэальнасці сну): «Сон азначае крохкае маўчанне, / У гэты час мы людзі больш, чым рэчы. / Цяпер я заўважаю, што мой голас / На самай справе мкне да цішыні» [4, с. 58].

Улічваючы частае ўжыванне паэтам матыву сну, нядзіўным падаецца і вылучэнне вобразаў вечара і ночы, якія, у сваю чаргу, сведчаць пра драматычны модус мастацкасці яго лірыкі:

Магільны вечар.
Б'е хвастом птушка-ноч,
Захінаючы горад
Нябёсным крылом [4, с. 22].

Прысутнасць у анейрасферы падобных вобразаў у дадзеным выпадку не азначае элегічнай, спакойна-суцішальнай накіраванасці паэзіі творцы, бо сон тут ідэнтычны смерці (таму і вечар магільны).

Як і іншыя паэты інтэлектуальна-метафізічнага кірунку, М. Баярын стварае асабістую, ідылічную прастору, у якой лірычны герой адчувае сябе максімальна камфортна. І калі ў Г. Дубянецкай, напрыклад, — гэта прастора кахання, у У. Арлова — сон-мара (адна з многіх), то ў М. Баярына такой прасторай становіцца дом з яго атрыбутамі: «…падземная прастора: / У падземных сутарэннях майго дома» [4, с. 12].

«Вузкая прастора, — па меркаванні І. Бажок, — мае сімвалічнае значэнне. Магчыма, гэта спроба вывесці ўсю літаратуру з пэўных рамак і «распрыгоніць» яе» [4, с. 13]. Разгортваючы свой уласны дыскурс, М. Баярын, аднак, не замыкаецца ў межах «асабістага дома», ён пашырае гэтую прастору нават да маштабаў сусвету: «Самотны сусвецік, глыбока закрыты» [4, с. 42]. Тым не менш усе вобразы такога кшталту характарызуюцца замкнёнасцю і аўтаномнасцю. Падобна да А. Разанава, У. Арлова, Г. Дубянецкай, М. Баярын спрабуе такім чынам разабрацца ў законах светабудовы, разгадаць «код» рэчаіснасці: «Бо я ключ, / рэчаіснасць — замок» [4, с. 36].

Лірычны герой М. Баярына адасабляе сябе ад іншых, ён самабытны і самадастатковы: «Я расквітаю крывавай краскай / На чорнай кляштарнай клумбе» [4, с. 77]. Персанаж жыве ў свеце, дзе «той, хто прачнуўся — заўжды кансерватар» [4, с. 24], бо немагчыма змяніць адвечных законаў быцця. Пры гэтым чалавечае існаванне бачыцца лірычнаму суб’екту вечным і пакутным:

І самотнае лісце заставалася ў пераходах,
грала на гармоніку й спрачалася,
і апявала вечнае
незваротнае невыноснае
вандраванне лёзных людзей [4, с. 13].

І хоць «форма дзівіцца зместу, / а рэчы — сэнсу» [4, с. 43], даводзіць паэт, жыццё застаецца нелагічным, яно не паддаецца асэнсаванню лірычным героем: «Дзе думкі мае, дзе разважнасць, / дзе паслядоўнасць? / Я згубіў свой лагічны ланцуг» [4, с. 43].

У лірыцы іншага паэта-інтэлектуала, метафізіка Ігара Бабкова, паводле слоў В. Акудовіча, «традыцыя заходнееўрапейскага верша арганічна і плённа спалучаецца з паэтычнай традыцыяй Усходу» [3, с. 266]. Свет становіцца невыносным для існавання лірычнага персанажа, і «Недзе там, незваротна / Абуджаецца слова» [5, с. 20]. Мова (логас) з’яўляецца неад’емным кампанентам уяўлення героя пра гарманічны свет. «Пакутныя шкляныя сховы / Ў якіх прытушаныя словы» [5, с. 50], — вось што застаецца, калі парушаецца гарманічная спарадкаванасць рэчаіснасці. Бо словы ў такім адмысловым тэкстасвеце, паводле І. Бабкова, — «цвікі светабудовы» [5, с. 51]. Лірычны герой імкнецца «Выйсці ў прастору, дзе ўжо толькі мова гаворыць. / Альбо патрапіць па той бок мовы» [6, с. 78].

За аснову ацэнкі свету персанаж бярэ толькі суб’ектыўныя фактары: ён лічыць, што чалавечае быццё значна багацейшае за яго сацыяльнае вымярэнне. Адсюль вынікае сутнасць рамантычнага светапогляду суб’екта — імкненне спазнаць свет праз спазнанне самога сябе (макракосмас праз мікракосмас):

— Людзі так імкнуцца стаць кімсьці, —
прашаптаў Алівэйра. — І ў некаторых гэта нават
атрымоўваецца.
— Таму я так люблю ластавак, — сказала Мага [6, с. 85].

Працягваючы традыцыі заходнееўрапейскага рамантызму, для якога характэрна прысутнасць зямнога і незямнога светаў, І. Бабкоў у сваёй метафізічнай лірыцы

ўдала пераплятае рэальнасць з фантазіяй. У цэнтры такіх вершаў — чалавек з яго няпростымі адносінамі да жыцця ў становішчы напружанага канфлікту з навакольным асяроддзем. Нярэдка персанажам авалодвае песімізм, з якога ён бачыць адзіны шлях — сыход у містыку: «Вада застыла ў маўчанні — і толькі аблокі / Плывуць у тую прастору, дзе ўсё застаецца» [6, с. 10]. «Тую» прастору і «гэту», па словах паэта, аддзяляе тонкая нітачка павуціння, якая вось-вось парвецца: «Жыццё апляло нас: / Пляцёны ўзор павуцінне / Тонкае рвецца» [6, с. 23].

Лірычны герой не баіцца разарваць сувязь з рэальнасцю, яго не палохае ні смерць, ні пакуты: «Не бойся / Заплюшчы вочы, ідзі на дно / Гэты боль — асалода» [6, с. 23], «Смерць — забытая казка» [6, с. 37], «Смерць — сяброўка» [6, с. 38]. Паэт падкрэслівае часовасць матэрыяльнага і вечнасць духоўнага: «Дзень, нібы дрэва, лістотай сваёй ападае / Ў Сцікс хуткаплынны, а полымя душ застаецца» [7, с. 38]. Міфалагічнае мысленне аўтара ў дадзеным выпадку не супярэчыць царкоўнай артадоксіі, якая замацоўвае думку пра жыццё душы пасля смерці цела. Аднак у адрозненне ад біблейскага развіцця падзей пасля скону (Вялікі суд і магчымасць перараджэння) ідэалогія І. Бабкова не выключае вечнага вандравання душы на зямлі: «Вандроўніца пяшчотная, душа / Блукае ў свеце, вокрыку не чуе» [7, с. 38].

Чалавек як носьбіт душы ўспрымаецца аўтарам даволі неадназначна: людзі — тленныя істоты, няздольныя ўплываць на ход падзей, яны з’яўляюцца перашкодай на шляху да душэўнага самаспазнання:

> Мы не тое, што бачыцца нам праз бяспамятны восеньскі морак
> <…>
> Мы не вопратка наша, мы не нашыя целы
> Не маўчанне, не знак, не чароўныя ніці
> <…>
> Кім мы ёсць? І ці ёсць мы заўсёды?
> Чаму свет утрапёна, загадкава доўжыць свой сон? [7, с. 70]

У працытаваным вершы аўтар пакідае шэраг рытарычных пытанняў, якія, без сумнення, прымушаюць чытача засяродзіцца на ўласным пошуку адказаў. Часам аўтар дае цьмяныя падказкі і даводзіць: «Стаць нікім — значыць стаць дэміургам, / Стаць сваёй уласнай магчымасцю. / Бо немагчыма стаць тым, кім ты ўжо ёсць» [6, с. 101].

Лірычны герой І. Бабкова вырашае «вечныя» праблемы: разбіраецца ў сабе і ў свеце, шукае вытокі чалавечай духоўнасці, падвяргае крытыцы каштоўнасную шкалу зямнога бытавання. Часам суб’ект твораў губляецца, часам робіць нясмелыя высновы: «Магчыма, праз жыццё трэба праплываць лёгка, / нібы праз сон. / <…> / Сніць яго, як быццам гэта быў сон анёлаў» [6, с. 86].

Метафізічнае мысленне Алега Мінкіна дазваляе яму паглядзець на рэчы з нязвыклага ракурсу. Хоць паэт і пазбягае прамых настаўленняў і сентэнцый, бо і ўласны жыццяпіс падаецца яму «кружляннем пудкай молі» [8, с. 75], у яго творах назіраецца дыдактызм. Інтэлектуалізм уласцівы вершам у прозе А. Мінкіна («Самота», «Гліна», «Акуляры» і інш.). Тут у поўнай меры выяўляецца філасофскі патэнцыял аўтара:

> Тыцкаюць тварам у гліну:
> рана ці позна вернемся ў гліну!
> <…>
> Здзіраю з сябе гліну.
> <…>
> Шукаю сваё сапраўднае аблічча! [8, с. 132]

Рэфлексіі падлягае і сам працэс роздуму: «Душа мая — знясіленая птушка над акіянам бязлітаснай развагі…» [8, с. 131]. Лірычны герой А. Мінкіна крытычна ўспрымае рэчаіснасць, ён імкнецца адасобіцца ад яе, шукае спосабы і формы

аўтаномнага існавання. Самотнасць і вабіць, і адначасова палохае героя: «Сніўся сон мне жахлівы, трывожны: / Я застаўся адзін, я — апошні…» [9, с. 11]

Экзістэнцыяльнае напружанне філасофскай лірыкі А. Мінкіна не выключае, аднак, наяўнасці ў ёй рацыянальнай дамінанты, скразная думка бачыцца квінтэсенцыяй *racio* і *emocio*. Суб’ект вершаў пакутуе ад таго, што спрадвечныя законы светаўладкавання супярэчаць яго ўласным унутраным уяўленням пра жыццё і сваю ролю ў ім:

Чаму я павінен, сябе колькі помню,
Няўмольна ўрастаць у здранцвелы пагорак,
Калі я бялейшы за светлую поўню,
Калі я так прагна імкнуся да зорак? [9, с. 14]

Аўтар раскрывае тэму індывідуалізму даволі мякка: імкненне да асабістай свабоды персанажа падкрэсліваецца наяўнасцю ў апошняга духоўнага самакантролю, а метафізічнае імкненне да свабоды бачыцца спробай збегчы ў лагічны, упарадкаваны свет. Нярэдка альтэрнатыўнай рэальнасцю пры гэтым выступае самота / адзінота: «Ад слоў, ад спрэчак / хаваюся ў самоце» [9, с. 23].

Лірычны герой А. Мінкіна — няўпэўнены ў сабе і ў іншых самотнік, які дакладна і сам не ведае, хто ён:

Але ў поцемках, што размываюць постаці людзей
і абрысы дрэў і будынкаў,
як даведацца, хто я, навошта, дзе?
Самота, мне муляюць твае абдымкі! [9, с. 23]

Калі персанаж, задумваючыся над уласнай ідэнтыфікацыяй, прыходзіць да разумення асабістай адзіноты, то, спасцігаючы сутнасць агульначалавечага існавання, ён канстатуе марнасць быцця як такога:

Мы — шолах задуменны нябачнага ў змроку лісця,
Мы — водбліскі вогнішча, што адгарыць неўпрыцям,
Мы — толькі трысцінкі вакол жарала небыцця,
Што хіляцца долу і з вечнасцю прагнуць зліцця [10, с. 31].

У адрозненне ад інтэлектуальна-метафізічнай лірыкі, дзе светабудова мастацкай рэальнасці прадстаўлена разрозненымі ўяўленнямі пра тыя ці іншыя з’явы, навуковая паэзія характарызуецца выразнай логікай і строгай паслядоўнасцю мастацкіх рэфлексій, г. зн. адна і тая ж думка можа выражацца рознымі прыёмамі і словамі, але яна не відазмяняецца, не дэфармуецца, не падвяргаецца пераасэнсаванню, як гэта было ў прадстаўнікоў метафізічнай плыні: чорнае застаецца чорным, а белае — белым і г. д.

Па прычыне моцнага інтэлектуальнага пачатку як неад’емнай рысы навуковай паэзіі могуць узнікаць цяжкасці яе разумення пры першым прачытанні. Але з улікам узрастання адукаванасці чытацкага асяродку інтэлектуалізацыя мастацтва непазбежна. Так, Чэслаў Мілаш у артыкуле «Сведчанне паэзіі» адзначаў: «Калі паэзія ў будучыні мае існаваць, яна адродзіцца толькі праз поўны разрыў са сваёй непасрэднай папярэдніцай. Зрэшты, не ад самой паэзіі будзе гэта залежаць. Паэзія заўтрашняга дня [цытуе О. Мілаша. — *А. Б.*] народзіцца з навуковай і грамадскай трансмутацыі, якая адбываецца на нашых вачах» [11].

Цікавай з’явай у айчынным літаратурным працэсе стала творчасць Галіны Булыка. Яе вершы нараджаюцца на стыку хіміі і паэзіі:

Да колбы корак — шліфы ўпрыцірку,
Каб дух удачы не праслізнуў,
Яшчэ спіртоўку, яшчэ прабірку,
Я сінтэзую зімой вясну [12, с. 12].

Г. Булыка — хімік па адукацыі, таму нядзіўна, што мастацкая тканіна яе навуковай лірыкі насычана навуковай тэрміналогіяй. «Паэтэса смела і, не пабаімся гэтага слова, пасяпхова прыручае паэзіяй навуку, прывучае яе розумам і сэрцам, веданнем і жаданнем падпарадкаваць уладзе слова…» [12, с. 3] Творца нават інтымную лірыку дацягвае да ўзроўню філасофскай. І хоць у любоўнай лірыцы адрасат пачуцця часта застаецца невядомым, атмасфера закаханасці ствараецца даволі рэалістычна:

Вечар зімні, горад сонны…
Звоніш мне —
Вяжа провад тэлефонны
Макрамэ… [12, с. 57]

У аснове многіх лірычных тэкстаў Г. Булыка знаходзяцца матэматычныя катэгорыі («Локан Аньезі», «Стужка Мёбіуса», «Паралельнасць» і інш.). Паэтэса спрабуе разабрацца ў сутнасці фізічных станаў («Сыпучасць і цякучасць»), але, урэшце, знаходзіць натхненне ў хіміі. У творчасці Г. Булыка адлюстраваліся «выявы крэатыўнай асобы, якая працу пераўтварае ў вечны пошук ісціны» [13, с. 234], — заўважае С. Калядка. Паэтка стварае персаніфікаваныя вобразы «рэчаў / рэчываў — істот», надзеленых уласным, незалежным ад лірычнага суб'екта (калі ён ёсць), жыццём. Так, ёд у аднайменным вершы аўтаркі «быў вытрымана-цвёрды. / Не мякчэў. / <…> Ні ў палкіх іскрах позніх спасцігненняў, / Ні ў рэдкіх бліскавіцах адкрыцця» [12, с. 81], сургуч «на папяровай бледнасці маўчаў» [12, с. 80]. Максімальны накал пачуцця адчуваецца ў вершы «Агонь». Адлюстроўваючы драму чалавечай душы, гісторыю разбітага сэрца, аўтарка выбірае вобраз вогненнай стыхіі невыпадкова: яе амбівалентнасць (ачышчэнне і спапяленне) падкрэслівае неадназначнасць прадстаўленай у вершы сітуацыі: «Агню даслалі ліст: / Тугі і гладкі папяровы скрутак» [12, с. 79]. Агонь выступае ў якасці жывой істоты, ён набывае статус другога лірычнага суб'екта, няпростае, падобнае да экзістэнцыяльнага, становішча якога абумоўліваецца пакутлівым выбарам у сярэдзіне і напрыканцы верша: «Што там — адмова ці прызнанне — / У белай глыбіні ліста?» — задаецца пытаннем «герой». Але доўгачаканага знаёмства са зместам дасланага ліста не адбылося: «Ён скрутак разгарнуў — і попел / Гарачы твар яго апёк» [12, с. 79].

Цікавымі з'яўляюцца развaжанні паэтэсы адносна крыніцы свайго творчага натхнення ў вершы «Васількі»: «А ў мяне не было сваёй вёскі ніколі — / Толькі менскі асфальт чарнеў» [12, с. 44]. Падобнае прызнанне дазваляе лірычнай гераіні патлумачыць яе памкненне да ідэалізацыі побытавых рэчаў («Успамін аб парадных пад'ездах», «Прахадны двор», «Снегавая баба ля інстытута кібернэтыкі» і інш.).

«Увогуле Г. Булыцы дадзена бачыць за матэматычнай формулай ачалавечанае быццё» [13, с. 234], — адзначае С. Калядка. «Матэматычны трыпціх» таму пацверджанне. Цікавай у гэтым плане з'яўляецца частка верша, прысвечаная італьянскаму матэматыку Марыі Аньезі («Локан Аньезі»): «Локаны час серабром прыбраў, / Вочы былі маладымі заўсёды» [12, с. 40]. Паступова аўтарка прыходзіць да разумення: «Розум цвярозы са строгім разлікам. / Лічбаў тэатр — не месца паэзіі» [12, с. 40]. І хоць навуковыя веды амаль заўсёды пэўныя, бывае, што наяўнасць у вершы прыкмет нейкай з'явы не заўсёды азначае прысутнасць апошняй, г. зн. здагадацца, пра што ідзе гаворка ў вершы без уліку яго назвы немагчыма. Вельмі паказальны ў гэтым сэнсе верш «Біруза»:

Рэдкі колер зямнога святла.
І жадання малочная спеласць.
Дзьмухаўцовая мара крыла
Праступае ў расе скамянела [14, с. 11].

Часам «непаэтычныя» вобразы перакрываюць мастацкае ўспрыняцце твора, так бы мовіць, «нейтралізуюць» яго, збядняючы такім чынам эмацыйна-пачуццёвы складнік, ён саступае месца канстатацыі фактаў («Гіпс»). Умоўна гэту з'яву абазначым як «рэакцыю нейтралізацыі». Падобны канцэптуальна-філасофскі склад аўтарскага мыслення мае ў сваёй аснове барацьбу паэта і навукоўца. Улічыўшы словы С. Калядкі, што «думка паэтэсы імкнецца да ўніверсалізацыі выкладаемых ісцін» [13, с. 234], можна меркаваць, што такога кшталту ўніверсалізацыя адбываецца і ў дачыненні да спосабаў стварэння вобразаў. Бо магчымасць іх неадназначнага прачытання закладзена, галоўным чынам, у міждысцыплінарнай варыяцыі. Калі паэтэса імкнецца падкрэсліць непарушнасць светаўладкавання, яна праецыруе на мастацкую прастору фізічныя аксіёмы, накшталт: «Вугал падзення роўны вуглу адбіцця» [12, с. 33].

Вядома, мова паэзіі Г. Булыка нясе на сабе адбітак часу. І хоць відавочнага разрыву паміж формай і прадметам мастацтва ў лірыцы аўтаркі не назіраецца, можна адзначыць тут тэндэнцыю да трансфармацыі, «неўнармаванасці» вобразнай сістэмы і непазбежнага ўскладнення семантычнага поля твора (тэрміналагізацыі тропаў) — «Локан Аньезі», «статыка руху», «стужка Мёбіуса» і інш. Такое ўскладненне літаратурнай формы ў Г. Булыка звязана з адмысловай «стратэгіяй абнаўлення мовы», стварэння яе новай «граматыкі». Таму ў кантэксце дадзенага даследавання можна гаварыць пра ўзнікненне аўтарскай паэтычнай «сістэмы Мендзялеева»: турмалін — крышталь, што паварочвае час назад; бурштын — рассеяны цень хараства; мармур — свячэнне ўкамянелай глыбіні; гагат — драпежная чарната і г. д. Адмысловая ў Г. Булыка і індывідуальна-аўтарская сістэма сімвалаў. Так, серабро выступае ўвасабленнем жаночага хараства, золата — вайны, шкло — паэтычны адпаведнік душы і г. д. У дадзенай сітуацыі не выключаны адносіны «сімбіёзу» паэтычных кампанентаў з навуковымі. Сімбіёнты характарызуюцца процілеглымі прыкметамі, у выніку чаго навуковыя элементы адаптуюцца да паэтычнага «арэалу» існавання. Дамінантай падобных адносін з'яўляецца сцверджанне ідэі жыцця як бесперапыннага кола быцця, неад'емнай часткай якога ёсць чалавек з амбівалентнай (касмічнай і зямной) сутнасцю ўласнай натуры: «Людзі — кольцы ў кальчузе / З'яднаныя, не парваць!» [12, с. 23] Калі «рэчывы» (вобраз, слова) становяцца адначасова формай і зместам саміх сябе, эмацыйнасць іх успрыняцця прытупляецца спасціжэннем іх прыроды. Тэкст разглядаецца, па словах Р. Барта, «як наладжаная на нашых вачах вытворчасць, з'яднаная з іншым тэкстам, іншым кодам» [15, с. 424]. І разгадаць яго, як было заўважана вышэй, магчыма толькі пры наяўнасці адпаведных ведаў.

Паэзію Г. Булыка можна разглядаць і ў межах катэгорый эстэтыкі метарэалізму. Прыстаўка «мета-» мае ў сабе раскрыццё асноў з'явы, даследаванне яе прыроды з выхадам за межы звыклага, спасціжэнне рэчаіснасці як шматузроўневай сістэмы: «Смяюцца гарэзна слюдзінкі на плітах» [12, с. 13], «Сціскаліся каменныя кудзелі, / <…> Як душа ў каханні, маладзелі» [12, с. 14].

Такім чынам, праблему тэрміналагічнага вызначэння паняцця «навуковая лірыка» варта разглядаць у кантэксце з такімі катэгорыямі паэтыкі літаратуры, як стыль і мастацкі метад. Менавіта асаблівасці аўтарскага асэнсавання той ці іншай філасофскай катэгорыі (жыццё, смерць, дабро, зло, прызначэнне чалавека на зямлі і інш.), а таксама моўны арсенал творцы палягаюць у аснове размежавання навуковай лірыкі ад іншых разнавіднасцей лірыкі, у прыватнасці, інтэлектуальна-метафізічнай.

Так, метафізічная лірыка характарызуецца імкненнем аўтараў да стварэння альтэрнатыўных рэальнасцей, асэнсавання макра- і мікракосмасу, спасціжэння касмічнай іерархіі, крытычнага стаўлення да матэрыяльных форм існавання, перавагі духоўнага над бытавым.

Лірыка навуковага кірунку мае на мэце канстатаваць, падкрэсліць той ці іншы факт. Нават пачуцці аўтары імкнуцца перадаць праз прызму логікі і ўпарадкавана-

сці. Паэзія думкі не пазбаўлена, аднак, адмысловых сродкаў выразнасці, да якіх можна аднесці ўдала ўплеценыя ў канву твораў словы з прафесійнай лексікі.

Сучасная навуковая і інтэлектуальна-метафізічная лірыка звязана не толькі з засяроджанасцю творцаў на найбольш значных дасягненнях чалавецтва (адкрыццях, вынаходніцтвах, бо апошнія часта імі ставяцца пад сумненне, скажам, пераасэнсаванне катэгорыі часу і прасторы, як у творчасці М. Баярына), але і са стварэннем нетыповых для класічнага мастацтва вобразаў (напрыклад, хімічных элементаў — Г. Булыка). Лірычны тэкст разглядаецца як свайго роду шматузроўневая мадэль з дэшыфроўкай як «па гарызанталі», дзе праступае найбольш яўны сэнс, так і «вертыкалі», што прадугледжвае спасціжэнне некалькіх ярусаў падтэксту. А неадушаўлёныя прадметы, рэчывы, з’явы, персаніфікуючыся, часта набываюць статус лірычных персанажаў.

Важна адзначыць, што рамантызм, характэрны паэтам метафізічнага складу, уяўляе сабой не толькі скіраванасць да пошуку ідэалаў і ўзвышэння духоўна прыгожага, але і адначасова на выкрыванне выродлівага ў яго канкрэтнай сацыяльна-гістарычнай форме. Так, у адрозненне ад традыцыйнай метафізікі, у рамантычным асэнсаванні свету І. Бабковым працэс пазнання прыраўноўваецца да працэсу творчасці, якая абапіраецца не на рацыянальнае веданне, а на пачуццёвае перажыванне.

## Спіс літаратуры:

1. Юнг, К. Г. Психологические типы / К. Г. Юнг. — М., 2008. — 761 с.

2. Всемирная энциклопедия: Философия / гл. науч. ред. и состав. А. А. Грицанов. — М.: АСТ; Минск: Харвест — Современный литератор, 2001. — 1312 с.

3. Акудовіч, В. Разбурыць Парыж / В. Акудовіч.— Мінск: Логвінаў, 2004. — 298 с.

4. Баярын, М. Шалёны вертаградар / М. Баярын. — Мінск: БГАЦК, 1998. — 88 с.

5. Бабкоў, І. Герой вайны за празрыстасць / І. Бабкоў. — Мінск: БГАКЦ, 1998. — 92 с.

6. Бабкоў, І. Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб: вершы / І. Бабкоў. — Мінск: Логвінаў, 2009. — 118 с.

7. Бабкоў, І. Solux Rex: вершы, імпрэсіі, калоквіумы / І. Бабкоў. — Мінск: Маст. літ., 1992. — 79 с.

8. Мінкін, А. Пенаты / А. Мінкін. — Мінск: Логвінаў, 2007. — 146 с.

9. Мінкін, А. Сурма: вершы / А. Мінкін. — Мінск: Маст. літ., 1985. — 47 с.

10. Мінкін, А. Расколіна: вершы і паэма / А. Мінкін. — Мінск: Маст. літ., 1991. — 77 с.

11. Мілаш, Ч. Сведчанне паэзіі [Электронны рэсурс] / Ч. Мілаш. — Рэжым доступу: http://www.instpol.by/milash/proza/paety. — Дата доступу: 01.05.2018.

12. Булыка, Г. Сінтэз: вершы / Г. Булыка. — Мінск: Маст. літ., 1986. — 86 с.

13. Калядка, С. Жанчына ў соцыуме: гендэрны аспект (па творчасці беларускіх паэтэс XX — пачатку XXI ст.) / С. Калядка // Літаратура пераходнага перыяду: тэарэтычныя асновы гісторыка-культурнага працэсу / С. Калядка; пад агульн. рэд. М. Тычыны. — Мінск: Беларус. навука, 2007. — С. 234.

14. Булыка, Г. Турмалін: вершы / Г. Булыка. — Мінск: Маст. літ., 1994. — 94 с.

15. Барт, Р. Семиотика. Поэтика / Р. Барт; под общ. ред. Г. Косиковой. — М.: Прогресс, 1994. — 446 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 5 сакавіка 2018 года.

## Рэзюмэ

### Алесь БАРАНОЎСКІ

### Інтэлектуальна-метафізічная і навуковая лірыка: генезіс, вобразнасць, выразнасць

УДК 821.161.3

Метафізічная лірыка характарызуецца імкненнем аўтараў да стварэння альтэрнатыўных рэальнасцей, асэнсавання макра- і мікракосмасу, спасціжэння касмічнай іерархіі, крытычнага стаўлення да матэрыяльных форм існавання, перавагі духоўнага над бытавым.

Лірыка навуковага кірунку мае на мэце канстатаваць, падкрэсліць той ці іншы факт. Нават пачуцці аўтары імкнуцца перадаць праз прызму логікі і ўпарадкаванасці. Паэзія думкі не пазбаўлена, аднак, адмысловых сродкаў выразнасці, да якіх можна аднесці ўдала ўплеценыя ў канву твораў словы з прафесійнай лексікі.


**Ключавыя словы:** літаратура, лірыка, метафізічная лірыка, навуковая лірыка, філасофская паэзія.


## Summary

### Ales BARANOUSKI

### Intellectual, metaphysical and scientific lyrics: genesis, imagery, expressiveness

The metaphysical lyrics is characterized by the aspiration of the author to create alternative realities, understanding of macro- and microcosmos, space hierarchy, critical attitude towards material forms of existence, the superiority of the spiritual to the material.

The lyrics with scientific discourse states and emphasizes facts. Authors even seek to convey their feelings through the prism of logic and order. Intellectual poetry is not devoid of means of artistic expressiveness, among them are professional words.


**Keywords:** literature, lyrics, the metaphysical lyrics, the lyrics with scientific discourse/the scientific lyrics, the philosophical poetry.



**Чжан ХАЯНЬ**

# ЧЭН'ЮЙ ЯК ЭЛЕМЕНТ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МОЎНАЙ КАРЦІНЫ СВЕТУ: АД СТАРАЖЫТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ ДА СУЧАСНАЙ ЖУРНАЛІСТЫКІ

Людзі пры сустрэчы звычайна вітаюць адзін аднаго словамі, якія на розных мовах свету хоць і гучаць па-рознаму, але значаць, як правіла, адно і тое ж («Прывітанне! Як я рады цябе бачыць! Мы так даўно не бачыліся! Як справы? Колькі лет, колькі зім!» і г. д.). Словы дапаўняе мова жэстаў. У Кітаі такое прывітанне гучыць інакш («Лон Фэй Фэн У»), і літаральна яно значыць нешта незвычайнае: «лятаючы дракон, танцуючы фенікс». З аднаго боку, гэта можна перакласці як «выключна прыгожы почырк» (як лятаючы дракон і танцуючы фенікс); з іншага, гэта абазначае прывітанне, калі сустракаюцца сябры пасля доўгай разлукі. Многія ведаюць назву аднаго кітайскага фільма, уганараванага прэстыжнымі міжнароднымі ўзнагародамі, — «Тыгр, што крадзецца, цмок, што затаіўся». У назве кінастужкі выкарыстоўваецца ўстойлівы выраз, адно значэнне якога «схаваныя таленты, якія пакуль не раскрыліся», а другое — «непрызнаны талент або талент, які не атрымаў прызнання». Такія фразеалагічныя звароты ў кітайскім варыянце называюцца *чэн'юй*.

Паняцце «чэн'юй» мае глыбокія карані ў культурнай традыцыі. Па словах расійскай даследчыцы В. У. Ступнікавай, «яны адлюстроўваюць культуру кітайскага народа і з'яўляюцца яркімі элементамі нацыянальнай моўнай карціны свету» [2, с. 320]. З аднаго боку, чэн'юй азначае «спрошчаную мову», «гатовы выраз», «устойлівы зварот». У кітайскім варыянце гэта паняцце часцей за ўсё перадаецца чатырма іерогліфамі — 鸣惊人. Першы іерогліф «і» азначае «першы». Другі — «мін» — «гучны гук». Трэці — «цзін» — «здзіўляць». Чацвёрты — «жэнь» — «чалавек». У літаральным перакладзе гэта можа гучаць як «здзівіць адразу», «нечакана праявіць сябе», «адразу набыць славу», «чалавек, які робіць уражанне» або «чалавек, якога моцна ўразілі». Такім чынам, гэта тое, што звязана з адкрыццём пэўнага сэнсу, атрыманнем незвычайнай інфармацыі, набыццём ведаў. З іншага боку, чэн'юй — гэта зразумелы кітайцам фразеалагізм, вядомы ім з класічных літаратурных крыніц, які стаў часткай генетычнай памяці, культурнага кода, нацыянальнай традыцыі. «Кітайскія чэн'юй — гэта фразеалагічна звязаныя, устойлівыя лексіка-сінтаксічныя адзінкі сучаснай кітайскай мовы, якія ў кароткай адточанай форме чатырохскладовых (у асноўным) рытмічных словазлучэнняў і сказаў, насычаных архаізмамі, ярка, жыва і выразна адлюстроўваюць розныя паняцці рэальнай рэчаіснасці кітайскага этнасу» [4, с. 69].

Чэн'юй — слоўна-вобразная, літаратурна-міфалагічная катэгорыя, якая дазваляе разнастаіць маўленне, робіць яго вобразным, насычаным метафарамі, параўнаннямі. Старажытнай кітайскай мовай лічыцца вэньянь. Чэн'юй — гэта выкарыстанне ў пісьмовым маўленні выразаў з класічных кітайскіх твораў,

---

***Хаянь Чжан**, аспірантка кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі факультэта журналістыкі БДУ. Навуковы кіраўнік: Саянкова-Мяльніцкая Людміла Пятроўна, загадчык названай кафедры, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.*

напісаных на вэньяне. Часам для разумення такіх чэн'юяў неабходнымі будуць іх пераклады на сучасную кітайскую мову і дадатковыя сэнсавыя каментарыі. Веданне найбольш папулярных чэн'юяў з'яўляецца неабходнай якасцю адукаванага чалавека. У Кітаі выдаюцца спецыяльныя слоўнікі чэн'юяў, у якіх тлумачыцца іх сэнс і прыводзяцца першакрыніцы. На сённяшні дзень складана вызначыць колькасць чэн'юяў, што актыўна выкарыстоўваюцца ў сучаснай кітайскай мове. Напрыклад, у «Вялікім кітайскім слоўніку чэн'юяў» («Чжоўгу Чэн'юй дацыдзянь», выдавецтва «Шанхай», 1987) сабрана 17934 чэн'юяў, у слоўніку «Хан'юй Чэн'юй Цыхай» (выдавецтва «Дзілінь», 1994) прыводзіцца 35758 выразаў. У іншым слоўніку «Хан'юй Чэн'юй Дайцыдзянь» (выдавецтва «Хан'юй чэн'юй», 1996) прыводзіцца моцна адрозная колькасць — 249808.

Значная частка вядомых кітайскіх фразеалагізмаў запазычана з чатырох класічных раманаў, аб'яднаных пад агульнай назвай «Чатыры вялікія творы» (四大名著, sì dà míngzhù): «Троецарства» Ло Гуаньчжуна (к. 1330—1400 гг.), «Рачная затока» Шы Наяня (к. XV ст.), «Падарожжа на Захад» У Чэн'еня (XVI ст.), «Сон у чырвоным цераме» Цаа Чжаня (XVIII ст.). Шмат чэн'юяў запазычана з кнігі «Мэнцзы», дзе сфармуляваны каноны канфуцыянства. Адным з хрэстаматыйных прыкладаў з'яўляецца гісторыя пра парасткі, якім дапамагалі расці. Даслоўна гэты чэн'юй гучыць як «цягнуць парасткі, дапамагаючы ім расці». Яго сэнс тлумачыцца наступным чынам: у дыялогу са сваім вучнем мудрэц Мэнцзы расказвае гісторыю пра тое, як адзін чалавек, занепакоены павольнымі ўсходамі, вырашыў паскорыць працэс тым, што падцягнуў іх. Мараль гэтага аповеду ў тым, што ўсходам не прыносяць карысць ні тыя, хто пра іх не клапоціцца, ні тыя, хто вырашае штучна дапамагчы росту. Гэты чэн'юй распаўсюджаны ў розных сферах жыцця: адукацыі, выхаванні, кіраванні.

У кожнай мове свету існуюць прыказкі і прымаўкі, ідыяматычныя выразы з павучальным сэнсам, якія трапна вызначаюць пэўныя з'явы штодзённасці. Аднак кітайскі чэн'юй — гэта не проста моўны зварот ці лагічна завершанае выслоўе дыдактычнага характару, гэта гісторыя ўсім вядомых персанажаў. Пры згадванні якога-небудзь чэн'юя ў свядомасці кітайца ўзнікаюць маляўнічыя вобразы і дзеянні герояў, звязаных з дадзенай моўнай канструкцыяй. У Паднябеснай дзяцей з ранняга ўзросту вучаць гэтым выразам, тлумачаць іх мудры сэнс. Напрыклад, адной з папулярных міфалагічных істот у кітайскай традыцыі з'яўляецца дракон. Вобразы драконаў разнастайныя: зямны, нябесны, водны, жоўты, чырвоны. За кожным — свой сэнс, свая роля. Дракон азначае магутнасць, сілу, дабрабыт, дастатак. У «Кнізе Перамен» апісваецца, як паступова дракон губляе сувязь з зямлёй і набывае функцыі воднага боства. Чэн'юй, які адносіцца да гэтага вобраза (Ту лун му хоў), даслоўна перакладаецца як «зямны дракон, малпа, што мыецца». Але павучальная мудрасць гэтага выслоўя абазначае «адна толькі бачнасць», «не адпавядае рэчаіснасці», г. зн. нешта непраўдзівае, несапраўднае.

У чэн'юі «І Сы Бу Гоў» (一丝不苟, YiSiBuGou) першае слова «І» перакладаецца як «адзін», другое — «Сы» — старажытная адзінка вымярэння (раней у Кітаі 1 мм быў роўны такой адзінцы даўжыні, як 300 сы, таму 1 сы = 1/300 мм). Трэцяе слова «Бу» — «не», чацвёртае — «Гоў» — «невыразны, неакуратны, нядбайны, няўважлівы». «І Сы Бу Гоў» літаральна перакладаецца як «адхіленне ад нормы на 1/300 мм». Але сэнс гэтага выразу заключаецца ў наступным: не ўпускаць ніводнай дробязі, не дапускаць неакуратнасці, няўважлівасці, быць вельмі скрупулёзным. «І Сы Бу Гоў» упершыню сустракаецца ў кнізе «Жулін Вайшы» (儒林外史, «Неафіцыйная гісторыя канфуцыянства»), што з'явілася ў рукапісе крыху раней за 1749 г., а надрукавана была ў 1803 г. Кніга складаецца з 56 артыкулаў, у якіх апісваюцца гісторыі ўспрымання рознымі людзьмі такіх катэгорый, як поспех, вядомасць, багацце. Прывядзём у прыклад апавяданне, у якім ідзе гаворка пра сялянскага арыстакрата (чыноўніка ў адстаўцы) — мусульманіна, рэлігійныя правілы якога прадпісваюць есці толькі ялавічыну. Аднак імператар

выдаў закон аб забароне забойства працоўнай жывёлы, у дадзеным выпадку кароў. Каб мець магчымасць есці недазволенае, селянін ідзе на хітрасць: дае хабар у выглядзе некалькіх кілаграмаў ялавічыны начальніку павета Тан Фену. Тан Фен таксама мусульманін, у яго такія ж праблемы, і ён таксама думае пра тое, як абмінуць імператарскі закон. Начальнік павета звяртаецца па дапамогу да вышэйшага чыноўніка Чжан Дзінтуаня, які рэагуе адмоўна: «Закон парушаць нельга. Мы ўсе слугі імператара і павінны выконваць яго волю». «Але што ж мне рабіць?» — пытаецца Тан Фен. Чжан Дзінтуань дае параду: «Можна арыштаваць сялянскага арыстакрата, закаваць яго ў наручнікі і напісаць наступнае: “Ён ведае імператарскі ўказ і парушае яго”». Чжан Дзінтуань дадаў: «Калі вышэйшае кіраўніцтва ацэніць вашу скрупулёзнасць, не ўпусціўшы ніводнай дробязі (І Сы Бу Гоў), то ў вас будзе добрая кар’ера (上司访知，见世叔一丝不苟，升迁就在指日)».

Крылатыя выразы, устойлівыя звароты, фразеалагізмы, якія выклікаюць у кітайцаў пэўныя асацыяцыі, актыўна выкарыстоўваюцца журналістамі. Асабліва папулярныя гэтыя стылістычныя прыёмы ў такім сегменце, як гарадская прэса. Напрыклад, у газеце «Гуанмін Жыбаа» (у перакладзе «Газета свету». Слова «гуанмін» мае метафарычны сэнс: прынесці святло, быць маяком) 5 студзеня 2013 г. на першай паласе было надрукавана паведамленне ўсяго ў дзесяць іерогліфаў пра тое, што «ў пасёлку Лон у правінцыі Шаньсі акцёр, выконваючы ролю Ма Шэхуо, надзвычай скрупулёзна (І Сы Бу Гоў) грыміруе іншага акцёра» [1]. Для чалавека іншай традыцыі, нацыянальнасці такое паведамленне нічога не гаворыць. Для кітайскага чытача ў гэтай інфармацыі адкрываецца шмат сэнсаў. Па-першае, Ма Шэхуо — старажытная кітайская традыцыя акцёрскага майстэрства, якая прадугледжвае танец артыстаў на спіне каня, які адбываецца на вуліцы. Такі танец сведчыць аб асаблівым майстэрстве, веданні і шанаванні сваёй культуры. За апошні час танец Ма Шэхуо стаў вельмі папулярным у кітайскіх вёсках, што дазваляе многім гледачам не толькі глядзець і здзіўляцца, але і многае спазнаваць з кітайскай гісторыі, народнай культуры. Па-другое, нататка сведчыць аб адраджэнні традыцый гэтага танца, уважлівых адносінах да аднаўлення ўсіх яго неабходных элементаў, уключаючы нанясенне спецыяльнага грыму. Аўтар нататкі, журналіст Чжэнь Юйцзінь (Chen Yuqing) ярка прадставіў не толькі саму падзею, але і візуальна падкрэсліў яе фотаздымкамі, якія таксама перадаюць сэнс дадзенага чэн’юя.

У іншай гарадской газеце «Чжонгуа Цыннабаа» («Кітайская маладзёжная газета») 27 жніўня 2012 г. на пятай паласе быў апублікаваны нарыс «Скрупулёзны Лэй», у якім журналіст Лай Ян прадставіў вядомага чалавека, намесніка рэдактара буйной медыякарпарацыі «Чжы Інь». Герой нарыса Лэй Іда штодня вельмі старанна і скрупулёзна (І Сы Бу Гоў) разглядае ўсе прадстаўленыя да публікацыі тэксты, строга ацэньвае ступень адпаведнасці выкладзеных фактаў рэчаіснасці. У прафесійных колах Лэй Іда цэняць як журналіста, рэдактара, для якога асабліва значнымі з’яўляюцца этычныя і маральныя прынцыпы прафесіі. У нарысе апісваецца нямала канкрэтных фактаў, што сцвярджаюць наяўнасць вышэйназваных якасцей у героя. Напрыклад, аднойчы Лэй Іда, прачытаўшы тэкст, заўважыў, што апісаныя факты не адпавядаюць рэальнай сітуацыі. Ён адразу звязаўся з аўтарам, пераканаўча абгрунтаваў свае прэтэнзіі і прымусіў адмовіцца ад публікацыі. Тое, як Лай Ян апісаў характар, прынцыпы, прафесійныя якасці свайго героя, любому кітайцу было зразумела, паколькі гэта суадносна з вядомым чэн’юем пра тое, каб «не ўпускаць ніводнай дробязі».

У чэн’юі «Бу Бу Вэй Ін» (Bu Bu Wei Ying) першае і другое словы «Бу» перакладаюцца як «намер, крок». У старажытным Кітаі адзін крок быў роўны такому паняццю як 5 чы. Трэцяе слова «Вэй» азначае «стварыць». Чацвёртае слова «Ін» — «разбіваць ваенны лагер». У даслоўным перакладзе гэты чэн’юй гучыць як «крок за крокам разбіваць ваенны лагер». У вобразным перакладзе ён азначае, што неабходна паступова, крок за крокам, ісці да пастаўленай мэты або вельмі акуратна рабіць што-небудзь.

Дадзены чэн'юй упершыню з'явіўся ў кнізе «Сангуа Яны». «Сангуа Яны» — раман, у якім расказваецца пра падзеі эпохі царскіх дынастый Ву, Вэй, Шу. У гэтым літаратурным творы апісаны многія здарэнні, героі якіх — Чжу Гэлян, Гуан Юй, Цаа Цаа, Сяа Хаўюань і іншыя — вельмі папулярныя ў Кітаі да нашага часу. «Троецарства» — адзін з чатырох класічных кітайскіх шэдэўраў («Сон у чырвоным цераме», «Падарожжа на захад», «Рачная затока»). У канцы эпохі дынастыі Юань і ў пачатку праўлення дынастыі Мін (прыкладна XIV ст.) літаратар Ло Гуаньчжун стварыў вялікі раман «Троецарства», у якім амаль восемсот тысяч іерогліфаў і ўсяго сто дваццаць артыкулаў. «Бу Бу Вэй Ін» упершыню сустракаецца ў такім кантэксце: «Камандзір Сяа Хаўюань атрымаў загад ад імператара Цаа Цаа нанесці ўдар па лагеры праціўніка на чале з военачальнікам Хуан Чжонам. Сяа Хаўюань пачаў перамагаць бой за боем. Хуан Чжон, знаходзячыся ў прыгнечаным настроі, звярнуўся да мудраца Фа Чжэна, які прапанаваў разбіць лагер, рабіць правільныя дзеянні крок за крокам і быць вельмі акуратным і ўважлівым (Бу Бу Вэй Ін). На другі дзень войскі Хуан Чжона пачалі ствараць новыя бастыёны, разбіваць лагеры і пастпова рухацца наперад. У выніку гранічнай уважлівасці і асцярожнасці, дзякуючы правільна выбранай ваеннай тактыцы, Хуан Чжон стаў пераможцам» [5, с. 71].

У газеце «Гуйчжоў душыбаа» («Гарадская газета правінцыі Гуйчжоў») 10 студзеня 2017 г. на паласе «Адукацыя» журналіст Чжэнь Гуан апублікаваў тэкст, які ўяўляе сабой сінтэз двух жанраў — карэспандэнцыі і рэпартажу — пад назвай «Яны — малайцы». У публікацыі расказваецца, што ў вучняў школы «Гуянь шыянь саньчжон» вельмі добрыя вынікі дзяржэкзаменаў. Сістэма школьнай адукацыі ў Кітаі трохузроўневая: у малодшай школе дзеці навучаюцца з 6 да 12 гадоў, у сярэдняй — з 12 да 15, у вышэйшай — з 15 да 18. Пасля вышэйшага ўзроўню здаюцца дзяржэкзамены, атрымаць добрыя адзнакі на якіх вельмі складана. Зыходзячы з публікацыі, 92,2% вучняў паступілі ва ўніверсітэт першага класа (у Кітаі існуе шматузроўневая сістэма ўніверсітэтаў, першы клас значыць атрыманне высакаякаснай адукацыі). Два школьнікі ўвайшлі ў дзясятку лепшых па вывучэнні гуманітарных навук у правінцыі Гуйчжоў. Тлумачэнне такіх вынікаў даў выкладчык: «Галоўная мэта маёй працы — развіццё школьніка. На кожным этапе навучання я складаю індывідуальныя планы для кожнага, і пастпова, крок за крокам (Бу Бу Вэй Ін), кожны школьнік і група ў цэлым ідзе да сваіх вынікаў. Такі падыход і ёсць прычына таго, што група атрымала добры вынік на дзяржэкзаменах».

Разгледзім яшчэ адзін чэн'юй «Шы Шы Чуй Шы» (实事求是, Shi Shi Qiu Shi). Першы іерогліф «Шы» азначае «фактычны», другі «Шы» — гэта ўжо «справа», трэці — «Чуй» — «спытаць, атрымаць», а апошні «Шы» — «ёсць», які часцей за ўсё не перакладаецца, а існуе для сцвярджэння: «ёсць», «рэалістычны падыход» ці «ўлавіць самую сутнасць». Гэты чэн'юй упершыню з'явіўся ў кнізе «Ханьшу — жыццяпіс Хэцзянь Саньван» — гісторыі пра князя Хэцзянь з імператарскага роду. У «Ханьшу» апісваюцца гістарычныя падзеі з 206 г. да н. э., якія склалі 120 тамоў у восемсот тысяч іерогліфаў. У адным месцы аўтар кажа наступнае: «Хэцзянь упарта вучыцца для таго, каб атрымаць фактычныя веды, цікавіцца старажытнымі, незвычайнымі кнігамі, каб мець магчымасць заўсёды ўлавіць важную сутнасць, каб адукацыя спрыяла развіццю здольнасцей у авалоданні нечым рэальным (Шы Шы Чуй Шы)». Гэты чэн'юй з'явіўся ў перыяд праўлення дынастыі Хань, стаў папулярным у эпоху дынастыі Цын. Пазней вядомы кітайскі палітык 60-х гадоў Маа Цзэдун дадаў да гэтага паняцця новае значэнне, якое стала ключавым у мааізме. «Шы Шы Чуй Шы» да гэтага часу з'яўляецца вядучай ідэалогіяй Камуністычнай партыі Кітая: рабіць рэальныя справы, якія прыносілі б значны прыбытак для кожнага чалавека паасобку і грамадства ў цэлым.

У гарадской газеце «Хунань Жыбаа» («Гарадская газета правінцыі Хунань») 11 жніўня 2015 г. быў надрукаваны артыкул журналіста Сюй Япін «Сямейныя

каштоўнасці Цзян Вэйцзінь, былога сакратара КПК у правінцыі Цзянсу: прыхільнік рэальных спраў (Шы Шы Чуй Шы), бескарыслівы і бясстрашны». У артыкуле напісана: «“Мой бацька навучыў мяне адстойваць ісціну, грунтуючыся на рэальных фактах, прыносіць канкрэтную карысць (Шы Шы Чуй Шы), не ўзводзіць у абсалют такія катэгорыі, як багацце і слава”, — сказаў Цзян Вэйцзінь, былы сакратар КП у правінцыі Цзянсу» [3, с. 72].

Чэн’юй — адна з цікавых асаблівасцей не толькі кітайскай мовы, але і кітайскага светапогляду, гісторыі, культуры. Не заўсёды сэнс гэтых выразаў зразумелы, калі зыходзіць толькі са значэння іерогліфаў. Аднак за кожным словам чэн’юя адкрываецца багаты сэнс, які грунтуецца на векавых традыцыях. Найбольш поўнае значэнне чэн’юяў раскрываецца толькі праз знаёмства з кітайскай гісторыяй, з разуменнем нацыянальных нюансаў успрымання свету. Чэн’юй — гэта заўсёды нешта значна большае, чым проста ўстойлівы фразеалагізм. Гэта можа быць прыгожым вобразам, мудрай прытчай, павучаннем, а часам і абазначэннем вектара палітычнага развіцця.

## Спіс літаратуры:


1. «Гуанмин Жибао» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http: // epaper.gmw.cn/gmrb/html/2013-01/05/nbs.D110000gmrb_01.htm. — Дата доступу: 10.03.2018.

2. Ступникова, В. В. Дракон в зеркале чэнъюев / В. В. Ступникова // Человек и культура Востока: Исследования и переводы — 2012 / Сост. и отв. ред. В. Б. Виногродская. — М.: ИДВ РАН, 2014. — С. 320—352.

3. Чуаньбиао, Чжан, Жоншэнь, Хуан. Литературный смысл и перевод чэнъюй / Чжан Чуаньбиао, Хуан Жоншэнь // Вестник Лингвистического университета НОАК (彪黄生文学境与成翻.). — 2007. — Вып. 30 (6). — С. 70—74.

4. Чэнь, Шуан. Китайские идиомы (чэнъюй) как компонент содержания межкультурной компетенции / Шуан Чэнь // Вестник Пермского университета. — 2013. — Вып. 3 (23). — С. 69—75.

5. Янькунь, Гуо. Культурная стилистика (郭焰坤，文化修辞学) / Гуо Янькунь. — Пекин: Чжонгуо Шэху Кэйсюе, 2012. — 236 с.


Артыкул паступіў у рэдакцыю 10 мая 2018 года.

## Рэзюмэ

**Чжан ХАЯНЬ**

## Чэн’юй як элемент нацыянальнай моўнай карціны свету: ад старажытнай літаратуры да сучаснай журналістыкі

УДК 070.41 (043.3)+811.581’373 (043.3)

Чэн’юй — гэта фразеалагічны зварот, ідыяматычны выраз, вобразная метафара, вытанчаны стылістычны сродак, традыцыі якога налічваюць тысячагоддзі. Чэн’юй разглядаецца ў гістарычнай рэтраспектыве, даследуюцца вытокі ўзнікнення ўстойлівых вобразных выразаў, іх метафарычная вобразнасць. Раскрываецца філасофскі сэнс кітайскіх ідыём праз прытчавую літаратурную форму. Звяртаецца ўвага на значнасць гэтых вобразных элементаў у кітайскай нацыянальнай культуры. Аўтар аналізуе асаблівасці выкарыстання чэн’юяў у кітайскай старажытнай літаратуры, журналістыцы і ў такім папулярным сегменце нацыя-

нальнага медыяландшафту, як гарадская газета. Прыводзяцца прыклады выкарыстання старажытных вобразных выразаў, якія характарызуюцца метафарычнасцю, утрымліваюць важны філасофска-маральны сэнс у сучасным нацыянальным культурным кантэксце.

**Ключавыя словы:** кітайская традыцыя, старажытная літаратура, чэн'юй, журналістыка, гарадская газета.

## Summary

**Zhang HAIYAN**

## Chengyu as an element of the national language picture of the world: from ancient literature to modern journalism

Chengyu is a phraseological expression, idiomatic expression, figurative metaphor, an exquisite stylistic means, the traditions of which go back thousands of years. Chengyu viewed in historical perspective, examines the origins of sustainable figurative expressions, metaphorical imagery.

The philosophical meaning of Chinese idioms through the parable literary form is revealed. Attention is drawn to the importance of these figurative elements in Chinese national culture. The author analyzes the peculiarities of the use of Chengyu in Chinese ancient literature, journalism and in such popular segment of the national media landscape as the city newspaper. Examples of the use of ancient figurative expressions, possessing metaphorical imagery, containing an important philosophical and moral meaning in the modern national cultural context are given.

**Keywords:** Chinese tradition, ancient literature, Chengyu, journalism, city newspaper.

***Пераклад з рускай Арыны ГАРДЗЕЙ.***



Таіса ГРАМАДЧАНКА

# БАРЫС МІКУЛІЧ: НЕ РАЗДАЎЛЕНЫ АБСТАВІНАМІ

Складанасцю, пакручастасцю, а то і трагізмам лёсу творцы сёння, пэўна, нікога не здзівіш. Асабліва, калі азірнуцца на мінулае стагоддзе. *«Колькі талентаў звялося, // Колькі іх і дзе ляжыць, // Невядомых, непрызнаных...»* — Якуб Колас, апавядаючы пра няпростыя пошукі таленавітым юнаком свайго месца ў свеце багатых і бедных, наўрад ці думаў, што яны ў такой жа ступені акажуцца сугучнымі і рэаліям сучаснага яму савецкага жыцця. Мудрага народнага песняра можна паправіць ці, лепш сказаць, удакладніць толькі ў адным: сярод заўчасна знішчаных талентаў былі і вядомыя, і прызнаныя.

Прыкметнае месца ў беларускай літаратуры ў 1930-я гг. займаў Барыс Мікуліч. Ён смела браўся за распрацоўку новых тэм, актыўна шукаў новыя формы. Адна за адной выходзілі яго кнігі апавяданняў і аповесцей: «Удар», «Чорная Вірня» (абедзве — 1931), «Наша сонца», «Ускраіна» (абедзве — 1932), «Дужасць» (1934), «Яхант» (1935), «Дружба» (1936). У перыёдыцы таго часу часта з'яўляліся рэцэнзіі на творы калег па пяры, артыкулы, прысвечаныя творчасці беларускіх і рускіх пісьменнікаў, агляды «Маладняка», «Полымя», нарысы. Выступаў таксама як перакладчык і як тэатральны крытык.

Сувязь з тэатрам у гэтага markdown рознабакова адоранага творцы доўжылася праз усё жыццё. Аднак яна была абумоўлена не свядомай схільнасцю Б. Мікуліча да «ліцадзейства», хоць пасля дзевяцігодкі спрабаваў паступіць «у студыю 2-га тэатра» (БДТ-2, пазней Беларускі драматычны тэатр імя Якуба Коласа). Якраз тэатр неаднойчы прыходзіў яму на дапамогу ў складаных жыццёвых варунках. У лісце (ад 17.V.1953 г.) да актрысы Таццяны Бандарчык ён згадвае п'есу «Слава» В. Гусева, аўтара кінасцэнарыя знакамітай «Свінаркі і пастуха». Гэта п'еса, у якой вязень ГУЛАГа *«в разное время переиграл все мужские роли»*, выратавала яго ад немінучай смерці. Пасля аднаго спектакля Б. Мікуліч быў выкліканы да высокага начальніка, прэміраваны дваццаццю пяццю рублямі і загадам *«дать лёгкую работу на месте»*. У высылцы зноў аказаўся звязаны з тэатрам, зразумела, самадзейным. Жанчына, з якой стварыў сям'ю і дзякуючы якой змог неяк акрыяць душой пасля чарговага ўдару нялітасцівага лёсу, загадвала мясцовым рабочым клубам. Быў і рэжысёрам, і артыстам, а часам яшчэ і мастаком. Гэта праца забірала ў хворага выгнанніка шмат часу, энергіі, сілы і, па сутнасці, не аплачвалася, аднак ён бачыў, што *«жажда в зрелищах здесь колоссальная. Живое слово бывает редко, кино да кино»*. А яшчэ, няхай сабе вельмі своеасаблівае, але гэта было далучэнне да творчасці, без чаго не ўяўляў свайго існавання.

Першыя творы Б. Мікуліча з'явіліся ў друку ў 1927 г. А да восені 1930 г., калі перабраўся з роднага Бабруйска ў сталіцу, многія рэспубліканскія газеты і часопісы ўжо друкавалі яго навелы, рэцэнзіі, артыкулы, нарысы.

У ранніх творах, напісаных у 1927—1929 гг. невялікіх замалёўках-імпрэсіях, Б. Мікуліч звяртаецца да падзей Грамадзянскай вайны («Адышло, адкацілася», «Тота», «Раяль»), малюе бытавыя сцэнкі з сучаснага яму жыцця («Воля сыновая», «Акалічнасць», «Праўда вераснёвых дзён»). Творы напоўнены пафасам услаўлення таго, што народжана паслякастрычніцкай явай. Пісьменніку хочацца

ствараць паэмы і прысвячаць іх новаму ладу, новаму чалавеку, новым узаемаадносінам паміж людзьмі.

Нястрымная маладая радасць поўніць аўтара і герояў апавядання «Ворагі» (1929). Старое ў разлік не бярэцца, яно аджыло сваё і можа толькі шаптацца па завуголлі, як Гарпініха і Шастачыха. У аснове твора — вострая канфліктная сітуацыя: два браты жывуць разам, вядуць агульную гаспадарку, Васіль хоча ўступіць у калгас, Сцяпан — супраць. Наталля, жонка Сцяпана, кахае Васіля і патаемна з ім сустракаецца. Аднак душэўныя перажыванні герояў маладога аўтара цікавяць мала. Ні Васіль, ні Наталля не задумваюцца над сваімі ўчынкамі, не бачаць драмы Сцяпана, не бачыць яе пакуль і аўтар. Новае, перадавое ва ўсім пакаленне, якім яно лічылася, ні ў чым не сумняваецца, смела крочыць да светлай будучыні, не зважаючы на тых, хто, як Сцяпан, думае і жыве па-іншаму. Аблегчанасць і павярхоўнасць у падыходзе да падзей калектывізацыі, прыкметная нават па тым часе, прысутнічае таксама ў апавяданні «Цагельня» (1930).

Ад згаданых твораў адрозніваецца аповесць «Чорная Вірня», зместам якой, як лічыў М. Мушынскі, дзевятнаццацігадовы пісьменнік па-грамадзянску *«смела пратэставаў супраць перагібаў, што мелі месца падчас калектывізацыі»*. У аснову аповесці Б. Мікуліч паклаў тыповую сітуацыю таго часу: прыезд у вёску для арганізацыі калгаса камуніста-дваццаціпяцітысячніка. Міхась Брагін трапіў у раён суцэльнай калектывізацыі, што патрабавала ад яго бясспрэчнага станоўчага выніку. На шматлікіх сходах ён імкнецца пераканаць людзей у тым, што іх чакае шчаслівае калгаснае жыццё, але вёска насцярожана і зацята маўчыць. І ўсё ж, калі сакратар райкама Серафімаў настойвае на тэрміновым раскулачванні заможных гаспадароў, праціўнікаў калектывізацыі, аргументуючы акцыю тым, што тады ў калгас ахвотней пойдуць беднякі, Брагін не згаджаецца. Ён разумее: запалохванне і прымус не лепшыя сродкі ў такой складанай справе; упэўнены, што настрой сялян можна змяніць, але для гэтага патрэбны час.

Калектывізацыю Б. Мікуліч паказвае як фон, у чым яго папракала крытыка 30-х гг. Змест лёсаносных для вёскі падзей раскрываецца праз вобраз пісьменніка Міхася Брагіна. Гэты чалавек ніколі не шукаў для сябе бяспечнага і ціхага месца, верыў у неабходнасць грандыёзнай перабудовы жыцця, але разгублены, пераможаны нежаданнем вёскі мяняць адвечны лад, ён пакідае Чорную Вірню.

Паражэнне Брагіна можна растлумачыць яго «інтэлігенцкай мяккацеласцю», бо вырашылася ўсё так, як павінна было вырашыцца. У газетах праз нейкі час з'явілася паведамленне: *«ЦК КП(б)Б распусціў Свярдлоўскі райкам за скрыўленне партыйнай лініі ў справе калектывізацыі; член КП(б)Б Міхаіл Брагін атрымаў суровую вымову; у шэраг змагароў за сацыялістычны сектар уступіў новы калгас "Чырвоная Вірня"»*. Аднак усім зместам аповесці пісьменнік даказваў, што яго герой — сумленны і адданы справе чалавек, што лінія, якой ён прытрымліваўся пры правядзенні калектывізацыі, правільная. Вобраз Брагіна ўвогуле блізкі аўтару. Б. Мікуліч давярае гэтаму герою выказаць некаторыя ўласныя думкі пра творчасць, пра абавязак пісьменніка перад жыццём і літаратурай. Эпілог «Чорнай Вірні» — даніна часу. Закончыць твор па-іншаму, застацца верным праўдзе жыцця было немагчыма. Пра гэта сведчыць вопыт нават такіх сталых майстроў слова, як Якуб Колас.

Барыс Мікуліч быў непасрэдным сведкам першых крокаў «вялікага пералому». Да пераезду ў Мінск нейкі час працаваў у рэдакцыі газеты «Камуніст». За перыяд вандровак па дарогах Бабруйшчыны напісаў не адзін дзясятак нарысаў, потым выязджаў на вёску ў складзе агітбрыгады. *«Я участник величайших событий,* — успамінаў у «Аповесці для сябе», — *и находимся мы в местечке Городок с выездной редакцией, в центре «района сплошной коллективизации». Бесконечные сходки, поездки в кромешной темноте по бездорожью, сводки об охвате коллективами; типы загибщиков, волнения в Варваровке; убитый милиционер и картина проплывающих возов с раскулаченными; и — как бомба — статья*

*Сталина «Головокружение от успехов», после которой искусственный процент коллективизированных деревень упал на 2/3*». Праз гады ацэньваючы свае раннія творы, Б. Мікуліч, думаецца, залішне крытычна паставіўся да аповесці: *«...я попытался все эти ощущения передать в слабой повестушке «Чорная Вірня», и единственное, что в ней хорошо, это то, что не сказано».*

Не абмінуў Б. Мікуліч і яшчэ адну актуальную тэму — жыццё рабочага класа. Так званай рабочай тэме на пачатку 1930-х надавалася асаблівая ўвага, яна лічылася самай сучаснай. Зварот да яе нібыта сведчыў пра відавочны «ідэйны рост» аўтара, пра яго набліжэнне да пралетарскай літаратуры. І ўсё ж цікавасць да жыцця заводаў і фабрык у творчасці многіх пісьменнікаў была выклікана не толькі кан'юнктурнымі меркаваннямі. Савецкая краіна пераходзіла на рэйкі індустрыялізацыі і нагадвала нябачаную па сваім размаху і маштабе будоўлю.

Аднак паказ жыцця і працы рабочых беларускім пісьменнікам даваўся няпроста. Большасць аўтараў былі выхадцамі з вёскі, ім толькі здавалася, што горад стаў блізкім і родным. Збіранне матэрыялу для твораў, вывучэнне вытворчасці звычайна адбывалася ў час паездак пісьменніцкіх брыгад на заводы і фабрыкі. Так, праводзячы ў жыццё лозунг БелАППа «Пісьменнік — таварыш вытворчасці», бабруйская філія накіравала на механічны завод імя Сталіна, дзе пад пагрозай аказалася выкананне плана, групу пісьменнікаў, сярод якіх быў і Б. Мікуліч. На аснове ўбачанага ён напісаў не толькі нарыс «За агрэгат, за агрэгат», але і апавяданні «Удар», «Прарыў», «Шаснаццаты». Зразумела, праблемнасцю, глыбінёй спасціжэння рэчаіснасці гэтыя творы не вылучаліся. Пазней самакрытычна прызнаваўся: *«В сущности, этим бобруйским периодом, периодом работы в «Коммунисте», ограничилось моё знакомство с живой действительностью, и ею я жил всю свою литературную жизнь, вплоть до "Дружбы"».* Аповесць «Дружба» з'явілася ў 1936 г. як вынік паездкі разам з Э. Самуйлёнкам, В. Вольскім, М. Хведаровічам, У. Кавальскім у Грузію.

Працяг рабочай тэматыкі — аповесць (аўтарскае вызначэнне — эцюд) «Ускраіна». У творы таксама ідзе змаганне за план, за дбайныя адносіны да працы, аднак у цэнтры ўвагі пісьменніка знаходзіцца чалавек. Д. Бугаёў слушна адзначаў спробу *«аналізаваць пачуцці персанажаў, што раней мала цікавіла аўтара і выходзіла ў яго напышліва-дэкларацыйна»*. Побач з вобразамі маладых інжынераў і архітэктараў Б. Мікуліч вывеў прадстаўнікоў старой інтэлігенцыі, паставіўшы цікавую і новую для нашай літаратуры праблему. Крэйслер як творчая асоба склаўся ў дарэвалюцыйны час. У супрацьлегласць прафесару Шастакову (аповесць «Наша сонца») ён імкнуўся сумленна служыць сваім талентам новаму грамадству. Аднак хутка зразумеў, што новы час і новы гаспадар чакаюць ад яго іншага, чым тое, што ён ствараў раней. Крэйслер спрабуе прыстасавацца, але ўрэшце прыходзіць да драматычнай высновы, што прыняць новыя запатрабаванні можна толькі адмовіўшыся ад уласнага «я», страціўшы сваю індывідуальнасць. І калі гаспадар архітэктурна-будаўнічага канцэрна Эрліх Гюнтэр прапануе выехаць у Германію, дзе пакуль можна адшукаць *«драбніцу <...> адышоўшага для людзей Савецкага Саюза, але не адышоўшага яшчэ для людзей Захаду»*, Крэйслер згаджаецца. Канцэрн хутка абанкруціўся, і, не бачачы выйсця, архітэктар спрабуе закончыць жыццё самагубствам. На вобразах былога пісара Парамонта Сінічкіна і актрысы Гронскай пісьменнік даводзіў, што для прадстаўнікоў старой школы магчымы і іншы шлях, што яны могуць упісацца ў новы час. Аднак гэтыя героі ўяўляюцца менш пераканаўчымі ў сваіх дзеяннях і памкненнях, чым Крэйслер.

На змест аповесці «Наша сонца» выразны адбітак наклалі палітычныя працэсы над дзеячамі нацыянальнай культуры і навукі, што пракаціліся на Беларусі на самым пачатку 30-х гг. У адпаведнасці з часам у творы ацэньваецца дзейнасць БНР, цікавасць прафесара Шастакова да мінулага беларускага народа. Згадваючы свой пераезд у Мінск, у «Аповесці для сябе» Б. Мікуліч піша: *«Что увидел, услышал и понял я в Минске и каким он был осенью 1930 года? Только что*

*прошла «чистка» лит. рядов… Так мне никогда и не удалось видеть и слышать «легендарных» Дубоўку и Пушчу, но обаяние их чувствовалось очень сильно. Начался бой по всему фронту… Попытались зачеркнуть всё прошлое, в том числе и Богдановича, и Тётку, и Богушевича. Царили Канакоцін, Бэндэ и К… (Кучар. — Т. Г.). БелАПП — это была не только организация, это была полоса, «период», очень вредный. Немудрено было здесь закружиться!»*

Бацьку-здрадніку ў творы супрацьпастаўляецца сын, Анатоль Шастакоў, які жыве справай пабудовы новага грамадства. Праблема бацькоў і дзяцей, асабліва актуалізаваная на зломе эпох, вырашаецца Б. Мікулічам зноў жа ў духу часу: агульнае, грамадскае цалкам падпарадкоўвае і выцясняе асабістае. *«І Анатоль... зразумеў:*

*Калі крычыць Рэспубліка маладому свайму пакаленню:*

*— Трывога! На франты пяцігодкі! —*

*калі б'еццa Краіна за выкананне планаў індустрыі — тады мізэрнай павінна быць туга па роднай, сваёй крыві, тады няма родных, сваіх — а ёсць клас».*

«Наша сонца» вылучаецца сярод іншых твораў стракатасцю мастацкіх фарбаў, раскаванасцю манеры. Падобна сучасным постмадэрністам з іх прыёмамі калажу і мантажу, Б. Мікуліч спалучае ў тэксце самыя розныя з'явы. Сімвалічныя карціны суседнічаюць з бытавымі падрабязнасцямі, заклікальна-плакатныя радкі — з тонкім псіхалагічным малюнкам чалавечых адчуванняў, адкрыта-публіцыстычныя звароты змяняюцца сатырычным паказам герояў. Побач з уласна мастацкімі апісаннямі шырока прадстаўлены ў аповесці вытрымкі з тагачасных газет, дакументы, якія адлюстроўваюць дзейнасць Рады БНР. У шматлікіх адступленнях пісьменнік выказвае адносіны да твораў беларускай і рускай літаратуры, іранізуе над выдаткамі распачатага імажыністамі абнаўлення вобразна-паэтычнай сістэмы, над модным тады захапленнем словамі-наватворамі і нечаканымі параўнаннямі: *«Ноч распусціла свой машастовы веер (аматарам вобразаў заўвага: ноч зялёных і блакітных пераліваў можна параўнаць з хвастом паўліна...)»*.

Як і большасць маладнякоўцаў, Б. Мікуліч таксама «перахварэў» на празмерную метафарычнасць, крыклівасць інтанацый, штучнасць вобразаў: *«Трэснула эмаль неба, і пухкія аблокі распаўзліся ў розныя бакі, а з сіняга калодзежа брызгануў струмень сонечных праменняў»; «У дзесяць гадзін, калі сонца яшчэ цягнула небам плашч Арлекіна, пусцелі вуліцы, а абгарэлыя дамы — помнік ад лёту белага арла — пазіралі навокал рэбрынамі цаглін»*. Аднак ужо ў аповесці «Ускраіна» такой штучнай ускладненасці, вобразных алюзій і рэмінісцэнцый прыкметна менш. Аповесць «Дужасць» увогуле дэманструе як добрае веданне роднай мовы, так і натуральнасць, жыццёвую напоўненасць і дакладнасць аўтарскіх апісанняў. *«Адвячоркам прыйшлі з поўначы цяжкія хмары, авалодалі ўсім небам, з поля ўварваўся ў гарадок вецер, зашастаў акрайкамі палотнішчаў, застукаў аканіцамі, застагнаў, забразгаў сухім голлем дрэў. Хмары прыйшлі і прыпыніліся над гарадком, сыпануўшы мяцеліцай. У мяцеліцы нарадзілася ноч. Вецер урываўся з поля на шырокія вуліцы, нібы ўспененая тройка спуджаных коней. Снежны пыл, падхоплены ветрам, узнімаўся над зямлёй, круцячыся варонкамі. Раслі гурбы, пухкія і сухія...»*.

Перад пісьменнікам-пачаткоўцам стаяла пытанне, на якой мове пісаць, бо па-беларуску ў сям'і Мікулічаў не гаварылі. Пад уздзеяннем літаратурна-грамадскага руху 1920-х гг. выбраў мову той зямлі, на якой нарадзіўся. Гэта яму раіў таксама М. Лынькоў, які з 1925 па 1930 г. працаваў у бабруйскай акруговай газеце і прыкмеціў адоранага, закаханага ў мастацтва юнака. Пазней, на доўгія гады адарваны ад Радзімы, ён пачаў пісаць па-руску. Гэта зноў была пераважна паэзія (з рускамоўных вершаў пачынаўся «бабруйскі» перыяд творчасці пісьменніка). Але варта было атрымаць вестачку з роднай зямлі — абнадзейваючы ліст ад М. Лынькова, як сітуацыя змянілася. У дзённіку 30 кастрычніка 1946 г. ён піша: *«Гэта надзвычай цяжкая праца, але, спадзяюся, у мяне хопіць упартасці. Пра-*

*цую над беларускім варыянтам «Палескай аповесці». Дзесяць гадоў я не ўжываў беларускай мовы!»*

Стаўленне да роднай зямлі, да беларускай літаратуры, да пісьменніцкага асяроддзя і калег па пяры ў Б. Мікуліча не было паслядоўна-адназначным. Прычын на гэта шмат. Не апошнюю ролю сярод іх ігралі, безумоўна, творчыя і чалавечыя амбіцыі, суперніцтва. Аднак відавочна і іншае. Не па гадах эрудзіраваны і начытаны, скіраваны на творчасць, ён выбіваўся з агульнай масы маладнякоўцаў-белапаўцаў. Яму не імпанавала мінская «багема», мала цікавіла міжусобіца аб'яднанняў, хоць, безумоўна, з кімсьці Б. Мікуліч салідарызаваўся, кагосьці не прымаў. Азіраючыся на гады маладосці, ён зазначаў: *«Минск вскоре обернулся своей обыденщиной — издательство, несколько комнат ДП* (Дом пісьменнікаў — *Т. Г.*)*, частые пирушки, однообразные. Удивительно низок был уровень литераторов. А большие — Купала, Колас — проходили стороной. Не удивительно, что лит. молодёжь «дурачилась», — возникали эклектичные творческие группы: сначала это был «литературный пост» или «Ударный пост», потом — группировка комсомольских писателей в противовес вчерашним друзьям по "Уд. посту"».* У 1937 г. следчымі гэта класіфікавалася як контррэвалюцыя, з чым Б. Мікуліч пагадзіцца не мог: *«Это были неумелые поиски живой творческой атмосферы, без которой многие стали провинциальными чиновниками от литературы, другие спились...».*

Як і іншых «вінаватых без віны» (С. Грахоўскі), Б. Мікуліча не пакідала пытанне «за што?». На старонках «Аповесці для сябе» — дзённіка, пачатага ў жніўні 1946 г., калі да заканчэння дзесяцігадовага тэрміну зняволення заставалася крыху больш за два месяцы — ён не абмінае яго таксама. Ні контррэвалюцыйных, ні нацыяналістычных дзеянняў, што яму інкрымінавалі ў час следства, у мінулым сваім жыцці адшукаць не можа. І адно, і другое абвінавачванне абсурднае, аднак ён запыняецца на апошнім: *«Мне же всегда неприятной казалась наша ограниченность, я всегда с радостью и большим удовольствием расширял наши (свои) культурные связи. Было желание выскочить из «минского» мирка, была некоторая зависть к русским товарищам, что у них и горизонт шире, и возможностей больше. Но эта зависть <...> подстёгивала, заставляла лучше работать, больше делать. Магнитогорск, Смоленщина, Грузия, Москва, Ленинград вошли в мою юность, как лучшие страницы, и — нужно прямо сказать — вне Минска я чувствовал себя и лучше, и свободнее».* Але было ў Мінску сапраўднае сяброўства са Змітраком Бядулем, сустрэчы і задушэўныя размовы з Янкам Купалам. Было выступленне на з'ездзе пісьменнікаў Якуба Коласа, які сярод лепшых пяці назваў і прозвішча Б. Мікуліча. З вуснаў стрыманага на кампліменты аўтара «Новай зямлі» і «палескіх аповесцей» гэта прагучала як *«надта высокая пахвала».* Успаміны пра стасункі з класікамі нацыянальнай літаратуры і праз гады адгукаліся ў душы Б. Мікуліча цеплынёй.

Адчуванне ўнутранай адасобленасці ад «минского мирка», якое асабліва абвастрылася ў 1935—1936 гг. пасля паездкі ў Грузію, спарадзіла ў маладога пісьменніка ўпэўненасць ва ўласнай абароненасці. Ён спакойна працаваў, бо лічыў, што яго ніяк не тычацца трывожныя і незразумелыя падзеі 1936 г. І калі таварышы адзін за адным знікалі за кратамі турмы, *«мучительно, постепенно, но твёрдо»* прыходзіў да высновы, што яны — ворагі. Гэта выснова яшчэ больш умацавалася пасля арышту (25 лістапада 1936 г.), бо «ворагі» пацягнулі за сабой і яго — следчы на допыце прад'явіў паказанні некаторых пісьменнікаў.

Крыўда на былых калег і, шырэй, у нейкай меры на абраныя для творчага самавыяўлення мову і літаратуру, здаецца, не астыла і на сібірскіх марозах. *«И вот десять лет отдано за идеи, которые не стали моими, — наоборот, невозможность соприкасаться с бел. культурой стёрла с меня этот налёт, приобретённый в школе, в товарищеской среде, но он — не органическое, во всяком случае — не ставшее органическим»*, — так здавалася пісьменніку ўдалечыні ад

роднай зямлі. Аднак жыццё расставіла патрэбныя акцэнты, вызначыўшы, што было для Б. Мікуліча арганічным, а што — не. «На волі» — некалькі месяцаў у Ашхабадзе, дзе жыла з сям'ёй сястра Каця, потым, да новага арышту вясной 1949 г., на радзіме — ён піша на беларускай мове, хоць даўно склалася і да гэтага часу існуе такое паняцце, як рускамоўны беларускі пісьменнік. Ён захапляецца прыгажосцю народных песень, цудоўнай беларускай гаворкай церахавіцкіх сваякоў. Працуючы ў бібліятэцы, з сумам заўважае, як падае цікавасць да беларускай кнігі, на нарадзе бібліятэкараў выступае з крытычным закідам пра адсутнасць працы з кнігай на роднай мове. Праўда, баючыся абвінавачванняў у нацыяналізме, Б. Мікуліч хутка пашкадаваў аб сваім выступленні і даў сабе *«ўрачысты зарок: ніколі больш гэтыя пытанні не ўзнімаць».* Разам з тым ён з задавальненнем канстатуе, што ўдзельнікам нарады прыйшлося прызнаць, што з беларускай літаратурай працаваць трэба.

Радзіма, прынамсі, тая яе іпастась, з якой найперш звязваў свае жыццёвыя памкненні, зноў аказалася бессардэчнай мачыхай. Вяртаўся ён на Беларусь з адчуваннем *«дужасці і прагай шчасця»,* якое бачылася *«ў поўным пазбаўленні ўсіх абмежаванняў, у магчымасці пісаць»* і, дададзім, не менш істотнае для творцы — друкавацца. Аднак ніводнага напісанага ў перыяд з 1946 па 1948 гг. твора — больш як дзясятка апавяданняў і аповесцей, гістарычны раман — надрукаваным, нягледзячы на ўсе захады, Б. Мікуліч не пабачыў. У канцы 1947 г. з пісьменніка знялі судзімасць, толькі і аднаўленне ў грамадзянскіх правах мала што змяніла. Рукапісы ў рэдакцыях часопісаў і выдавецтваў бралі, абяцалі пасля прачытання і абмеркавання надрукаваць, аўтар поўніўся радасным спадзяваннем і чакаў. Потым нагадваў аб сабе лістамі ў адпаведныя інстанцыі і па-ранейшаму чакаў...

Зноў адарваны ад роднай зямлі, у высылцы, Б. Мікуліч шчыра цікавіўся жыццём на радзіме, станам нацыянальнай культуры і літаратуры, ужо не аддзяляючы сябе ад гэтага. Ён быў надзвычай удзячны Т. Бандарчык, якая, магчыма, як ніхто іншы, разумела яго сум і цягу да роднага і прысылала ў далёкую Машукоўку Краснаярскага краю выразкі з газет, беларускія часопісы, кнігі.

У год першага арышту яму споўнілася ўсяго дваццаць чатыры. Уражвае не толькі працавітасць і пладавітасць пісьменніка на раннім этапе творчасці, але і хуткае сталенне як мастака, пра што сведчаць зборнік апавяданняў «Яхант», аповесці «Дужасць» і «Дружба».

Прадстаўляючы першую пасля рэабілітацыі пісьменніка кнігу («Выбранае», 1959), С. Грахоўскі назваў «Дужасць» паваротным пунктам у ранняй творчасці Б. Мікуліча. Аповесць перадрукоўвалася і ў наступных зборніках, у тым ліку і перакладных. У творы Б. Мікуліч вынес на суд чытача гісторыю ўзаемаадносін двух маладых людзей, спачатку сяброў, паплечнікаў, а потым непрымірымых ворагаў. У першай частцы аповесці ўзнаўляюцца падзеі грамадзянскай вайны. Станіслаў Юткевіч, сын *«прэм'ера імператарскіх тэатраў»*, здаецца, парваў са сваім класам, прыняў новы лад, нават гатовы яго абараняць са зброяй у руках. Камсамольцы, кіраўніцтва рэвалюцыйным Крушняярскам цалкам давяраюць гэтаму прышламу прыгожаму і вясёламу хлопцу. Аднак першае адказнае заданне выявіла сутнасць натуры Станіслава, яго самаўпэўненасць, індывідуалізм, нежаданне лічыцца з думкамі іншых. Ён пачаў бой, не дачакаўшыся сігнала, і гэта стала прычынай гібелі атрада. Пісьменнік паказвае, што Станіслаў не спалохаўся. *«Коннікі з агаленымі шаблямі імчаліся на яго, на іх, і нельга было ўлежаць на месцы, хацелася бегчы, і бегчы не ўзад, а наперад, наперад, на коннікаў, на конскія крупы, на кругаверць бою.*

*— За мной! — экстаз ахапіў Станіслава, і ён сарваўся з месца і пабег, размахваючы наганам».*

Аглушаны ўдарам прыклада, Юткевіч трапіў у палон, дзе сустрэў адзінага ацалелага ў сутычцы з ворагам чырвонаармейца. Аднак ён не разумее папрокаў

Аўсеенкі, жорстка кінутага ім *«расстраляць цябе мала»*, і зусім шчыра здзіўляецца:

— *Мяне расстраляць? Завошта? Хіба я благое што зрабіў*?

Таварышы ўчынак Станіслава расцанілі як цяжкае і непапраўнае злачынства. Зразумеўшы, што яго маладосць, яго жаданне *«героем быць»* нікога з прысутных не кранулі, што яму будзе вынесены смяротны прысуд, Станіслаў ратуецца, як і ў выпадку з палонам, уцёкамі.

Далейшы лёс героя, аж да самай смерці ў нямецкай турме ад рукі Карла Гардона, *«караля злодзеяў»*, — гэта ўцёкі ад смерці. На пачатку артыстычнай кар’еры Юткевіч спавядаецца партнёрцы: *«Я шукаў сваё юнацтва, Эльга, я шукаў роўных сабе людзей і не знайшоў іх. Я шукаў таварышавання, шукаў маладосці, а напаткаў смерць, уцёк ад яе... але імчыцца, шалёна імчыцца яна за мной аж дагэтуль. Што засталося ад таварышавання ў мяне, Эльга? Нянавісць. Вялікая нянавісць. І няма дзе дзецца ад яе мне»*. Ён сапраўды імкнуўся да новага жыцця, спрачаўся з-за гэтага з бацькам, не хацеў ехаць з сям’ёй на поўдзень краіны пад апеку белагвардзейцаў. Але толькі выпадак прывёў яго да крушняярскіх камсамольцаў — юнак спазніўся на цягнік. І далей выпадак, спрыяльны ці шчаслівы для героя збег абставін, становіцца вырашальным у яго лёсе. Такая пабудова сюжэтнай лініі Станіслава Юткевіча не з’яўляецца вынікам мастацкай малавопытнасці празаіка. Гэта прыём, праз які раскрываецца жыццёвая пасіўнасць героя, яго няздатнасць да самастойных рашэнняў. Адзіны самастойны крок Юткевіча — насуперак бацькавым планам (замяніць таго на сцэне) ён накіроўваецца ў атрад Бялова.

Развенчваючы свайго героя, паказваючы яго паступовую дэградацыю, пісьменнік не ідзе па шляху нагнятання адмоўных якасцей, як гэта было з прафесарам Шастаковым у аповесці «Наша сонца». Выехаўшы ў Нямеччыну і такім чынам у чарговы раз ашукаўшы смерць, Станіслаў на нейкі час супакоіўся і *«з поўнага келіха піў жыццёвы бальзам»*: купаўся ў промнях вядомасці і славы, атрымліваў вялікія ганарары. А потым зноў незадаволенасць існаваннем, адчуванне душэўнай непрыкаянасці, нечаканая туга па пакінутай бацькаўшчыне, незразумелыя для практычнай Эльгі ўчынкі.

Крытыка 30-х гг. у цэлым станоўча прыняла аповесць, аб’ектыўна сказала пра некаторыя пралікі маладога празаіка. Нязгоду выклікае, аднак, ацэнка вобраза Станіслава Юткевіча. *«Нельга сказаць, каб вобраз Юткевіча быў непраўдзівы. У пэўным сэнсе гэта нават тыповы вобраз. Але гэты вобраз страшэнна дысгарманічны»*, — пісаў, напрыклад, крытык Я. Шарахоўскі. Няспрошчанасць характару героя, незададзеная яго трактоўка, дзякуючы чаму вобраз выклікае цікавасць і запамінаецца, падаліся мастацкім пралікам аўтара.

Другі галоўны герой «Дужасці» камуніст Краўчанка — тып новага чалавека. Пісьменнік імкнуўся раскрыць найперш класавую сутнасць гэтага героя, вылучаючы ў яго характары тое, што лічылася ўласцівым прадстаўнікам пралетарыяту, — вернасць справе рэвалюцыі, прынцыповасць, мужнасць, непрымірымасць да ворагаў. Якраз Барыс Краўчанка ўвасабляе тую нянавісць, якую знайшоў замест таварышавання Станіслаў. І ён жа, равеснік Юткевіча, найбольш безапеляцыйны і жорсткі «суддзя» нядаўняга сябра. *«І ўздымаецца з месца Барыс Краўчанка, яго вочы блішчаць неяк асабліва ярка.*

— *Чужая маладосць у табе загаварыла, Юткевіч. Нашая маладосць абараняе Крушняярск, а ты выбіўся з яе шэрагаў, недабітае варожае нутро тваё загаварыла»*. Краўчанку ўсё зразумела з чалавекам, які належыць да чужога лагера. Любая яго памылка, свядомая ці несвядомая, расцэньваецца ім як здрада, а здраднік заслугоўвае пакарання. Ужо ў мірны час, сустрэўшыся ў Маскве з Тасяй — крушняярскім каханнем яго і Станіслава, — Краўчанка абурана крычыць, пералічваючы грахі некалі блізкага чалавека: *«Ён здраднік! Ён генеральскі сын! Ён бязвольны, слабы, агідны чалавек, ён дзясяткі разоў выслізгваў з маіх рук, але цяпер... Яго не расстралялі, і ў гэтым увесь мой боль...»*

Аўтар не ставіць пад сумненне пазіцыю героя, яна была запраграмавана ідэалагічнымі стэрэатыпамі таго часу. Аднак вобраз Станіслава Юткевіча з яго імпульсіўнымі непаслядоўнымі пошукамі *«свайго юнацтва»* — цікавага змястоўнага жыцця ў гармоніі з самім сабой і акаляючым светам — незалежна ад жадання аўтара высвечвае неапраўданую жорсткасць правільнага станоўчага героя. Не «рэабілітуе» Барыса Краўчанку і праца на будаўніцтве камбіната (трэцяя частка аповесці). Выявіўшы групу шкоднікаў на чале з Берднікавым (былым палкоўнікам Маслоўскім), ён успамінае сябра маладосці і завочна прарочыць яму шлях шкодніка: *«І думаў Краўчанка, цвяроза правяраючы сябе: няма... і не можа быць людзей нейтральных. І, быць можа, тады, калі ён непахісна далучыў свой голас да прысуду, цьмяным уявам мірсцілася Юткевічава будучае»*.

Падыход да чалавека з пункту гледжання маралі класа-пераможцы прысутнічае і ў пазнейшых творах пісьменніка, напрыклад, у «Палескай аповесці», у «Ветры на світанні». Але ці быў Б. Мікуліч нейкім выключэннем з правіла?

Асуджаны на дзесяць гадоў папраўчай працы ў лагеры, Б. Мікуліч не мог пагадзіцца з несправядлівым выракам, пісаў і пісаў лісты з просьбай перагледзець яго справу. На пачатку 1941 г. Вярхоўны суд БССР адмяніў справу, ды перагляд яе быў спынены вайной. Аднак у канцы 1943 г. зняволенага Мікуліча перавялі ў становішча ссыльнага. Працаваў ён у аддзеле працы і зарплаты лагера, а таксама кіраўніком тэатральнага калектыву. Такім чынам у пісьменніка з'явілася рэальная магчымасць выкройваць нейкі час на галоўную справу жыцця — літаратурную творчасць.

«Палеская аповесць», рускамоўны варыянт якой да 1946 г. ужо быў скончаны, стала першым творам, працуючы над якім Б. Мікуліч «успамінаў» родную мову. *«Форменным образом дни и ночи сижу над повестью, перекроил и русский вариант и сегодня, а может — завтра окончу белорусский... Очень хорошо работается, несмотря на скверное здоровье. Можа, мне здаецца, але аповесць гучыць па-беларуску вельмі ўдала. Не, няхай не друкуюць, а я павінен гэта зрабіць...»* — запісаў ён у дзённіку I.XI.46 г., за пяць дзён да вызвалення.

Задума напісаць твор пра апошні прыезд М. Багдановіча ў Беларусь узнікла таксама ў зняволенні. Гэтага беларускага класіка Б. Мікуліч любіў асабліва і вылучаў сярод «нашаніўцаў». Аповесць «Развітанне» была скончана на самым пачатку 1947 г., калі пісьменнік жыў у Туркменіі. Будучы за тысячы кіламетраў ад радзімы, ён разам са сваім героем хадзіў па мінскіх вуліцах, размаўляў з *«мілым, ветлівым і таленавітым»* Ясакарам, Самуілам Плаўнікам, ад якога калісьці і пачуў пра Максімава жыццё на радзіме.

На старонках твора М. Багдановіч не толькі «дзейнічае»: едзе ў цягніку, слухае гісторыі абяздоленых людзей, шукае на начных вуліцах Вераніку, у «Беларускай хатцы» чытае вершы, размаўляе, а часцей спрачаецца з Плаўнікам... Побач з гэтым паўстае (няхай сабе ўзноўлены толькі асобнымі штрыхамі) адметначароўны свет паэзіі М. Багдановіча: *«Ён чытаў глухім, нізкім распевам. Дзіўныя вершы пра тое, як брыдзе ў абшарпанай шкуры лясун па дарогах, рог абламаны аб дрэва... Дзіўныя вершы пра тое, як лясун пачынае перабіраць струны-сосны і як гранне дзівоснага струменту палоніць свет. Але слухачы чулі іншы голас за гэтымі вершамі: голас вялікай любові і нязмернага болю за лёс айчыны»*. Да «прачытання» твораў паэта (цыклы «У зачарованым царстве», «З песень беларускага мужыка», знакамітая «Пагоня», «Цемень», «Набягае яно» і інш.) прыдаўся, думаецца, як талент пісьменніка, так і вопыт даследчыка літаратуры.

У Б. Мікуліча «свой» Багдановіч, вобраз якога ў параўнанні з успамінамі З. Бядулі выразна трагедызаваны. Пакуты паэта (невылечная хвароба, якая вось-вось забярэ астатак жыцця) накладваюцца на пакуты народа, уцягнутага ў страшную вайну. На пад'ездзе да горада ўражлівага творцу, сэрца якога няспынна балела за *«выкляты Богам»* край, сустрэла *«народнае гора»*: выгнаныя вайной з родных мясцін людзі, сотні і тысячы людзей. Гэтае гора ён бачыў потым на

кожным кроку і кожны дзень. І адмаўляўся піць гарбату з цукрам, бо недзе побач былі галодныя дзеці...

Паказваючы рэальныя гістарычныя падзеі і рэальную асобу, пісьменнік дазваляе сабе «дадумаць» нейкія факты жыцця М. Багдановіча, якія, трэба сказаць, у асноўным падпадаюць пад статус верагоднага — такога не было, але магло быць. Так, у натоўпе бежанцаў паэт сустракае дзяўчыну, якая чытае «Вянок» і не тое жартам, не тое ўсур'ёз называе сябе Веранікай. Вельмі хворы, з частымі цяжкімі прыступамі несупыннага кашлю, М. Багдановіч блукае начамі, вяртаецца на кватэру Плаўніка на світанні, а на клопат старэйшага калегі адказвае: *«Я хаджу на спатканне з Беларуссю. Я знаю, што гэта спатканне апошняе, што гэта — развітанне... І не магу не хадзіць»*. Аднак сустрэча з арыштаванымі салдатамі-бальшавікамі, сярод якіх апынуўся былы сябра, і не проста спачуванне зняволеным людзям, а ўнутраная перакананасць у іх праўдзе, здаецца ўсё ж штучна прывязанай да асобы аўтара «Вянка». Гэта, дарэчы, у свой час адзначала крытыка.

Перад Б. Мікулічам, думаецца, ніколі не стаяла праблема пра што пісаць. Тэмы твораў прыходзілі да яго неяк вельмі натуральна, часам нават супернічаючы, адцясняючы адна адну, і хутка знаходзілі ўвасабленне ў мастацкіх вобразах. Што іх падказвала — жыццё, унутранае творчае «я», стан літаратуры, чым пастаянна цікавіўся пісьменнік? Услед за аповесцямі, у якіх галоўныя падзеі звязаны з гадамі дзяцінства і ранняга юнацтва («Вецер на світанні», «Палеская аповесць»), «Развітаннем», герой якога блізкі Б. Мікулічу драматычнымі перыпетыямі лёсу, стаўленнем да мастацтва слова, ён піша «Цяжкую гадзіну» пра Вялікую Айчынную вайну, пра жыццё і змаганне жыхароў беларускага горада. У «Жыццяпісе Вінцэся Шастака» пісьменнік стварае каларытны вобраз чалавека з народа, прызначэнне якога — будаваць: хату, сям'ю, род, калгас, аднак якому часта даводзілася браць у рукі зброю, а потым адбудоўваць знішчанае і разбуранае ворагам. Своеасаблівым адказам на пажаданне рэдактараў выданняў, куды безвынікова дасылаў Б. Мікуліч рукапісы, уяўляецца аповесць «Зялёны луг» пра жыццё пасляваеннай калгаснай вёскі. Гэтыя аповесці, побач з апавяданнямі «Зорка», «Гадзюка ў кароне», «Звычайны дзень», «Матчын сын», раманам «Адвечнае» — плён пісьменніцкай працы за два няпоўныя гады!

*«1812 год. Нашэсце Напалеона, Дрыса, барацьба польскай шляхты (Дамброўскі, Панятоўскі, прывіды 1831 г.) супраць расійскай дзяржаўнасці Раманавых. І ў гэтай сітуацыі — беларускае сялянства...»* — такім бачыўся змест рамана «Адвечнае» напачатку. З часам задума ўскладнілася і пісьменніку ўяўлялася ўжо эпапея. Наступнай часткай вялікага мастацкага палатна *«мог бы быць 1861 год пад кутом гледжання ўдзелу ў вызваленчым польскім паўстанні беларускага сялянства і таго, як гэтыя асноўныя сілы — польская шляхта і сялянства — прыйшлі да гістарычнай супярэчнасці»*. Сярод герояў твора павінен быў з'явіцца Кастусь Каліноўскі — гэта гістарычная асоба цікавіла пісьменніка. Раманнае дзеянне Б. Мікуліч планаваў давесці да 1917—1920 гг.

Жанр «Адвечнага» пісьменнік вызначыў як аповесць, хоць на старонках дзённіка ён часам фігуруе і як раман. Укладальнікі кніг Б. Мікуліча пайшлі за аўтарам, прынамсі, твор увайшоў у зборнік з назвай «Аповесці» (серыя «Бібліятэка беларускай прозы», 1985). Аднак па значнасці праблематыкі, шырыні ахопу падзей, колькасці сюжэтных ліній і ўзноўленых характараў — гэта раман. І раман гістарычны, у якім знайшлі адлюстраванне рэальныя падзеі далёкага мінулага (пярэдадзень і сама вайна 1812 г., ганебнае адступленне нядаўна лепшай у Еўропе арміі, «бярэзінская трагедыя»). Уведзены вобразы канкрэтных удзельнікаў гэтых падзей (Напалеон Банапарт, шэраг набліжаных да яго асоб, генералы і камандуючыя рускай арміяй П. Чычагоў, А. Ярмолаў, М. Платаў і інш., вядомыя дзеячы падзеленай у канцы XVIII ст. Рэчы Паспалітай Я. Дамброўскі, Ю. Панятоўскі). Побач з беларускімі сялянамі, местачкоўцамі, шляхтай Б. Мікуліч паказвае французскіх афіцэраў і салдат, засланых напярэдадні вайны выведнікаў (дастаткова

шырока распрацаваны вобразы інтэнданта Анры Жэрара, разумнага і прадбачлівага Лілле), каталіцкіх святароў, польскіх магнатаў.

Патрыятычна настроеныя палякі з імем французскага імператара звязалі адраджэнне сваёй дзяржаўнасці. Аўтар рамана, аднак, ужо на самым пачатку гаворыць пра ілюзорнасць іх спадзяванняў. *«Дваццаць чацвёртага чэрвеня 1812 года «Grande armee» Напалеона рушыла праз Нёман. Першымі ступілі на літоўскія і беларускія землі палякі. Гэта была своеасаблівая дэманстрацыя, прыдуманая для таго, каб апраўдаць перад гісторыяй, мусіць, вераломны напад на славянскія землі «вызваленнем Польшчы з-пад прыгнёту рускага цара». Частка палякаў 13-га палка загінула ў хвалях вялікай ракі, і яны, гэтыя загінуўшыя, былі самымі шчаслівымі ўдзельнікамі «рускага паходу», бо загінулі з надзеяй».* Гэта агульная інфармацыя канкрэтызуецца дзякуючы вобразу маладога гарачага патрыёта Вітальда Радзівіла-Сасноўскага, які бачыў сябе на чале атрада адважных паўстанцаў, а камандуе *«купкай зброду, імянуемага салдатамі французскай арміі»*. Ад рук гэтых «саюзнікаў» Польшчы ён і гіне.

У рамане ёсць многае з таго, з чым пазней знаёміў чытача адкрывальнік беларускага мінулага незабыўны У. Караткевіч: выгляд маёнткаў і сялянскіх хат, апісанне вопраткі, ежы, страў, прадметаў быту і г. д. Прывядзём у якасці прыкладу невялікі ўрывак з апісання ўнутранага начыння «*вялікага, складзенага з масіўнага бярвення дома*» пана Рудкоўскага. *«У сталовай нізкі дубовы стол, чатыры карлы падтрымлівалі стальніцу. Сцены пакоя таксама былі з дубовых шчыткоў і скрозь увешаны рознымі рэчамі: фарфоравымі талеркамі ды чарапкамі, зброяй, люлькамі. Гэтыя рэчы не належалі да адной якой эпохі, не было тут і гарнітураў...»* Падобныя апісанні не проста дзесьці шчасліва знойдзеная характарыстычная дэталь эпохі, што даволі часта сустракаецца ў творах пра мінулае нашых сучасных пісьменнікаў. Яны індывідуалізаваны, раскрываюць характар, лад жыцця гаспадара.

Як і У. Караткевіч, Б. Мікуліч у характары суайчыннікаў асабліва выдзяляе імкненне да волі. Гэтым імкненнем поўняцца не толькі маладыя сялянскія хлопцы Платон Назарчук і Васіль Рэвут. На рынку Васіль сустракае *«маленькага мужыка»*, які спрабуе прадаць апошняе, што ў яго засталося, — старую карову. *«— Я ўсё чыста рашыў, каб адкупіцца на волю. Хоць памру вольным»*, — тлумачыць селянін са слабай усмешкай.

Распачынаючы вайну з Расіяй, Напалеон спадзяваўся, што прыгоннае сялянства ўспрыме яго як вызваліцеля, забяспечыць армію хлебам. Аднак літоўскія (беларускія) землі сустрэлі салдат напалеонаўскай арміі бязлюднымі спаленымі вёскамі і мястэчкамі. Сяляне пахаваліся ў лясах, начамі жалі і прыбіралі з палёў саспелае збожжа, а калі французы паспрабавалі забраць ураджай і вярнуць уцекачоў у вёску, узяліся за зброю. Сяляне помсцілі і сваім прыгнятальнікам: яшчэ да прыходу французаў палілі іх маёнткі і фальваркі, псавалі маёмасць, распраўляліся з панскімі памагатымі.

Платон падпальвае палац свайго гаспадара Тэадора Тышкевіча, аднак яго помста не толькі за зганьбаваную графам годнасць каханай дзяўчыны. Дзякуючы Казіміру Рудкоўскаму, які выкупіў яго ў Тышкевічаў і пазнаёміў з шэдэўрамі сусветнага мастацтва, сабранымі за сваё доўгае, поўнае прыгод жыццё, былы прыгонны разьбяр многае зразумеў. *«Цяпер ён ведае — гэта італьянскія мастакі, а гэта — французскія. Імёны гэтых мастакоў, гэтых майстроў? Яны могуць быць і Леанарда да Вінчы, і безыменнымі: апошніх — тысячы. Рабы! Платоны! Тысячы, дзясяткі тысяч платонаў, якіх можна купляць і прадаваць, можна высмактаць з іх іх талент разам з крывёю і потым кінуць на стайню <...> Платон цяпер ведае, што і мастацтва, як і рэлігія, як і камерцыя, не вызваляе чалавека».* Ён без вагання і шкадавання падпальвае старыя габелены польскай дзяржаўнасці, потым агонь паглынае панскія партрэты, палотны вядомых і невядомых мастакоў, дываны з Персіі, Турцыі, Індыі... Юнак рашуча знішчае сабранае з усяго свету

хараство яшчэ і таму, што праз акно галерэі бачыць набліжэнне новых, нязваных гаспадароў, якім тут былыя ўладальнікі пакінулі ўсё.

Праблему волі пісьменнік раскрывае ў творы як у звыклым яе разуменні — сацыяльная, эканамічная незалежнасць асобы, так і ў шырокім філасофскім плане. У гады юнацтва горды і адчайны Казімір Рудкоўскі пачуў у Вечным горадзе ад паважанага ўсімі манаха, што на гэтым свеце толькі тры галіны чалавечай дзейнасці *«даюць поўную свабоду: рэлігія, мастацтва, гандаль»*. Ён добра зведаў сутнасць першай, раней вандруючы па краінах Еўропы, і адразу яе адкінуў. Заняўся гандлем, разбагацеў, мог дазволіць сабе вельмі многае, але адчуванне поўнай свабоды ад гэтага не з’явілася. Лёс Платона пераканаў яго, што мастацтва таксама не робіць чалавека свабодным. Рудкоўскі прыходзіць да высновы: толькі *«агульная воля дае асабістую і творчую волю»*.

Такім чынам, праблема чалавечай свабоды (пэўна ж, прымераная аўтарам і да ўласнага лёсу) не знаходзіць у творы станоўчага вырашэння. Перад вачыма Платона паўстае драўляная кампазіцыя: вялізная лесвіца, па якой з цяжкасцю ўздымаецца мноства людзей, хтосьці з іх падае, хтосьці, спалоханы, бяжыць уніз, і толькі адзін юнак упарта ідзе ўгору. *«А там, угары, стаіць яна — Воля. Зграбная жанчына ў доўгім адзенні. І з непрыхаванай іранічнай усмешкай глядзіць уніз, на смешных і слабых людзей, якія імкнуцца дайсці да яе, імкнуцца, але не дойдуць. І ўсё гэта — адвечнае імкненне да волі, за якую пакутуюць, за якую гінуць»*.

Канкрэтныя дзеянні створаных фантазіяй пісьменніка герояў адбываюцца на шырокім гістарычным фоне. Б. Мікуліч знаёміць з палітыкай царскага ўрада на нядаўна далучаных польска-беларускіх землях, з планамі Напалеона адносна Польшчы і Расіі, яго захадамі скарыць Англію, з настроем розных сацыяльных пластоў у дзяржавах, якія да пары да часу захоўваюць добрасуседскія адносіны. Не можа не здзіўляць зарыентаванасць у гісторыі пісьменніка, які быў на дзесяць гадоў пазбаўлены не тое што бібліятэк, але нармальнага чалавечага існавання. У тэксце рамана шмат вытрымак з прац айчынных (не савецкіх!) і замежных вучоных, успаміны ўдзельнікаў Айчыннай вайны, сучаснікаў і паплечнікаў *«каранаванага ў саборы Нотр-Дам»* карсіканца. Дэманструе Б. Мікуліч таксама добрае веданне напрамкаў, школ заходнееўрапейскага мастацтва і іх выдатных прадстаўнікоў. Апошняга вымагала сюжэтная лінія таленавітага сялянскага самародка Платона Назарчука, аднаго з цэнтральных герояў рамана, а таксама *«дзіўнага чалавека»* пана Казіміра Рудкоўскага.

Раман «Адвечнае», бясспрэчна, лепшае, што стварыў Б. Мікуліч. Аднак да гэтага часу ён па-належнаму не прачытаны і не ацэнены. Твор быў апублікаваны толькі праз чвэрць стагоддзя («Полымя», 1972, № 8), і часопісны скарочаны варыянт не мог даць сапраўднага ўяўлення пра яго змест. З’яўленне рамана ў 1985 г. (зборнік «Аповесці») не стала літаратурнай сенсацыяй, як гэта адбылося напрыканцы 1980-х з дзённікам пісьменніка. Чаму? Адказаць на пытанне можна, хоць пры гэтым найперш трэба згадаць нашу беларускую блізарукасць: бачым, хвалім, захапляемся нечым, а сваё, роднае, не горшае, часам нават намнога лепшае, адпраўляем на літаратурныя задворкі. Раман, пераканана, трэба неадкладна перавыдаць і, галоўнае, упісаць у нацыянальную мастацкую гістарыяграфію, бо яго месца побач з творамі У. Караткевіча, У. Арлова, К. Тарасава, В. Чаропкі, В. Іпатавай...

Апошняя фраза ў «Адвечным» — *«канец першай часткі»*. Аднак здзейсніць грандыёзны план мастацкага ўзнаўлення далёкага мінулага пісьменніку не дазволіла заўчасная смерць — 17 чэрвеня 1954 г. Не спрыялі гэтаму і жыццёвыя абставіны. *«...Меня снова увезли в мне уже знакомый Красноярский край. Пережито было много, и об этом, пожалуй, лучше не вспоминать. Достаточно сказать, что привезли меня сюда амаль мерцвяком, фізічным і маральным. Глядеть на окружающий мир мне было нестерпимо, физически больно»*. У гэтых радках ліста (30.VII.1950 г.) да Т. Бандарчык, здаецца, няма ні крыўды, ні злосці, ні

жадання пісьменніка паплакацца, толькі сухая канстатацыя таго, што адбылося, ды яшчэ здзіўленне — чалавечай прыродзе і самому сабе: *«До чего живуч человек! Я выдюжил... Перамог. Перамог услед за гэтым поўную апатыю да кнігі, да мастацтва наогул».*

Лёс у адным злітаваўся над пісьменнікам — захаваў яго дзённік 1946—1948 гг. Дзённік пісаўся на рускай і беларускай мовах. Гэта шчырая непрыхарошаная споведзь вельмі таленавітага, апантана захопленага мастацтвам чалавека, у якога на доўгія гады адабралі свабоду, блізкі і родны свет, магчымасць займацца любімай справай. Потым, здаецца, «памылку» выправілі, але «асудзілі» на маўчанне творы. *«Вось яно яшчэ адно страшнае параджэнне сталіншчыны,* — слушна заўважае ўкладальнік і аўтар прадмовы да «Аповесці для сябе» Л. Савік, — *калі чалавек не загінуў у лагерах, яму было суджана поўнае забыццё, неіснаванне».*

Барыс Мікуліч рэдка згадвае лагернае жыццё, хоць яго нявольніцкая «адысея» не была нейкім выключэннем: *«Я голодал до страшной цынги и обмороков... Я пилил дрова и задыхался от монотонных движений, корчевал пни, строил железную дорогу, грузил лес и рельсы, разгружал песок, валил деревья, рыл землю — и знаю цену человеческому труду и отчаянью».* Зняволены пісьменнік, у рэдкія хвіліны застаўшыся сам-насам, жыў іншым: вяртаўся ў гады дзяцінства, якое, дарэчы, не было суцэльным святам, успамінаў сваю зусім яшчэ блізкую маладосць, сяброў і знаёмых, стасункі з вядомымі майстрамі мастацкага слова, вучобу на літаратурных курсах у Маскве, творчыя паездкі па краіне, спрабаваў разабрацца ў драматычных падзеях 1930-х гг. Дзякуючы «Аповесці для сябе» вядома, як і чым сустрэлі пісьменніка *«мир свободы»* (другая частка) і *«родина»* (трэцяя частка), а таксама творчая гісторыя амаль усіх напісаных у 40-я гг. аповесцей і рамана «Адвечнае».

На старонках дзённіка паўстае вобраз чулага, шчырага і вельмі мужнага чалавека, які шырока глядзеў на свет, шмат чытаў і думаў. Нягледзячы на ўсе перажытыя аўтарам несправядлівасці, «Аповесць для сябе» заканчваецца на вельмі аптымістычнай ноце: *«Во мне огромная энергия. Образы ненаписанных книг теснятся вокруг меня, снятся мне, со мною ходит рядом красивая моя мечта, которая поддерживала меня и в ветреной новосибирской степи, и в морозы Красноярска, и в грязи этапов, и в угольной пыли "пятьсот весёлого"».* Б. Мікуліч верыў у сябе і свой талент, у сілу мастацкага слова, верыў, што жыццё зменіцца да лепшага...

Настрой лістоў да Т. Бандарчык, якія з'яўляюцца своеасаблівым працягам «Аповесці...», зусім іншы: *«...Я цяпер жыву з такім адчуваннем, што кожную хвіліну мяне павінны зноў сарваць з месца, зноў некуды паклікаць, зноў некуды везці».* Рэчаіснасць для пісьменніка страціла сваю трываласць і прадказальнасць, ілюзій (спадзявання на шчаслівы паварот лёсу) пасля новага арышту, па сутнасці, не засталося. Таму, пэўна, так спакойна паставіўся Б. Мікуліч да чутак пра амністыю. *«Лично меня и мне подобных эта амнистия пока не коснулась <...> Хотелось бы мне побывать на родине и ещё раз посмотреть её. Посмотреть родные могилы да коснуться праха убиенной моей мечты».*

І ўсё ж Б. Мікуліч не выглядае раздаўленым абставінамі. У звароце на імя К. Варашылава (10.V.53) ён не просіць, а настойвае на выпраўленні *«гістарычнай несправядлівасці»*, на ўласным праве жыць і працаваць *«без аглядкі»*. Не адразу, але з часам адшукалі ссыльнага пісьменніка і *«вобразы ненапісаных кніг»*. З лістоў да Т. Бандарчык: *«В последнее время, признаюсь, потянуло на литературу... Хочу написать «Споведзь» — без адреса и без надежды опубликовать. Для себя...» (30.VII.50), «Пока ещё ничего не пишу, но тянет иногда смертельно»* (22.XI.51).

На жаль, больш нічога, акрамя пісем-маналогаў, апошні, зусім кароткі, перыяд жыцця Б. Мікуліча не пакінуў. Але будзем удзячныя ім, а таксама адрасату — Таццяне Андрэеўне Бандарчык, да якой плылі, ішлі, ехалі — дабіраліся часта не тыднямі, а месяцамі — шчымлівыя, балючыя адчуванні, перажыванні, разважанні і думкі пісьменніка.

Ігар АЎЛАСЕНКА

# НЬЮ-ЁРКСКІЯ МАЛЮНКІ ПІМЕНА ПАНЧАНКІ

Біяграфія народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі адметная вялікай грамадскай актыўнасцю. Пімен Емяльянавіч быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, старшынёй Рэспубліканскага камітэта абароны міру. Сёлета спаўняецца 60 гадоў, як для яго адбылася важная падзея. Восенню 1958 года ў складзе дэлегацыі ад БССР ён наведаў Нью-Ёрк і прыняў удзел у працы XIII сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, прадставіўшы Беларусь на пасяджэннях самага вялікага і аўтарытэтнага міжнароднага форуму.

У розныя гады Нью-Ёрк наведалі Міхась Лынькоў, Пятро Глебка, Максім Танк, а таксама іншыя пісьменнікі. Але рэаліі 1950-х гадоў істотна адрозніваліся ад сённяшніх. У часы «халоднай вайны», калі стрыжнем міжнародных адносін было супрацьстаянне Злучаных Штатаў і Савецкага Саюза, любы выезд за мяжу (асабліва ў краіны Захаду) для савецкага чалавека з'яўляўся падзеяй рэдкай, а наведванне ЗША станавілася выключным выпадкам. Асаблівае месца такая паездка заняла і ў біяграфіі Пімена Панчанкі, нягледзячы на разнастайнасць іншых падарожжаў, што выпалі на яго лёс.

У 1958 годзе беларускую дэлегацыю, як і на ўсіх папярэдніх дванаццаці сесіях, узначальваў міністр замежных спраў БССР Кузьма Кісялёў. Па большасці ў яе ўваходзілі прафесійныя дыпламаты, але не толькі. Так, сярод іх быў Карп Абушкевіч, намеснік Старшыні Вярхоўнага Суда БССР. Уключэнне Панчанкі таксама не стала выпадковым. На той момант ён ужо сумяшчаў літаратурную дзейнасць з грамадскай: у 1957 годзе яго выбралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, а годам пазней — прызначылі галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». Удзел прафесійнага літаратара павінен быў надаць вагу дэлегацыі БССР у пытаннях гуманітарнага характару.

Сесія Генеральнай Асамблеі ААН доўжылася тры месяцы: з сярэдзіны верасня да сярэдзіны снежня. Дэлегаты прыбылі ў ЗША на самалёце «Ту-104» рэйсам праз Капенгаген. Пражывалі не ў самім Нью-Ёрку, а ў прыгарадзе, у пасёлку Ойстэр-бэй, размешчаным на востраве Лонг-Айленд, на спецыяльнай дачы, што належала Пастаяннаму прадстаўніцтву СССР пры ААН. Хоць з-за гэтага значны час займаў шлях да штаб-кватэры ААН і назад, такое размяшчэнне мела перавагу: дэлегаты маглі адпачыць ад шуму і шалёнага рытму вялізнага мегаполіса. Вокны катэджа выходзілі ў спакойны парк, і паэт штодзень назіраў, як восенню, нашмат цяплейшай, чым у Беларусі, наваколле патанала ў чырвані кляновай лістоты. Шлях на Радзіму ў сярэдзіне снежня пралягаў ужо па моры: пяць дзён дэлегаты падарожнічалі праз Атлантычны акіян на буйным пасажырскім лайнеры «Queen Mary» («Каралева Мэры»).

За тры месяцы дыпламатычнай дзейнасці Панчанка пакінуў шэраг назіранняў у сваіх дзённікавых запісах. Нью-ёркскія замалёўкі адлюстраваліся і ў вершах, апублікаваных напрыканцы 1950-х — у першай палове 1960-х гадоў. Каштоўнымі крыніцамі з'яўляюцца нататкі з запісной кніжкі, ліст да лепшага сябра —

Максіма Танка, а таксама ўспаміны ўнука паэта — Андрэя. Усе гэтыя крыніцы дазваляюць не толькі атрымаць уяўленне пра работу ААН, але і дапамагаюць адчуць атмасферу, у якой працавала дэлегацыя БССР, паглядзець вачыма паэта на сесію Генеральнай Асамблеі, а таксама на паўсядзённае жыццё Нью-Ёрка. Дзякуючы ім, можна адказаць на шэраг пытанняў. Якую ролю адыграў Панчанка ў працы беларускай дэлегацыі? Як гэтая паездка паўплывала на яго творчасць і светаўспрыманне? Якое ўражанне пакінула Амерыка? Наколькі шчыра яго ацэнкі амерыканскай рэчаіснасці адлюстраваныя ў вершах?

Асаблівасці працы дыпламатаў і літаратараў таго часу немагчыма зразумець без разумення працэсаў, што адбываліся на міжнароднай арэне, і тых змен, якія закранулі грамадска-палітычнае жыццё СССР у другой палове 1950-х гадоў. Гэты перыяд у гісторыю СССР увайшоў як час «адлігі», змякчэння атмасферы напружанасці і страху. Пасля выкрыцця культу асобы Сталіна на XX з'ездзе КПСС пачалося паслабленне ідэалагічнага ціску на грамадства і пазбаўленне ідэалогіі ад найбольш адыёзных рысаў, характэрных для мінулых дзесяцігоддзяў. Пашырыліся кантакты, і ўзмацніўся ўплыў СССР на міжнароднай арэне. Адметным знакам адкрытасці савецкай дзяржавы стала правядзенне ў 1957 годзе Шостага Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве. Дзякуючы гэтаму Савецкі Саюз наведалі сотні дэлегатаў з розных краін.

Лібералізацыя грамадска-палітычнага жыцця супала з ростам аўтарытэту СССР на міжнароднай арэне, што ў значнай ступені было звязана з навукова-тэхнічнымі дасягненнямі савецкіх вучоных. Падчас папярэдняй, XII сесіі, у кастрычніку 1957 года, Савецкі Саюз запусціў першы штучны спадарожнік Зямлі (ШСЗ-1), апярэдзіўшы Амерыку. Наступала эра касмічнай гонкі, і на працягу дзесяцігоддзя (да канца 1960-х гадоў, да першай высадкі чалавека на Месяц) СССР у гэтым спаборніцтве трымаўся лідарам. Сусветнае прызнанне савецкіх дасягненняў у сферы асваення космасу засведчана П. Панчанкам у дзённіку падчас адной з экскурсій: «У музеі гісторыі прыроды, унізе, стаіць макет першага савецкага спадарожніка».

Але стрыжнем падзей на міжнароднай арэне заставалася «халодная вайна». Найбольш вострым крызісам, што адбыўся напрыканцы лета і працягваў адгукацца восенню 1958 года, стаў тайваньскі. Спрэчка за шэраг дробных астравоў паміж Кітайскай Народнай Рэспублікай на чале з Мао Цзэдунам (што кантралявала мацерыковы Кітай) і Кітайскай Рэспублікай на чале з Чан Кайшы (яна кантралявала востраў Тайвань) ледзьве не прывяла да буйнамаштабнай вайны з удзелам Злучаных Штатаў Амерыкі і Савецкага Саюза. Цікава, што Панчанка захаваў у сябе выразку з амерыканскай газеты з матэрыялам пра дэбаты на трыбуне Генеральнай Асамблеі ААН паміж кіраўнікамі знешнепалітычных ведамстваў дзвюх звышдзяржаў — міністрам замежных спраў СССР Андрэем Грамыкам і дзяржаўным сакратаром ЗША Джонам Фостэрам Далесам.

Пасля Другой сусветнай вайны значна актывізаваліся і антыкаланіяльныя рухі ў краінах Азіі і Афрыкі. Французская каланіяльная імперыя перажывала цяжкі працэс трансфармацыі і стаяла на мяжы распаду. Пытанне аб набыцці афрыканскімі краінамі суверэнітэту востра стаяла на павестцы дня. Забягаючы наперад, варта згадаць, што двума гадамі пазней 18 афрыканскіх калоній (з іх 14 — французскія) сталі незалежнымі дзяржавамі. Зразумела, пытанне аб дэкаланізацыі традыцыйна падымалася на пасяджэннях Генеральнай Асамблеі. Ужо чацвёрты год працягвалася вайна за незалежнасць Алжыра, якая прывяла да палітычнага крызісу ў самой краіне-метраполіі — Францыі. Якраз у верасні 1958 года, калі распачаліся пасяджэнні XIII сесіі, у Францыі адбыўся рэферэндум, на якім грамадзяне адобрылі праект новай Канстытуцыі, прапанаванай Шарлем дэ Голем. У гэты час пачалася гісторыя Пятай Рэспублікі, якая працягваецца па сённяшні дзень.

Гэтыя міжнародныя падзеі і працэсы абумовілі змест пытанняў, што абмяркоўваліся на пасяджэннях Генеральнай Асамблеі ААН. Прагучалі яны падчас агульнай дыскусіі і ў выступленні старшыні беларускай дэлегацыі К. Кісялёва, прамова якога была прысвечана галоўным чынам праблемам міжнароднай бяспекі і насіла востры, палемічны характар. П. Панчанка, як і іншыя члены беларускай дэлегацыі, на пленарным пасяджэнні прысутнічаў, але не выступаў. Яго дыпламатычная дзейнасць разгарнулася ў Трэцім спецыяльным камітэце Генеральнай Асамблеі. Кожны з шасці камітэтаў Асамблеі разглядае пытанні сваёй кампетэнцыі: ад праблем міжнароднай бяспекі і раззбраення да спецыяльных прававых аспектаў. На разгляд трэцяга трапляюць тыя пытанні павесткі дня, што тычацца сацыяльных і гуманітарных праблем, а таксама правоў чалавека. П. Панчанку неабходна было падрыхтаваць выступленні па цэлым шэрагу такіх разнастайных праблем, як развіццё сістэмы аховы здароўя ў свеце, аказанне гуманітарнай дапамогі дзецям пад эгідай Дзіцячага фонда ААН, абвяшчэнне Сусветнага года дапамогі бежанцам, абмеркаванне праекта Канвенцыі аб свабодзе інфармацыі і падтрымка права нацый на самавызначэнне.

Адно з першых выступленняў Пімена Емяльянавіча адбылося 30 верасня. Яго даклад быў прысвечаны дзейнасці ЮНІСЕФ. П. Панчанка зрабіў акцэнт на тым, што мільёны дзяцей у краінах «трэцяга свету» пакутуюць ад голаду і хвароб, ужо выкараненых у Еўропе і Паўночнай Амерыцы. «Цяжка і горка на сэрцы, калі бачыш дзяцей, што пакутуюць, бездапаможных, якія захлынаюцца ў трызненні ці працягваюць ручкі за міласцінай на шматлікіх зямных дарогах», — сказаў паэт. Звярнуў увагу і на тое, што дзеці становяцца ахвярамі не толькі войнаў і голаду, але і новай пагрозы — небяспечнага выпраменьвання ад наступстваў выпрабавання ядзернай зброі. «Хто можа гарантаваць, што ў гэты момант дзесьці на зямлі дзеці, зрываючы з дрэваў плады, не зрываюць сваю будучую смерць?» — запытаўся ён. Гэтыя заўвагі мелі плён: па выніках работы камітэта Генеральная Асамблея прыняла рэзалюцыю, якая заклікала ўсе дзяржавы да ахвяравання як мага большых сродкаў у Міжнародны дзіцячы фонд. А падчас наступнай сесіі, у лістападзе 1959 года, была прынятая Дэкларацыя правоў дзіцяці.

Нярэдка прадстаўнікі розных савецкіх дэлегацый (СССР, БССР, УССР) выступалі ў падтрымку ініцыятыў, выказаных калегамі з іншых рэспублік на пасяджэннях камітэтаў. Так, Панчанка горача падтрымаў прапанову прадстаўніка Украінскай ССР міністра аховы здароўя гэтай рэспублікі В. Братуся аб правядзенні ў наступным, 1959-м годзе, Міжнароднага года аховы здароўя і медыцынскіх даследаванняў. Гэтая прапанова была адзінагалосна адобрана і лягла ў аснову рэзалюцыі, прынятай на пачатку снежня.

Але некаторыя пытанні станавіліся прадметам вострай палемікі паміж прадстаўнікамі двух блокаў. Як прыклад — абмеркаванне праекта заключэння, прысвечанага абвяшчэнню 1959/1960 года Сусветным годам бежанцаў. Савецкі бок настойваў, каб у тэксце рэзалюцыі адзначалася неабходнасць рэпатрыяцыі бежанцаў, у той час як Злучаныя Штаты былі занепакоены тым, што бежанцы па вяртанні дамоў могуць падвяргацца палітычным праследаванням. У сваім выступленні Панчанка абараняў афіцыйную пазіцыю БССР і раскрытыкаваў дзейнасць Упраўлення Вярхоўнага Камісара за недастатковыя намаганні ў справе садзейнічання добраахвотнай рэпатрыяцыі. Выказаўся супраць першапачатковага праекта, падтрыманага ЗША, і пагадзіўся прагаласаваць за яго толькі з папраўкамі, прапанаванымі савецкім бокам. Але яго выступленне, якім бы эмацыянальным і пераканаўчым ні было, не магло паўплываць на загадзя ўзгодненыя пазіцыі іншых дэлегацый. Заходні праект рэзалюцыі быў прыняты (56 галасоў супраць 8), у той час як савецкія папраўкі амаль у такой жа прапорцыі адхілілі.

Адметным стала выступленне Панчанкі, прысвечанае абароне права народаў на самавызначэнне. Дэлегацыя БССР (разам з прадстаўнікамі Савецкага Саюза і

іншых сацыялістычных краін) падтрымлівала працэс дэкаланізацыі і выступала за як мага хутчэйшае набыццё палітычнай самастойнасці краін Азіі і Афрыкі, за іх выхад з-пад уплыву еўрапейскіх дзяржаў-метраполій. П. Панчанка ў сваёй прамове зазначыў, што паляпшэнне дабрабыту і рост узроўню жыцця грамадства немагчымыя без набыцця народам суверэнітэту і права жыць у сваёй незалежнай дзяржаве. У якасці пацверджання гэтай думкі ён падкрэсліў рост узроўню адукаванасці беларускага насельніцтва пасля распаду Расійскай Імперыі і ўтварэння БССР. Нагадаў, што набыццё краінай палітычнай самастойнасці немагчыма без эканамічнай самастойнасці і выступіў за стварэнне спецыяльнай камісіі, якая б дапамагала вырашаць спрэчныя пытанні пры выхадзе краін з-пад каланіяльнага прыгнёту.

Выступленні Панчанкі адыгралі прыкметную ролю ў рабоце беларускай дэлегацыі. Дзякуючы яго намаганням была прыцягнутая ўвага да праблем аховы здароўя, абароны правоў дзіцяці, а таксама права народаў на самавызначэнне, палітычную і эканамічную самастойнасць. Ён унёс уклад у фарміраванне заключэнняў Трэцяга камітэта, якія былі пакладзеныя ў аснову рэзалюцый Генеральнай Асамблеі ААН. Нават у афіцыйных строгіх выступленнях Панчанкі час ад часу прасочваўся яго адметны паэтычны стыль, гучала суперажыванне тым, хто пакутуе. Але «халодная вайна» і неабходнасць прымаць «свой бок» у палітычным і ідэалагічным супрацьстаянні скоўвалі працэс прыняцця рашэнняў і абмяжоўвалі свабоду выказвання дэлегатаў. Шкада, што прадстаўнікі многіх дзяржаў выкарыстоўвалі трыбуну Генеральнай Асамблеі ААН як інструмент у палітычным і ідэалагічным супрацьстаянні.

У цэлым на пасяджэннях Трэцяга камітэта П. Панчанка выступіў пяць разоў у якасці дакладчыка і адзін раз з заявай. Гэта быў даволі напружаны графік, бо падрыхтоўка кожнай прамовы вымагала сіл і часу. У лісце да М. Танка паскардзіўся: «Хочацца пісаць — хутчэй бы дабрацца да Мінска. <…> Ты, напэўна, напісаў за гэты час тузіны тры вершаў. Зайздрошчу. Я пішу толькі свае прамовы». Беларускія літаратары адносіліся да сваіх выступленняў дастаткова сур'ёзна, хоць нават аргументаванае выступленне і стылістычна добра складзены тэкст наўрад ці мог паўплываць на пазіцыі дэлегатаў розных дзяржаў.

Нягледзячы на інтэнсіўную і самаадданую працу на пасяджэннях Трэцяга камітэта, П. Панчанка разумеў абмежаванні, што накладваліся на работу дэлегатаў, і скептычна ацэньваў прадуктыўнасць сваіх высілкаў і намаганняў дэлегацыі ў цэлым: «Як многа доўгіх і нудных паседжанняў. З сімпатыяй успамінаю свае пісьменніцкія, якія некалі лаяў». «Многія міністры замежных спраў (і наогул дэлегаты ў камітэтах) выступаюць не для таго, каб сказаць што-небудзь новае, а каб паўтарыць вядомыя ісціны для прэсы сваёй краіны, каб паказаць, што і яны прымаюць удзел у вялікай палітыцы», — сведчыць іншы запіс. Гэта нядзіўна, бо рэзалюцыі Генеральнай Асамблеі ААН насілі (і па сённяшні дзень носяць) рэкамендацыйны характар, а абавязковы характар маюць толькі міжнародныя канвенцыі, прычым кожная дзяржава добраахвотна вызначае, ці мэтазгодна ёй далучацца да канкрэтнай канвенцыі і абмяжоўваць свой суверэнітэт.

Але нават у такой афіцыёзнай аднастайнасці шукаў крыніцы для творчага натхнення і новыя знаёмствы, падзеі, уражанні не пераставалі быць штуршкамі для руху яго паэтычнай думкі. У запісной кніжцы з'яўляюцца вобразныя выказванні: «Будынак ААН — гэта зялёна-блакітная глыба лёду, якая ўпёрлася ў неба і не тае. Некаторыя хочуць, каб яна растаяла, і таму там часам вядуцца занадта гарачыя спрэчкі». Уражанасць накалам дыскусій, што часам адбываліся на галоўнай трыбуне гэтага форуму, і ўсведамленне пагроз, якія навіслі над светам, прасочваецца ў такой думцы паэта: «У ААН (зала пленумаў) над трыбунай старшыні, як цэль нейкага ціра, выява зямнога шара. І хто толькі не цэліцца ў яго!» Некаторыя з гэтых яго рэмарак сталі радкамі вершаў:

Я пабываў на форуме народаў,
Краіны роднай сціплы прадстаўнік...
ААН стаіць блакітнай глыбай лёду,
Саракавы паверх у хмарах знік.

Падарожжа ў ЗША для дэлегатаў не абмяжоўвалася пасяджэннямі. У вольны час П. Панчанка знаёміўся з самім Нью-Ёркам, які, паводле яго слоў, «усмактаўся ў граніт каранямі труб і правадоў». Асабліва ўразіла навязлівая, нязвыклая рэклама, якой былі напоўненыя вуліцы горада: «…усюды што-небудзь але гарыць, палае, бегае, крыўляецца, успыхвае, мільгае, падміргвае, пускае дым, страляе з пісталета». Некаторыя найбольш адметныя і ўразлівыя рэкламныя слоганы спецыяльна занатоўваў. Кшталту такога: «Кали не носиш наски «Пэлл», я не взгляну на такого мужчину» *(арфаграфія арыгінала захаваная — І. А.).*

Рэклама блішчэла не толькі з вітрын магазінаў. Удзел Панчанкі ў XIII сесіі прыпаў на час вострай передвыбарчай барацьбы: 4 лістапада 1958 года павінны былі адбыцца прамежкавыя выбары ў Кангрэс ЗША, а таксама выбары губернатараў у шэрагу штатаў. Па выніках выбараў у Кангрэс Рэспубліканская партыя, якую прадстаўляў дзеючы прэзідэнт ЗША Д. Эйзенхаўэр, згубіла значную колькасць месцаў у абедзвюх палатах парламента. А вось у штаце Нью-Ёрк перамогу ў барацьбе за пост губернатара атрымаў менавіта яе кандыдат — Нельсан Ракфелер, які праз паўтара дзесяцігоддзі стаў віцэ-прэзідэнтам ЗША. Гэтая перадвыбарчая кампанія (інфармацыяй пра яе была перанасычана тагачасная прэса) не магла застацца па-за ўвагай П. Панчанкі, і свае ўражанні ад яе паэт таксама адзначыў у запісах: «Усюды развешаны партрэты двух кандыдатаў у губернатары Нью-Ёрка: Нельсана Ракфелера і Гарымана. Абодва мільярдэры. Часопісы і газеты запоўнены іх здымкамі. Гарыман — адзін з дзесяці самых элегантных мужчын Амерыкі. Нельсан — спартсмен, мецэнат». Знаёмы і нам малюнак: з 1950-х гадоў у палітычным працэсе ЗША мала што змянілася.

Нягледзячы на тое, што вольнасць у перамяшчэнні па горадзе для савецкіх, грамадзян была абмежаваная і за членамі дэлегацый сачылі прадстаўнікі КДБ, П. Панчанку ўдалося пабываць у розных мясцінах горада. Пра гэта ўзгадваў унук паэта: «Былі канкрэтныя маршруты, куды трэба ці нельга ім хадзіць. А дзед як франтавік адразу вызначаў, хто сярод іх з Камітэта дзяржаўнай бяспекі. І тым, хто быў з Піменам Емяльянавічам, пашчасціла, яны лёгка збеглі, бо дзед заблытаў чалавека з КДБ. Яны і магазіны, і ўсе раёны Нью-Ёрка абышлі, якія забаранялася наведваць савецкім людзям». Падчас такіх самастойных падарожжаў пабываў у розных кутках Даўн-Таўна (Ніжняга Манхэтэна) — асноўнага эканамічнага, дзелавога цэнтра Нью-Ёрка. Своеасаблівыя пачуцці выклікала наведванне рынку, размешчанага ў гэтым раёне:

Ёсць цэлы раён у Даўн-таўне —
Прытулак мядзяных купцоў,
Дзе пахне жыццём старадаўнім,
Мястэчкам, бядой, селядцом.

* * *

Збываюць з паклонам за цэнты
Плашчы, зажыгалкі, штаны
Палякі не з польскім акцэнтам,
Патомкі адэскай шпаны.

Назіраючы за паўсядзённым жыццём Нью-Ёрка, звяртаў увагу на частыя негатыўныя сацыяльныя з’явы, падзеі з крымінальнай хронікі: забойства падлеткам сваіх бацькоў, раптоўны напад паліцэйскага на наведвальнікаў рэстарана — тыя праблемы, якія і сёння актуальныя для Злучаных Штатаў і звязаныя з канстытуцыйным правам грамадзяніна ЗША валодаць зброяй. «Бічы працоўных, — пазна-

чыў у сваіх запісах, — А) беспрацоўе, Б) кватэрная плата, В) дарагія лякарствы». Але, убачыўшы адмоўныя рысы амерыканскай рэчаіснасці, паэт вылучыў у сваіх запісах і тое, за што на Злучаныя Штаты можна было раўняцца: «Багатая краіна. Выгляд. Дарогі. Узровень жыцця. <…> Праізвадзіцельнасць труда ў 2, 2 ½ р. вышэй, чым у нас. <…> Ёсць што даганяць!» (*арфаграфія арыгінала захаваная — І. А.*) У вершах паэта, апублікаваных па выніках падарожжа, Злучаныя Штаты таксама абмаляваныя далёка не толькі ў змрочных танах:

Амерыка, я на цябе не ў крыўдзе,
Тваёй красы я з сэрца не сатру.
Калі да нас ты ў госці з мірам прыйдзеш,
Сустрэнем мы цябе, нібы сястру.

Спадчына П. Панчанкі (дзённікавыя запісы і вершы) сведчыць пра тое, што яго ўражанні ад ладу жыцця амерыканскага мегаполіса былі супярэчлівыя: цікавасць да новага змешвалася з насцярожанасцю. Часам трапляюцца такія думкі: «Нью-Ёрк ужо з самага ранку імкнецца падсунуць табе якую-небудзь дрэнь. Тут цяжка зразумець, што сапраўднае, а што падробка». Яго, каго больш за ўсё на свеце захапляла жывая прырода — белыя яблыні і жаночая прыгажосць, веліч акіяна і бясконцасць зорнага неба, павольнае і велічнае хваляванне жыта пад цёплым ветрыкам на родным беларускім полі, — эмацыянальна напружваў звышхуткі рытм жыцця мегаполіса: «Бягуць, спяшаюцца, глытаюць на хаду сасіскі і кока-колу, зноў некуды імчацца; слухаюць кавалачак рэкламы і завыванне джаза і зноў бягуць і едуць — і так бясконца».

Найбольш вобразна гэтыя пачуцці і сваё бачанне жыцця мегаполіса Пімен Панчанка выклаў у радках верша «Нью-Ёркскія малюнкі» (1960 г.):

Як наравісты конь уздыблены,
Мільёнамі машын задымлены,
Хапун —
З прычаламі бясконцымі,
Хрыпун —
З кварталамі бяссонцымі,
З гандлярскаю рэкламнаю прозаю,
Са статуяй жанчыны бронзавай
Прадстаў Нью-Ёрк перада мной.
Я з вышыні Эмпайр Стэт Білдынга
Цябе, багатага, нябітага,
Запрацаванага, нямытага,
Разглядваць буду.
Смірна стой.

* * *

Няхай табе зусім нямілы ён,
Капіталізму рай і морг,
І ўсё ж страшэннай нейкай сілаю
Здаўна валодае Нью-Ёрк.
Тут шмат пакутлівага роздуму,
Натхнёнага узлёту розуму —
Жалезны гімн, літаўраў медзь.
Жылі тут людзі, нараджалі
Людзей, пасля іх долар джаліў,
Адных ледзь-ледзь, другіх насмерць.
І некалі над акіянам
Прызнаюць словам пакаянным
Свае грахі, сваю віну
І стрыты ўсе і авеню.

Нават пералічэнне ўбачанага паэтам стварае ўражанне аб хаатычнасці і імклівасці жыцця мегаполіса. Пра складаныя пачуцці ад Нью-Ёрка сведчаць і наступ-

ныя радкі з запісной кніжкі: «І выбралі ж месца сабе банкіры! Нуда, а не горад! Вырас пад неба…» Але душу чалавека, асабліва творчага, не перайначыш. Нават уражаны амерыканскімі маштабамі і хуткасцю, пазней у сваім дзённіку ўсё роўна пазначыў: «Я не здзіўляюся, калі пралятае самалёт ці калі гляджу тэлевізар, але я ўражаны, калі пройдзе прыгожая жанчына, расцвіце сад ці блісне далёкая зарніца…»

Разам з тым, праграма для дэлегатаў прадугледжвала і разнастайны культурны складнік. У лісце да Максіма Танка пазначыў, што «на Кастрычнік (гэта значыць, на 7 лістапада — свята Кастрычніцкай рэвалюцыі — *І. А.*) ездзіў у Вашынгтон — і вельмі задаволены паездкай: крыху адпачыў ад бясконцых паседжанняў». Наведаў і найбольш славутыя амерыканскія музеі — Нацыянальную галерэю мастацтва ў Вашынгтоне і музей С. Гугенхайма ў Нью-Ёрку, дзе бачыў разнастайныя шэдэўры еўрапейскіх мастакоў і азнаёміўся з творамі мастакоў-авангардыстаў. Уражанне пакінула не толькі само знаёмства з творамі вядомых майстроў, але і сустрэча з такой багатай калекцыяй на чужой — амерыканскай зямлі. Быў не толькі захоплены, але і адчуваў прыкрасць ад таго, што сама прыгажосць — аб'екты мастацтва — становяцца прадметам куплі-продажу. Свае пачуцці ён перадаў у наступных радках верша «Амерыканскія музеі»:

Шапчу, як змоўца, я карцінам:
А хто прадаў, бяссмертных, вас?
Якім ім золатам плацілі?
Каму вас везлі напаказ?
Не аб такой вы снілі славе.
Няўжо вам гэты міл парад?
Дзялкі у ссылку вас саслалі,
З якой няма дарог назад.
І сэрцу цесна стала ў грудзях.
Замры, туга мая, замры!
Карцінам трэба, як і людзям,
Жыць на сваёй святой зямлі.

Трохмесячная паездка ў Нью-Ёрк стала своеасаблівай «рэпернай кропкай» у жыцці паэта і значна ўзбагаціла яго светапогляд. У прыватнасці, у лісце да Максіма Танка прасочваецца ўражанасць хмарачосамі, імклівасцю мясцовага жыцця: «Помніш, некалі ў Брэсце мы хадзілі раніцой па вуліцах і марылі, якой павінна быць нашая паэзія. Я гэта не раз успамінаю тут, у Нью-Ёрку. Наша эпоха з яе тытанічным размахам (прабач за высокапарнасць), імклівая змена падзей патрабуе нейкіх новых форм, вобразаў, пачуццяў». Маштабнасць мегаполіса, гігантызм будынкаў (непараўнальны нават з цэнтрам тагачаснай Масквы), дарожныя пробкі, дэманстрацыі, незгасаючы шум і пастаянны рух — усё гэта паўплывала на яго светапогляд. Гэтае сутыкненне са значна большай дынамікай жыцця (чым у Савецкім Саюзе і тым больш — у БССР) стала своеасаблівым творчым выклікам. Паставіла перад задачай пошуку новых літаратурных форм, што і адзначыў у лісце да Максіма Танка. Таму падарожжа ў Амерыку, знаёмства з іншай цывілізацыяй і культурай, з іншым рытмам і дынамікай жыцця адыграла не меншую ролю ў станаўленні творчай індывідуальнасці Панчанкі, чым пачатак «касмічнай эры», у якой лідарам быў Савецкі Саюз. На мяжы 1950-х — 1960-х гадоў паэт звярнуўся да новай тэмы — навукова-тэхнічнай рэвалюцыі (НТР), а разам з тым — да яе чалавечага вымярэння і праблемы захавання чалавечнасці ў эпоху вялікіх тэхналагічных адкрыццяў.

Хоць у вершах і нататках з запісной кніжкі прасочваецца некаторы скептычны погляд на амерыканскае жыццё (што было цалкам натуральна для чалавека, светаўспрыманне якога сфарміравалася ў Савецкім Саюзе 1930-х — 1950-х гадоў), Панчанка ўспрымаў паездку ў Нью-Ёрк як вельмі каштоўны жыццёвы вопыт. Як адзначаў у сваім лісце да Максіма Танка, «жыць і працаваць тут нялёг-

ка. Але адзін раз гэта патрэбна бачыць. Хай сэрца зойдзецца ў смутку па роднай зямлі, а мазгаўня папрацуе з большым напружаннем». Пазней, у 1960 годзе, зноў пабываў у Паўночнай Амерыцы. Гэтым разам наведаў Канаду і Злучаныя Штаты Амерыкі ў складзе дэлегацыі Таварыства савецка-канадскай дружбы. Пабываў не толькі ў найбуйнейшых гарадах Канады (Атава, Манрэаль, Таронта), але і ў горадзе Дзірборне (у штаце Мічыган, на процілеглым баку амерыканскіх Вялікіх Азёр), дзе знаходзіцца штаб-кватэра кампаніі «Форд». Незабыўнае ўражанне засталося ад Ніягарскага вадаспаду.

Свае назіранні і пачуцці аб падарожжах у Паўночную Амерыку ў 1958 і 1960 гадах Пімен Панчанка выклаў у вершах, якія сталі падмуркам для чатырох кніг: «Кніга вандраванняў і любові», «Нью-Ёркскія малюнкі», «Тысяча небасхілаў», «Чатыры кантыненты». У многіх вершах («У Даўн-таўне», «Размова з Вашынгтонам», «У царстве Форда», «Гарлем», «Бура ў Нью-Ёрку») прасочваецца іранічна-скептычны (а часам і спачувальны) погляд на амерыканскі лад жыцця. Паэт пісаў пра рабочых на заводах Форда, пра цяжкае жыццё жыхароў Гарлема, пра насцярожанасць да белага чалавека, што адлюстроўваецца ў іх чорных вачах. Амерыканскае грамадства таго часу адрознівалася ад сённяшняга: у 1958 годзе яшчэ толькі пачыналася барацьба за адмену расавай сегрэгацыі ў школах, за роўныя грамадзянскія правы белага і каляровага насельніцтва ЗША. Да вядомага паходу Марціна Лютэра Кінга на Вашынгтон заставалася пяць гадоў. Таму гэты позірк паэта на амерыканскую рэчаіснасць быў абумоўлены не толькі зададзенай неабходнасцю трансліраваць афіцыйны савецкі погляд на Злучаныя Штаты, але і не ў меншай ступені сфарміраваны асаблівасцямі яго светапогляду, яго жорсткай нецярпімасцю да хлусні, несправядлівасці, няроўнасці. Цікава, што ў другой палове 1950-х гадоў ён напісаў і шэраг вершаў, дзе выкрываў заганы савецкага грамадства (бюракратызм, падхалімства, нахабнасць) не менш пафасна, чым заганы амерыканскага. Дастаткова ўспомніць такія вершы, як «Прыстасаванцы», «***На планеце ў нас усё бывае…» (пра «вучоных сычоў»), а таксама забаронены тагачаснай цэнзурай верш «***На сходах часта ў столь мы гучна б’ём…». Розніца паміж савецкай і амерыканскай рэчаіснасцю заключалася толькі ў тым, што паспяховасць кар’еры і дабрабыт у Савецкім Саюзе найперш залежаў ад месца ў партыйнай іерархіі, у той час як у Амерыцы поспех вынікаў з наяўнасці грошай, на якія можна арганізаваць агрэсіўную рэкламу. Тым не менш, пазнаёміўшыся з амерыканскай рэчаіснасцю, паэт застаўся верным ідэалам сацыяльнай справядлівасці і камуністычным прынцыпам, якія дэклараваліся ў СССР. Ярка гэта адлюстравалася ў вершы «***Хаджу і езджу па Амерыцы…», дзе параўноўвае і супрацьпастаўляе амерыканскі і савецкі лад жыцця:

Хаджу і езджу, параўноўваю,
Бывае нават, прыраўноўваю.
Тут больш машын, дарогі добрыя,
У нас трывалей шчасце зроблена.
У іх больш яркае адзенне,
У нас жыццё ярчэй, надзейней.
Тут сэрца кожнае — на хутары,
Ў нас сэрца з сэрцам любіць гутарыць.

Зразумела, зараз мы жывем у іншую эпоху, і сёння вершы, прысвечаныя ўражанням ад заморскіх падарожжаў, здаюцца нам не настолькі інтрыгуючымі, як паўстагоддзя таму. Дзякуючы новым сродкам сувязі і інтэрнэту можна пабачыць і Ніягарскі вадаспад, і Нью-Ёрк у анлайн-рэжыме, а калі патрэбна, то і арганізаваць відэазванок праз скайп ці вайбер. Дый і выезд за мяжу не з’яўляецца праблемай. А вось у 1950-я гады такое падарожжа станавілася знакавай падзеяй у жыцці любога чалавека, і П. Панчанка шчыра імкнуўся падзяліцца сваімі ўражаннямі. Мы ж сёння ўспрымаем яго нататкі аб падарожжах па чатырох кантынентах

як гістарычную крыніцу, якая дапамагае зразумець светапогляд чалавека, які быццам бы жыў не так даўно, але бачыў рэчаіснасць па-іншаму. Бо як кожны асобны чалавек, так і кожнае пакаленне ўспрымае свет па-свойму. Таму радкі дзённікавых запісаў П. Панчанкі і яго вершы з'яўляюцца элементамі своеасаблівага дыялогу, які ён вёў і са сваімі сучаснікамі, і з намі, прадстаўнікамі будучых пакаленняў.

Вопыт дыпламатычнай дзейнасці значна ўзбагаціў творчую спадчыну Пімена Емяльянавіча. Сутыкненне з агульначалавечымі праблемамі, спроба іх абмеркавання на самай высокай трыбуне — на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН — і адначасова асэнсаванне немагчымасці іх вырашэння без аб'яднання намаганняў сусветнай супольнасці — усё гэта аказала на яго не меншы ўплыў, чым Вялікая Айчынная вайна. Разам з тым, уменне весці дыялог — яшчэ адно майстэрства, якое было прадэманстраванае П. Панчанкам. Нягледзячы на тое, што вершы, прысвечаныя міжнародным праблемам, носяць некаторы адбітак «халоднай вайны», усё роўна яго стыль у параўнанні з іншымі паэтамі адрозніваўся мяккасцю, што адлюстроўвала асаблівасці яго духоўнага свету. Нават дапускаючы рэзкія выпады, Панчанка ў сваіх вершах імкнуўся змякчыць акцэнты. Да прыкладу, дыялог з Амерыкай у «Размове з Вашынгтонам», у якім абвінавачвае амерыканскія правячыя колы ў развязванні войнаў, а таксама ўспамінае трагедыю Хірасімы, заканчваецца на міралюбівай ноце:

Не будзем гаварыць пра гэта больш,
Хай знікне недавер'я час трывожны.
Ты бачыш: нада мной і над табой
Ляціць, ляціць наш мірны спадарожнік.

Прайшло паўстагоддзя, а сённяшні свет ізноў раздзіраецца ў супрацьборстве паміж дзяржавамі, транснацыянальнымі карпарацыямі, ваеннымі фарміраваннямі, рэлігійнымі рухамі. І ў гэтым свеце, на жаль, пачуццё чалавечнасці часцяком адыходзіць на другі план, адсунутае сквапнасцю, самахвальствам і імкненнем да нажывы. Менавіта таму напісанае П. Панчанкам нават больш за паўстагоддзя таму і адрасаванае тагачаснай Амерыцы працягвае быць актуальным і сёння.

## Ліст Пімена Панчанкі да Максіма Танка

г. Нью-Ёрк
13 лістапада 1958 г.

Дарагі Максім!

Паклон табе з-за акіянскіх даляў. Напэўна, не толькі ты, але і я нарадзіўся пад цыганскім сонцам. Цябе лёс кінуў у Кітай, а мяне ў другі бок — у Амерыку.

Помніш, некалі ў Брэсце мы хадзілі раніцой па вуліцах і марылі, якой павінна быць нашая паэзія. Я гэта не раз успамінаю тут, у Нью-Ёрку. Наша эпоха з яе тытанічным размахам (прабач за высокапарнасць), імклівая змена падзей патрабуе нейкіх новых форм, вобразаў, пачуццяў. Але асновай ўсё-ткі застаецца родная зямля з яе пахам і фарбамі, працай і любоўю.

Толькі трэба адцурацца ад прымітыўнага сентымента і вобразнага шаблона. Што-кольвек мы зрабілі, але мала.

Радзіма, народ, ідэя. Гэта галоўнае. Але ёсць акіяны і космас, закаты над Мадагаскарам і Волжская ГЭС, амерыканскія цудоўныя дарогі і налібоцкія сосны; ёсць Ту-104, на якім я ляцеў у Капенгаген, і банда дэманстрантаў, якая асаджае наша пасольства ў Нью-Ёрку ў час святкавання Кастрычніка.

Нешта я разыйшоўся і, відаць, не вельмі зразумела. Але, успомніўшы нашу размову ў Брэсце, ты зразумееш мяне.

Жыць і працаваць тут нялёгка. Але адзін раз гэта патрэбна бачыць. Хай сэрца зойдзецца ў смутку па роднай зямлі, а мазгаўня папрацуе з большым напружаннем.

Хочацца пісаць — хутчэй бы дабрацца да Мінска. Спадзяюся, што і табе давядзецца праехаць па той дарожцы, якую праклалі нашы зубры — Міхась і Пятро[1].

На Кастрычнік ездзіў у Вашынгтон — і вельмі задаволены паездкай: крыху адпачыў ад бясконцых паседжанняў.

Ты, напэўна, напісаў за гэты час тузіны тры вершаў. Зайздрошчу. Я пішу толькі свае прамовы.

Наперадзе ў мяне яшчэ добры месяц працы, а там, калі бог будзе літасцівым, сяду на цеплаход — і гайда ў Еўропу, а затым дамоў.

Пакланіся ад мяне Любові Андрэеўне.

Перадай шчырае прывітанне ад свежаспечанага дыпламата сябрам па рэдакцыях: Ільі Данілавічу, Бачыле, Ткачову, П. Кавалёву, У. Крысько, Ул. Корбану, Бярозкіну, Бур'яну, Гарулёву, Карпаву, Бурносаву, Анатолю Сцяпанавічу Вялюгіну, Кастусю Кірэенку, Русецкаму, Шкрабе, Валасевічу, Сабаленку, Васілю Вітку, Ул. Дубоўку і ўсім, каго сустрэнеш у дзень атрымання гэтага паслання.

Моцна паціскаю тваю лапу!
Пімен Панчанка.
Гуд бай!

*БДАМЛіМ. Ф. 25. Воп. 2. Спр. 80. Арк. 13—14 адв.*

***Падрыхтоўка тэксту да публікацыі І. М. АЎЛАСЕНКІ.***
***Арфаграфія арыгінала захаваная.***

[1] Маюцца на ўвазе Міхась Лынькоў і Пятро Глебка, якія прадстаўлялі БССР на мінулых сесіях Генеральнай Асамблеі ААН.



Казімір КАМЕЙША

# ПАД ЗНАКАМ ШЧАСЦЯ І БЯДЫ

Словы, вынесеныя ў загаловак, належаць яму, Анатолю Грачанікаву. Ён так і жыў, і пражыў сваё кароткае жыццё пад гэтым знакам. Не пра сваё, вядома ж, шчасце і свае беды гаворыць нам паэт, хоць ёсць тут доля і свайго, уласнага. Але думае і гаворыць пра свой народ, якому на гэтай зямлі і пад гэтым небам ніколі не было лёгка і шчасна. Гаворыць, нібыта перасцерагаючы нас:

Пад знакам шчасця і бяды
Так жыць на свеце трэба,
Нічым каб не зняславіў ты
Людзей, зямлю і неба.

Сапраўдная паэзія патрабуе, каб яе ўвесь час перачытвалі. У гэтым я пераканаўся даўно. Перачытваць — дзеля чаго? А каб адкрываць у ёй кожны раз нешта новае. Сапраўдны паэт усім сваім мастацкім багаццем і бачаннем адкрываецца не адразу. Ёсць рэчы, якія ў кожным часе высвечваюцца па-свойму адметна, часам па-новаму.

Так атрымалася ў мяне і з А. Грачанікавым. Перачытаў нядаўна яго дзве галоўныя кнігі выбранага «Калі далёка ты» (1979) ды «Выбранае» (1988) і пашкадаваў, як жа мала ўдзялялася ўвагі гэтаму непаўторнаму, адметнаму, сапраўды таленавітаму паэту пры яго жыцці. Многае, што сёння пішам і чытаем, на яго фоне выглядае такім дробязным. А дробязнае, як вядома, не апраўдаеш ніякай смеласцю ці надзённасцю.

У пазнейшым часе ўсе мы і разумнейшыя, і больш дальнабачныя, і здагадлівыя, і справядлівейшыя. А тады… не прыглядаліся, не заўважалі ці, можа, не жадалі заўважаць. А ён першай ужо сваёй кнігай «Магістраль», якая пабачыла свет у 1964 годзе, заявіў, што ён паэт, што ў яго радках «людская радасць, // Чалавечы боль, // Бы ў фокусе, сыходзяцца ў сэрцы». Для маладога паэта і надта сталае ўсведамленне сваёй творчай місіі. Нават дакладнай назвай кнігі «Магістраль» падкрэсліваў не толькі адценне прафесійнага (скончыў Гомельскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту), тут быў і сімвал самой паэтычнай скіраванасці, а можа, нават самога творчага наканавання. Шмат што ў тых ранніх вершах уражвала і запаміналася. Чаго варта было прызнанне машыніста, які «перад людскім вялізным горам … сам, як вугаль, пачарнеў», уражваў «дзяжурны пакой машыністаў» са сваімі навінамі, якія «транзітам да станцый далёкіх спяшаць». І як свежа сказаў паэт пра заводскіх аркестрантаў:

Вечарамі пасля работы
Мы гуртом вывучалі ноты.
Так старанна мы дзьмулі ў трубы —
Распухалі за вечар губы.

Заводскія трубы ўрэшце рэшт былі своеасаблівымі «кругамі выратавання». Само дачыненне да рабочай тэмы сцвярджалася такімі падрабязнасцямі прафесійнага кшталту, што толькі дадавала сімпатыі і даверу аўтару. Была ў гэтай

першай кнізе і праўда перажытага. Яна тычылася нялёгкага ваеннага маленства. Балючая тэма, якую не маглі абысці ўсе аднагодкі А. Грачанікава. Але тут было сваё, перажытае сялянскім хлопчыкам, і выказана яно было таксама па-свойму шчыра і непасрэдна. Усё далейшае, магістральнае, можна было прадбачыць ужо ў яго першай кнізе. У больш сталым узросце, нібы падагульняючы перажытае не толькі самім сабой, але і краінай, ён скажа:

Паміж спякоты і завей,
Нібы з акна лакаматыва,
Мінулае і перспектыва
З узростам бачыцца ясней.

Заўсёды лета ці зіма —
На магістралі гэтай вечнай
Няма палёгкі нам. Няма
Да самай станцыі канечнай.

Як гудкамі пераклікаюцца цягнікі, так і гэтыя радкі нібыта перагукнуліся з радкамі паэмы А. Твардоўскага «За даллю даль». Гэта менавіта тая гістарычная сугучнасць, якой заўсёды патрабуе ад уважлівага творцы сам час. Усё, што піша паэт сэрцам, мусіць заўсёды быць засведчана пячаткай часу. І ўсё, што творыцца ў часе, не можа абысці межы сэрца паэта. У гэтым свая спрадвечная ўзаемасувязь.

Мы сустрэліся і пазнаёміліся з А. Грачанікавым восенню 1962 года ў Каралішчавіцкім Доме творчасці, калі толькі рыхтавалася да друку яго першая кніга. Тады ён часта друкаваўся ў часопісе «Маладосць». Яго, таленавітага, вельмі шчыра падтрымліваў і апякаў Мікола Аўрамчык. У тым нашым знаёмстве ён ніяк не імкнуўся падкрэсліць сваю старэйшасць, усё было на роўных. Ён тады ўжо цвёрда ведаў пра сваё магістральнае ў паэзіі, а ў мяне яно было яшчэ надта цьмяным. Я імкнуўся абцяжарыць свае радкі чужымі, даволі выпадковымі, але смелымі і нечаканымі, як мне здавалася, вобразамі, надта хацелася быць ні на кога не падобным. Далікатна, каб не пакрыўдзіць, ён нібы перасцерагаў мяне: «Ты глядзі. Што залішняе, тое не на карысць». А я, усміхаючыся, казаў, што ведаю наконт гэтага лішняга польскую прымаўку, хоць яна тычылася рэчаў куды больш весялейшых, чым паэзія. Мы блукалі па яшчэ густым, надта паэтычным каралішчавіцкім лесе, любаваліся яркімі восеньскімі барвамі, пісалі нейкія радкі, уважліва слухалі старэйшых паэтаў, якія тут адпачывалі. Вечарамі перад самым домам палілі вогнішчы, згадваючы іх прыдумшчыка вогнепаклонніка Міхася Лынькова. Да класіка ў Анатоля была асаблівая павага. Ён жа таксама з чыгуначнікаў. Словам, нам было хораша і ўтульна ў тым лесе і ў той восені. Вельмі скупавата расказваў Анатоль пра сябе. І колькі я яго ведаў потым, ён наогул ніколі не згадваў пра сваё асабістае. А я ведаў, ці нават здагадваўся, што ўласных балячак у яго было дастаткова.

Нарадзіўся Анатоль Грачанікаў 8 верасня 1938 года ў вёсцы Шарпілаўка Гомельскага раёна ў сям'і служачага. Пасля заканчэння інстытута працаваў на рамонтна-механічным заводзе, дзе яго і запрыкмеціў родны камсамол. Гэты памочнік і вернаадданы партыі ўмеў вышукваць кадры. Улічвалася ў пошуку ўсё: і адукацыя, і біяграфія, і характар, і нават статнасць ды прыгажосць. Высокі, гусарысты, светлатвары, з добрым паглядам вачэй, Анатоль якраз падыходзіў пад гэты выбар. Ён папрацаваў нейкі час намеснікам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі абкама камсамола, а потым узначаліў гаркам камсамола.

Тут адразу паўстала пытанне іншага выбару. Перад вачыма адразу намаляваліся дзве жыццёвыя дарогі. Лёс яго мог скласціся зусім па-іншаму, калі б абраў тую першую, камсамольскую. Яна абяцала яму кар'еру, магчыма, буйнога партыйнага чыноўніка. Але перамагла тая, другая, якая вяла ў літаратуру. Ён даўно

адчуў у сабе паэта, ужо не мог без творчасці. І ён выбраў паэзію, звязаў з ёю свой далейшы лёс.

Абраная дарога адразу павяла яго ў Маскву, на Вышэйшыя літаратурныя курсы. Шмат якія нашы слынныя землякі прайшлі праз гэтую вядомую літаратурную вучэльню. Пасля курсаў адразу ўзначаліў літаратурны аддзел газеты «Літаратура і мастацтва». Для таго часу гэта была і надта адказная пасада, якая нібыта патрабавала: «А пакажы, на што ты здатны сам». І ён паказваў гэта яскрава. Добра сцвердзіў сябе сваёй другой кнігай «Круглая плошча» (1971). Па ёй ужо было бачна, што перыяд ягонага вучнёўства і станаўлення даўно мінуўся. Паэта смела можна залічваць у кагорту адметных майстроў слова.

Пра што пісаў А. Грачанікаў у тыя гады? Усе чакалі, што гэта будзе апяванне той самай рабочай тэмы, якая некалькімі штрыхамі акрэслівалася ў яго першай кнізе, дзе ўжо былі бяссонныя машыністы і нават «спяваў станок». Але сваю ўвагу паэт аддаваў не нейкаму там металу, у якім можна адшукаць паэзію, а чалавеку. З матываў дарожных застаўся хіба вандроўніцкі сум: «А цяпер я спяваю ў туманных начах, // Я — жывы начны чалавек». Але вандроўная душа цалкам адмаўляе бестурботнасць, яна жадае вось чаго: «Калі добра вам жыць, дык забудзьце мяне, // І паклічце, калі — бяда!»

У магістральнае рэчышча творчых росшукаў ўваходзіла спрадвечная сялянская праца чалавека. Ён ведаў гэту працу з гадоў дзяцінства, верыў у яе сапраўдныя каштоўнасці. Калі паэт засяроджваў нашу ўвагу на капанні вяскоўцамі калодзежа, мы адчувалі не толькі важнасць і нават урачыстасць гэтага дзеяння, але і ўсю дынамічнасць, нават незвычайнасць самой працы і ў першую чаргу — саміх людзей:

Новыя зменшчыкі лезуць капаць,
І мы зазіраем уніз ацішэла.
Як снежная гурба, зямля схаладнела,
Унізе ужо застаецца адзін,
Самы дужэйшы з вясковых мужчын.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І хукае дзядзька на рукі, капае,
Ды так, нібы скарб для сябе здабывае,
Закляклых, яму рук і ног не шкада,
Была б толькі светлай заўсёды вада!

Самая важная для нас менавіта канцоўка. У кожнай працы, як вядома, самым важным з’яўляецца яе вынік. Бо як можна ўслаўляць працу, калі яна цяжкая, з крывёй і потам?! Яе можна толькі апісваць ды ўзнаўляць як дзеянне. А канцоўка сцвярджае нам тое, што аўтар у сваім жыцці гатовы змагацца за ўсё светлае і чыстае. Не толькі вада, але і ўсё ў жыцці павінна быць светлым і чыстым!

Тэма «Вайна вачыма дзяцей вайны», як здаецца мне, яшчэ недастаткова асэнсавана ў нашым літаратуразнаўстве, хоць у літаратуры ў цэлым яна адлюстравана ў дастатковай меры такімі нашымі вядомымі паэтамі, як Сцяпан Гаўрусёў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Юрась Свірка, Уладзіслаў Нядзведскі. Не доўжачы гэты спіс, спынімся ўсё ж на прозвішчы А. Грачанікава. Выпакутаваўшы трагічныя, неверагодныя ваенныя выпрабаванні ў дзяцінстве, паэт выпакутаваў і права сказаць горкую праўду пра сябе і сваё пакаленне. Нельга без слёз на вачах чытаць яго «Крывавую баладу», дзе гаворка пра тое, як акупанты-«дактары» бяруць кроў у малых дзяцей:

Наплывае ўспамінаў дым,
Зноў убачу, нібы надоечы,
Як хапаюць нас па адным
І да шулы прывязваюць стоячы.

Хліпнеш раз,
Хліпнеш два,
Хліпнеш тры.
Пырсне кроў у літровую шклянку,
І патухне сонца ўгары
Зранку.

«Не чапайце сястрычку маю,
Не чапайце!
Лепш ля шулы жывым
Вы мяне закапайце!
Кроў вазьміце да дна,
Кроў вазьміце!
Толькі Верку дамоў адпусціце!»

Шарос ідзе па скуры ад гэтага прачытання. Нібыта чуеш сваімі вушамі, як кроплямі сцякае ў шкляную пасудзіну дзіцячая кроў. Крывавы шпрыц б'е ў сэрца кожнага, хто чытае гэтыя радкі. Такое не прыдумаеш, такое трэба перажыць. Напісана гэта ад імя сваіх аднагодкаў, але гэта наш агульны боль, які не аціх і сёння, праз дзесяцігоддзі. Для памяці людской тэрмін гэтага болю не скончыцца ніколі. Перажытае — гэта не сон, прачнуўшыся пасля якога, можна з палёгкай сябе супакоіць. На сон можна адразу і забыцца, а перажытае не забываецца, колькі б ты ні жыў на гэтай зямлі. Не дзіва, што яно прасочваецца, праслізгвае праз самыя розныя згадкі, асацыяцыі і акалічнасці. І калі перажытае табой уявіць зрэзам нейкага жыццёвага камля, то кольцы на ім абавязкова пакажуць табе ўсё тое, што ты перажыў. Так у паэта. І мы згаджаемся з яго балючым уяўленнем:

Вы можаце па кольцах прачытаць,
Якія ува мне грымоты спяць,
Якія думы сэрца скаланаюць,
Якія мары у душы лунаюць.
Мяне жыццё і гнула,
І хістала,
На зрэзе дзён
Адбітак адкладала.
І кольцы, сум і радасць несучы,
Сціскалі сэрца,
Нібы абручы.

А потым, у роздуме, скажацца і такое: «І адчуваеш, што яшчэ жывеш // У тым, у незваротным, у мінулым». Паэт заўсёды рыхтуе сябе «да новых спраў і дум», аднак часта ўпарціцца ўсяму ягоная памяць. Яна як быццам сама па сабе, хоць чалавек стрыжнем сваім адзіны. Відаць, «боль ваенных дзён» у сэрцы паэта устойлівы і заўсёдны.

У пакаленні сваім А. Грачанікаў адметны не толькі трагічным ваенным дзяцінствам. Вельмі многа значыць само непадобнае і непасрэднае асэнсаванне перажытага ў дзяцінстве. Гэта як своеасаблівае самаачышчэнне разам са споведдзю, калі ад сумнага, нават жудаснага, ідзеш да радаснага і шчаснага:

Відаць, з нас кожнаму лягчэй,
Хоць мы пра гэта не гаворым,
Ісці з усмешкай да людзей,
А не з уласным нейкім горам.

У тым жа самым вершы («Калі маркотных дум асцё») ёсць і такое прызнанне: «Спакоем зор, гаёў і ніў… // Я часта сам сябе лячыў // Пад родным небам беларускім». Мы ведаем, чаго, якіх пакут каштуе паэту гэта самалячэнне. Як разумеем, што і дактары тут бездапаможныя. Ды і час тут не доктар.

Пасля кнігі «Круглая плошча» былі ў творчай біяграфіі Анатоля Грачанікава яшчэ два плённыя дзесяцігоддзі. Тады адна за адной выходзілі ў свет яго адметныя зборнікі «Грыбная пара», «Начная змена», «Дрэва на выспе», «Палессе», «Я вас люблю». Вышэй я ўжо адзначаў, што паэту шчасліва ўдалося адмовіцца ад чыноўнай кар'еры. Калі б усё атрымалася па-іншаму, наўрад ці сёння мелі б мы тыя кнігі паэта, якія маем. Але і пасада намесніка старшыні Саюза пісьменнікаў, якая чакала яго на пачатку 80-х, была таксама не без чыноўнай мітусні. Нават каштавала нерваў. У дзённіку Максіма Танка я спатыкнуўся аб такі запіс: «Нехта напісаў у ЦК ананімку на Толю Грачанікава, што бачылі яго п'яным. Вывелі яго са складу сакратарыята СП. А шкада, чалавек ён сумленны і пісьменнік здольны». Гэта кажа старшыня Саюза пісьменнікаў, які ўсё разумее, але паправіць нічога не можа, нягледзячы на свой ранг. Такі быў час. У кожнага з нас у памяці засталося сёе-тое з таго неспакойнага, часта сумбурнага часу, які потым назавуць застойным.

Набліжаўся чарговы пісьменніцкі з'езд. У пісьменніцкім саюзе пачалі ўзнікаць інтрыгі, з'явіліся нязгодныя, паплылі нават ананімкі ў вышэйшыя інстанцыі. Як ні дзіўна, незадаволеных было найбольш сярод маладзейшых. Перад з'ездам у рэспубліцы праходзілі абласныя дні літаратуры. Дайшла чарга і да Гродзеншчыны. Творчыя брыгады раз'ехаліся па ўсіх раёнах вобласці. Мне асабіста выпала ехаць разам з А. Грачанікавам у раёны, якія межавалі з маім родным, Стаўбцоўскім.

Сустракалі і прымалі нас сапраўды ад самага шчырага сэрца, як гэта ўмеюць рабіць нашы занямонцы. Пасля вялікага літаратурнага вечара ў Міры ў суседнім Турцы гаспадары наладзілі, як мы сёння кажам, неафіцыйную частку. Быў накрыты багаты стол, запрошаны перадавікі тутэйшага калгаса, самадзейныя артысты. Дужа сардэчны старшыня падахвочваў увесь час да тостаў, а госці сядзелі чамусьці без настрою. Пахмура маўчаў і Анатоль Грачанікаў. Я зразумеў, у чым тут справа.

Адзін з нашых, які прыехаў разам з Мінска, увесь час прыгаворваў, нібыта палохаючы: «Яшчэ паглядзім, што на з'ездзе будзе». Няйнакш сам меціў на тую пасаду, якую займаў Анатоль. Стол напачатку не ўдавалася разварушыць нават найлепшаму раённаму гарманісту. Але паціху-памалу застолле разварушылася, узяў добрую чарку нават той, што «сядзеў, як сыч» і палохаў з'ездам.

У гасцініцу мы вярталіся ў добрым настроі. Потым пройдзе пісьменніцкі з'езд. Грачанікаў пакіне сваю пасаду, але не дастанецца яна і таму, хто на яе так меціў. Яго пакінуць у кансультантах, з якіх самі пісьменнікі заўсёды падсмейваліся: «Гэта тыя, што гасцям валізы падносяць». Так яно і было. Некаму ж трэба было браць на сябе і гэты клопат. Гасцей у тыя гады прыязджала шмат.

Сам А. Грачанікаў, здаецца, быў не з крыўдлівых, ва ўсялякім разе не паказваў таго на людзях. Крыўды — гэта тваё асабістае, напэўна, лічыў ён. А ўсё асабістае трэба і хаваць у сабе. Недзе ў тыя гады з'явіўся ў паэта невялікі верш «Расстанне», на які, магчыма, мала хто з чытачоў звярнуў увагу, а мяне ён адразу ўразіў журботнасцю самога прызнання:

Журуся не таму, што горка мне,
І не таму, што нам нідзе не стрэцца,
Журуся, што журба калі міне, —
То мне нічога больш не застанецца.

Наогул асэнсаванне ўсяго таго, што дзеецца ў вялікім свеце, у А. Грачанікава адбываецца цераз балючае перапляценне свайго, асабістага, якое не церпіць лёгкасці і сузіральнасці. Гэты прынцып прасочваецца на працягу ўсёй яго творчасці.

Тое, што прамаўляецца душой паэта, заўсёды патрабуе і адпаведнай чытацкай здагадкі. Здараецца часам, што здагадкі гэтыя, як чытацкія, так і крытычныя,

не заўсёды адпаведныя аўтарскай задуме. Чытач, як правіла, заўсёды шукае нейкай сваёй адпаведнасці. І няма бяды, калі штосьці здараецца «не ў тон» яму. Вось таму, відаць, і трэба не толькі чытаць, а і перачытваць самыя знакавыя творы паэзіі. Хай сабе нехта і не згодзіцца з гэтай маёй высновай.

Дарэчы, якая яна, душа ў паэта Анатоля Грачанікава, добра бачна і па ягоных вершах. Тое, што ў іх аж зашмат болю, шчырага суперажывання, узрушанасці; не плачу, а мужнага пераадолення нейкіх жыццёвых безвыходнасцей, кажа нам пра многае. Але не будзем прытрымлівацца думкі, што ў лірыцы паэта пераважалі адны толькі сумныя матывы, не чужым быў для яго і гумар. Многія вершы вельмі арганічна, нават пачуццёва падсвечаны лёгкім, светлым і нязмушаным гумарам. Ды і ў самім жыцці побач з сумным заўсёды здаралася і нешта вясёлае, нават смешнае. Часта, калі згадваю паэта, у памяці маёй усплывае далёкі ўжо дзень позняй восені 1982 года. Тады ў краіне шырока адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа. Вялікае свята ладзілася на радзіме песняра на Стаўбцоўшчыне, ужо ў добра асвоенай непаўторнай мясціне над Нёманам, ва ўрочышчы Дубы. Вядома ж, пад векавечнымі дубамі на ўдала выбудаванай сцэне, дзе можна было ад усёй душы прытупнуць не толькі мясцоваму, але і сталічнаму танцору, а ў святочны прэзідыум пад вялізным партрэтам песняра ўладкаваць і добрую сотню гаспадароў, і знакамітых гасцей. Лёгка было адчуць не толькі веліч песняровай творчасці, але і ўсю веліч і прыгажосць роднай прыроды, хай сабе і ў сумнаваты перадзімовы час. Такім я і ўяўляў сабе гэта свята. Такім яно і было на самай справе.

Раніцай, калі я прыйшоў да будынка Дома літаратараў, аўтобус са святочнай дэлегацыяй паспеў ужо адправіцца ад пісьменніцкага парога. Спазніўся, значыць. Прыкра было на душы, я ўжо сабраўся павярнуць назад і тут заўважыў яго, А. Грачанікава. Ён сумнавата пацягваў цыгарку — таксама спазніўся.

— Што будзем рабіць? — амаль у адно слова прамовілі мы. Ён прызнаўся, што яму ўляціць ад вышэйшага начальства, калі не з'явіцца на такое мерапрыемства. Мяне тое «ўляціць» хвалявала не надта, хоць пачуваў сябе я таксама, як цяпер кажуць, некамфортна, бо я Коласаў зямляк, заяўлены ў важным спісе як выступоўца. Трэба нешта рабіць. А што рабіць, я асабіста не ведаў. А ён адразу ўцяміў, як можна паправіць нашу сітуацыю.

— Трэба шукаць нашага маладосцеўскага шафёра, — сказаў ён. — Праўда, я яго ўчора, як на тое, сам і адпусціў. Відаць, дарэмна. І ён накіраваўся да вахцёра, у якога на стале стаяў тэлефон. Мабільнікаў у той час яшчэ не было.

Праз колькі хвілін выйшаў з Дома літаратара, як здалося мне, крыху весялейшым.

Кіроўца «Маладосці» быў чалавекам больш вядомым, чым некаторыя пісьменнікі. Ён і сам потым паспрабуе пісаць і нават выдасць сваю празаічную кнігу. Ён быў героем многіх цікавых гісторый, якія нават цягнулі на легенды. Некаторыя з гэтых гісторый пісьменнікі пазычалі сабе ў творы. З кіроўцам у яго начальніка адбылася прыкладна такая размова.

— Дзе знаходзіцца наша машына? У гаражы?

— Не, пры мне.

— А ты можаш сесці за руль?

— Магу. Але ў мяне цэлы багажнік капусты.

— Багажнік твой нам не патрэбен. А ты, хоць і з капустай, хутчэй гані да Дома літаратара.

Хвілін праз дзесяць белая «Волга» падрулiла да ганка Дома літаратараў. Кіроўца паважна выйшаў з машыны і адчыніў багажнік:

— Дзівіцеся! Во яны, дары прыроды.

— Добра. Няма нам калі дзівіцца на дары прыроды, — махнуў рукой А. Грачанікаў. — Давай прамой наводкай на Стоўбцы. Калі зможаш дагнаць пісьменніцкі аўтобус — асаблівая падзяка. А калі не…

Быў святочны дзень, горад выглядаў пуставата. І наша машына з уключанымі фарамі праскочыла яго за некалькі хвілін, узяўшы кірунак на Стоўбцы. Машына імчалася на поўнай хуткасці, мы не заўважылі, як прамінулі уздзенскую паваротку, далей пачынаўся стары густы лес, за якім былі і Стоўбцы. Кіроўца, бачачы, што з настроем у нас не ўсё ў парадку, стараўся падвесяліць нейкай гісторыяй, якую я, здаецца, чуў ужо неаднойчы, не толькі з яго вуснаў. Гаварыў так захоплена, што нават адрываў рукі ад кіраўнічага абаранка, шырока размахваючы імі ў паветры.

— Ты руль трымай! — не выцерпеў А. Грачанікаў, — а так даедзем…

Нарэшце паказаліся Стоўбцы. Паводле плана святочных мерапрыемстваў, з якім нас азнаёмілі загадзя, у Стоўбцах удзельнікі ўрачыстасцей павінны былі пасадзіць бярозавую алею. Мы ўбачылі, што яна была пасаджана ўжо без нас, яшчэ свежа чарнелі прытаптаныя грудкі зямлі. Значыць, мы спазніліся і на гэта мерапрыемства. Заставалася яшчэ надзея дагнаць нашых калег недзе ля Мікалаеўшчыны. Але і яна не апраўдалася. Твар А. Грачанікава зрабіўся яшчэ больш змрочным. А неўзабаве мы пад’язджалі да ўрочышча Дубы. На наша шчасце, свята яшчэ не пачалося. Было шмат люду, грымела музыка, смачна пахла шашлычнымі дымкамі. Ля самай сцэны была ўсталявана вялікая палатка. Там перад пачаткам свята госці сагравалiся кавай і гарбатай, нават нечым мацнейшым. Мы незаўважна ўліліся ў агульную плынь, і нашай ранейшай адсутнасці ніхто нават не заўважыў. Твар А. Грачанікава адразу павесялеў. Ён яшчэ выглянуў з палаткі і ашчаслівіў свайго кіроўцу:

— А цяпер можаш ехаць са сваёй капустай смела дамоў.

Той толькі гэтага і чакаў. Мы і не згледзелі, як машына схавалася за лесам.

Сёй-той можа падумаць, што я проста так, дзеля нейкага ажыўляжу згадаў гэты вясёлы выпадак. А мне ён тады даў магчымасць больш зблізу прыгледзецца да паэта, убачыць тое, што адразу і не заўважыш хай сабе і ў даўно знаёмага табе чалавека. Я добра адчуў, як унутрана балюча перажываў ён тое спазненне. Вядома, вялікае літаратурнае свята адбылося б на тым самым узроўні і без яго. Аднак гэта быў бы для кагосьці з незычліўцаў вельмі зручны выпадак, каб памянташыць языкамі. А сяму-таму гэта была магчымасць і «зрабіць адпаведныя высновы». Закуліснага, незычлівага ў той час хапала ў творчым асяроддзі. Трэба адзначыць, што А. Грачанікаў на літаратурнай ніве слыў працаўніком сумленным і шчырым, дарогі, як кажуць, нікому нідзе не пераходзіў. Адзінае, за што яго маглі папракнуць незычліўцы, — гэта тое, што паэт заўсёды адчуваў зямляцкую падтрымку Івана Шамякіна. Тыя, хто недалюбліваў аўтарытэтнага класіка, ведалі сваё правіла: «Трэба добра цэліць у вучня, тады абавязкова рыкашэтам трапіш і ў настаўніка». Насуперак усяму гэтаму, паэт у адным са сваіх вершаў прызнаваўся:

Шукаю лекі ад небяспекі
Чужым зрабіцца
Для ўсіх…

Усё гэта як зарок самому сябе. І нават падкрэслена — «для ўсіх». І я асабіста перакананы ў шчырасці гэтых радкоў. Сам паэт пераканаў мяне ў гэтым.

Верыў А. Грачанікаў у добрае і шчырае сяброўства. І сяброў у яго было багата. Яго прыязныя ўзаемаадносіны з кампазітарам Уладзімірам Буднікам перараслі ў плённае творчае супрацоўніцтва. Песні на словы А. Грачанікава хвалююць слухачоў і сёння добрай мерай пачуцця, лірычнасці і таго ж гумару.

У снежні 1988 года я ўпершыню адчыніў дзверы рэдакцыі часопіса «Маладосць» ужо не ў якасці аўтара, як дагэтуль, а загадчыкам аддзела паэзіі. Запрасілі мяне на працу галоўны рэдактар часопіса А. Грачанікаў і яго намеснік Генрых Далідовіч. Прызнацца, пасада гэта мне нават не снілася. Я ўвесь час зайздросціў сваім паэтычным настаўнікам Анатолю Вялюгіну і Міколу Аўрамчыку, якія пра-

цавалі на гэтых пасадах. А сам да падобнага рангу нават не прымерваўся. Глянуў я на стол, за які мне трэба было сесці, і разгубіўся: ён ажно ўгінаўся ад цяжару рукапісаў. Ляжалі яны і сціплымі аркушыкамі, і сшыткамі, а большасцю тоўстымі папкамі. «Маладосць» у гэты час пачала выдаваць сваю бібліятэчку. 12 кніг у год — вунь якая падтрымка маладым. З іх — паўдзясятка зборнічкаў паэтычных. Анатоль Сямёнавіч супакоіў мяне:

— Не палохайся. Адужаеш.

І тут жа параіў:

— Ведаю, што маеш машыну. Кладзі ўсё гэта багацце ў багажнік і едзь на два тыдні ў «Іслач» (так называўся новы пісьменніцкі Дом творчасці паблізу Ракава. — *К. К.*). Там разбярэшся.

Так я і зрабіў. Ва ўтульным надрэчным доме хораша і адпачывалася, і працавалася. Гэтым часам Саюз пісьменнікаў праводзіў у Доме творчасці чарговую нараду маладых, заадно знаёміўся я і са сваімі будучымі аўтарамі. Мне спадабаўся гэткі выхад са становішча. За сваё творчае жыццё пабачыў я шмат літаратурных рэдактараў. Мушу сказаць, што А. Грачанікаў вылучаўся сярод гэтага мноства і сваёй памяркоўнасцю, і чалавечнасцю, і добрай дасведчанасцю, уменнем выслухаць і параіць, знайсці выйсце там, дзе, здавалася б, яго не існуе. А сам ён быў з тых паэтаў, якія мала дбаюць пра ўласную славу, але якія ў паэзіі працуюць сур'ёзна і самааддана. Хай крытыка пра яго і пісала мала, але цану яго творчым росшукам у літаратуры ўсе ведалі добра. Дый самы патрабавальны крытык таго часу Рыгор Бярозкін усё ж не пасаромеўся сказаць пра таленавітага паэта сваё важкае слова. У прадмове да кнігі выбранага «Калі далёка ты» Р. Бярозкін зазначыць: «Анатоль Грачанікаў прынёс у нашу маладую паэзію 50 — пачатку 60-х гадоў матыў ранняга чалавечага пасталення ў нялёгкіх жыццёвых умовах пасляваеннай пары. Былі, аднак, у творчасці Грачанікава і такія матывы, якія цесна злучалі яго з паэтамі пасляваеннага пакалення. Маю на ўвазе перш-наперш успаміны пра трагічныя выпрабаванні, якія выпалі на долю гэтых паэтаў». Тут крытык мае на ўвазе тое самае ваеннае маленства гэтых аўтараў, пра якое мы ўжо вышэй гаварылі.

Паэзію нельга ўявіць без пошуку, які ніколі не канчаецца толькі аднойчы знойдзеным. Можна ў нейкі час заваяваць сваю вышыню, хай і адметную, і потым таптацца вакол яе, нічога новага не адкрываючы, толькі звыкла паўтараючы сябе ранейшага. Пошук сябе самога ў сапраўднага паэта мусіць працягвацца пастаянна. На працягу ўсёй сваёй творчасці шукаў сябе самога і А. Грачанікаў, бо ведаў свае магчымасці і верыў у іх. Хай гэта і зусім не нагадвала спробу нейкага эксперымента. Тут хутчэй за ўсё пошук новых магчымасцей паэтычнага слова. Нейкім сваім новым словам можна лічыць яго «Усходнюю мазаіку». Паэт бярэ нешта характэрнае з усходняй паэтычнай школы, але грунтуецца ўсё ж на роднай беларускай глебе. Часцей за ўсё гэта мудрыя жыццёвыя высновы, на якія здатны кожны чалавек у сваім паважаным узросце. Аднак жа ў нашым выпадку узрост паэта яшчэ не дацягваў да паважанага. Але ў добрым паэтычным мудраванні аўтару не адмовіш. Спашлемся на некалькі прыкладаў:

Зайздрасць служыць злу,
Нібы кінжал злачынцу,
Ёй за няўдачы нам не разлічыцца.
Зайздросціць, хоць і знае чалавек,
Што зайздрасцю свой скарачае век.

Або вось такое:

Расце ў душы надзей вялікіх сад,
Хаця у чалавека — век кароткі.
Хто у жыцці не зведаў горкіх страт,
Не радуюць таго, відаць, знаходкі.

Уразіла мяне ў свой час паэма А. Грачанікава «Палескі трохкутнік». У гэтым казачна-фантастычным расповедзе пра сумленнага, незвычайна шчырага і працавітага беларускага селяніна-палешука, на лёс якога выпадаюць незвычайныя прыгоды, нават паразуменне з іншапланецянамі, А. Грачанікаву ўдалося ў поўнай меры раскрыцца, паказаць, на што здольнае яго шматабдымнае пяро. У добрым, натуральным сплаве лірычнага і публіцыстычнага, смела пераплеценага фальклорнымі прыёмамі, падмацаванага добрым народным досціпам, паэма ўздымае перад намі цэлы пласт народнага жыцця, скіроўвае нашы думкі і да глабальных тэм, закранае здабыткі і выдаткі НТР. Таму зусім нязвычную, магчыма, і для сябе самога, выбраў аўтар форму, каб акунуцца ў мора людскіх асабістых і агульначалавечых праблем, якія хай і не ўяўляюць сабой замкнёнага кола, аднак складанасцю і безвыходнасцю нагадваюць вядомы Бермудскі трохкутнік. Ёсць тут над чым паразважаць аўтару і даць магчымасць задумацца чытачу. Зусім не жартоўным здаецца нам зварот ці аўтарскі закід да самой навукі:

Аднак мы не трацім надзеі і веры.
Навука, як добра вядома цяпер,
Новыя ўзяўшы пазнання бар’еры,
Часам сама вырастае ў бар’ер.

Дзеля чаго прыходзіць у гэты свет паэт? У адным са сваіх вершаў А. Грачанікаў падсвядома ці стыхійна адказаў на гэта пытанне. Паэт прыходзіць на гэту зямлю, каб стварыць свой «сусвет дабрыні»:

Я веру, што ўсё мае меру:
І рэчы, і ночы, і дні.
І толькі не мае памеру
Бясконцы сусвет дабрыні.

Каб стварыць цэлы паэтычны сусвет дабрыні, патрэбна мець чулую, светлую і ранімую душу. Такой яна і была ў А. Грачанікава.

…Сакавік дарыў надзею на хуткую вясну, на ўсё, чаму так хораша і нецярпліва расчыняецца сэрца паэта. У такі дзень мы назаўсёды развіталіся з А. Грачанікавым. Яго смерць была нечаканай і загадкавай. Заплюшчу вочы і бачу жалобны картэж, які рухаецца ў напрамку Усходніх могілак і… слёзы на вейках сяброў, родных і блізкіх. Айчынная зямля супраціўлялася, як быццам не хацела заўчасна прымаць яго ў свае абдымкі. Далакопы доўга не маглі выкапаць яму, ламы гнуліся аб бетон, які хтосьці па неахайнасці пахаваў тут, ставячы побач помнік. Малацілі чыгуннай бабай, ажно падскоквалі надмагільныя пліты, а зямля не паддавалася. Хавалі паэта ўжо ў прыцемках. Усплывалі ў памяці радкі:

Калі паміраюць паэты,
Калі яны паміраюць, —
Няпраўда, што ўсе сакрэты
Нам яны пакідаюць.
Яны забіраюць з сабою
Талент свой адмысловы,
Кінуўшы ў мора людское
Свае несмяротныя словы.

Гэтыя прачулыя і сумныя радкі Анатоль Грачанікаў напісаў у 1975 годзе. Нібы пісаў, думаючы і пра сябе. Ён пакінуў нам шмат несмяротных радкоў. Ну а «ўсе сакрэты», пра якія згадвае паэт, напэўна, трэба і шукаць у тых самых несмяротных радках.

Час і памяць нам даюць такую магчымасць.

**Ала САКАЛОЎСКАЯ**

# ЦВІЦЕ ГРУША...

У маленькі пакойчык вялікай камунальнай кватэры на вул. Шчорса, дзе жыла сям'я майго дзядзькі Казіміра Гінца, нечакана пастукалі. Мы з Галяй адчыняем — на парозе высокі, стройны малады чалавек, з сонечнай усмешкай.

— Не чакалі? Прымайце госця.

— Валодзя, як ты нас знайшоў?

— А гэта таямніца, не скажу.

Сапраўды, гэта быў Валодзя Караткевіч. Яго мама — Надзея Васільеўна Караткевіч — родная сястра Яўгеніі Васільеўны Усюкевіч, жонкі майго дзядзькі Уладзіміра Іванавіча Усюкевіча.

У 1960 г. Валодзя Караткевіч яшчэ жыў у Оршы, у Мінск прыехаў па літаратурных справах і вырашыў адведаць сваю радню. Пасля гэтага мы часта сустракаліся, але гэтая першая сустрэча запомнілася на ўсё жыццё. Галя, мая дваюрадная сястра, хуценька накрыла стол. Валодзя зняў са сцяны гітару і цэлы вечар спяваў.

— Дзяўчаты, як у вас добра. Давайце заўтра сустрэнемся.

І мы сустрэліся. Валодзя прыйшоў з сябрам. Пасядзелі ў Галі, а затым цэлы чэрвеньскі цёплы светлы вечар гулялі па Мінску. Потым былі дні нараджэння Валодзі, яго сяброў (Сяргея Панізніка, Міколы Прашковіча і інш.), юбілеі. Зімой 1968 г. ён з Валяй (жонкай) і мамай прыйшоў да нас, у наш стары дом. Маляваў шаржы і на мяне, і на госця Віктара Каваленку, і на Пушкіна, Гогаля і Талстога, і на сябе (трэба аддаць іх у музей). А мой трохгадовы сын Кастусь быў у захапленні ад дзядзькі Валодзі, які падкідаў яго ўгару.

Мой дзядзька, Уладзімір Іванавіч Усюкевіч, быў палкоўнікам. Паходзіў з Наваградчыны. Да вайны і ў час вайны ён з жонкай Яўгеніяй жыў на Далёкім Усходзе. У канцы вайны яго прызначылі начальнікам чыгуначных войск 2-га Украінскага фронту. У вызваленым Кіеве далі два пакоі ў камунальнай кватэры. Сваіх дзяцей у іх не было. Вельмі шчодрыя людзі, яны рэгулярна дапамагалі матэрыяльна Аляксандры Іванаўне Гінц — жонцы майго дзядзькі Казіміра Гінца. Яна была роднай сястрой Уладзіміра Іванавіча.

З дзядзем Валодзем і цёцяй Жэняй я пазнаёмілася пры вельмі цікавых абставінах. У 1961 г. мы з маёй траюраднай сястрой Галяй Цяўлоўскай (Шарук) паехалі ў падарожжа Польшча — Чэхаславакія. Вяртацца вырашылі праз Кіеў. Там жылі дзядзя Валодзя і цёця Жэня — у цэнтры, недалёка ад Опернага тэатра. Мы знайшлі дом, кватэру. Да іхніх пакояў трэба было прабірацца праз лабірынт калідораў, застаўленых веласіпедамі, дзіцячымі калясками, нейкай старой мэбляй, лыжамі, ванначкамі і т. п. На жаль, гаспадары паехалі на дачу. Што рабіць? Суседка сказала, што трэба ехаць электрычкай на Боярку да станцыі Гляваха. А там, мусіць, знойдзеце. І мы паехалі ў свет як у капейку. Хадзілі, шукалі, пыталіся — ніхто не ведае. І раптам бачым: стол у садзе, на стале самавар, цёця Жэня і дзядзя Валодзя п'юць гарбату. Нас накармілі, напаілі, далі ключы ад кватэры, і мы паехалі ў Кіеў.

У 1971 г. Усюкевічы пераехалі ў Мінск, абмянялі кіеўскую жылплошчу на маленькую двухпакаёўку па вул. Нававіленскай. Сустракаліся мы часта, асабліва пасля смерці дзядзі Валодзі. Цёця Жэня была высокаадукаванай жанчынай. Скончыла прыватную гімназію ў Рагачове, настаўнічала на Магілёўшчыне. Вельмі добра ведала літаратуру, шмат чытала. Актыўна перапісвалася з сябрамі. З ёй было вельмі цікава. Я прыходзіла да яе, мы пілі гарбату (бачыла, што яна рыхтавалася да майго прыходу) і гаварылі на самыя розныя тэмы. Прыемна было чуць яе прыгожую літаратурную мову. Да гэтага часу чую гэты голас. У пачатку 80-х да цёці Жэні часта прыходзіў Валодзя і запісваў успаміны пра род, сям’ю.

Незадоўга да смерці яна вырашыла пераехаць да Наташы — роднай сястры Валодзі Караткевіча — Наталлі Кучкоўскай. І паведаміла, што хоча падарыць мне








шыкоўны стары (XIX ст.) буфет з моранага дубу, сказала, каб зараз жа заказвала машыну для перавозкі. Я падзякавала, але перавезці ж можна пазней. Як яна будзе жыць без буфета? «Не, заказвай адразу, не трэба адкладаць». Мусіць, адчувала, бо пасля пераезду пражыла нядоўга — пару месяцаў.

Думаю, Бог так кіраваў, што адносіны з гэтай сям'ёй працягваліся. І да гэтага я добра ведала Наташу, але пасля адыходу цёці Жэні адносіны сталі больш блізкімі. Пры сустрэчы і па тэлефоне (размовы былі доўгімі) яна шмат расказвала пра Валодзю, яго сяброў, сапраўдных і не зусім, Валю, сваіх унукаў. Апошні раз я была ў Наталлі Сямёнаўны за тыдзень да яе юбілею. Яна частавала мяне незвычайнымі грушамі з саду сваёй дачкі Лены. Нягледзячы на хваробу, была вельмі актыўнай, гаспадыняй у кватэры. Абяцала даць чаранкі грушы. Не паспела, памерла ў лютым.

А чаранкі прыжыліся. Іх перадала мне Лена. Цвіце груша…

***Шаржы Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА з прыватнага збору Алы САКАЛОЎСКАЙ.***

**Васіль ШУР**

# МАЛАЯ І ВЯЛІКАЯ РАДЗІМА Ў АНАМАСТЫКОНЕ ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА

Пра творчасць Фёдара Янкоўскага — выдатнага вучонага-лінгвіста, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, таленавітага і самабытнага пісьменніка, вялікага патрыёта-беларуса шмат напісана ў энцыклапедыях, манаграфіях, дысертацыйных даследаваннях, успамінах, вучэбных дапаможніках для студэнтаў і вучняў. Толькі ў *«Библиографическом указателе по славянскому и общему языкознанию. Профессор Фёдор Михайлович Янковский»* (Самарканд, 1984) змешчана больш за 150 рэцэнзій, у якіх аналізуюцца яго навуковыя і навукова-метадычныя працы. Да ягоных юбілейных датаў праведзена некалькі міжнародных канферэнцый ва ўніверсітэтах у Мінску, Брэсце, Мазыры.

Далёка за межамі Беларусі вядома *лінгвістычная школа прафесара Ф. Янкоўскага*. Жыццёвыя прынцыпы Настаўніка, Педагога, Вучонага, як справядліва адзначыла адна з яго вучаніц В. Мароз, паспяхова рэалізуюцца ў вялікай і плённай працы ягоных паслядоўнікаў, якія да навуковых даследаванняў падыходзяць з усведамленнем высокага служэння Бацькаўшчыне, малой і вялікай радзіме — Беларусі, узбагачэння і ўзвелічэння духоўных набыткаў свайго народа *«не дзеля кавалка хлеба»*, а каб *«жыла, каб цвіла Беларусь»*. 23 аспіранты Ф. Янкоўскага паспяхова абаранілі кандыдацкія дысертацыі. З іх 8 сталі прафесарамі, дактарамі, прадаўжаючы добрыя традыцыі свайго самабытнага і таленавітага настаўніка.

З 1973 года ў выдавецтвах БССР і за яе межамі друкаваліся яго шматлікія мастацкія творы: абразкі, апавяданні, навелы, нарысы, замалёўкі. Асабліва плённа як празаік Ф. Янкоўскі працаваў у апошнія гады свайго жыцця. Прыхільна былі сустрэты яго кнігі *«Абразкі»*, *«Прыпыніся на часіну»*, *«І за гарою пакланюся»*, *«Радасць і боль»*, *«Само слова гаворыць»*, *«З нялёгкіх дарог»* і інш.

Пра навуковыя і мастацкія вартасці твораў Фёдара Янкоўскага грунтоўна пісалі Янка Брыль, Уладзімір Калеснік, Вячаслаў Рагойша, Алесь Каўрус, Галіна Малажай, Ян Скрыган, Павел Місько, Іван Новікаў, Барыс Сачанка, Генадзь Шупенька і інш. Я. Брыль у прадмове да кнігі «Беларуская фразеалогія» сведчыў, што *«прастата яго хавае ў сабе і былую суровую мужнасць беларускага партызана, і па-народнаму шчырую працу выдатнага выкладчыка, і розум ды вопыт вучонага, набытак якога не сорам пакласці на міжнародны стол»*.

У манаграфіі Л. Яўдошынай *«Слова ў мастацкім кантэксце»* (Брэст, 2003) праведзены канцэптуальны аналіз мовы мастацкіх тэкстаў Ф. Янкоўскага, творчасць якога характарызуецца адметным філасофска-мастацкім мысленнем. На аснове сучасных лінгвістычных канцэпцый і падыходаў даследчыцай усебакова і сістэмна разглядаюцца ў іх litrazнаўзроўневыя мастацкія моўныя адзінкі. Па гэтай жа праблеме Л. Яўдошынай абаронена і кандыдацкая дысертацыя. А ў Мазырскім педуніверсітэце — магістарская дысертацыя І. Цярэнцевай *«Анамастыкон твораў Фёдара Янкоўскага»*. Дарэчы, анамастыкон гэтага пісьменніка аналізаваўся таксама ў асобных працах В. Емельяновіч, К. Панюціч, Н. Гаўрош, А. Каўруса, М. Новік, Г. Малажай, аўтара гэтай публікацыі.

Варта адзначыць, што не толькі ў лінгвістычных праблемах Ф. Янкоўскі быў наватарам, ішоў наперадзе іншых. У літаратурнай творчасці таксама выдзяляўся навізною, своеасаблівым падыходам да самабытнага, адметнага, спецыфічнага апісання рэчаіснасці і актуальных праблем. Стылю пісьменніка, як адзначаюць даследчыкі яго лірычных мініяцюр і абразкоў, уласцівы *«адметны аўтарскі погляд, своеасаблівы тып мастацкага мыслення, якое і раней акрэслівалася як лірычна-рамантычнае, ліра-філасофскае, або эсэістычнае… У выніку нараджаюцца такія знешнія прыметы, па якіх і характарызуецца гэты жанр: сціслы аб'ём, свабодная кампазіцыя твора, афарыстычнасць, выразная суб'ектыўнасць, імкненне да бессюжэтнасці і цыклічнасць і інш.»*

Лірычныя мініяцюры Янкі Брыля і Фёдара Янкоўскага, як пісала Г. Кісліцына, сталі сапраўднай з'явай у беларускай літаратуры 70-х гадоў XX ст. Яны не проста *«"ажывілі" стылёвую аднастайнасць тагачаснай прозы, а паказалі, што літаратура можа і павінна быць скіравана на выяўленне індывідуальнага, адзінкавага, павінна спрыяць не толькі вырашэнню маштабных грамадска-сацыяльных задач, але і духоўнаму станаўленню, развіццю эстэтычнага густу, набыццю ведаў, у першую чаргу прыносіць чытачу асалоду ад мастацкага тэксту»*.

Найперш у сваіх літаратурных творах Ф. Янкоўскі выступае як лінгвіст, які тонка і глыбока разумее сутнасць і адценні роднага слова, праз якое можна данесці да чытача ўсё багацце чалавечых думак, паказаць прыгажосць і дасканаласць беларускай мовы. *«Наш час,* — пісаў ён, — *вымагае не бясследнага існавання, а жыцця, запоўненага клопатам і працаю, жыцця для Радзімы — Бацькаўшчыны»*. Гэтыя словы былі для вучонага і пісьменніка яго штодзённым жыццёвым крэда.

З асаблівай увагай ён ставіўся да анамастычных назваў — тапонімаў, уласных імёнаў, прозвішчаў. Ведаў, што на карце радзімы, у газетах, часопісах, афіцыйных дакументах нярэдка можна сустрэць знявечаныя, афармленыя на ўзор чужых слоў беларускія тапанімічныя назвы, якія на працягу апошніх стагоддзяў замацаваліся ў шматлікіх запісах, на картах, пачынаючы з XVI—XVIII стагоддзяў, у асноўным пад уплывам польскай мовы, а ў наступныя стагоддзі — пад уплывам рускай. Унеслі свой *«пасільны ўклад»* у знявечанне і мясцовыя чыноўнікі-беларусы, якія ў шэрагу выпадкаў рабілі гэта свядома, а то і несвядома — ад невуцтва. Такіх прыкладаў шмат. Пры гэтым трэба ўлічваць і тое, што многія сучасныя змененыя тапанімічныя назвы гучаць і пішуцца скажона ўжо некалькі стагоддзяў, і людзі звыкліся ці нават не ведаюць, як яны прамаўляліся раней і як павінны перадавацца сродкамі пісьма ў адпаведнасці з асаблівасцямі сучаснай арфаэпіі, арфаграфіі. Параўн.: *Брэст*, *Гродна*, *Драгічын*, *Ліозна*, *Міоры*, *Крулеўшчызна* і інш.

Фёдар Янкоўскі неаднойчы папярэджваў, што анамастычныя назвы, праходзячы праз канцылярыі, выдавецтвы, друкарні, іншы раз так мяняюцца, што, напрыклад, напісаная на карце і сапраўдная назва-тапонім маюць рознае гучанне. Ён быў, мабыць, адным з першых, хто яшчэ ў пасляваенныя гады ў беларускіх навуковых і навукова-папулярных часопісах, а ў апошнія гады свайго жыцця — у мастацкіх творах пратэставаў супраць скажэння, знявечання традыцыйных беларускіх назваў. Правільнае напісанне іх не можа не грунтавацца на жывым вымаўленні. Передача пісьмова — вельмі адказная справа: *«Ці правільна, што на картах і ў газетах пішуць Вілія? (Параўн.: Гэта было ў сорак першым, восенню памятнай той, ранкам ад хмар пацямнеўшым, па-над ракою Віллёй. М. Танк). Не Не́свіж, а Нясві́ж, не Ро́гава, а Рагава́, не Асі́павічы, а Асіпо́вічы, не Не́ман, а Нёман, не Талачыно́, а Талачы́н, не Мсціслаўль, а Мсціслаў. Няма падставы гаварыць і пісаць Браслаўль, а карыстацца назвай Браслаўе, як і Заслаўе».*

Мастацкія тэксты Ф. Янкоўскага насычаны разнастайнымі лінгвістычнымі каментарыямі, але чытаюцца яны з асалодаю, бо праз каментарыі да некаторых слоў, асабліва тапонімаў, дасягаецца выключная выразнасць думкі, выяўляецца мэтанакіраваная празрыстасць семантыкі ў слове: *Вясёлка і бліскавіца. / Згода і*

*Мілавіца (зорка Венера). / Журавіны і парэчкі. / Смачны і смаката. / Цукроўкі і папяроўкі (яблыкі). / Гародніна і садавіна...*

*Вяселле (вяселлейка) і немаўляткі, рунь і Руневіч, араты і Роліч... Вёскі Жывунь і Збажынка, Аснежыца і Крыніца, Янавічы і Свяцілавічы, Турэц і Ліпень, Галубіца і Славінск, Дуброва і Ясень, Гасцілавічы і Гасцілаўцы, Рэкта і Росна, Рось і Ратамка, мястэчкі Клічаў і Жыткавічы, Любань і Любча, Ружаны і Пружаны...*

Можна скласці цэлы слоўнік гаваркіх слоў, беларускіх экзатычных слоў (і не толькі можна: старонкі яго — у мяне пад рукою).

Іншы раз *«смакату»* самога слова адчуеш, пісаў пісьменнік-лінгвіст, калі пранікнеш у яго паходжанне, у яго этымалогію або хоць паставіўшы побач з ім іншыя (ці хоць бы іншае, адно) слоўцы ад таго самага кораня. Пачуе аўдыторыя (цэлых сто дзяўчат і хлопцаў), што даўняе і такое роднае слова *шлюб* ад *люб-ы* (з яго «сям'і» і *любіць*, і *ў-любёны*, і *люб-овы*, і *люб-ата*, і *люб-асць*, *люб-енькі*), што *шлюб* — з былога *съ* і *любъ*, і выкладчык спыняецца на нейкую хвіліну, не расказвае; студэнтка паўторыць сама сабе ці суседцы за сталом, паўторыць — *«возьме на слых»* гэта слова.

Пра новы літаратурны занятак у сваёй першай кнізе «Абразкі» Ф. Янкоўскі пісаў: *«Беларускае мовазнаўства, беларуская філалогія — шырокае роднае поле, на якім яшчэ ёсць неўзараныя дзялянкі і недагледжаныя нівы. Яшчэ не ўсе сабраныя мною матэрыялы і назіранні апрацаваў і падрыхтаваў да друку; яшчэ не ўсё з гэтага асэнсавана, вывучана. Лінгвістыка, філалогія не стане ў мяне пабочным заняткам».* Лінгвіст і пісьменнік, узбагачаны вялікім і складаным жыццёвым вопытам (удзельнік дзвюх войнаў, у якіх загінулі яго самыя блізкія. — *В. Ш.*), ён амаль паслядоўна арыентаваўся на натуральнае, народнае вымаўленне ўласных назваў, падкрэсліваў характэрныя асаблівасці словаўтварэння, націску. Асабліва ў тых выпадках, калі ў перыядычным друку сустракаў прыклады скажэння, зняверчання ўласных назваў: *«У Баранавіцкім раёне, недалёка ад старадаўняга і каларытнага мястэчка Гарадзішча, ёсць возера, якое зрабілі на рэчцы Сэрвеч, каля вёскі Кутаўшчына. З таго і называецца гэта возера Кутаўскае. Грэх абысці, не звярнуць увагу на народнае словаўтварэнне. Кутаўшчына — Кутаўскае (возера). Радашкавічы — радашкаўскае (поле). Загорцы — загорскі (музыкант). Правы бераг Бярозы; недалёка ад мястэчка, якое з даўніх давён называюць местачкоўцы і сяляне навакольных вёсак Бярэзань, на картах пішуць (нашто? чаму?) інакш — Беразіно. Па дарозе з Мінска на Дубаўляны, Цнянку, Паперню; Рэчкі, і ручайкі, і крыніцы — Цна, Вяча, Чарнушка, як і Удра, як Дзвінаса, як і Іля, як і Рыбчанка, як і Іслач, як і Вуша, — усе гэтыя рэчкі ў абсадах. Там — Грандзічы, Нягневічы, Зарніцы, Дарніца, Пальніца, Гожа... Там Гродна і Астрына, Наваградак і Кушляны, Свіслач і Любча, Шчорсы і Мір... Там светлыя, чыстыя, як з расы, шпаркі Нёман і нібы пасрэбраная Шчара. Там сама святая Світазь. Праехалі вёскі Пяценка, Бярэжкі, Баянаў, Бярозаўка, Зубарэвічы...»*

У Ф. Янкоўскага шмат тыповых, самабытных беларускіх уласных імёнаў. Некаторыя з іх у наш час з прычыны розных абставінаў скажаюцца, забываюцца: *Тамаш, Юзік, Адась, Алесік, Ядзя, Прося, Базыль, Паўлюк, Андрэйка, Людвіка, Ігнась, Стась, Ясь, Восіп-Осіп, Тодар-Фёдар-Феадор, Юрась-Юрка, Юлік, Амброж, Кастусь, Канстантын, Уладыслаў, Кандрацій-Кандрат, Лукаш, Мікола, Міхась, Кузьма, Гэля* і інш. Некаторыя з іх архаізаваліся, сталі непапулярнымі. Гэтаму некалькі тлумачэняў: асіміляцыйныя працэсы, выкліканыя ўздзеяннем суседніх моў, а таксама адмаўленнем ў першыя гады савецкай улады ад царкоўных традыцый, калі выбар імёнаў у асноўным рэгуляваўся святарамі пры хрышчэнні дзяцей і інш. Напрыклад, у сваіх творах Якуб Колас ужываў наступныя імёны, якія цяпер амаль не ўжываюцца: *Баўтрук, Гілёрык, Зыдоры, Амброжык, Доніс, Іканор, Пабіян, Самусь, Самабыль, Пронька, Пранцысь, Саламея* і інш. Так, імя *Карусь* часта выкарыстоўваецца ў апавяданнях «Дзяліцьба», «Соцкі

падвёў», «Недаступны», «У балоце», «Кірмаш», «За дождж», «Па дзядзьках», у паэмах «Новая зямля», «Сымон-музыка» і інш. У паэме «Новая зямля» ўжываў і жаночы варыянт ад гэтага імя — Каруся.

У творах Ф. Янкоўскага можна знайсці самыя разнастайныя лінгвістычныя каментарыі і тлумачэнні да наступных тапанімічных і адтапанімічных назваў: *Гародня, Наваградак, Навагрудак, Петрыко́ў, Лепль — Лепель, Віцебшчына, віцьбіч, Любч — Любча, Лекараўка, Маладэчна — Маладзечна, Нягневічы, Панямонь, Палессе, паляшук, Шчорсы, Мір, Лаўрышава, Радагошч, Заполле, Загора — Загор'е, Кушляны, Грандзевічы, Добраўка, Дароўка, Бахмэтаўка (не Бахметаўка), мінчук, Менск — Мінск, градзянчук, ражанчук (станцыя і мястэчка Ражанка), пінчук (Пінск), іўчук (Іўе), мазырчук (Мазыр), Койданаўшчына, Случчына, Слуцак — Слуцк, Стаўпеччына, Жыткаўшчына, Петрыкаўшчына, петрыковец, Рагачоўшчына, Тураў (туравец — Туравец), Ворша — Орша, Цна, Цнянка, Паперня, Гарывада, Рахманькі, Бярэзань — Беразіна, Баранічы, Браслаў, Лагойск, Вялейка, Валожын, Вялля, Перагадаўшчына, Граніччы, Камарнікі, Саломерычы, Рагава, Удранка, Згода, Перароў (пераровец), Заслаўе, Сычавічы, Ісляч, Рацмеравічы, Глуск, Клетнае, Любань, Любаншчына, Вяснінка, Весялоўка, Зацань, Ясянінка, Гайна, Уладыкі, Верайцы, Градзянка, Камянічы, Асіпоўшчына, Ярэмічы, Вуша* і іншыя.

Для беларускай мовы надта тыповае ўжыванне ўласных назоўнікаў-тапонімаў на *-шчын*-а для абазначэння мясцовасцей, што прылягаюць да пэўнага (дамінуючага ў ваколіцах) населенага пункта: *Мазыршчына, Слонімшчына, Тураўшчына, Чэрвеньшчына* і інш. Цяпер гэта вельмі адметная тапанімічная мадэль сучаснай нацыянальнай анамастыкі. У Ф. Янкоўскага тапонімы на *-шчын*-а — натуральныя назвы самых розных частак Беларусі. Ён практычна пазбягаў выкарыстання афіцыйных назваў раёнаў, абласцей Беларусі, адчуваючы, што найменні тыпу *Мінщчына, Наваградчына, Случчына* не толькі ёмка, каларытна і натуральна выконваюць назыўную функцыю, але і падкрэсліваюць нацыянальна-этнаграфічную спецыфіку краю, фактычна ўжываюцца як адметныя айконімы-этнатапонімы. Каб глыбей зразумець сутнасць такіх характэрных для беларускай тапанімічнай сістэмы найменняў, дастаткова ўглыбіцца ў разважанні самога Фёдара Міхайлавіча: *«Случчына. Гэта не толькі Слуцк. Як і не толькі сучасны раён («куток») вакол Слуцка. Не-не!*

*Не Слуцкі раён, нават не акруга, а Случчына — своеасаблівая зямля, усё своеасаблівае на гэтай зямлі. Сказаў ужо: Случчына не толькі Слуцк, як і не толькі Слуцкі раён. Гэта і Капыльшчына, і Нясвіжчына, і Чырвонаслабодчына, і частка Любаншчыны. Ад маёй роднай вёскі да Слуцка больш за сто кіламетраў. А і мы, дзеці, ведалі, што адсюль едуць на Случчыну, у кірмашовыя дні ў Слуцк купляць случакоў — магутных шыракакрыжных коней слуцкай пароды. Славілася Случчына сваім салам, мясам, каўбасамі, сваімі слуцкімі бэрамі… А з гадамі, калі пазнаў Беларусь, калі пазнаў Бабруйшчыну, Мсціслаўшчыну, і Мазыршчыну, і Полаччыну, Наваградчыну, Маладзечаншчыну, Вілейшчыну… не скрадвалася Случчына. Зялёная, шыракапольная, пшанічная! …Скажу шчыра: апошнім часам часта сніцца мне яна, бачу не брудныя горы на чыстай зямлі, не канавы-канаўкі, не ручайкі ў былых рэчышчах, бачу прывабную, шчаслівую дарагую нашу Случчыну…»*

Захапляўся, любаваўся такімі спецыфічнымі для нашай мовы назвамі. Яны амаль на кожнай старонцы яго кніжак: *«Прыехаў на Міншчыну — яна іншая, не такая, як паўднёвая Бабруйшчына, не такая, як Рудобельшчына, Случчына, Любаншчына, на Міншчыне і срэбразвонныя ручаі, і званкі-крыніцы, і шпаркія шумныя рэчкі…»*

Як адзначана лінгвістамі і пісьменнікамі, даследчыкамі яго мастацкіх тэкстаў, «*ён не хаваў сваёй лінгвістычнай зацікаўленасці словам, таму паслядоўна карыстаўся своеасаблівымі ўстаўнымі канструкцыямі як аўтарскімі каментарыямі»* да шматлікіх рэальных, а ў шэрагу выпадкаў перайначаных, змененых, скажоных

анамастычных найменняў — асабовых, спецыфічна беларускіх, уласных імёнаў, прозвішчаў, айконімаў і інш. У яго тэкстах — гэта заўвагі пра паходжанне і ўжыванне слоў, адметнасць іх структуры, характарыстычнасць і інш. Распаўсюджанасць такіх устаўных канструкцый, якія прааналізавала Л. Яўдошына ў прозе Ф. Янкоўскага, матывуецца жанравымі асаблівасцямі: аўтар не скаваны строгімі сюжэтнымі рамкамі абразка, нарыса, эцюда, мае магчымасць падчас аповеду дзяліцца з чытачом сваімі думкамі, робячы шматлікія адступленні ў ходзе паведамлення, а на фоне ўсяго твора-мініяцюры надзвычай выразна праяўляецца асоба пісьменніка, яго пазіцыя да ўсяго напісанага ў нарысе, абразку і інш.

З лёгкай рукі Ф. Янкоўскага ў беларускай літаратуры, беларускім мовазнаўстве прыжыліся словы-вобразы, якія сталі называцца *гаваркімі.* Гэта не толькі агульныя адзінкі тыпу *неўставака, пустадомак, дабрадзей,* словазлучэнні: *частаваць словам, само слова гаворыць*, аказіянальныя аўтарскія спалучэнні, якія падхоплены аматарамі, чуйнымі на трапнае ўжыванне слоў: *падбетонены стыль, выцерабленыя радкі* і інш., а і разнастайныя анамастычныя адзінкі тыпу *Мілавіца, Гарывада, Паперня, Згода, Жывунь, Збажынка, Аснежыца, Крыніца, Галубіца, Гасцілавічы, Клічаў, Жыткавічы, Любань, Любча, Ружаны, Пружаны* і г. д.

Гаваркія онімы ў яго выяўляюць унутраную форму, ацэначныя ўласцівасці, абумоўленыя сістэмай моўна-выяўленчых сродкаў, літаратурнымі і фальклорнымі традыцыямі. У творах яны пераважна поліфункцыянальныя, выконваюць не толькі назыўную, ідэнтыфікуючую функцыю — адрозніваюць, індывідуалізуюць асобу (аб'ект), але і валодаюць разнастайным канатацыйным патэнцыялам, сведчаць экспрэсіўна-эмацыйныя і іншыя асаблівасці, перадаючы такім чынам адносіны аўтара да носьбіта імя. Таксама ўяўляюць яскравы адбітак і вынік літаратурных традыцый і ідэйна-мастацкіх задач канкрэтнага твора і нават канкрэтнага мастака слова. Гаваркія словы (онімы ў нашым выпадку — *В. Ш.*) можа растлумачыць, як лічаць Г. Малажай і Л. Арочка, любы носьбіт мовы. У гэтым іх адметная семантыка-прагматычная асаблівасць: працэс асэнсавання такіх моўных адзінак арганічны і лёгкі. Выразная славаўтваральная база намінацыі дазваляе аб'ектыўна актуалізаваць унутраную форму слова і стварыць за кошт гэтага дадатковыя семантычныя характарыстыкі, у выніку чаго намінацыя набывае семантычную экспрэсію. Эфект выкарыстання такіх онімаў *«грунтуецца на наўмысным ажыўленні значэння апелятыўнай утваральнай асновы прозвішча»*.

Фёдар Янкоўскі захапляўся і любаваўся такімі натуральнымі і празрыстымі на семантыку словамі. Яны амаль на кожнай старонцы яго самабытных абразкоў, лірычных мініяцюр, апавяданняў, філасафічных эцюдаў. Гэта выразна ключавыя словы-дамінанты, якія перадаюць мастацка-эстэтычную, пазнавальную матывацыю вобраза, нацыянальны і рэгіянальны каларыт, аўтарскую пазіцыю, пісьменніцкі дар і інш. Вось як пісаў пра такія словы ён сам: *«Гаваркое, або характарыстычнае слова не толькі абазначае нешта, а і характарызуе з'яву, прадмет — тое, што абазначае; гаваркое слова адразу дае штрышок вобраза ці нават вобраз»*. У эсэ «Чытаючы Лукаша Калюгу» яшчэ раз даў вызначэнне гаваркім словам, выяўленым у гэтага аўтара: *«...звычайнае, вядомае слова становіцца характарыстычным, гаваркім, якое не толькі нешта называе, абазначае, а і само гаворыць, малюе, стварае вобраз»*.

Прыводзіў прыклады трапных гаваркіх слоў: у Лукаша Калюгі *«клышаногі язык»* і *«лёгкія ногі...»*, у Г. Бураўкіна — *«акуратненька маўчаў»*, у Я. Брыля — *«бязлобая галава»*, *«пераспелы жаніх»*, *«сцюдзёная праўда»*, *«прычасаная ралля»*, *«маладзы смех»*, *«нішчымная паўза»*, *«нахабны пах»* і інш. Як адзначыў М. Тычына, *«пісьменнік увесь час згадваў кантэкст, сітуацыю, людзей, насычаючы гісторыю слова канкрэтыкай лёсаў, а не літар. Дакладнасць у напісанні, вымаўленні, падкрэслены педантызм пры згадванні імёнаў, назваў населеных пунктаў, датаў ідуць не ад навуковай вывучкі, а, верагодней, ад павагі да чалавечай асобы»*. Яго проза сапраўды *«частуе»* нас словамі — самабытнымі, жывы-

мі, каларытнымі, вечнымі, як народ, які некалі прыдумаў гэтыя словы, уклаў у іх досвед перажытага за тысячагоддзі. У словах — свет народных уяўленняў, народныя адносіны да навакольнага асяроддзя, канцэнтрат самабытнай беларускай філасофіі жыцця… Заўсёды жыў дарагімі для яго імёнамі, гаваркімі словамі малой і вялікай радзімы.

Прыём мастацкай этымалагізацыі онімаў асабліва частаназіраўся ў яго апавяданнях пры апісанні рэальных тапанімічных аб'ектаў: *«...а з таго дня мне асабліва дарагою назваю — Лекараўка... Лекараўка!* (вёска ў Мінскім раёне — *В. Ш.*) *Была яна карміцелька наша, была яна лекараўка наша».* Выкарыстанне мімезіснага рэдубліката-апелятыва ў постпазіцыі да тапоніма (*Лекараўка — лекараўка*) ажыўляе, падказвае натуральную семантыку оніма, робіць мастацкі тэкст эмацыйна ўскладненым. Параўн.: *лекар, лекарка* (*разм.*) — «доктар, доктарка». У адметнай сінтаксічнай пазіцыі кампаненты мімезіснай канструкцыі ператвараліся ў *«актуальны элемент паведамлення»*, набывалі адмысловае сэнсавае адценне і эмацыйна-экспрэсіўную афарбоўку. У апавяданні «Алік» Ф. Янкоўскі яшчэ раз звяртаўся да разгорнутага мастацкага тлумачэння гэтай назвы, прыводзячы ў апісанні лексемы-актуалізатары і інтэнсіфікатары: *«У вёсцы Лекараўка (назва яе — сама характарыстыка роднага, сама матчына руплівасць, само жыццядайнае гучанне, сама жыццядайная сіла) партызанскі атрад чакаў ночы, каб выйсці на засаду...»*

Мастацкая этымалагізацыя онімаў выяўляецца і ў наступнай канструкцыі: *«Міхась, казалі ў вёсцы, — гэта Міхась, а не які там Міхаль-піхаль».* У парадыгматычнай антрапаформуле таўталагічна аб'яднаны кантэкстуальныя онімы-кантрастывы: *Міхась — Міхась — Міхаль-піхаль,* дзе другі кампанент — онім-актуалізатар, якім падкрэсліваецца канатацыйны аспект першага імя, якое, набыўшы выразную семантычную напоўненасць (гаспадар, руплівец), выступае кантэкстуальным кантрастывам да оніма *Міхаль-піхаль.* Сутнасць апошняга, які, дарэчы, нагадвае замежны адпаведнік беларускага *Міхась*, канкрэтызуецца зарыфмаваным прыдаткам *піхаль — «той, кім панукаюць, зняважліва распараджаюцца, камандуюць; папіхач».*

Каментарыі, удакладненні да онімаў, насычаныя разнастайнай інфармацыяй і аформленыя як устаўныя канструкцыі, — паказальныя элементы стылю Ф. Янкоўскага.

Па-мастацку сцісла і ёмка падаецца ў адным з абразкоў этымалагізацыя гідроніма *Пціч*: *«Метраў праз некалькі — мост, на Пцічы, на рацэ, што некалі мы, хлапчукі, расхвальвалі: "На ёй вельмі багата, як ні на адной рацэ на свеце пціцак усякіх..."»* На аснове народнай этымалогіі і адвольнага супастаўлення назоўніка-індыкатара (*пціцак* — птушачак) і сугучнага яму гідроніма *Пціч* аднаўляецца ўнутраная форма апошняга, кантэкстуальна неабходная пісьменніку ў гэтым кантэксце. У выніку мастацкай семантызацыі тэкст набывае нечаканую напоўненасць і своеасаблівую навізну, а гідронім *Пціч* успрымаецца як гаваркое, этымалагізавана маркіраванае слова, як выразны стылістычны сродак. Мастацкая этымалагізацыя онімаў частая ў творах фальклору: вядомае ў соцыуме імя падлягае пераасэнсаванню, і этымон у такім выпадку кладзецца ў аснову вобраза, які ствараецца на падставе своеасаблівых асацыяцый, каламбураў, параўнанняў.

У зборніку «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы», складзеным Ф. Янкоўскім, ёсць нават асобны раздзел «Добразычлівыя і жартоўныя пажаданні. Жарты. Каламбуры». У ім прыводзяцца прыклады абыгрывання онімаў з мэтай дасціпнага і часам нечаканага супастаўлення іх з агульнымі лексічнымі адзінкамі або іх формамі: *«— Як завуць? — А як за Вуць (Вуць — назва ракі. — В. Ш.), дык і Церахоўка»; «Падкузміў Кузьма Дзяміда; Паддзямідзіў Кузьма Дзяміда»; «Дзядзька Піліп, ці ты да лаўкі прыліп?»; «Ішоў Тодар з Тадораю, знайшоў лапаць з абораю. — Ой ты Тодар, я Тадора, табе лапаць, мне — абора».* Паходжанне некаторых такіх каламбураў растлумачыў Ф. Янкоўскі: *рэчка Вуць*, а за рэчкаю

*Церахоўка*. Такая гульня заснавана на сугучнасці *завуць* і *за Вуць*; *Шляхам, шляхам, да самай Гразі* — каламбур з Мсціслаўшчыны, заснаваны на супадзенні слоў: *гразь* — бруд і *Гразь* — назва вёскі. На гасцінцы з Мсціслава на Смаленск вясною, восенню многа гразі. Звычайна такія каламбуры ствараюцца ў межах некалькіх радкоў, у якіх рыфмуюцца самыя разнастайныя лексічныя, фразеалагічныя і іншыя моўныя адзінкі.

У апавяданні «Прозвішча» гаворыцца, што некалі ў тыповай беларускай вёсцы жылі тры браты-пенсіянеры, якія мелі прозвішча *Кісель*, аднак старэйшы з іх, *«аб'ездзіўшы свет, набачыўся гарадоў, рэк, тэатраў, клубаў...»*, змяніў сваё прозвішча. І калі паштальёнка, прынёсшы ад яго паштоўку серадольшаму *Кісялю*, засумнявалася, ці правільна яна ўручае пісьмо аднаму з братоў, бо на паштоўцы *«...прозвішча таго Кісяля было з націскам на* ***і****, а таксама аж з двума «с»: Кіссель. Нехта з прысутных лёгка хмыкнуў, другі, нібы не ўсім, сказаў:*

*— Гэта як у немцаў, усё адно як па-нямецку. Трэці паспрабаваў скланяць і замяніць «с» іншымі гукамі»*.

Такім чынам, пісьменнік, выкарыстоўваючы прыём набілізацыі прозвішча, лаканічнымі сродкамі стварыў вобраз прыстасаванца, які замяняючы онім, хацеў пазбавіцца родных каранёў. Меркаваў, што новае прозвішча больш эстэтычнае, гучыць, як некаторыя замежныя.

У абразку «А каб табе!» намаляваны вясковы інтэлігент-абывацель *Дуб-Дубавецкі*, які, жывучы сярод сялян, карыстаючыся іх сардэчнасцю, гасціннасцю, з пагардаю і здзекам гаворыць аб роднай мове, мясцовым вымаўленні. *Дуб-Дубавецкі*, не адчуваючы натуральнасці, мілагучнасці дыялектнай мовы, «дубова» ўспрымае яе гучанне. Збіральніку беларускіх слоў, фразем, прыказак, прымавак з жахлівай жорсткасцю ён паведамляе: *«Я проста не зношу іхняга "сакання", "абуўса», "напіўса"; іхніх кленічаў: "А каб цябе!", "А бадай цябе!", "А ліха на іх!"»*. У гэтым штучна створаным па вядомай мадэлі прозвішчы Ф. Янкоўскі свядома абуджаў канатацыйны аспект оніма, каб паказаць абмежаванасць і нікчэмнасць яго носьбіта; рэалізуючы адно са значэнняў апелятыва *дуб* — пра тупога, неразумнага чалавека, ствараў «гаваркое» прозвішча, якое дакладна перадае адносіны аўтара да гэтага персанажа. Агульную характарыстыку *Дуб-Дубавецкага* дапаўняюць апісанне яго знешнасці, манера гаварыць з вяскоўцамі-сялянамі.

Да месца прывесці выказванне пісьменніка Паўла Місько, які, асэнсоўваючы ўнікальнасць творчай індывідуальнасці пісьменніка-лінгвіста, пісаў, што «ўсім трэба чытаць Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. І не толькі пісьменнікам. Каб прабіраў сорам, каб не знаходзілі мы сабе месца за сваё нядбайства і няўвагу да роднага слова, якое — наш гонар і слава перад цэлым светам…»



Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

# ПЕДКАЛЕКТЫЎ НА ЗЛОМЕ ЭПОХ: АЛЬМА-МАТАР АЛЕСЯ ДУДАРА

У расійскім Тамбове ўжо некалькі стагоддзяў не было войнаў. Раскоша, нечуваная для беларускіх гарадоў, заўважная не толькі на вуліцах гэтага старога купецкага места, якое і сёння ўражвае драўлянымі карункамі стогадовых сядзіб, старымі садамі, камяніцамі. Адносна спакойнае жыццё добра бачна ў архівах: рэдка дзе ў нас можна адшукаць дакументы ўстаноў, датаваныя 1914—1918 гадамі, у ідэальным стане. За Першай сусветнай, рэвалюцыямі, польскай акупацыяй і грамадзянскай вайной дакументазварот вёўся і кансерваваўся ў нас, мякка кажучы, неакуратна. Менавіта таму мы мала ведаем пра тое, напрыклад, як перажываліся ў звычайных школах падзеі гэтых няпростых гадоў: як ішоў вучэбны працэс, як рэагавалі настаўнікі і вучні на віхуры за дзвярыма класа, што турбавала педкалектыў, які раптоўна апынуўся ў хаосе пераменаў.

У Дзяржаўным архіве Тамбоўскай вобласці (далей ДАТВ) мяне цікавілі дакументы класічнай мужчынскай гімназіі горада Казлова (сёння — Мічурынск). Менавіта тут з 1915 па 1918 год вучыўся Аляксандр Дайлідовіч, будучы беларускі паэт, крытык, перакладчык, якога мы ведаем пад гучным і амбітным псеўданімам — Алесь Дудар. Так сталася, што менавіта тры гады, праведзеныя ў Казлоўскай гімназіі ў дадатак да першага года навучання ў элітнай мінскай гімназіі Фальковіча і Зубакіна, закрытай з-за набліжэння фронту, сталіся асновай акадэмічнай адукацыі Алеся Дудара. Тры наступныя гады ў ледзь-ледзь працуючых за палякамі мінскіх школах і два курсы БДУ, не скончанага з-за арышту і высылкі, няшмат дадалі да тых ведаў, што ўкладалі ў свайго вучня гімназічныя, яшчэ «царскія», настаўнікі. Усё, чым узбагаціў беларускую літаратуру Алесь Дудар, — высокая культура верша, бліскучыя ўзоры «цвёрдых форм» і арыгінальнасць аўтарскай лірыкі, трапныя пераклады з чатырох еўрапейскіх моў, уласны крытычны «почырк» — ён выхаваў у сабе самавукам, сабраўшы і прачытаўшы «з алоўкам» найбагацейшую асабістую бібліятэку, прысвечаную гуманітарным і лінгвістычным пытанням, паклаў гэтае «самавуцтва» на надзейны падмурак класічнай гімназічнай адукацыі.

## Шлях

Дайлідовічы апынуліся ў Казлове з эшалонам бежанцаў. У верасні 1915 года сем'і работнікаў Маскоўска-Брэсцкай чыгункі тэрмінова і арганізавана вывезлі з прыфрантавога Мінска. Бацька Алеся, які працаваў у чыгуначнай канторы, застаўся разам з іншымі мужчынамі. Зыходзячы з дакументаў, якія захоўваюцца ў фондзе Казлоўскай гімназіі (ДАТВ, ф. 123, воп. 1, спр. 1), — «выхадны» дакумент з мінскай гімназіі Фальковіча-Зубакіна і прашэнне на імя дырэктара Казлоўскай гімназіі — яшчэ 10 верасня маці другакласніка Дайлідовіча атрымлівала паперы сына ў Мінску, а 25 верасня ўжо аддавала іх у гімназічную канцылярыю ў Казлове. Шлях бежанцаў заняў не больш за дзесяць дзён.

Але гэта былі вельмі драматычныя дзесяць дзён. З дакументаў Тамбоўскага губернскага камітэта дапамогі бежанцам (ДАТВ, ф. 61) мы даведваемся аб лёсе



*Вольга Іванаўна,*
*Алесь і Жэня Дайлідовічы. Казлоў, 1917(?) г.*

эшалона з сем'ямі мінскіх чыгуначнікаў. Адпачатку планавалася, што людзей прыме Масква, але ў сярэдзіне верасня сталіца адмовіла новым цягнікам. Горад не мог даць рады сотням тысяч бежанцаў, таму дзясяткі эшалонаў пачалі пераарыентоўваць у глыб Расіі, і найперш — у Тамбоў. У лічаныя дні вакзал Тамбова быў паралізаваны: на станцыі стаялі, не маючы магчымасці рухацца, таварныя саставы, заблакаваныя на рэйках цягнікамі з бежанцамі. Эшалон з сем'ямі чыгуначнікаў у гэты час стаяў у Казлове, не даехаўшы дзвюх гадзін да Тамбова. У вагонах панаваў сыпны тыф, не хапала ежы — на дзень кожнаму выдавалася талерка супу і шклянка гарбаты, дзецям да года давалі яшчэ палову бутэлькі малака і белую булку. Магчыма, у гэтым было ратаванне і для адзінаццацігадовага Шуркі — разам з ім і мамай ехала паўтарагадовая сястрычка Жэня, яе малака і булкі хапала на дваіх.

Напружанне расло, асабліва сярод жонак чыгуначнікаў, — яны выехалі з Мінска пасля абяцанняў улад арганізаваць і шлях, і бежанскі побыт. На вакзале Казлова ўспыхнуў стыхійны бунт, падтрыманы мясцовымі работнікамі чыгункі. Жанчыны высыпалі з вагонаў, узяўшы дзяцей і рэчы, і рушылі ў бліжэйшую гасцініцу займаць нумары: больш нікуды не паедзем, годзе, нам абяцалі. З Тамбова прыйшла тэлеграма: рассяліць сем'і чыгуначнікаў у Казлове неадкладна.

Такім чынам, на прашэнні Вольгі Іванаўны Дайлідовіч аб прыняцці «сына моего Александра» ў Казлоўскую гімназію стаіць адрас: гасцініца Трансвааль, нумар 3. *«Зачислить с 25.09.1915 во 2 класс»* — накладзена рэзалюцыя сінім хімічным алоўкам. Буйны, чытэльны почырк, цвёрды подпіс. Дырэктар гімназіі Сяргей Мікалаевіч Нікалаеў.

## Гімназія і яе дырэктар

Сяргей Нікалаеў быў першым і адзіным дырэктарам Казлоўскай класічнай мужчынскай гімназіі. Займець сваю гімназію было справай гонару для гарадской Думы — праўда, вырашалася гэтая «справа гонару» марудна і цяжка, гутаркі ішлі гадамі.

З анкеты, якую ўсе навучальныя ўстановы павінны былі запоўніць па загадзе куратара школьнай акругі, даведваемся: *«Козловская мужская гимназия была открыта 1 июля 1913 года, плата за обучение составила 80 рублей. Ученическая*

*библиотека до пожара в 1917 году была хорошая, но сгорела вся, ныне имеет 115 книг. При гимназии до пожара существовал великорусский и симфонический оркестры; так как все инструменты сгорели, то необходимо снова приобрести и восстановить оркестры. Кроме того, существует литературный кружок учащихся, читальня и союз учащихся. Сообразно с духом времени учащиеся интересуются более всего книгами общественно-исторического содержания и беллетристики»* (ф. 123, воп. 1, спр. 12, арк. 87).

З характарыстыкі на педагогаў гімназіі вядома, што на ўтрыманні дырэктара С. М. Нікалаева знаходзіліся *«жена, трое детей, мать 80 лет»*, таму кошт грошай і неабходнасць у іх былі яму зразумелы з уласнага досведу. Але матэрыяльны клопат стаў для яго справай не асабістай, а агульнай: з кранальнай рэгулярнасцю з'яўляюцца ў дакументах канцылярыі чарнавікі прашэнняў дэрыктара аб падвышэнні заробкаў выкладчыкам. Нешта «выкручваў» калегам і «ад сябе», не пытаючыся дазволу, але «прагараў»: *«Управление округа просит дополнительно сообщить, когда и кем разрешено введение обучения учеников вверенной вам гимназии переплетному мастерству. Вместе с сим Управление просит сообщить, по какому расчету плата В. Степанову, приглашенному для обучения учеников упомянутому мастерству, определена в 50 рублей, равно как и о том, что предположено приобрести в счет 100 рублей для переплетной мастерской и как вообще планируется организовать занятия по обучению переплетному мастерству»* (ф. 123, воп. 1, спр. 13, арк. 15).

Вучэбныя праграмы для дырэктара Нікалаева не былі догмай. У ягонай гімназіі зусім не выкладалася дапрызыўная падрыхтоўка. Быў такі прадмет, у тлумачальнай запісцы да праграмы па дапрызыўнай падрыхтоўцы сказана, што *«преподаватели военного строя прежде всего обучают отданию чести и поклонам»*. Навука гэтая была няпростай, бо *«ученики, занимающиеся допризывной подготовкой, при встрече с попечителем округа, губернатором, директором становятся во фронт, при встрече с прочими лицами отдают честь, прикладывая руку к козырьку, все прочие ученики — только прикладывают руку к козырьку»*. Нікалаеў прасіў кіраўніцтва акругі дазволіць яму істотна зменшыць колькасць урокаў гімнастыкі і аддаць вызваленыя гадзіны на законазнаўства, атрымаў суворы адказ ад куратара Архангельскага: *«Я не считаю себя вправе изменять количество уроков по предметам, как установленное для всех гимназий Министерством народного просвещения, возбуждать же ходатайство перед Министерством по отношению одной Козловской гимназии не усматриваю достаточно оснований»* (ф. 123, воп. 1, спр. 13, арк. 84).

Наогул, здаецца, дырэктар Нікалаеў не заўсёды кантраляваў працэс у гэтыя няпростыя гады. Чалавек па натуры мяккі і ліберальны, ён «пасаваў» перад настаўнікамі і вучнямі. *«Управление учебного округа имеет честь просить предоставить сведения по нижеследующим вопросам: 1) вследствие каких причин преподавательница Шальвинская отказалась вести преподавание немецкого языка в 6 и 7 классах гимназии; 2) какими соображениями руководствовался педагогический совет, освобождая Шальвинскую от занятий ея в гимназии с учениками упомянутых классов; 3) почему ни об освобождении помянутой преподавательницы от указанных занятий, ни о замещении уроков немецкого языка в 6 и 7 классах Вами не было своевременно сообщено в Управление учебного округа; и 4) соответствует ли вообще своему назначению преподавательница Шальвинская»* (ф. 123, воп. 1, спр. 13, арк. 54).

Заўважым, што выкладчыца Шальвінская была зусім маладзенькай дзяўчынай (*«совершеннолетняя, живет отдельно»*) і, хутчэй за ўсё, з'ўлялася гераіняй унутрыгімназічнага скандалу, сляды якога сустракаюцца ў рашэннях вучнёўскага камітэта і ўнутраных паперах вучэбна-метадычнага аддзела, калі падчас лістападаўскіх хваляванняў 1917 года адна з выкладчыц (хутчэй за ўсё, менавіта Шальвінская) прадэманстравала выразна манархічныя погляды

і адмовілася працягваць заняткі з вучнямі, якія дэманстравалі погляды адваротныя.

Дарэчы, у дакументах няма ніякіх згадак пра палітычныя непаразуменні паміж вучнямі і дырэктарам. Наадварот: моладзь, падхопленая агульнай энергіяй маштабных пераменаў, гула і віравала ў такт грандыёзным падзеям, утварала арганізацыі і гурткі, спрабавала кіраваць навучальным працэсам, патрабавала перанесці экзамены то туды, то сюды, змяніць лекцыйную сістэму на рэпетытарскую і інш. Нікалаеў альбо прымаў актыўны ўдзел у гэтым «гудзенні», альбо з большай ці меншай цікавасцю назіраў збоку, па меншай меры, усе справаздачы дырэктара па новых школьных справах дыхаюць бацькоўскім замілаваннем.

## Час

Уражвае афіцыйна-дзелавая фразеалогія, якую выкарыстоўваюць у гімназічных паперах для назову пераменаў. Відавочна, мы не сустрэнем тут назвы «Кастрычніцкая рэвалюцыя», не сустракаецца і «дзяржаўны пераварот». Складальнікі афіцыйных папер абыходзяцца апісальнымі выразамі: «*Ввиду переживаемого трудного времени», «Под влиянием обстоятельств переживаемого времени*» — ніхто яшчэ не ведае, як назваць гэты «переживаемый» час, але кожны імкнецца хаця б на паперы зрабіць яго зразумелым, укладзеным у шляхетныя фармулёўкі старасвецкай стылістыкі: *«Принимая во внимание чрезвычайно неблагоприятные материальные условия учащихся-беженцев, с другой стороны, крайне тяжелую психологическую атмосферу в школе на почве разлада между стремлениями молодежи и части учительства, идушего против требований трудящихся масс и связанную с этим полную неплодотворность занятий…»* (ф. 123, воп. 1, спр. 12, арк. 54). О, гэтыя гуманістычныя памкненні і мары рэвалюцыйнай эпохі! *«И каких бы политических убеждений мы не были — мысль одна — просвещение России в духе красоты, правды и свободы…»* (ф. 123, воп. 1, спр. 12, арк. 71) — піша загадчык сярэдніх навучальных установ і вышэйшых школ, які змяніў куратара Харкаўскай школьнай акругі напачатку 1918 года, прагрэсіўны чыноўнік з глыбока гістарычным прозвішчам Бараб-Тарле (ініцыялы, на жаль, нечытэльныя). Кранае сваёй бяскроўнасцю на парозе ўсталявання новай улады адзін з першых дакументаў новага адукацыйнага кіраўніцтва — цыркуляр, разасланы па канцылярыях навучальных установ: *«Школьный отдел просит всем преподавателям, вновь поступившим в текущем учебном году, предложить дать подписку о том, что они стоят на платформе советской власти»* (ф. 123, воп. 1, спр. 12, арк. 130).

Акуратна падшытыя ў тэчку, дакументы адлюстроўваюць час. Аркуш 21 справы № 13 — справаздача дырэктара пра пажар у будынку гімназіі, які выпаліў усе вучэбныя кабінеты ўночы 12 кастрычніка 1917 года; аркуш 23 — размеркаванне вучэбнай нагрузкі па класах і настаўніках; аркуш 28 — нагрузка настаўнікаў пасля ўсіх узгадненняў; аркуш 52 — прашэнне вучняў выпускнога класа аб датэрміновай здачы экзаменаў на атэстат *«ввиду государственной разрухи»*; аркуш 38 — пратакол сходу вучняў старэйшых класаў з нагоды рэвалюцыйных пераменаў у адукацыі; аркуш 54 — аб паскарэнні выпуску ў 1918 годзе; аркуш 56 — справаздача настаўніцы прыродазнаўства Наталлі Агальцовай аб экскурсіі вучняў 2 класа (*«Найдены были: известняки с раковинами, железняки, песчаники, кварц…, очиток, зеленые стебли хвоща, ветреница с опадающими лепестками, головастики, рассмотрена почва…»*); аркуш 72 — дэкрэт аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і цыркуляр аб адміністрацыйных працэдурах у адукацыі, звязаных з гэтым аддзяленнем; аркуш 90 — методыка пераходу на новы правапіс (*«Старшим детям рекомендовано начать переход к новому правописанию, избегая в отношении их насилия, не может быть допущено переучивания тех, кто уже*



*4 клас Казлоўскай мужчынскай гімназіі (Алесь Дайлідовіч — сёмы злева ў верхнім радзе). 1917(?) г.*

*усвоил правила прежнего правописания, при этом преподавателю необходимо относиться терпимо к правописанию учащихся. В каждом классе могут быть две группы учащихся: пишущих по-старому и пишущих по-новому, третьей группы не должно быть, так как беспорядочное смешение обеих систем не может быть допускаемо, как противоречащее осуществлению реформы в целом ее виде и разрушающее в основе саму идею правописания»*); аркуш 91 — пералік падручнікаў, неабходных вучням гімназіі; аркуш 106 — пастанова дзяржкамісіі аб увядзенні сумеснага навучання хлопчыкаў і дзяўчат; аркуш 107 — цыркуляр камісара народнай асветы: *«Прошу Вас озаботиться сделать распоряжение об устройстве или приспособлении отдельных уборных для мальчиков и девочек»...*

## Настаўнікі

У 1917—1918 годзе чацвёрты клас Казлоўскай гімназіі — а значыцца, і нашага Алеся Дайлідовіча — вучылі такія настаўнікі: айцец Хрыстафор Патап'еў — закон Божы; Александроўскі — гісторыя; Студзянецкі — спевы, латынь, класны настаўнік 4 класа; Меліяранскі — руская мова; Ляўкоеў — матэматыка; Кажэўнікава — геаграфія; Шальвінская — нямецкая мова; Бяляева — французская; Балкін — гімнастыка.

*«От попечителя округа директору. При рассмотрении представлений ваших оказалось, что Педагогическим советом гимназии избраны и представлены к замещению вакансий лица или неполноправные, или не представившие документов о правах по образованию, или даже не подавшие прошения о предоставлении должностей. Студенецкий — не имеет высшего образования, преподаватель русского языка окончил историческое отделение историко-филологического факультета, Кожевниковой даны только 10 уроков географии и почему-то 10 уроков математики, Мелиоранскому, назначенному преподавать русский язык и латынь, даны уроки истории...»* Як і заўсёды ў педкалектывах, унутранае раз-

меркаванне вучэбных гадзін звонку (а часцяком і знутры) выглядае дзіўным. Гэта не столькі адлюстраванне літары адукацыйных законаў, колькі ўвасабленне нейкіх ужо незразумелых нам унутраных узаемасувязей мінулага жыцця. Караценькія характарыстыкі настаўнікаў у адпаведным аркушы архіўнай справы тое-сёе дадаюць да суворай паперчыны куратара акругі: *«Беляева Вера Петровна — на содержании муж без должностей, живут на ее зарплату; Левкоев — жена живет отдельно в Москве, имеет свой заработок, с ним живут сын 8 лет, мать 76 лет; Студенецкий — женат, по совместительству — псаломщик…»*

Нікалаеў плаціў Студзянецкаму добра — гэтаксама, як, прыкладам, Меліяранскаму, дасведчанаму педагогу з адпаведнай адукацыяй. Класны настаўнік Алеся Дайлідовіча атрымліваў 480 рублёў у год за ўрокі і 40 рублёў за «выпраўленне пісьмовых работ» (тое, што сёння называецца «праверкай сшыткаў»). Дарэчы, як вылічвалася аплата за праверанныя сшыткі. Гэтая сума ў Казлоўскай гімназіі выплочвалася адзін раз — напрыканцы навучальнага года.

Некалькі цікавых дакументаў з архіва Казлоўскай гімназіі тычацца Уладзіслава Францавіча Вяржбіцкага. Ён нічога не выкладаў у гімназіста Дайлідовіча, але ён, безумоўна, Вяржбіцкага ведаў і таму-сяму ад яго вучыўся.

*«Удостоверение. Дано сие учителю музыки Козловской мужской гимназии Владиславу Францевичу Вержбицкому в том, что он с января 1916 года по октябрь 1917 с выдающимися успехом и усердием, знанием дела и любовью занимался с учениками музыкой, организовывал балалаечный и струнный оркестр, внушив ученикам любовь к искусству. Труды его были оценены и Педагогическим советом, и Родительским комитетом, назначившим ему награду в 200 рублей, и самими учениками, поднесшими ему в подарок дирижерскую палочку. Что удостоверяют надлежащие подписи и приложенные казенные печати. 25 октября 1917 года»* (ф. 123, воп. 1, спр. 12, арк. 4). Звяртае на сябе ўвагу дата — у гэты дзень у Пецярбургу грымнула «Аўрора» і пачаўся штурм Зімняга, а ў Казлове ўручылі дырыжорскую палачку настаўніку музыкі. Але і гэтая гімназічная ўрачыстасць была драматычнай: за два тыдні да яе ў вогнішчы пажару загінулі амаль усе інструменты, і аркестры Вяржбіцкага перасталі існаваць.

## Вучні

У класе, дзе вучыўся Алесь Дайлідовіч, было 54 хлопцы. Амаль усе яны ёсць на вялікім фотаздымку, які захаваўся ў пляменніцы паэта, і амаль усе яны па старой, але захаванай і ў наш час традыцыі распісаліся на адваротным баку агульнай фотакарткі. Дзіцячыя яшчэ, такія сур'ёзныя ў сваёй некарыстанасці подпісы.

Сёння кожны з гэтых хлопцаў ужо ўвасобіў сваё жыццё, стаўшыся гісторыяй, сямейнай ці агульнай. Я знайшла Сяргея Намафілава на сямейных перадваенных фотаздымках — там ён з бацькамі і сёстрамі, памятае пра яго ўнучатая пляменніца. Сустракала Завітаева Міхаіла і Мягкова, зноў жа — Міхаіла — у радаводных дрэвах на адпаведных рэсурсах, значыцца, памяць пра іх жыве. Але самымі нечаканымі былі сустрэчы ў Вікіпедыі з двума з тых пяцідзесяці чатырох аднакласнікаў нашага Алеся Дайлідовіча: Міхаіл Рыгоравіч Прывес і Канстанцін Назаравіч Мешчаракоў увайшлі ў гісторыю расійскай навукі. Міхаіл Прывес — выбітны анатам, распрацоўшчык і папулярызатар метаду рэнтгенаграфіі ў савецкай медыцыне, Канстанцін Мешчаракоў — інжынер-механік, лаўрэат шматлікіх прэмій, старшыня дзяржкамітэта СССР па атамнай энергетыцы. Разам з паэтам, крытыкам, перакладчыкам Аляксандрам Дайлідовічам-Дударом яны назаўсёды — у нацыянальнай гісторыі. Тры вучні з аднаго класа.

У студзені 1917 у Казлоўскай гімназіі былі адменены лічбавыя адзнакі — новыя цыркуляры куратара акругі прадугледжвалі такую магчымасць для педагагічных калектываў: карыстацца не лічбавымі, а апісальнымі паказальнікамі:

«выдатна», «добра», «здавальняюча», «дрэнна». Алесь Дайлідовіч па выніках 3 класа мае ўсе «здавальняюча» і пераведзены ў наступны клас без запазычанняў. І гэта неблагі вынік, бо ў большасці гімназістаў — даўгі па пісьмовых работах і заняткі па некаторых прадметах у летні перыяд.

## Ад'езд

У снежні 1918 педкалектыву Казлоўскай гімназіі было ўжо зразумела: іх вось-вось зачыняць. Новая ўлада кардынальна рэфармавала адукацыю, нічога зрабіць з гэтым было нельга. Тых, каго маглі, — вучняў выпускнога сёмага класа і асабліва актыўных шасцікласнікаў — выпусцілі экстэрнамі. Тых, хто меў куды з'язджаць, — выпраўлялі ў далёкі шлях. Менавіта гэтым месяцам датаваны чарговы спіс 4 класа, дзе насупраць 8 прозвішчаў стаяць чырвоныя птушачкі, і ўнізе ля лічбы 54 — чырвоны мінус з лічбаю «восем». Восем вучняў — і сярод іх Алесь Дайлідовіч — пакідалі клас.

Вольга Іванаўна Дайлідовіч вырашыла вяртацца ў Мінск — нягледзячы на тое, што на Беларусі шчыравала вайна. Унучка Вольгі Іванаўны, Лідзія Маркаўна Малініна, захавальніца сямейнага архіва і сямейнай памяці, кажа, што, здаецца, прыйшоў ёй у Казлоў нейкі ліст з нядобрымі звесткамі пра мужа, маўляў, ёсць з кім яму тут суцяшацца, пакуль сям'я ў бежанстве. Было гэта ці не — невядома, у кожным разе ў студзені 1919 года, у самую польскую акупацыю, Дайлідовічы вярнуліся дамоў. Праз два гады ў газеце «Савецкая Беларусь» будзе надрукаваны першы верш шаснаццацігадовага паэта Алеся Дудара — з гэтай даты распачнецца ягоны імклівы і адметны шлях у беларускай літаратуры. Алесь Дудар не пакіне аніводнага ўспаміну пра Казлоўскую гімназію — не той быў час, каб ганарыцца класічным гімназічным выхаваннем. Але пра Казлоў згадае. *«Першы раз пазнаў беларускае друкаванае слова ў 1917 годзе* (хутчэй за ўсё — памылка, бо 1918 годам датаваны яшчэ «казлоўскія» дакументы Алеся Дайлідовіча — Г. С.) *у Менску, прачытаўшы нумар газ. «Вольная Беларусь». Але найбольшае ўражаньне на мяне зрабіла газэта «Пятніца», якая выпадкова папала неяк у чытальню Казлоўскага гар. савету, дзе я быў штодзённым госьцем. Яна зрабіла на мяне ўражаньне непаўтарымае і з боку зьместу, і з боку формы (мовы) — гэта было для мяне нешта новае і адначасна даўно знаёмае і зразумелае. Гэты нумар газэты я па несьвядомасьці сваёй скраў з чытальні, і ён у мяне захоўваўся некалькі гадоў»*, — напіша Алесь Дудар у аўтабіяграфіі, складзенай для Л. Клейнбарта (Дудар А. Выбраныя творы. Мн., 2017, с. 438).

І яшчэ. У асабістай бібліятэцы Алеся Дудара, захаванай сваякамі, застанецца падручнік: нямецкая хрэстаматыя Глейзера, праштампаваная фіялетавай персанальнай пячаткай: «4 класс, А. Дойлидович». На гэтай пячатцы вучань чацвёртага класа Алесь Дайлідовіч сінім атрамантам рашуча выправіць рускае арфаграфічнае «о» на адпаведнае беларускім нормам «а»: «Дайлидович».



Артур МАЦВЕЙЧЫК

# ВЫБРАНАЕ З ПРАЖЫТАГА




*Уладзімір ДАМАШЭВІЧ*

**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**
**Укладанне Генрыха Далідовіча**

*Серыя «Беларускі кнігазбор»*
*Мн., Беларуская навука, 2018.*

За агульнымі развагамі аб развіцці беларускай літаратуры, павышэнні ролі крытыкі, больш дзейснай падтрымцы маладых талентаў, на жаль, часам забываем сказаць добрае слова пра канкрэтных пісьменнікаў. Найперш пра тых, якія шмат зрабілі для нацыянальнага прыгожага пісьменства. Па гэтай прычыне сёлета незаўважаным прайшло і 90-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Дамашэвіча, зямны шлях якога ўмясціўся ў прамежку: 16 лютага 1928 года — 30 красавіка 2014-га. Таму выхад яго «Выбраных твораў» найперш успрымаецца як свайго роду навярстанне ўпушчанага. Для новага ж пакалення чытачоў з'явілася магчымасць атрымаць уяўленне пра гэтага выдатнага пісьменніка, які апошнім часам, на жаль, не выдаваўся. Для тых жа, хто з творчасцю У. Дамашэвіча добра знаёмы, не менш прыемная мажлівасць — ажывіць сваю памяць, прайсціся пуцявінамі герояў твораў, змешчаных у гэтым томе. Пра іншыя ж даведацца з грунтоўнай прадмовы Валянціны Локун «Самабытны талент».

Празаічная спадчына Уладзіміра Максімавіча ў кнізе прадстаўлена адзінаццацю апавяданнямі, аповесцю «Між двух агнёў», раманам «Камень з гары». Першага ягонага надрукаванага апавядання «Трэці лішні» («Маладосць», 1958, № 3), праўда, няма. Хоць, як на маю думку, яго трэба было б змясціць. Усё ж цікава прасачыць, як у сваіх наступных творах «малога» жанру пісьменнік, па сутнасці, адштурхоўваючыся ад сябе «першапачатковага», удасканальваў уласнае майстэрства. Адначасова пашыраў тэматычныя абсягі сваёй прозы.

Калі ў «Трэцім лішнім», як ужо сведчыць назва твора, расказваецца пра нешчаслівае каханне, дык у «Заклінаю ад кулі» — а гэтае апавяданне трапіла

ў том — паўстае адна з трагічных старонак барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Бадай, не трэба папракаць У. Дамашэвіча ў «гучнай патэтыцы і псіхалагічнай спрошчанасці», што заўважаецца і ў прадмове В. Локун. Гэта ў нечым адчувальна, калі да асэнсавання тых падзей ставіцца з агледзін сённяшняга дня. Тады ж пісалася шчыра. І гэтаксама шчыра, ад усяго сэрца выказвалася.

Да месца ў кнізе і апавяданні «Звяруга», «Дзявочая клятва». Гэта ўжо заходнебеларуская рэчаіснасць, якую У. Дамашэвіч так добра ведаў. У тым ліку і са згадак свайго дзядзькі, сакратара мясцовай падпольнай камсамольскай арганізацыі. Дый іншыя апавяданні сведчаць пра тое, як упэўнена адчуваў сябе ў «малым» жанры.

Аповесць «Між двух агнёў» — яго першы твор у гэтым жанры. У ёй таксама асэнсоўваюцца падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Як і для ўсіх савецкіх людзей, яна стала суровым выпрабаваннем і для галоўных герояў аповесці Валі Калейнік і Лявона Лукашыка. І, канешне, не такой, якой мусіла быць паводле афіцыйнай ідэалогіі. Прасвятленне адбываецца нялёгка і няпроста. Асабліва для Лукашыка: «Так ваяваць нас не вучылі. Нас вучылі ваяваць на варожай тэрыторыі, малой крывёю, магутным ударам [...] Усё скончана. У нас няма чым нават абараняцца, а не толькі наступаць. Вайну мы прайгралі, з гэтым трэба змірыцца». У яго нават з'яўляецца думка дэзерціраваць. Але ўсё ж не пакінуў сваіх баявых таварышаў. Дамоў падаўся толькі пасля таго, як у жывых застаўся адзін.

Па вяртанні дамоў, маральна надломлены, пайшоў працаваць у нямецкую школу. Валя ж становіцца разведчыцай, падрыўніком. З ёю цяпер яны зусім чужыя людзі. Каб жа толькі ў яго была «гнілая душа», як кажа пра Лявона колішняя каханка. Ён поўнасцю дэградуе. Фінал гэтай гісторыі трагічны. Лукашык выдаў Калейнік немцам. Калі чытаеш аповесць сёння, шмат што ў ёй успрымаецца інакш, чым пасля яе першай публікацыі («Маладосць», 1962, № 5). Адно відавочна: Валя Калейнік, як і камандзір групы падрыўнікоў Бяссмертны, — нельга не пагадзіцца з В. Локун — «былі тымі ідэальнымі героямі, на прынцыповасці якіх выхоўваліся новыя пакаленні маладых людзей».

Не ўсё з напісанага У. Дамашэвічам адразу трапляла ў друк. Такі лёс і рамана «Камень з гары». Закончыў яго яшчэ ў 1969 годзе, а свет ён пабачыў толькі праз 21 год: у 1990 годзе выйшаў асобнай кнігай у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Гэта было выклікана тым, што ў ім пісьменнік закрануў тэму сталінізму. Але ўзяўся за яе тады, калі афіцыйнай ідэалогіяй гэта ўжо замоўчвалася. Больш за тое, у творы моцна адчуваецца дакументальная аснова. Са старонак яго паўстаюць непрывабныя бакі выдавецкай дзейнасці, у прыватнасці, ідэалагічны дыктат на пісьменнікаў, партыйная падказка ім, як і пра што пісаць.

У характары галоўнага героя прысутнічаюць аўтабіяграфічныя моманты. Сам У. Дамашэвіч некаторы час працаваў у рэспубліканскіх выдавецтвах. Аднак падыходзіць да рамана неабходна ўсё ж як да рэчы мастацкай, бо ў ім шмат абагульненага, тыпізаванага. Гэта тычыцца і характару Драгуна, з якім чытач знаёміцца ў той момант, калі ён вырашыў перайсці ў выдавецтва, што займалася выпускам мастацкай літаратуры: «Цяпер Драгун ужо каяўся, што распачаў усю гэтую гісторыю з пераменай работы. Сядзеў бы сабе паціху, рабіў бы тое, што скажуць, — і неяк бы жыў. Не думалася, што давядзецца гэтулькі патраціць нерваў. Яшчэ яго шчасце, што выдавецтвы пад адным дахам: перайшоў з аднаго паверха на другі, спытаў каго трэба. Няма — то можна адкласці на другі раз. І ён хадзіў — праз два ці два ў тыдзень, нібы не знарок, а так сабе, без дай прычыны».

Змена работы заўсёды патрабуе ломкі чагосьці звыклага, усталяванага, парушае зладжаны распарадак чала-

века. У Драгуна адначасова гэта быў і крок да самасцвярджэння, набыцця большай самастойнасці і ўпэўненасці. Пасля таго як сам узяўся пісаць прозу, ён пераканаўся: у гэтым выдавецтве будзе адчуваць сябе куды больш упэўнена. Тым больш, што належыць да людзей, якія ў сваёй працы знаходзяць асалоду. Яна для іх не толькі магчымасць матэрыяльнага забеспячэння, а свайго роду душэўнае задавальненне. Невыпадкова Драгун так любіў запыняцца каля кніжнага кіёска, разглядаючы розныя выданні: «Часам траплялася на вока кніга, якую ён рэдагаваў, і тады Драгуноў твар святлеў, нібы яму трапляўся хто знаёмы».

Святое стаўленне да кнігі, можна сказаць, маленне перад ёй — гэта, відаць, і адна з магчымасцей для Драгуна пазбавіцца адзіноты, што ўсё болей давала пра сябе знаць. Чалавек нежанаты, ён «пачынаў паволі расчароўвацца ў сябрах. Каго лёгка было знайсці, дык аматараў выпіць. Ды ён не зблізіўся з гэтай катэгорыяй людзей, і мо таму, што самога да чаркі не вельмі цягнула».

Уладзімір Дамашэвіч паказвае свайго літаратурнага героя ў той момант, калі ён у многім выбіты з жыццёвага сядла (выбар прозвішча невыпадковы. Як тлумачыць свайму сябру Місюку, «драгун — гэта коннік, які ўмее быць і пехацінцам»). «Пехацінцам» ён стаў па збегу абставін. Але не хоча з гэтым незайздросным становішчам мірыцца, намагаецца зноў узабрацца на «скакуна».

Як быццам, мэта дасягнута. Узялі на працу ў выдавецтва, больш-менш пачало пісацца. Нарэшце ўсё вырашылася і з сям'ёй. Вера Выдзерская, з якой сустракаўся некалькі разоў, нечакана становіцца яго жонкай. Нечакана, бо на гэты крок ён і не адважыўся б, калі б Драгуновы маці і сястра не ўбачылі яе ў кватэры. А так адразу палічылі ягонай нявестай. Драгун вырашыў не расчароўваць маці, мяркуючы, што калі-небудзь усё адно давядзецца жаніцца.

Раскрываючы характар Драгуна, У. Дамашэвіч імкнуўся як мага псіхалагічна глыбей раскрыць яго сутнасць. Пільна прыглядаўся да ягонага ўнутранага свету. Аднолькава праўдзіва раскрываў як яго асабістае, так і прафесійнае жыццё. Як неўзабаве высвятляецца, уладкаванасць — і службовая, і сямейная — мройная. Праўда, з Верай яны апынуцца на «розных полюсах» пазней. У выдавецтве Драгун канфліктуе ледзь не з першых дзён. Такі характар, нежаданне ў нечым саступіць, прыслухацца да чужой думкі? Якраз наадварот. Ён гатовы ладзіць з усімі, але бяда ў тым, што кантактаваць няма з кім. За рэдкім выключэннем, склаўся калектыў не аднадумцаў, а тых, хто гатовы не проста ва ўсім пагаджацца з начальствам, а, па сутнасці, глядзець яму ў рот, загадзя прадугадваючы, чаго яму пажадаецца.

І дырэктар выдавецтва Важнік, і галоўныя рэдактары — спачатку Шахоўскі, а потым Быліна, — як бы лепей сказаць, ды ідэалагічныя марыянеткі. Яны даўно развучыліся думаць, прымаць самастойныя рашэнні. Як флюгеры, трымаюць нос па ветры. Усё вынюхваюць, што загадаюць «наверсе». Верх жа, не лішне патлумачыць маладзейшым чытачам, у той час увасаблялі аддзелы Цэнтральнага камітэта партыі, якія займаліся і пытаннямі кнігавыдавецкай дзейнасці. У. Дамашэвіч не пашкадаваў прыкладаў, каб паказаць, як усе гэтыя важнікі, шахоўскія, быліны (пра новага галоўнага рэдактара пісьменнік робіць удакладненне: «І прозвішча ж вельмі выразнае — Быліна. Толькі не казка-быліна, а быліна-былінка») сваёй аглядкавасцю, асцярожнасцю па-жывому «рэжуць» літаратуру, выкідваючы з рукапісаў усё, што хоць у нечым не стасуецца з партыйнымі ўстаноўкамі.

У рамане нямала прыкладаў, як валюнтарысцкае стаўленне да літаратуры — не ў нейкія там трыццатыя, а ў сярэдзіне пяцідзясятых — шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя — прыводзіла да дыктату, перашкаджала

своечасоваму развіццю, фарміраванню і станаўленню талентаў. Красамоўны прыклад таму — выпадак, што здарыўся з таленавітым празаікам Міколам Драздовым, першы раман якога «На берагах Віліі» спачатку быў апублікаваны ў часопісе, а потым ухвалены ў выдавецтве. Але на часопісную публікацыю ў друку з'явілася тэндэнцыйная, рэзка адмоўная рэцэнзія. Здавалася б, у выдавецтва, нягледзячы ні на што, павінна быць уласная думка. Дзе там! Адразу разгарэўся сыр-бор. Адзіны, хто заняў прынцыповую пазіцыю, быў Драгун. Хоць выданне рамана і перанеслі на наступны год, памянялі рэдактара, тым не менш лёс рукапісу быў уратаваны.

Спачатку У. Дамашэвіч больш засяроджваецца на выдавецкіх клопатах героя, але паступова пераходзіць і да падрабязнага знаёмства з яго сямейным жыццём. Гэтыя дзве плыні, службовая і асабістая, праўда, не заўсёды належна стасуюцца, але пакрысе ў творы наступае свайго роду раўнавага. Сямейнае жыццё галоўнага персанажа ўжо не выглядае свайго роду дадаткам да таго, чым ён займаецца на рабоце. Раздваення асобы не назіраецца. Няўвязкі на службе не толькі ўплываюць на абвастрэнне сямейных канфліктаў, а і паскараюць іх. У чымсьці нават як бы правакуюць. «Пажар», які пакрысе раздзьмуваецца на рабоце, дома не тушыцца. Вера не разумее мужа. Дый, па сутнасці, да гэтага і не імкнецца.

Як і трэба было чакаць, наступае кульмінацыйны момант. Дырэктар выдавецтва пасля чарговай сутычкі з Драгуном недвухсэнсоўна заяўляе: «Альбо я, альбо ён». Няцяжка здагадацца, што пры далейшым разгортванні канфлікту праўда будзе на баку кіраўніка. Але канфлікт вырашыўся прасцей простага — Драгуна звольнілі па скарачэнні штатаў. Дома ж… Не змог ён уратаваць і сям'ю. «Дробязі быту» парвалі сувязі, якіх трымаўся толькі дзеля дзяцей.

Разрыў Драгуна з жонкай у рамане паказаны настолькі пераканаўча, што гэтую гісторыю ўспрымаеш так, нібы сведкам таго, што адбылося, быў у сапраўднасці. Праз сябе прапускаеш жыццёвую неўладкаванасць галоўнага героя. Са шкадаваннем ставішся да яго, сумленнага чалавека, якому так не шанцуе. З-за сумленнасці, як ні дзіўна, ён і пакутуе. Становіцца без віны вінаватым. Аднак не толькі гэты вузел даводзіцца яму развязваць. Да ўсяго ён такі, да якога не так і лёгка падступіцца.

Гэта ўжо гісторыя, вытокі якой у сумнавядомых трагічных трыццатых гадах. Яна водгалас сталінізму, калі таталітарная сістэма знішчала ні ў чым не вінаватых людзей, аб'яўляючы іх ворагамі народу. Некаторыя з тых, хто пісаў даносы, не проста выжылі. Яшчэ і адчуваюць сябе ўпэўнена. Адзін з іх — Рымар. Даўно было агідна бачыць яго — «невялічкага, круглага, як бочка, з жорсткім выглядам шчыльна сцуленых губ і нахабных вачэй». Рымар «да вайны […] грымеў на крытычным фронце, выносіў безапеляцыйны прысуд ледзь не кожнаму пісьменніку, і тыя, на каго ён з гневам паказваў пальцам, прападалі з літаратуры, а часам і з жыцця». Агідна не толькі з-за мінулага Рымара, а і таму, што ў выдавецтве ніхто і не задумваўся, як той жыў раней, што рабіў. Хоць для многіх гэта і не з'яўлялася сакрэтам. Акрамя таго, Рымар знаходзіўся ў прывілеяваным становішчы. Лічыўся надомнікам. На рабоце з'яўляўся толькі два разы ў месяц. Дый то, каб атрымаць зарплату.

Не менш Драгуна абурае тое, што Рымара — сам не пераканаўся, ні за што не паверыў бы — паважалі: «…сябраваў нават з тымі, на каго некалі пісаў у газетах і паказваў пальцам: ён вораг! — разам піша сцэнарыі, разам ездзіць на курорт у Карлавы Вары, у Чэхаславакію». Зразумела, Драгун унутрана працівіўся такому забыццю Рымаравага мінулага. Асабліва балюча стала ў яго на душы, калі адзін з рэдактараў, Пракурат, расказаў, як яго маці, даведаўшыся ўсё пра гэтага нягодніка, сказала: «І няўжо не знойдзецца смелага чалавека, каб яго забіў, як шалёнага сабаку?!»

Сказанае ўсплыло ў памяці праз некаторы час. Калі Драгун, развітаўшыся з выдавецтвам, развёўшыся, тры гады пажыўшы за межамі Беларусі, вярнуўся ў Мінск. Тады і з'явілася думка: а што, калі самому ажыццявіць гэты прысуд. Адначасова і сумненне ўзнікла: «Хто даў яму права судзіць чалавека? Хто???» Але адразу і знаходзіць апраўданне такому ўчынку. Не сумняваецца: тыя, «што спяць ужо колькі дзясяткаў год вечным сном па міласці гэтага чорнага крытыка», за самасуд яго не асудзяць.

Нечаканы сюжэтны паварот у рамане. Аднак набліжэнне Драгуна да такога кроку У. Дамашэвічам псіхалагічна абгрунтавана. Прысуд, які вяршыць ён над Рымарам, — гэта прысуд чалавечай подласці, двурушнасці. Адначасова і напамінак: няма і не можа быць тэрміну адносна забыцця злачынстваў сталінізму. Антысталінская скіраванасць рамана відавочная. Калі ж падыходзіць да твора ў цэлым, У. Дамашэвіч выступіў у беларускай літаратуры першапраходцам у развенчванні ідэалагічных догмаў, якія занявольвалі свабодную пісьменніцкую думку, ператваралі творцаў у рупараў пэўных ідэй, пазбаўлялі іх магчымасці весці сапраўдны мастакоўскі пошук, арыентуючыся на агульначалавечыя, а не класавыя каштоўнасці. Як адзначыла В. Локун, «раман нёс чытачу праўду аб сваім часе, праўду аб чалавеку-творцу, тую праўду, якая старанна ахоўвалася дзяржавай ад сваіх грамадзян».

Аб'ём кніг, што выходзяць у серыі «Беларускі кнігазбор», дзесьці ў межах 30 уліkова-выдавецкіх аркушаў — у большы ці меншы бок. На першы погляд, гэта і нямала. Ды складальніку даводзіцца няпроста. Асабліва, калі гэта тычыцца пісьменнікаў, пры жыцці якіх шмат што з напісанага імі не было надрукавана. Даводзіцца выбіраць, на што абавязкова звярнуць увагу. На ўжо добра вядомае чытачу, ухваленае крытыкамі і чытачамі, ці на тое, што засталося ў аўтарскіх «запасніках». Асабліва, калі яно, магчыма, у нечым і прайграе ў параўнанні з апрабаванымі творамі.

Бадай, па гэтай прычыне Генрых Далідовіч не ахвяраваў якім-небудзь з апавяданняў, змешчаных у «Выбраных творах», дзеля яшчэ аднаго апавядання — «Самасуд». Бясспрэчна, яму часам бракуе псіхалагізму. Затое сітуацыя, без перабольшвання, быкаўская, а таму і неардынарная. З якой цяжкасцю падобныя творы траплялі ў друк, добра вядома. Таму і гэтае апавяданне У. Дамашэвіча, напісанае ў 1971 годзе, прыйшло да чытача толькі ў 1988-м.

Сітуацыя, пакладзеная ў аснову твора, настолькі трагічная, што такі выключны выпадак, бадай, больш знайсці і не магчыма. На фронце адбыўся не проста самасуд, а нават самасуд двайны. Спачатку камандзір роты капітан Казельскі застрэліў за непаслушэнства сяржанта Любчанку, а праз колькі хвілін, даведаўшыся пра гэта, камандзір узвода лейтэнант Ладуцька забіў Казельскага.

Найбольш удалася У. Дамашэвічу другая частка апавядання, дзе расказваецца пра знаходжанне Ладуцькі ў штрафной роце. Пасля бою, у якім колішні лейтэнант паказаў прыклад асабістага гераізму, — дарэчы, раней ён ужо быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і медалём «За адвагу» — няма сумнення: такія людзі, хоць яны і эксцэнтрычныя сваімі паводзінамі, у цяжкую хвіліну ніколі не падвядуць.

Уяўленне пра творчасць У. Дамашэвіча ў «Выбраных творах» пашырае раздзел «Публіцыстыка». Адкрываецца ён споведдзю «Родным мясцінам пакланюся», некалі апублікаванай у гісторыка-дакументальнай хроніцы Ляхавіцкага раёна «Памяць».

Як вядома, Уладзімір Максімавіч — родам з вёскі Вадзяціна (сам ён пісаў Вадзеціна) колішняга Баранавіцкага павета былога Навагрудскага ваяводства. Сёння гэта Ляхавіцкі раён Берасцейшчыны. У ёй гадаваўся да дзесяці гадоў, пасля чаго сям'я пераехала ў Якшычы, на радзіму маці, тады

ў Клецкай гміне. Цяпер у аднайменным раёне.

Скупыя аўтабіяграфічныя нататкі дазваляюць адчуць, як адбывалася станаўленне заходнебеларускага хлапчука. Колькі слоў пра сваю пісьменніцкую працу. Пра тое, як уважліва ставіўся да маладых празаікаў, працуючы ў рэдакцыі часопіса «Маладосць». Нібыта не так і шмат сказана, тым не менш, чытаць усё гэта цікава.

Як цікава знаёміцца і з чатырма ягонымі выступленнямі на пісьменніцкіх пленумах і з’ездах. У розныя гады У. Дамашэвіч прамаўляў пра тое, што яго асабліва хвалявала. Як пісьменніка, як грамадзяніна, як чалавека. Калі коратка абагульніць гэта, усё зводзілася да заклапочанасці будучыняй беларускай мовы. Ён ніколі не баяўся казаць праўду ў вочы. Прытым і ў прысутнасці афіцыйных асоб, якія заўсёды прыходзілі на з’езды пісьменнікаў, а часам і на пленумы.

Яшчэ ў 1968 годзе адкрыта і бескампрамісна прамаўляў: «Я жахнуўся, зрабіўшы для сябе такое «адкрыццё»: да рэвалюцыі ў Мінску не было ніводнай беларускай школы. Прайшло пяцьдзясят год пасля рэвалюцыі — і ў сталіцы Беларусі няма ніводнай беларускай школы.

Я хачу, каб мае дзеці засталіся беларусамі. Мне скажуць: а хто ім не дае? А я адкажу: усё не дае — яслі, сад, двор, школа, газета, радыё, кіно, любая ўстанова».

А гэта ўжо з выступлення ў 1990 годзе: «Крыўдна яшчэ і тое, што нават некаторыя беларусы не хочуць пасылаць сваіх дзяцей у першыя беларускія класы. Мо яны проста не вераць, што беларуская мова адродзіцца і зойме тое месца, якое ёй належыць па праву на сваёй зямлі і сярод свайго народа?»

«Выбраныя творы» У. Дамашэвіча — дзевяноста пяты том у серыі «Беларускі кнігазбор». На падыходзе чарговыя кнігі. Гэта добра, што такі ўнікальны выдавецкі праект працягваецца. Як ухвальна і тое, што цяпер магчымасць жыць яму дае такое аўтарытэтнае выдавецтва, як «Беларуская навука».



Васіль БЕРДНІК

# У ХРАМЕ, ЯК У ЖЫЦЦІ




*Змітрок МАРОЗАЎ*

**ХРАМ**
**Вершы, санеты. Вянкі санетаў**

*Мн.: Чатыры чвэрці, 2017.*

Пытанне ў пэўнай ступені рытарычнае: з чаго пачынаецца кніга? «Безумоўна, з твораў», — пачуецца адказ. Калі добра падумаць, гэта сапраўды так. Хоць разам з тым і не так. Гэтаксама і ў выпадку з тэатрам. Тут таксама ёсць свая «вешалка». Толькі называецца яна «вокладка». На ёй, калі яна з густам аформлена, адразу і запыняеш увагу. Пацвярджэнне таму — вокладка кнігі Змітрака Марозава «Храм».

Разглядаеш яе і кідаецца ў вочы роўнядзь возера. Запрашае да сябе лес, што бачыцца крыху воддаль. Уверсе ж прываблiваюць спелыя ягады ў далонях. Прыгледзьцеся ўважлівей. Яны размешчаны так, што нагадваюць сабой купал храма. Не ведаю, як каго, а мяне такі дызайн вокладкі (аўтар яго В. Анцух) уражвае.

Хочацца як мага хутчэй увайсці ў гэты паэтаў Храм. Даведацца, наколькі ў ім утульна для таго, каб суаднесці зямное і вечнае, прыгожае і турботнае. І разам з лірычным героем, адштурхнуўшыся ад паўсядзённых будняў, паразважаць пра тое, без чаго і свет не свет. Само ж жыццё выглядае няпоўным, бачыцца нейкім аднабаковым. Дый, канешне, у час гэтага роздуму не забываць, што з будзённага нараджаецца ўзвышанае. А суровыя рэаліі — тыя, што ёсць цяпер, так і тыя, якія засталіся ў мінулым, — гэта таксама магчымасць бачыць жыццё ў яго шматграннасці і шматколернасці.

Як і звычайна, спачатку шукаю ў кнізе твор, што даў ёй назву. Неаднойчы ўпэўніваўся, што менавіта ён адкрывае шмат з таго, што аўтара асабліва хвалюе, непакоіць. У дадзеным выпадку будзе магчымасць упэўніцца, чым жыве лірычны герой. Што ён успрымае для сябе важным і вызначальным.

Не сумняваюся, што шмат у чым ён будзе, па сутнасці, двайніком паэта. Па папярэдніх кнігах З. Марозава ведаю ўжо (а іх у яго толькі паэтычных каля трыццаці), што ад свайго лірычнага героя звычайна не абасабляецца. Ці не ўсім, што піша, можа засведчыць, што ў многім ідзе ад сябе самога. Ад уласных перажыванняў, ад свайго светабачання і светаўспрымання.

У вершы «Храм» гэта таксама назіраецца:

Я збудаваў свой храм са слоў
прыгожых,
Нібы з цаглін, апаленых агнём…

Было ў тым храме сэрцу гэтак гожа
Завейнай ноччу, навальнічным днём.

Хораша і ўтульна было ў паэтавым храме: «Свае пачуцці, мары і памкненні // За сцены храма я не адпускаў, // Я слухаў толькі музыку натхнення». Аднак такая абасобленасць, хоць і прыносіла задавальненне, тым не менш не дазваляла адчуць і зразумець жыццё ва ўсёй яго шырыні і глыбіні: «На мітусню ж увагі не звяртаў».

Так пастаянна працягвацца не магло: «Але аднойчы Шляхам Млечным // Сышоў, як прывід, старац да мяне». З ягоных вуснаў прагучаў папрок. Сам па сабе ён ужо сведчыў пра тое, што ў лірычнага героя не так усё ладна, як падаецца яму:

Твой храм — турма, а ты ў ім —
вязень вечны, —
Пачуў я ціхі голас, як у сне, —
Зямлі ты зрокся, чалавеча мілы,
Не чуеш стогнаў гоняў і бароў.
Каму касіць? Каму араць? З магілаў
Ты не падымеш песняй плугароў.

Відавочна, што З. Марозаў па-свойму вырашае тэму адказнасці творцы перад грамадствам, повязі ўзвышанага і зямнога. Задумваецца над тым, якая паэзія неабходна. Толькі чыстая лірыка ці тая, што адначасова і не цураецца зямных праблем. Дзве апошнія страфы верша асабліва напоўнены гэтым клопатным роздумам, у якім праступае не проста занепакоенасць, а трывога:

Быў гэты вырак, як пад сэрца ножык,
Як перуновы стрэл сярод зімы…
Я зруйнаваў свой храм са слоў
прыгожых
І разараў пад жыта дол нямы.

Рунець яму ціхмяным днём асеннім,
Шаптацца жыту з ветрам веснавым…
Мае ж пачуцці, мроі і памкненні
Над ім паплачуць дожджыкам жывым.

Адкрываецца ж кніга вершам «Анкета паходжання». Усё, як і ў звычайнай анкеце. З адной розніцай. Пункты, на якія трэба адказаць, не называюцца. Прыводзяцца ўсяго адказы. Лаканічныя, стрыманыя, як і падчас анкетавання. Але яны шмат даюць звестак пра аўтара. Гучаць яны так: «Я з вёскі, // Я свойскі, / Язбоўскі, // Сялянскі, // Славянскі, // Зямны, // Ад плуга, // Ад луга, // Дзе туга // Даваўся мне ўкос. // Я — з вайны. // Маланкамі мечаны, // Вечнасць // Узняў я на плечы свае… // З вёскі, // Я — свойскі, // Язбоўскі… // Адсюль і трывогі мае».

Язбы — гэта пасёлак у Крупскім раёне, дзе будучы паэт нарадзіўся, адкуль пайшоў у свет. Калі хто не ведае, засведчыў, што скончыў ён Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, працаваў аграномам на Магілёўшчыне. «Прыпіска» да Язбаў у яго творах адчуваецца пастаянна. Нават тады, калі Язбы не называюцца.

Сёлета, у Год малой Радзімы, гэта выглядае сімвалічна. З. Марозаў піша пра тое, што душы міла, а сэрцу люба, ці наадварот. Не можа не пісаць. Настолькі прырос да зямлі свайго маленства і юнацтва. Нараджаюцца радкі, у якіх шмат пяшчоты, замілавання, як у гэтым безназоўным вершы:

Лубіну сіняе мора.
Белае возера грэчкі…
Пільна ўглядаюцца зоры
У плынь задумёнае рэчкі.

Слухаюць гукі жывыя,
Што з цішыні выплываюць,
Мары мае веснавыя
Побач нячутна блукаюць.

Быццам не бачыў я гора,
Страт і падману чужога…
Лубіну сіняе мора —
Светлая ў сэрцы трывога.

Белае возера грэчкі —
Тая ж мядовая ціша…
Зор памінальныя свечкі
Рэчка маленства калыша.

У іншым вершы — гэта не толькі хараство прыроды. Але і тое каханне, што, бадай, не да канца яшчэ выказана. Хоць, магчыма, і абарвалася, так і не паспеўшы сцвердзіцца. Засталася пасля яго нейкая няпэўнасць:

Жніўны вечар ціха атуляе
Цёплым змрокам плодныя сады.
На абсяг нябесны выплывае
З шызай хмаркі месяц малады.
Светла-светла ў сэрцы. Анікога.
Дзе ты зараз?
Можа, хоць у сне

Узгадаеш пра мяне былога
Ці прысніш далёкага мяне?

Арыгінальна напісаны верш «Дыялог кахання». Гэта сапраўды дыялог двух чалавек, якіх аб'ядноўваюць агульныя пачуцці. Арыгінальнасць твора ўжо ў тым, што кожны прамаўляе тое, што ў яго на душы. Спачатку гаворыць адзін, а другі яму адказвае. Хто яны, можна толькі здагадвацца. Ды гэта не так істотна. Важней, што праз нешматслоўнасць многае адкрываецца. Яна і Ён размаўляюць паміж сабой:

«Як добра, што снег пабяліў
Зямлю пасля восеньскай слоты.
Як добра, што ты мне адкрыў
Чароўнае сэрца пяшчоты».

«Як добра, што ты да мяне
Аднекуль прыйшла нечакана,
Як фея, што ў казачным сне
Аднойчы нарок я каханай».

Верш жа «Марозіха» — іншай танальнасці. Гэта няпросты чалавечы лёс. Разам з тым у нечым і звыклы для сучаснай вёскі, дзе старыя людзі нярэдка дажываюць свой век у адзіноце. Дзяржава клапоціцца аб іх, дапамагае ім. Бяда ў тым, што блізкія забываюць сваіх родных. Асабліва, калі звязалі свой лёс з горадам. Усё ніяк не знаходзяць часу. Прыязджаюць толькі праводзіць іх у апошні шлях:

Недарэчы ноччу падмарозіла,
У руках сталёвы лом трымціць…
Аджыла, адбегала Марозіха,
На куце, аціхлая, ляжыць.

Сашчапіла пальцы спрацаваныя,
Пахне хвояй новая труна.
А бабуля — светлая, прыбраная,
Бы чакала госцейкаў яна,
Каб сказаць, што аджыла, адбегала,
Што ёй час вяртацца да зямлі…

Поўна хата ўнукаў панаехала,
Дзе ж раней вы, родныя, былі?!

Па-мойму, З. Марозаву асабліва ўдаюцца вершы, у якіх ён стварае мастацкія партрэты тых, каго добра ведаў ці ведае. Пра іх расказвае так, што кожнага бачыш, быццам увачавідкі. Успрымаеш такім, якім ён ёсць. Як, напрыклад, язбоўскага Бетховена. Менавіта так — «Язбоўскі Бетховен» — называецца адзін з вершаў:

З маленства аглухлы, сівенькі,
Дрыжачай рукою Хвядот
Са скрыпкі, як сейбіт з сявенькі,
Рассейвае зернеткі нот.

А ноткі зліваюцца ў гукі,
Мелодыя рэчкай цячэ…
І просяць маленькія ўнукі:
«Як хораша! Грай нам яшчэ!»

Дзядуля над скрыпкай чаруе —
Прыціхлі ў прысадах вятры…
Ніхто гэтак неба не чуе,
Як гэты музыка стары.

Прыкмячае паэт, аднак, і іншых вяскоўцаў, якія, падобна гэтаму («Ванечка»), не жывуць, а існуюць: «Сорак год размяняў, а ўсё Ванечка. // А матуля твая быццам нянечка. // Барадою аброс, а дзяцінішся, // Падпіраеш паркан, долу хілішся // […] Ні кала, ні двара. Збегла жоначка // Акруціла цябе самагоначка».

Ёсць у З. Марозава і іншая праўда. Не абыходзіць ён увагай і тое беззаконне, што панавала некалі, калі людзей прымусова заганялі ў калгасы. Тыя падзеі таксама паўстаюць праз людскія лёсы — зломленыя, а часам і знішчаныя. Такім гэты лёс быў і ў Апанаса, пра якога расказваецца ў аднайменным вершы.

Не хацеў ісці ў калгас, а жадаў самастойна весці ўласную гаспадарку. Іншыя цяпер маюць такое права. Бяруць зямлю ў арэнду. Журботны, самотлівы роздум пра гэтага селяніна-рупліўца:

Дзе ты спіш? У старонцы якой?
Пад бярозай? А мо пад сасной?
У музеі (засмучу цябе я)
Іржавее малатарня твая.

У гэтым роздуме з'яўляюцца і драматычныя ноткі: «Ніва жытняя ўзялася травой, // Каля крамы ўнук хістаецца твой». Ад гэтага таксама нікуды не дзенешся.

Такая яна — паэзія З. Марозава. Пяшчотна-лірычная, калі апяваецца хараство роднай прыроды, чысціня пачуццяў. Цвяроза-рэалістычная, а то з драматычнай падсветкай пры раскрыцці непрывабных рэалій жыцця, адлюстраванні складаных людскіх лёсаў. Зварот да гэтых разнапланавых

творчых пластоў — сведчанне таму, што паэт не абмяжоўвае сябе нейкай адной праблематыкай. Гэта таксама гаворыць на карысць таго, наколькі ён шматгранная асоба, які вялікі дыяпазон ягоных памкненняў.

Як вядома, ён і адзін з тых, хто паспяхова абжывае ў беларускай паэзіі жанр санета. Піша і вянкі санетаў. Больш за тое, стварыў першы ў еўрапейскай літаратуры вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы». Не сакрэт, што стаўленне крытыкі і чытачоў да гэтага даўняга літаратурнага жанру, які апошнім часам перажыў сваё другое нараджэнне, рознае. Адны захапляюцца майстэрствам тых, хто бярэцца за яго. Нават звычайны санет напісаць няпроста. Не кажучы ўжо пра вянкі санетаў. Тым больш, пра вянкі вянкоў. Іншыя за ўсім гэтым бачаць зададзенасць. Маўляў, усё штучна падганяецца пад загадзя ўстаноўленую форму. У некаторых выпадках прамоўленае набывае шматслоўнасць. Усё падначалена толькі таму, каб не адысці ад формы.

Што наконт гэтага сказаць? Як і ў шмат якіх іншых выпадках, ісціна знаходзіцца недзе «пасярэдзіне». Усё, вядома, залежыць ад канкрэтнага паэта і, зразумела, ад канкрэтнага твора. Лепшымі сваімі санетамі З. Марозаў засведчыў, што яму нельга адмовіць ні ў майстэрстве, ні ў змястоўнасці выказанага. У гэтым упэўнівае і тое, што сабрана пад вокладкай «Храма». Гэта як самі санеты, так і ўрыўкі з вянкоў санетаў.

Кніга «Храм» апублікавана ў аўтарскай рэдакцыі. Апошнім часам гэта практыкуецца даволі часта. У такім падыходзе нічога благога. Асабліва, калі пісьменнік вопытны, дасягнуў вялікага прафесійнага майстэрства. Навошта ў такім разе выдавецтву лішнія турботы. Аднак важна і істотна, каб аўтар ніколі не апускаў планку патрабавальнасці, сур’ёзна ставіўся да напісанага. З. Марозаў так і робіць.

Тым не менш у гаворцы пра «Храм» не абысціся без маленькага «але». Але, на жаль, у асобных творах (на шчасце, іх зусім мала) ён дазволіў сабе паслабленне. Назіраецца гэта і ў вершы «Хварэе маці». Бадай, ён пісаўся тады, калі блізкі чалавек знаходзіўся ў цяжкім стане. Хацелася хутчэй падзяліцца з чытачом сваімі перажываннямі. Гэта вылілася ў такія радкі:

Вучу я матулю хадзіць,
Як яна мяне вучыла.
Вучу маці з лыжкі карміць,
Як яна мяне карміла.
Амаль пад прымусам глыток
Пакутай любай маці здаецца.
І кожны ёй зроблены крок
Наскрозь працінае сэрца.
Жыві, залатая мая.
Найлепшая на белым свеце маці.
Вучуся жыццю ў цябе я
І плачу, як малое дзіцяці.

Прамаўляецца шчыра. Як кажуць, усё ідзе ад сэрца. Прасякнута глыбінёй перажыванняў. Аднак хацелася б, каб было сказана крыху цяплей. Кідаецца ў вочы, праўда, не толькі гэта. Уважліва ўчытаемся ў гэты сказ: «Вучу маці з лыжкі карміць». Правільна ўсё ж трэба «вучуся». Калі ж пакінуць «вучу», то трэба «з лыжкі есці». У іншым выпадку таксама назіраецца стылявая неахайнасць: «І плачу, як малое дзіцяці». Плакаць жа можна, «як дзіця».

Магчыма, на гэтым і не трэба было б засяроджваць увагу. Толькі да таго, хто многае можа і многага дасягнуў, і патрабаванні павінны быць строгімі. Тым больш, што сам З. Марозаў цудоўна разумее, што такое звычайныя вершы, якія могуць быць менш і больш дасканалыя, а што патрапляе пад высокае вызначэнне — Паэзія.

Невыпадкова на чацвёртую старонку вокладкі кнігі ён вынес свае цудоўныя радкі, якія, несумненна, успрымаюцца ягоным творчым крэда:

Ёсць словы вечныя, як свет,
Ёсць мовы музыка жывая…
Хто вершы піша — не паэт,
Паэт, хто сэрцам іх спявае!

Твораў, праспяваных сэрцам, у кнізе «Храм» большасць. Гэта не можа не радаваць. Зразумела, што і прыносіць сапраўдную асалоду ад сустрэчы з сапраўднай паэзіяй. Не можа не радаваць і тое, што З. Марозаў па-ранейшаму знаходзіцца ў актыўным творчым страі.

Арына ГАРДЗЕЙ

# «... БЫЦЬ ЧАЛАВЕКАМ. АДЧАЙНА ЧАЛАВЕКАМ»




*Ёзаф ЛАЙКЕРТ*

**КРЫЖЫ НА РОСТАНЯХ**
**Вершы**

***Пераклад са славацкай Вікторыі ЛЯШУК***

*Мн., Мастацкая літаратура, 2016.*

Развіццё нацыянальнай літаратуры часам немагчыма без супастаўлення з вопытам іншых краін. Перадача культурнага досведу не толькі адыгрывае дыпламатычную ролю, а і з'яўляецца вельмі добрым сродкам для ўзбагачэння чытача і творцы. Разуменне становішча літаратуры ў той ці іншай краіне, веданне актуальных тэм дазваляюць прасачыць ступень, на якой знаходзіцца беларускае прыгожае пісьменства, зрабіць пэўныя высновы і, магчыма, стварыць нешта адрознае ад таго, што пісалася раней. Бясспрэчна станоўчы момант у «літаратурнай дыпламатыі» апошніх гадоў — з'яўленне шматлікіх перакладаў як сусветнай класікі (Л. Кэрал, Ш. Бадлер, А. Конан Дойл і інш.), так і твораў сучаснікаў. Актыўна звяртаюцца да славянскіх літаратур. Напрыклад, Іван Чарота падрыхтаваў зборнік сербскай малой прозы XX ст. (2018), дзякуючы працы Вікторыі Ляшук сярод славацкіх пісьменнікаў перакладзеныя сучаснікі: «Аднаўленне» (2013) Яна Замбара, «Крыжы на ростанях» (2016) Ёзафа Лайкерта. Апошняя кніга і будзе прадметам размовы.

Зборнік «Крыжы на ростанях» складаецца з дзевяці частак, кожная прадстаўляе чытачу выбраныя вершы з дзевяці зборнікаў Ё. Лайкерта розных часоў: «Пацíху» (1995), «Адстрыжаныя званы» (1997), «Пакошаная глеба» (1999), «Шэпт крокаў» (2000), «Памінуласць» (2005), «Дотыкі душы» (2006), «Закаханне I» і «Закаханне II» (2014), «Павуціна быцця» (2015). Такі метад выбару твораў падаецца вельмі ўдалым, паколькі дазваляе зрабіць панараму творчасці пісьменніка і прасачыць яго творчы шлях, тым больш, што ўвазе прадстаўляюцца і адносна новыя вершы.

Творы са зборніка «Пацíху» пачынаюць знаёміць чытача з творчасцю Ё. Лайкерта. З першых радкоў адчуваецца ціхі, але моцны па настроі аповед. Лірычны герой расказвае пра сям'ю, дзяцінства, каханне. І калі ў чалавека стае моцы не забываць гэта, нават калі штосьці і засталося ў мінулым, то і жыве ён у гармоніі з сабой, з іншымі: *«Рукамі па сцяне мяне // выглядаеш. // Слепа тут, // а ўва мне развіднелася».*

Зборнік «Адстрыжаныя званы» адкрые паэзію ў паўсядзённасці («Нумар»), раскажа пра самаадданае каханне («Клубок воўны»), але з пазіцыі пэўнай аддаленасці, што бачна на ўзроўні назвы кнігі. Таму ў радках *«Уведаў, // што спавядаюся // толькі вершамі»* нібы заўважаецца дыстанцыя паміж чытачом і апавядальнікам, якіх, быццам на споведзі, раздзяляе перагародка.

«Пакошаная глеба» прысвечана *«бабулі і сваім продкам»*. Звязаныя з назвай загалоўкі, дзе сустракаюцца *карані, дубы, баразна, камяні, глеба, гара* і інш. У Лайкерта гэта набывае крыху міфалагічнае адценне, якое спалучаецца з філасофскімі разважаннямі («Крокі», «Лёт»). Зборнік працінае матыў раўнавагі, паэт дае свой адказ на пошукі («Раўнавага», «Адказы»): *«Векавечна вы рушыце // дробныя каласкі адказаў, // але дасюль іх не сабралі. // На вяршыні забалансавана // вечнае святло»*.

Яшчэ адзін з прадстаўленых зборнікаў — «Шэпт крокаў» — прысвечаны бацьку. Тэмы кахання ці філасофскіх разважанняў падаюцца шчыра, сцісла і моцна. Калі жыццё, то гэта *«ўсяго толькі абдзёрты кій. // Сляпы, што чакае на пераходзе»*; калі каханне, то «*затое можаш // укрыжаваць яго. / Каб зняць // ды ізноў павесіць»*. Каханне набывае агульначалавечую значнасць, аўтар дадае ў іншым вершы: *«Як быццам шпурнуць камень, — // быць чалавекам. // Адчайна чалавекам»*.

У выбранае з кнігі «Памінуласць» увайшлі 11 з 52 пранумараваных маналогаў, што паказвае на выбар Ё. Лайкертам новай формы творчых пошукаў, наданне іншай формы рэфлексіям і развагам, іх дэталёвае раскрыццё з дапамогай большай колькасці слоў. Пры гэтым не змяншаецца сэнсавая нагрузка і дакладнасць кожнага з іх, паколькі паэзія ўсё роўна не страчвае лаканічнасць. Аўтар працягвае ставіць агульначалавечыя пытанні, адказы на якія будуць карысныя ўсім, а не толькі лірычнаму герою: *«Хто ўсіх нас перажыве? // Хто ўсіх нас будзе аплакваць // на ўсіх Святых?»* Заўважна і гуманістычная скіраванасць, раней намі адзначаная: *«Уваходзь. // І прабач. // Сабе і зноў сабе. // А пасля тым, // каго неяк пакрыўдзіш»*. І прытрымліваючыся гэтага, магчыма, атрымаецца вынайсці першаіснасць не толькі птушак, а і сябе.

У зборніку «Дотыкі душы» філасофская лірыка працята мудрасцю іншага кшталту, біблейскай: *«Акрыла мяне // плячо крыжа. // Усяго, // з галавы да пят. // З ім уваскрэсенне // мудрэйшае»*. Гэта звязана з асабістымі абставінамі ў жыцці пісьменніка, знаходжаннем паміж жыццём і смерцю, пра што ён расказвае ў заўвазе да арыгінала кнігі, на што ўказваюць радкі *«Я вярнуўся // з апошнім снегам, // мудрэйшы на пазнанне // паломніка»*. Пры гэтым вершы прасякнуты агульначалавечымі пытаннямі быцця, пошукамі адказаў і іх адкрыццём усім людзям. Лірычны герой зборніка стрыманы, але адкрыты да дыялогу, лаканічны, змястоўны.

Кнігі «Закаханне I» і «Закаханне II» аб'ядноўваюцца канцэптуальна, сімвалізуючы існасць жаночую і мужчынскую, якія не могуць існаваць паасобку, бясконца перацякаюць адна ў адну і з'яўляюцца зыходнай кропкай як для пачатку жыцця, так і перад вечнасцю, паколькі гэта пачуццё таксама вечнае і нават больш: *«Сапраўднае // каханне пячэ жыгучкай. // Доўга // і яшчэ даўжэй. // Навекі»*. У гэтых кнігах звыклую стрыманасць лірычнага героя адцяняе пяшчота, што ярка адчуваецца нават у некалькіх словах.

Завяршаецца зборнік выбранай нізкай маналогаў з кнігі «Павуціна быцця». Кніга складалася з 27 пранумараваных вершаў, у зборнік увайшлі 7. Прадстаўленае ў гэтай нізцы — зварот да Бога, у якім паэт задае пытанні, і сам, на падставе жыццёвага вопыту і ўвабранай мудрасці, на іх адказвае. І пачынае кожны раз са звароту *«Гасподзь мой, // прашу слова»*. Варта згадаць радкі з верша, што замыкае і зборнік «Крыжы на ростанях», і арыгінальную кнігу: *«Гасподзь мой, // захапляюць мяне крыжы на ростанях // і крыжы далёка ў полі. // Колькі падабенстваў на іх прыбіта, // і ўсё ж маюць адно агульнае. // Балючую любоў. // Любоў, што*

*хоча выкупіць свет»*. Яны сцвярджаюць агульначалавечую накіраванасць у творчасці Ё. Лайкерта, засяроджанне не толькі на каханні, але і на любові, спалучэнне філасофскіх разваг з мудрасцю, што набываецца, магчыма, шляхам паглыблення ў сябе і назірання.

У кампазіцыйным плане асабліва вылучаюцца пазнейшыя зборнікі «Памінуласць» і «Павуціна быцця», у якіх творы звязаны паміж сабой нумарацыяй.

Яркія прыкметы стылю Ё. Лайкерта — лаканічнасць, алегарычнасць, сціласць у выкарыстанні лексічных сродкаў пры метафарызацыі і падборы эпітэтаў. У выпадку з метафарызацыяй назіраецца ўскладненасць, моўная гульня са значэннямі слоў (*выклічнікі з кропкай*, *прарослай у зямлю*; *здарожаны твар*; *зашываеш усе сэрцы людзям*; *стрэшка рук* і інш.), эпітэты дадаюць яркасць і вобразнасць моўнай строгасці (*пухнаты мякіш*, *нявыспалы дождж*, *лапленае сонца* і інш.). Акрамя таго, творчасць Ё. Лайкерта часам афарыстычная, што цалкам заканамерна пры вельмі сціслых формах (*«Маляванне // вам не // мілаванне. // Аднак жа // маюць столькі / тоеснага. // Што раньш пачаць // і што раней не скончыць…»*;*«Справядлівасць // нагадвае сабораванне»*; *«Барабан жа не пярэчыць. // Чым больш па ім біць, // тым хутчэй ён трэсне. // Такі закон для прыніжаных»* і інш.). Многія з характэрных рыс творчасці пісьменніка можна прасачыць нават без ведання славацкай мовы, параўноўваючы арыгінал верша з перакладам (зборнік білінгвальны). Аднак, калі і не праглядаць арыгінальны тэкст, грунтоўная праца В. Ляшук дазваляе рабіць аналіз на падставе тэкстаў па-беларуску. Сама перакладчыца зазначае: «Пры перакладзе я імкнулася захаваць рытм, рыфму, строфіку, а ў вольным вершы і колькасць складоў у радку, каб не страцілася мелодыка паэтычнага маўлення». І гэта атрымалася, паколькі ў вершах адчуваецца асоба паэта з яго прыёмамі і стылем, а не перакладчык, які паказвае толькі сябе ў чужой творчасці.

У паэтычнай творчасці Ё. Лайкерта ярка вылучаецца гуманістычная скіраванасць, жыццёвая мудрасць і адчуванне дыялогу з чытачом, хоць паэт-суразмоўца і падаецца на першы погляд строгім і маўклівым. Аднак у невялікай колькасці слоў пісьменнік канцэнтруе глыбокі змест, мноства значэнняў і метафар, якія трэба разгадваць. Разам з гэтым складаецца ўяўленне наконт сучаснай славацкай паэзіі, да таго ж, гэта ўжо не першае выданне твораў славянскіх пісьменнікаў. Такія праекты вельмі карысныя, паколькі знаёмства з іншаземнай культурнай спадчынай, тым больш, змешчанай з арыгіналам, узбагачае моўны багаж не толькі чытачоў. Гэта спатрэбіцца і пісьменніку, паколькі веданне ўзроўню іншых аўтараў дазволіць лепш асэнсаваць месца беларускай літаратуры ў агульным літпрацэсе.



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ЧАЛАВЕЧЫЯ ГУЛЬНІ

***Адам ГЛОБУС***

**КАЗКІ СТАЛІЧНЫЯ**

*Мн., Кнігазбор, 2018.*

Чорны чалавек, труна на колах, пікавая дама, прывід ліхтаршчыка… Гарады і мястэчкі жывуць, пакуль жыве іх міфалогія. Легенды ніколі не ўзнікаюць на пустым месцы. У іх — звычкі, традыцыі, іронія, гумар, страхі, расчараванні…




Адам Глобус даўно ўжо запісвае падобныя гісторыі і непасрэдна ўдзельнічае ў стварэнні новых. Яго «Дамавікамерон» ды розныя варыяцыі так званых «казак» добра вядомыя чытачам. Пад вокладкай новага выдання — казкі сталічныя: парыжскія, віленскія, мінскія і віцебскія. А чаму Віцебск у гэтай звязцы? Дык сталіца ж мастацкая. Апошні раздзел кнігі — гісторыі «ўваходжання» аўтара ў карціны Казіміра Малевіча.

У сталічных казках — алюзіі на народныя казкі («Конь і сабака», «Кот і сабака»), легенды («Залатыя дранікі», «Мышанё і цмок»), гарадскі фальклор («Белы аўтобус і белы трамвай», «Чырвоная бутэлька»). Заўважная і пераклічка з асноўнымі матывамі міфаэпасу: прыкладам, часта вылучаецца матыў атрымання дапамогі ад нячыстай сілы («Шэры кот», «Раён, дом, чорт» і інш.). Рэагуе пісьменнік і на зводкі крымінальных навін: у казках і самаробныя бомбы ў самалёт праносяць («Чырвоная шапка»), і хлопцаў каля клубаў сексуальных меншасцей збіваюць («Чорны бурак»). А яшчэ — трапна іранізуе з чалавечых звычак: «Найбагацейшыя з іх [чарцей] на самалётах прылятаюць у Вільню» («Жоўтая вежа»), з праяў ментальнасці: «Святы Ніхто сустрэў святую Ніяк, і яны разам выправіліся з Вільні шукаць святую зямлю ў Нідзе» («Пошукі шчасця»).

Створаныя Адамам Глобусам міфічныя істоты з мінскай Асмалоўкі — да болю і паблажлівай усмешкі вядомыя ўсім нам тыпы. Зазіральнік, які прыціскаецца носам да вокнаў чужой кватэры, Вулічнік з вечнымі прапановамі выпіць разам… Гаданні на кававай гушчы,

размовы ў мастацкіх майстэрнях, пышныя вулічныя вяселлі — непаўторны каларыт знікаючага раёна магнетычна прыцягвае і выклікае настальгію. Аўтар гуляе з намі і каляровымі кодамі, і дэтэктыўнымі сюжэтамі. А паміж радкоў, як водзіцца, адвечныя філасофскія пошукі. Ці сапраўднага кахання («Рудая кветка»), ці алхімічнай іскры жыцця («Шэрая котка»).

Глыбокія, арыгінальныя думкі выказваюцца і ў дачыненні да праблемы геніяльнасці. След ад квадратнага донца бутэлечкі «Бессмяротнасці» — і ёсць вядомы ва ўсім свеце «Чорны квадрат»…

Часам жахлівыя і абсурдныя, казкі Адама Глобуса маюць, як ні дзіўна, выражаны гуманістычны пасыл. Калецтва дзяўчыны не замінае шчыраму каханню з боку яе абранніка («Пунсовы вецер»), а выратаваная чалавекам рыбіна даруе яму другое жыццё («Шэры сом»). «У кожнага чалавека свая мерка да велічыні і нікчэмнасці», — слушна прамаўляе аўтар, і мы ўслед за ім здзіўляемся і захапляемся такім стракатым светам людзей.




***Алесь КАРАНЕЎСКІ***

**ГОРАД
НА СВІСЛАЦКІХ
ПЛЫНЯХ**

*Мн., Каўчэг, 2017.*

Лірыка — тое, што нельга пераказаць, узнавіць традыцыйнымі эпічнымі сродкамі. Гэта ўражанне, эмоцыя, рэфлексія, сэрцабіццё. Творчасць мастака, фатографа Алеся Каранеўскага яскрава тое люструе. Імпрэсіяністкімі мазкамі стварае ён слоўныя карціны-ўражанні, падкрэсліваючы важнасць мімалётнага:

Выбірайся, імгненне,
З мітусні гарадской.

Паэтычныя раздзелы кнігі суадносяцца з порамі года: «Гарыць вясна…», «Зоркі самі зляцяць на далонь…», «Засмужаны вальс», «Цудоўны снег». Ілюстрацыямі да кнігі выступаюць фотаздымкі аўтара. Гэта ўжо традыцыйны для Алеся Каранеўскага прыём — яго папярэдні зборнік «Минские волны — Мінскія хвалі» выйшаў у выглядзе фотаальбома.

Горад — цэнтральны вобраз твораў паэта. І засмужана-шэры, і залаты, і зялёны. Але найбольш прыцягвае лірычнага героя вершаў гаючая сіла вады. Вады не толькі свіслацкіх хваль, але і нябеснай:

Дажджы і Мінск — цудоўнае сугучча
У ранішні туман ля мокрых сцен…

Маючы мастакоўскі погляд на рэчаіснасць, Алесь Каранеўскі ўмее выхапіць з будзённых урбаністычных краявідаў зыркія фарбы:

Цяпло ніяк не здужаць.
Не хоча зразумець:
Ці крохкі холад лужын,
Ці сонечная медзь.

А яшчэ — знайсці ў паўсядзённасці філасофію і мудрыя законы жыцця. Снежны покрыў, прыкладам, бачыцца паэту чыстай і новай старонкай, «дзе ўжо не бачна нас…»

Лёгкасць, паветранасць — галоўныя вызначальныя рысы творчай манеры Алеся Каранеўскага. Часам яму ўдаецца знайсці надта арыгінальныя вобразы, якія ствараюць непаўторную настраёвасць:

І цягне адчыніць акно —
Па хаце паганяць аблокі!
Нібы заве цябе званок
Дзіцячай радасці далёкай.

Цікаўны аўтар і да загадак чалавечай унікальнасці. У суладдзі з караткевічаўскім «кожны носіць сваё неба з сабой», Алесь Каранеўскі прамаўляе:

Бязмежнае мора людское…
І кожны асобна бяжыць,
З сабою нясе дарагое,
Таемнае сонца душы.

Вядома, кожны творца — крыху дзівак і летуценнік. Матыў паэтычных мрой, зданяў таксама распаўсюджаны ў кнізе «Горад на Свіслацкіх хвалях». Музы ночы, нябачныя суразмоўцы — частыя госці паэта.

Далікатная, пачуццёвая інтымная лірыка Каранеўскага. Спагада, блізкасць душ, жаданне не дапусціць слёз каханага чалавека — гэтакі светлы пасыл маюць вершы аўтара пра каханне.

Ёсць у кнізе і прыклады некаторай паэтычнай штучнасці (клішыраваныя і часам сэнсава не матываваныя вобразы верша «Ёсць горад сталічны» і інш.), аднак гэта хутчэй выключэнне, а не тэндэнцыя.

У цэлым другі паэтычны зборнік Алеся Каранеўскага вызначаецца свежасцю, трапнасцю вобразаў і адметнай рамантычнасцю гучання. Паэт піша шчыра, сардэчна, не хаваецца за пафаснай маскай. Хочацца зноў і зноў вяртацца ў яго чысты і прыгожы свет, дзе кожны знойдзе нешта дарагое і настальгічнае.



16+

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактары
*М. М. ГІЛЕВІЧ, А. А. КАРП*

Падпісана да друку 14.09.2018 г. Фармат 70×108$^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,40. Ул.-выд. арк. 15,04. Тыраж 1196 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь*
*для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*